Асьцярожна сышоў з ложка. Стаў супроць замерзлага акна. Хукаў на заільдзянелае шкло, як малы хлопчык. Круглячок велічынёю ў пятак зрабіўся чыстым. Хворы зірнуў на запушчаны сад. Дрэвы ў сьнежным пуху. Дзе-ні-дзе спачываюць у белым сьне вялізныя гурбы.

...Увесь кавалачак сьвету, які маю перад сабою...

Пакута ня зышла з яго аброслага барадою твару. Ад доўгага ляжаньня на адным месцы кружылася галава. Ён адчуў слабасьць.

...У працягу кароткага часу гэтулькі трывог...

Напаў страх. Пачалі непакоіць людзкія галасы, шум. Няпрыемным стаў бадзёры выгляд жонкі: „яна цяпер усім кіруе". Зайздросьціць. Ён сам сябе прыкуў нявідочнымі ланцугамі да гэтага пакоіка. Гэтымі ланцугамі зьяўляецца страх. Рызыкоўна цяпер будаваць млын. На ўсякі выпадак няхай застануцца грошы...

Хворы пачаў рухацца туды і сюды па пакоі, спачатку павольна, нібы дзіцё, што вучыцца хадзіць, а потым усё шпарчэй і шпарчэй.

— Хто-ж гэта сярод Драздоў і Дзятлаў супроць мяне? Няўжо пайшлі Дзятлы на Дзятлаў і Дразды на Драздоў? Я-ж стараўся ўвесь час падтрымліваць у іх пляменную розьнь... Бойкамі за лужок іхнюю ўвагу адварочваў ад больш небясьпечнага...

Пад нагамі рыпела падлога. Паплылі вячэрнія змрокі, аблілі пакой шэрым атрамантам. Прышла жонка. Запаліла лямпу і зноў пашла. Ніводнага слова.

— З контрабандай супакоілася. Можа мяне не чапалі-б. Ніхто-ж на мяне даказаць ня можа. Ды пра мяне зусім забылі. Я-ж хутка памру...

Стала няпрыемна, што людзі аб ім забываць пачалі... А раней гэтага так хацеў...

З „салёна" чуваць дзіцячы сьмех. Толькі што прышлі з двара Стэфка і дзеці. Стэфка ім нешта гаворыць. Слоў ня чуваць. Шум галасоў. І свае прывыклі да яго хваробы...

Ня спаў усю ноч.

За час хваробы ночы часта напаўняліся яго бяссоньніцай. Цягнуліся доўга-доўга. Кожная ноч—чалавечае жыцьцё. Кожная ноч—жудасьць. Кожная ноч—таўшчэзны скрутак чорнага сукна які марудна раскручваецца перад успалёнымі вачыма.

Думкі плывуць з перабоямі. Як брэд, чаргуюцца настроі: уздым энэргіі, радасьць пераходзіць у роспач, роспач пераскоквае ў бадзёрасьць. У канцы адчуў слабасьць і бездапаможнасьць Расла вялікая нянавісьць, нянавісьць да тых, якія перабудоўваюць нанова жыцьцё. Гэтыя будаўнікі—яго ворагі, бо яны яго зьнішчаць... Няўжо-ж ім гэта ўдасца—Антосям Драчыкам, Міколам Ярэмчыкам і ўсей вясковай галоце?.. Іхнія гарачыя, гнеўныя і бадзёрыя вочы палохаюць яго. Як той агідны васьміног, яго нянавісьць раскідвае ва ўсе бакі шчупальцы. Нянавісьць і злосьць перапаў-

няюць усю яго істоту: па-зьвярынаму высьлізгваюцца пенай з яго губ, са скрыгату зубоў. Ён мармыча праклёны. Але злосьць яго ня мае сілы. Ён сам гэта адчувае. Ва ўсім гэтым стаіць абасоблена адна толькі Стэфка. Ён плыве па безьбярэжным моры, а Стэфка зьяўляецца тым берагам, дзе ён адпачывае. Злосьць і нянавісьць „хворага" ахопліваюць нават і яго блізкіх па думках, настроях і стану: яны ня маюць сілы аб'яднацца ў адну грамаду, каб сьмела выступіць супроць „тых"... Вось і стой цяпер на чужым вясельлі і яшчэ рабі радасны выгляд.

У такія жудасныя ночы хворы засыпаў пад раніцу. Усход сонца лез у яго акно, крываві́ўся на ўскраіне неба, абліваў сад. Хворы стагнаў праз сон, жонка яго ня будзіла.

---

## 4

# У масках

ВЭНЭЦЫЯНСКАЕ вакно вялікай сталовай заткана марознымі вузорамі. Нібы праз гафтаваную гардыну, прасейваецца праз іх сьветлымі зёрнамі зімовае сонца. Сонечныя зёрны рассыплены па крэслах, па круглым дубовым стале, па крышталёвых бокалах і парцалянай пасудзе ў адчыненым буфэце. Гранёныя бокалы запальваюць лякіраваны дуб і паліраваную бронзу буфэта ў рознаформеныя спэктры.

Буфэт і бокалы—гордасьць Антона Цярэшкі, стрыечнага брата Язэпа Крушынскага. Гэта спадчына ад багатага бацькі.

Буфэт—у стылі замка фэодальных часоў.

Бокалы на тонкіх сьцяблох нагадваюць вадзяныя лілеі. Калі дакранешся да іх, яны выдаюць працяглы стогн, нібы праводзіш пальцам па нацягнутай струне. Калі на дне крышталю застаецца некалькі кропель, яны іскравяць, нібы вочы дзяўчыны.

...Калісьці ў гэтым буфэце...

...Калісьці з гэтых бокалаў...

...Калісьці ў гэтай сталовай...

Часамі Антон Цярэшка купаецца ў романтычным возеры ўспамінаў.

Шампанскае, дэлікатэсы, сьмех, „пардон", „гранд мэрсі" ды іншыя шчапоткі „вялікасьвецкасьці" знаходзілі прытул у кватэры былога лёкая, багатага домаўласьніка і рэстаранш'чыка—бацькі Антона Цярэшкі.

Тут-жа было напісана пара „грамат" да „беларускага народу", тут-жа ня раз абгаварваліся справы „беларускай дзяржаўнасьці", тут-жа аднаго разу дзяліліся „міністэрскія портфэлі".

Лезе ў вэнэцыянскае вакно зімовае сонца, таюць туманістым сном ільдзяныя гардыны на вялізных шыбах, у кроплі вады расплываюцца ўзоры. Анямелы, бязьлюдны сталовы пакой чакае дастойных гасьцей і вясёлых людзкіх галасоў.

З парадных дзьвярэй спалоханым трэлем дзынкнуў электрычны званок.

Пані Мар'я (так завуць жонку Цярэшкі ў сямейным абыходзе) пабегла з кухні да дзьвярэй ледзь чутнымі ў мяккіх туфлях на футры прысьпешанымі ад цікавасьці крокамі.

—Хто там?—і навастрыла ружовую ракушку правага вуха.

З-за абабітых тоўстым лямцам і чорнай цыратай дзьвярэй пачуўся прыглушаны, палахлівы голас.

— Гэта я, пані Мар'ячка.

Зарумянены ў цяплыні кухні і прыемнай заклапочанасьці твар пані Мар'і раптам выцягнуўся ад расчараванасьці. „Зноў гэта сьляпая“,—падумала яна.

— Цёця Вярбіцкая?

— Я, пані Мар'ячка.

Гаспадыня адчыніла дзьверы.

Разам з марозьлівым паветрам усунулася ў цемнаваты калідор высокая жанчына сярэдніх год, за ёю дзяўчынка падлетак. Старая жанчына выставіла наперад рукі з растапыранымі пальцамі. Яе твар быў падобны да кітайскай маскі.

— Ты, Бронька, ідзі дамоў,—зьвярнулася сьляпая да сваёй дачкі. Прыдзеш па мяне пазьней.

І тут-жа тлумачыла гаспадыні:

— Ведаеце, пані Мар'ячка, што нельга старога вар'ята аднаго ў хаце пакідаць.

Дзяўчынка шуснула за дзьверы са спрытам мышы.

Пані Мар'я ўзяла старую за руку і асьцярожна, нібы разьвязаны мяшок з гусіным пухам, які вось-вось разьляціцца ва ўсе бакі, павяла сьляпую ў сталовы пакой. Падсунула ёй крэсла ззаду, шарахнула па падлозе ножкамі крэсла, каб сьляпая магла па слуху орыентавацца, дзе і як сесьці, і сказала гасьцінна-салодкім голасам:

— Садзецеся, цёця Вярбіцкая.

Сьляпая села з крэхтам, з войканьнем, асьцярожна намацваючы крэсла растапыранымі пальцамі, быццам шукае на ім натыканых вострых шпілек, і нібы ўсё яе цела—адна незагоеная рана. Расьселася шырока і ўздыхнула з аблягчэньнем: нарэшце знайшла патрэбнае месца і будзе тут сядзець гадамі—да канца жыцьця.

Пані Мар'я грэбліва паморшчылася і, зірнуўшы ў мутнаватыя сьляпыя вочы Вярбіцкай, пачырванела. Ёй заўсёды здавалася, што Вярбіцкая толькі прытвараецца сьляпой, а ў сапраўднасьці бачыць. У вачох Вярбіцкай ня было яўных адзнакаў сьлепаты. Толькі, калі паласа сонца трапіла як раз у вочы сьляпой, і яна не сажмурылася, а, наадварот, старалася трымаць супроць сонца шырока расплюснутыя вочы, каб сагрэць іх, як чалавек грэе вушы, пані Мар'я супакоілася і прысела побач.

Рукі пані Мар'і, пульхныя і ружовыя, былі закасаны вышэй лакцёў, да пальцаў былі прыклеены, нібы кавалачкі каляровай гутапэрчы, шалупінкі ад цыбулі. Яна перад гэтым працавала ў кухні.

Сьляпая грэла на сонцы схаладалы на марозе твар. Чулыя зморшчынкі на яе лобе і на зямліста-шэрых шчоках трапяталіся, адчуваючы цёплае паветра сталовай. Завостраная высунутая наперад барада рухалася туды і сюды, як на спрунжынах. Тон-

кія ноздры дрыжэлі. Выемкі і пукатасьці твару паказвалі формы чэрапа. На шыі выпукляліся, нібы набухшыя п'яўкі, сінявастыя жылкі.

Пані Мар'я з цікавасьцю да яе прыглядалася. Здавалася ёй, што сьляпая бачыць ўсё ў пакоі, усе драбніцы: нават шэрыя цені пад сталом, успухласьць адклееных шпалераў у кутку сьцяны.

Няпрыемна стала гаспадыні. Яна адвярнула вочы ад сьляпой і давай зьнімаць з пальцаў прылепленую шалупіну.

Тонкія ноздры ў сьляпой яшчэ больш захадзілі. Яна зашамкала ротам, і па кутках выцьвілых губ выдуліся знутры маленькія бурбалкі сьліны.

— О о-ай...—застагнала сьляпая.

— Баліць што, цёця Вярбіцкая?—усхапілася з месца гаспадыня.

— Ой, як смачна пахне...—Цёця Вярбіцкая цмокнула губамі.

— Бойцеся бога, цёця Вярбіцкая, гэтулькі клапот! Сёньня вечарам у нас будуць госьці.

— А-а-а, вось яно што! А я думаю: чаму так смачна пахне?

Праз няшчыльна зачыненыя дзьверы працiскваюцца з кухні ў сталовы пакой тонкія струменьчыкі рознастайных пахаў. Сьляпая іх цяпер адчувае ўсёй істотай. Пірог, начынены мясам, гусь, начыненая яблыкамі, цялячая лапатка ў духоўцы на блясе, перац, лаўровы ліст, цыбуля, сквіргатаньне рознастайных тлушчаў, трэск гарачых вугольляў, тупат работніцы, шорканьне бурачкоў на тарцы—ўсё гэта даходзіць да носу і вушэй сьляпой і хвалюе, вабіць, непакоіць.

— А-я-яй!—усхапілася сьляпая з крэсла.—Ой-ё-ёй!

Крык сполаху вырваўся ўсхліпам з яе горла, устрывожыў гаспадыню.

— Што, цёця Вярбіцкая?

— Гарыць! Пірог прыгарэў... Пах такі прыгорклы, цукер паліцца...

— Ну?!

Гаспадыня ірванулася ў кухню, як на пажар.

Праз некалькі хвілін вярнулася з талеркай у руках.

— Сапраўды пірог трохі прыгарэў,—і паставіла талерку перад сьляпой.—Пакаштуйце, цёця Вярбіцкая! Выбачайце, часу ня маю, і зноў пайшла ў кухню навадзіць лад.

Сьляпая ўзялася худымі пальцамі, нібы спружынамі, калупаць кавалкі цяляціны са смажанай бульбай. У гэтым калупаньні адчуваўся нязвычайны апэтыт і смакаваньне. Пальцы дрыжэлі, згіналіся прагна і смагла, як зьмейкі.

Ільдзяныя ўзоры на вэнэцыянскім вакне таялі ад сонца, кроплі лізгаліся па шыбах і блішчэлі, як сьлёзы.

Сьляпая хутка спустошыла талерку, выцерла пальцы кончыкамі хусткі з галавы, правяла губамі аб рукаво старамоднага плюшавага паліта туды і сюды, нібы брытву вастрыла.

Пані Мар'я паказалася з кухні праз хвілін дваццаць. Сьляпая зьвярнулася да яе рахманым голасам:

— А ведаеце, чаго я прышла да вас, пані Мар'ячка?

— Ну?

— Скардзіцца прышла.—Правая шчака сьляпой блішчэла, абмазаная тлушчам ад ежы.—Скардзіцца прышла на Стэфку. Ня едзе дамоў. Нічога ня піша. Чаго яна сядзіць у Курганішчы?

— Відаць, ёй там ня кепска жывецца, цёця Вярбіцкая.

— Пра бацькоў забыла. Вось што. А тут, пані Мар'ячка, як раз прыходзяць да мяне пытацца, дзе Стэфачка. Яе каляжанкі прыходзяць. Кажуць, службу дастаць можна ў дзіцячым доме. Чаго там зашылася на вёсцы ў Язэпа Крушынскага?

— Стэфцы там добра жывецца, мой сваяк слаўны чалавек.

— І ваш Крушынскі цяпер сюды не прыяжджае, а раней хоць прывітаньне ад Стэфкі перадаваў.

— Ён цяпер ляжыць хворы, бедны мой сваяк.

— Хворы?—сьляпая ўспляснула рукамі.—А што яму такое?

— У яго рак.

— Рак?!—сьляпая ўскочыла з крэсла.—А сьвяты божа! Дык чаго-ж ён там ляжыць? Няхай-бы сюды прыехаў, у бальніцу.

— Яму, цёця Вярбіцкая, дактары ўсёроўна не памогуць. Памрэ.

— Памрэ?

— Па-а-ам-рэ!

— Ой-о-ёй! Бедная Стэфачка. Яна мабыць яго там даглядае.

— Не, цёця Вярбіцкая, яна толькі з дзяцьмі.

— А не набярэцца гэтага раку, пані Мар'ячка?

Гаспадыня засьмяялася.

— Набярэцца ваша Стэфка раку ад Крушынскага, як я ад вас сьлепаты, цёця Вярбіцкая.

Няпрыемна стала гаспадыні ад гэтай гутаркі, пры тым ёй трэба было цяпер быць у кухні, а вось...

Зноў нехта пазваніў.

— Выбачайце, цёця Вярбіцкая,

Гаспадыня пабегла да дзьвярэй.

Па сьляпую прышла Бронька, малодшая сястра Стэфкі.

— Бронька, ты?—запыталася сьляпая, па кроках пазнаўшы дачку.—Чаму так хутка прышла?

— Хадзем, мама, дахаты. Бацьку зноў галава баліць. Ён хоча, каб ты яму компрэс прылажыла.

— Вось і хвілінкі не пасядзіш у людзей, пані Мар'ячка; цёнгля з ім, з гэтым вар'ятам!—паскардзілася сьляпая.

Пані Мар'я ўзрадавалася, што так хутка вызвалілася ад сьляпой.

Перад тым, як Антон Цярэшка пайшоў на працу ў інстытут, ён сказаў жонцы:

— Сягоньня налягай галоўным чынам на ежу, выпіўка павінна быць умеру. Разумееш?

Ён прагаварыў гэтыя словы, як загад, трымаў перад сабою портфэль, як шчыт, і выскачыў хутка за дзьверы.

Жонка засталася з адчыненым ротам,з нерасьцьвіўшым ґукетам красамоўства наконт слоў мужа „налягай галоўным чынам на ежу“.

— Усё купляй ды купляй! Скуль грошай набярэмся?—крыкнула яму ўздагон.

Яна злавалася ў гэту хвіліну і на яго, і на гасьцей, і нават на хворага Язэпа Крушынскага.

Калі ў Курганішчы Язэп Крушынскі „захварэў“ на рак, гэту хваробу адчуў у Менску яго стрыечны брат, Алесь Крушынскі, які піша вершы пад псэўдонімам „Антон Цярэшка“. Адчуў ён гэта якраз тады, калі да яго павінны былі прысьці госьці. Ня было сьвежых продуктаў з Курганішча—сыру, масла, каўбасы, сала, ды іншых вырабаў вёскі. Раней Язэп Крушынскі ўсё гэта прывозіў сюды сам, не шкадуючы, ад шчодрай рукі. Гэта было традыцыйнай данінай ад вясковага Крушынскага гарадзкому—няўмоўленай выплатай даўгоў за той час, калі Язэп Крушынскі гадаваўся і вырас у бацькоў Цярэшкі. Ужо некалькі год, як Крушынскі акуратна выплачваў даўгі.

Пры гэтым кожны раз між гарадзкім і вясковым Крушынскім адбываўся такі трафарэтны дыялёг:

— Навошта? Як табе, Язэп, ня сорамна! Няўжо-ж думаеш даўгі выплаціць?

— Кінь, Алесь, глупства гаварыць,—злаваўся Язэп,—мы-ж браты! Ці-ж я гэтымі дробязямі выплачу за тое, што бацька твой мяне выгадаваў і на ногі паставіў? Тое я буду век памятаць.

Ён ставіў на падлогу гладышы, мяшэчкі і пасудзіны з продуктамі.

— Калі ласка, апаражнеце пасуду і мяшкі. Жонка за гэта мяне лае, а я кожны раз забываюся прывезьці іх дамоў,—прасіў Крушынскі.

Так адбывалася гадамі.

І не задармо практычны гаспадар Курганішча прывозіў Цярэшкавым продукты. Ад стрыечных братоў ён меў нямала карысьці: часта па некалькі дзён жыў тут, калі па комэрцыйных справах яму трэба было бываць у горадзе. Часам стрыечныя браты яго з бяды ратавалі, калі ён пападаўся. Такім чынам, ён бываў і на журфіксах Цярэшкі, дзе знаёміўся з рознымі людзьмі, якія хвалілі яго „беларускае“ сала і каўбасу, і прыслухоўваўся да іхніх гутарак на цікавыя політычныя тэмы.

Цярэшка так прывык да такой даніны натурай, што без яе было трохі сумна. Продукты з Курганішча аздаблялі частыя журфіксы на яго кватэры фальваркавай сытай ідыліяй.

---

Вялікая сталовая Цярэшкі была ярка асьветлена электрычнасьцю. На сталох чакалі бутэлькі з віном. Піўная батарэя тулілася ў кутку на падлозе каля буфэта. Вэнэцыянскае вакно было завешана цёмнай аксамітавай заслонай. Сталовая ва ўсім сваім убраньні чакала прывыклага рытуалу, які пачнецца тады, як зьбяруцца госьці.

Пані Мар'я апранулася ў шаўковую вопратку мышынага колеру, яшчэ раз агледзела сталы і пайшла ў салён паглядзець, ці там ўсё ў парадку. Муж сядзеў на мяккай канапе, курыў папяросу і з нецярплівасьцю прыслухоўваўся. Чакаў званкоў, першых гасьцей. Заўсёды пры такім чаканьні ён нэрваваўся. Заўсёды, як толькі пачуе хрыплаватыя трэлі званка, першым выскокваў, сам адчыняў дзьверы, рабіў радасную міну і памагаў жонкам сваіх сяброў здымаць польты з такой зграбнасьцю, ажна некаторым жанчынам успаміналася старая спэцыяльнасьць яго бацькі...

Хрыплыя трэлі званка чуваць былі адны за аднымі. Заўсёды ў працягу пятнаццаці хвілін ўсе госьці бывалі ў зборы. З салёна пераходзілі ў сталовы пакой.

Прыходзілі да яго ў госьці тыя, з якімі пазнаёміўся яшчэ ў 1917 годзе пасьля лютаўскае рэволюцыі, калі цяперашні Антон Цярэшка, тады Алесь Крушынскі, прызнаў сябе беларусам і пачаў прымаць удзел у беларускай справе. Тады ён толькі што скончыў юрыдычны факультэт і стаў маладым адвокатам.

На ранейшых вечарох, калі Язэп Крушынскі яшчэ не хварэў на рак і часта тут прысутнічаў, пані Мар'я ня раз гаварыла яму аб гасьцёх. Жонка Цярэшкі старалася такім чынам адукоўваць Язэпа Крушынскага і пахваліцца перад прасьцейшым сваяком сваімі высокімі, прыстойнымі гасьцьмі. Няхай бачыць, з якімі людзьмі і ён, Крушынскі, дзякуючы сваяком, мае гонар бываць у кампаніі...

Такое інтымнае знаёмства з гасьцьмі звычайна адбывалася ў той-жа вечар, пасьля таго, як госьці разыходзіліся і Язэп Крушынскі ўжо ляжаў у ложку ў адным з бакавых пакойчыкаў.

Тякое сваясаблівае знаёмства з гасьцьмі стрыечнага брата часта паўтаралася. Выглядала, нібы Крушынскі слухае з вуснаў пані Мар'і поэмы аб беларускіх нацыянальных героях. „Героі", іхнія ўчынкі былі яму да густу.

Звычайна жонка Цярэшкі ціханька ўваходзіла ў яго пакойчык і садзілася на яго ложку.

Вільготнымі ад лішняй выпіўкі вачыма пазірала на яго ды ўсьміхалася.

— Ой, як я стамілася, сваячок,—пачынала яна заўсёды адзін і той самы ўступ.—Апрыкрыла мне ўсё гэта, апрыкрыла.

— „Апрыкрыла" гаварылася такім тонам, каб Крушынскі зразумеў, што не апрыкрыла, а, наадварот, вельмі прыемна. Яна рабіла набожныя вочы, глядзела ў суфіт, складвала рукі, як пры малітве, і працягвала далей наэкзальтаваным голасам:

— Колькі клапот! Божанька, колькі клапот! А тут старайся, каб цябе на языкі ня бралі. Я, здаецца, стараюся з усіх сіл.

— Ды плюньце вы на гэта, пані Мар'я.

— Плюнуць лёгка, але ведаеце нашых гасьцей? Ня ведаеце? Дык вось слухайце. Толькі прашу вас, сваячок, каб пасьля ні слова. Хоць гэта і не вялікі сакрэт, але вы яшчэ ня ведаеце.

па яе вачох, па яе пульхлых губах і нэрвовай напружанасьці голасу і руху Язэп Крушынскі разумеў, што яна мусіць цяпер выказацца, павінна апрыскаць каго-колечы фонтанам слоў-нібы прыемным душам, і паганарыцца сваім шырокім і пікантным знаёмствам. Крушынскі ня раз чуў ад яе адно і тое самае, але, пані Мар'я забываецца, што ўжо гаварыла яму аб гэтым раней. Ён кожны раз павінен нанава дзівіцца, яшчэ раз захапляцца, зноў змагацца са сваім сном і слухаць-слухаць...

— Вось той, хто сядзеў з краю стала, каля вакна, Саколічам завецца, голены, з маленькімі вусікамі, які пры кожным слове дадае нейкі гук, падобны да „хі-і-і", нібы ў яго заўсёды костка ў горле, вось той самы быў раней міністрам Беларускай народнай рэспублікі. Пры немцах ён быў адным з тых, хто падпісаў тэлеграму Вільгельму і дзякаваў за вызваленьне ад бальшавіцкай анархіі. Ен часта хадзіў да княгіні Радзівіл, прыкладваўся губамі да сухой ручкі старой княгіні—худой, сінявокай, юрлівай. Толькі вы, сваячок, нікому аб гэтым.

— Нікому.

— Сьмешная была княгіня. Сядзе, паложыць нагу на нагу памужчынскаму і смаліць папяросу за папяросай. Канчае курыць адну і бярэцца за другую, прыкурыць ад свайго акурка, плюне на акурак, прыклеіць яго да падэшвы сваёй туфлі і стукне нагой аб падлогу. Усьміхнецца тонкімі сіняватымі губамі, адным вокам зробіць набожную міну, другім вокам гульліва міргне да Саколіча і зьвернецца да яго на сваёй уласнай мове, зьмешанай са слоў ангельскіх, францускіх, нямецкіх, расійскіх, польскіх і беларускіх. Толькі вы, сваячок, трымайце язык за зубамі!

— А як-жа, за зубамі трымаю.

— Скажа княгіня на сваім вар'яцкім жаргоне: „Гельт вам патрэбна для белорусского дела? Мэрсі, дзякую. Дас іст бардзо шляхэтна". Дадасьць некалькі ангельскіх слоў і так скончыць: „Толькі ведайце, на религиозное дело іх гібе і вэнцэй ніц". Падзякуе Саколіч, нагаворыць яе сьветласьці камплімэнтаў, пакуль ёй прыкра стане. Тады яна ўзьнімецца з месца ў сваёй жалобнай чорнай вопратцы (насіла жалобу па мужу, які загінуў у пачатку імпэрыялістычнай вайны), скажа „ад'ю" і і шусь у другі пакой. Ужо адтуль крыкне Саколічу, што грошы ён дастане ў кіраўніка справамі. Кіраўніком справамі быў яе лёкай—сваім шляхэтным выглядам падобны да маркіза, а не да лёкая. Божанька ты мой! Я сама была ня супроць таго, каб паамурнічаць з ім. Такі ён быў паважны і выкшталцаваны, што міністры нашыя палохаліся яго. Толькі вы аб гэтым, сваячок, нікому ані!

— Ані!—мэханічна паўтараў за ёю Язэп Крушынскі.

— Гэты самы Саколіч часта піў касьцельнае віно з духоўнікам княгіні—вальлястым, кароценькім, пузаценькім вялебным айчыкам, упрашалі яго, каб уплываў на княгіню ў грашовых справах для беларусаў. Толькі вы аб гэтым нічога нікому.

— Нічога нікому,—паўтараў за ёю Язэп Крушынскі, нібы водгалас.

— А Лявончыка ведаеце? Спрытненькі, чорненькі, у маршчынках. Роман Скірмунт частаваў яго дарагімі цыгарамі, скардзіўся калісьці яму, што ў яго, Скірмунта, маёнтках у Піншчыне ўчынілі пагромы. „Трэба стрымліваць дзікія інстынкты цёмнага разьюшанага натоўпу“,— гаварыў Скірмунт—„тады і я дам грошы на беларускую справу“. Лявончык стараўся. А вось Барзоўскі, ён вечна пра Адэсу гаворыць, малады, з лысінай і чорнай бародкай. Прыгожы такі мужчына. Ведаеце яго?

Ведаю.

— Ну, вось! Гэты самы ў Адэсе ледзь арміі беларускай не з'арганізаваў. Інакш можа было-б тут цяпер у нас, каб удалося з арміяй. Толькі вы, сваячок, глядзеце...

— Гляджу.

Пані Мар'я з надзвычайнай асалодай успамінала ўсіх „выдатных“ гасьцей: „маршалкаў“, „радаўцаў“ „нацыянальных камітэтаў“, „сакратарыятаў“, генэрал-маёраў і лейтанантаў з „беларускай вайсковай камісіі“ пры белапольскай окупацыі ды іншых „дзяржаўных мужоў“, якія прапанавалі розным белагвардзейскім урадам і розным дзяржавам тавараабмен з Беларусьсю, каб тыя толькі дапамаглі „выратаваць краіну ад бальшавіцкай анархіі“...

Па тоне і голасе пані Мар'і Язэп Крушынскі разумеў, што гэтыя людзі з „былой славай“ спадзяюцца аднавіць гэтую славу ў недалёкай будучыне, і ён таксама жадаў мець сувязь з такімі людзьмі.

— Мала што яшчэ можа быць,—думаў ён.—Тады і я далучуся.

Часам ён пры такіх апавяданьнях пані Мар'і раптам задаваў ёй запытаньне:

— А ці ня робяць яны нешта цяпер ціханька ды асьцярожненька?

Пані Мар'я тады ўсхоплівалася з месца, рабіла строгія і спалоханыя вочы і гаварыла:

— Што вы, сваячок, кажаце? Гэтага быць ня можа! Не гаварэце мне аб гэтым... і ня думайце так. А, божанька мой... З вамі небясьпечна гаварыць... А божанька...

— Я пажартаваў...

Пані Мар'я сьмяялася нэрвовым сьмехам, а Крушынскі моўчкі і пранікліва на яе паглядаў.

Ведаў Крушынскі і адносіны гасьцей стрыечнага брата да яго, Язэпа Крушынскага:

— Такія, як вы, Язэп Сымонавіч, уся наша апора!—гаварылі яму часта госьці Цярэшкі, частуючыся яго продуктамі.

— Гэткія, як дзядзька Крушынскі, уся сіла беларускай дзяржавы, сказаў яму аднаго разу адзін рыжавусы „маршалак“ і пацалаваўся з ім.

У словах „беларуская дзяржава“ ён улавіў тое неўлавімае, як цень, што яго вельмі цікавіла: двухсэнсовасьць, прыемную і пажаданую для яго.

— А так званая ўкраса савецкай улады: беднякі—гэта гультаі ды п'яніцы. Ад іх нам ніякай карысьці. Гэта...—„маршалак" прыгнуўся да вуха Крушынскага і дадаў брыдкае слова.—Вось хто яны! А вы наша сягоняшняя і будучая апора—„Маршалак" зрабіў націск на слова „будучая" і глыбока зірнуў Крушынскаму ў вочы.—Вы, дзядзька Крушынскі, ды ўсе такія гаспадары—сіла беларуская! Вось хто вы!

Пры гэтых словах „маршалак" паружавеў у твары. На яго ілбе выступілі жылы. Ён узяў бокал у рукі і сказаў:

— Вып'ем за Язэпа Крушынскага, прадстаўніка сапраўднай беларускай народнай сілы!

— У сельскагаспадарчым аддзеле нашага інстытуту зробім маленечкую выстаўку з экспанатаў Курганішча. Побач з Марозам няхай красуецца ў сьценах Інстытуту!

Язэп Крушынскі ганарыўся. Ва ўсім гэтым ён адчуў для сябе нейкую захаваную прыемную правату.

— Дык мы ўсе свае людзі!—крыкнуў Язэп Крушынскі шчырым голасам.

— А няўжо-ж чужыя?—сказаў „маршалак".

— Прашу ўсіх да сябе ў госьці, у Курганішча!

— Абавязкова прыедзем.

Пані Мар'я забывала, што ўжо ня раз апавядала Язэпу Крушынскаму пра гасьцей і паўтарала яму адно і тое самае ў розластайных варыянтах. Дзякуючы гэтаму, на палатне яго ўяўленьня жылі і рухаліся, гаварылі і дзейнічалі людзі, якіх ён добра ведае, ведае аб „маршалках", „міністрах" і „паслох" розныя апокрыфы:

як адзін „прэм'ер", вэтэрынар, быў выкліканы княгіняй Радзівіл у часе пасяджэньня „рады" лячыць захварэўшую раптоўна сабачку. „Прэм'ер" спыніў пасяджэньне і паехаў у яе маёнтак;

як Роман Скірмунт прапанаваў аднаму з правадыроў „беларускай соцыялістычнай грамады" зьмяніць назву, і калі яна будзе называцца „Беларускай дэмократычнай грамадою", дык і ён дапаможа сродкамі гэтай організацыі;

як „маршалак" напісаў і надрукаваў кантычку на беларускай мове, каб супакоіць такім чынам душу княгіні тым, што яе сродкі ідуць на божыя справы;

як Булак-Балаховіч друкаваў свае вершы на беларускай мове ў адным з часопісаў і „міністры" каранавалі яго беларускім нацыянальным героем і поэтам;

як у Літве дзейнічаў атрад беларускага войску з некалькіх дзесяткаў чалавек. У складзе гэтага атраду быў адзін кітаец, ён да таго зрабіўся сьвядомым беларусам, што калі ў яго пыталіся „хто ты?", ён адказваў: „беларуза"...

---

— А дзе-ж гэта Язэп Сымонавіч? Чаму няма сягоньня гэтага слаўнага чалавека з Курганішча?—запытаўся „маршалак“.

Яго рыжыя вусы былі вільготныя ад віна. Ён іх часта выціраў, і яны зьлямцаваліся ў два хвасткі. Шэрыя вочы пацямнелі і на пераносьсі ўглыбіліся дзьве маршчынкі.

— Крушынскі захварэў на рак,—сказала пані Мар'я—Ня мог прыехаць.

— Ну?!—зьдзівіўся „маршалак“,—гэта хвароба, цётачка Цярэшчыха, вельмі паганая. Вось шкада!

— Што-ж рабіць. Можа ачуняе.

Пры гэтым пані Мар'я весела міргнула „маршалку“.

— Дык вып'ём за тое, каб ачуняў Язэп Сымонавіч Крушынскі!—крыкнуў „маршалак“.—Гэтакі чалавек! Вось чаму няма сягоньня такой слаўнай шынкі, каўбаскі і сыру. Адразу адчуваеш адсутнасьць такога чалавека. Цярпіць Крушынскі, дык і мы цярпім. Вып'ем за яго здароўе!

Блішчаць вочы мужчын. Сакочуць і хіхікаюць жанчыны. Зьвіняць бокалы, відэльцы, лыжкі, нажы. Вечар у Цярэшкавых дайшоў да таго вышэйшага пункту, калі кожны госьць адчувае сябе поўным гаспадаром, калі ясі што хочаш, п'еш, колькі хочаш, і гаворыш-пляўзгаеш, што толькі ўздумаецца. Адзін аднаго перакрыквае, і ніхто ня чуе, што другі кажа, і што ён сам гаворыць.

„Маршалак“ наліў гарэлкі ўсім у бокалы, зірнуў вакол цьвярозымі вачыма і ціха высунуўся з сталовага пакою. Праз некалькі хвілін вышлі яшчэ трое. Ніхто і не заўважыў. Антон Цярэшка зірнуў на гасьцей крытычным вокам. Жанчыны шапталі адна аднэй пікантныя анэкдоты. Літаратурны крытык Гайдач прыглядаўся да выразаў губ жанчын, каб паводле гэтага ўлавіць сэнс анэкдотаў. Ён выцягваў па гусінаму галаву, настаўляў глухаватыя вушы і сьмяяўся. Групка мужчын сядзела паасобку на другім стале побач і частавалася півам.

Улучыўшы хвілінку, калі госьці былі вельмі занятыя сабою, Цярэшка таксама вышаў з пакою. Ён трохі пастаяў за дзьвярыма свайго габінэта. Адтуль ледзь чутна было неразборлівае шушуканьне, ніводнага слова ён улавіць ня мог. Гэта яго ўзрадавала. Калі ён ціха скрыпнуў дзьвярмі, „маршалак“ і „міністры“ сядзелі на мяккай скуранай канапе. На іх тварах ня было ніякіх азнак хмелю.

Цярэшку сустрэў шэпт дзядзькі Саколіча, нібы шорханьне сухога сена:

— ...што гэта так. Бязумоўна жадалася-б як няйхутчэй, але-ж чакаем, калі нельга правесьці сваю праграму ўдарам у лоб, дык мы яе правядзем стараною. Важна, каб прынцып быў справядлівы. Рэшта—пытаньне часу і тактыкі. Мы павінны натужліва і асьцярожна змагацца.—Саколіч зрабіў горлам гук, нешта падобнае да „хі-і ік“, і кашлянуў. Невялічкія вочкі ўтаропіў у свае ногі.—Яшчэ больш падрыхтуемся самі і падрыхтуем

людзей. Калі дзядзька Лявончык кажа, што бальшавікі перародзяцца, што жыцьцё ўваходзіць у свой звычайны лад, дык я з ім згодзен. Ці мала мы зрабілі хоць-бы пры цяперашніх умовах?—хі-і-к!

— Ты, Саколіч, палячы сваё горла і так ня хікай,—пажартаваў—„маршалак“.

— Глупства. Ці мала пры цяперашніх умовах сваёй работы праводзім? Курсы беларусазнаўства, кнігі. Мы выгадуем такую моладзь.—Хі-і-ік! Гэта будзе такая армія!..

— Сур'ёзна кажу, палячы горла і ня хікай,—зноў сказаў „маршалак“.

— Не перашкаджай. А яшчэ важней зямельная справа. Чым кепска жывецца цяпер добраму гаспадару на вёсцы? Як найбольш трэба, каб нашыя выяжджалі ў акругі і раёны лекцыі чытаць. Камандыровачных дастанем колькі трэба. Падрыхтуем як належыць настаўніцтва.—Хі-і-ік! Тое, што ўб'ем у мазгі, будзе нашай заваёвай.

— Так, так,—згадзіўся „маршалак“,—гэта будзе такая моц! Ён сьціснуў кулакі, павысіў голас і ледзь стрымаўся, каб ня крыкнуць.

— Цішэй—папрасіў Цярэшка і адчыніў дзьверы габінэта, каб паглядзець, ці хто за дзьвярыма не стаіць.

— Гэта будзе такая моц,—паўтарыў „маршалак“, сажмурыў вочы і напружыўся ўвесь, нібы зараз на кагосьці кінецца,—такая моц, якой ніхто ня зломіць. Я атрымаў вестку адтуль, і Антон з нашай тактыкай цалкам згодзен. Ня ўдасца ім апрануць нашу Беларусь у чырвоную кашулю. Раней дайцё ёй праходзіць усе стадыі дзяржаўнасьці і культуры, якія праходзілі іншыя народы. Вось як! Кожная школа, кожная ўстанова павінна мець нашых. Мы такіх людзей выгадуем. А тады...

„Маршалак“ махнуў рукой, нібы рубануў сякерай. Яго нязграбная постаць і грубыя рысы твару нагадваюць у гэту хвіліну ката, як яго малююць у францускіх старых раманах.

Ён зморшчыў лоб і насупіў грозныя вочы ў пісьмовы стол Цярэшкі, нібы там знаходзяцца тыя, супроць каго ён ваюе.

Цярэшка вышаў зноў у сталовую. Жанкі „міністраў“ і „маршалка“ адчуваюць сябе вельмі добра і без сваіх мужоў. Адзін з павесялеўшых гасьцей грае на губнай гармоніцы і танцуе „Антэка“. Усе пляскаюць у далоні.

— Брава, брава!

— Яшчэ! Яшчэ!

Літаратурны крытык Гайдач зусім асалавеў. Па-гусінаму выцягвае галаву, круціць шыяй і часта выцірае акуляры маленькай хустачкай. Белыя абрусы на сталох заліты віном. Рыжы адкормлены сабака трэцца вострай мордай аб пульхныя рукі пані Мар'і. Побач з гаспадыняй сядзіць адзін старэнькі голены, круглы, як агурочак, дзядок; чысьценькі чорны сурдут, манішка

з адкладным каўняром, у гальштуку—залатая шпілька з рубінам. Увесь вечар пані Мар'я за ім глядзіць, як за дзіцём.

— Што вам падаць, профэсар?

— Што будзеце піць?

— Можа кавалачак гусяціны?

— Можа яблычка?

— Можа гарбаты з варэньнем?

Стары дзядок шмыкае, як малое дзіцё, бярэ і адно, і другое, і трэцяе... Вочы яго заплылі, галасок хрыплаваты. Ён есьць ды аблізваецца, шамкае, цмокае, кашляе ды зноў есьць. Нарэшце ён заснуў тут-жа пры стале.

Цярэшку ніхто не заўважыў. Ён ціханька высьлізнуўся з сталовай і зноў апынуўся ў габінэце.

— ...як бацылы руйнуюць організм, так мы пусьцім нашыя бацылы незалежнасьці... Нашыя бацылы дапамогуць...

„Прэм'ер", які гэта гаварыў, скрывіў на хвіліну свой голены твар, але хутка зноў рысы твару расплыліся ў лагодную бязьвіннасьць. Яго бліскучая лысіна адлівае бронзай. Ружовыя выпешчаныя рукі вылазяць з ярка-белых манкетаў. Пальцы, бурыя марковінкі, скручваюцца, як даўгія зьвярыныя кіпцюры. Шапатлівы голас падобен да зьмяінага сыканьня. Цярэшка разумее яго злосьць. Маёнтачак гэтага дзядзькі падзелены між яго былымі парабкамі, і ён цяпер ня мае „сваёй" дачы. Толькі дом у горадзе пакуль што застаўся.

— Апрыкрылі маскі,—гаворыць „прэм'ер".—Ух, як апрыкрылі! Душымся ў іх... Чорт пабяры. Ух, як пальлецца кроў... Я лічу, што нам трэба організаваць людзей зараз-жа. Польшча ў кожную хвіліну падсуне Балаховіча. Глядзеце во,—„прэм'ер" лічыць па пальцах.—Латвія, Эстонія, Фінляндыя, нават маленькая, як дзіцячая далонь, Літва жыве самастойна. Калі мы з'організуем такіх гаспадароў, як Язэп Крушынскі,—дык хопіць з нас. Трэба толькі ўзварухнуць народ. Ух, пальлецца кроў... А калі не самастойна, дык з Польшчай заўсёды ладзіць будзем. Аб гэтым з гісторыі вядома.

— Апрыкрылі маскі?—запытаўся „маршалак".—Ваша прапанова тое самае, што лобам аб сьцяну біць. Каб мы так зрабілі, як вы прапануеце, дык нас сьцёрлі-б у пыл. Раней створым моцны грунт пад нагамі. Дадзім выхаваньне беларускай моладзі. Яшчэ некалькі год і бальшавікі самі не агледзяцца, як перастануць быць бальшавікамі. Гліняны волат тады рассыплецца на свае першапачатковыя часткі: Украіна, Сібір, Дон, Каўказ.

— Ух, колькі крыві пральлецца!—са смакам дадаў „прэм'ер" да слоў „маршалка".

З параднага ходу пачуўся званок.

— Каго яшчэ чорт нясе?—сказаў нездаволена Цярэшка і выскачыў з габінэта.

У халадку прасторнага калідора ён трохі супакоіўся.

— Хто там?—запытаўся ён.

— Гэта я,—пачуўся з-за дзьвярэй жаласьлівы голас.

Цярэшка па голасе пазнаў сьляпую Вярбіцкую.

— Калі ласка, хутчэй адчынеце, я зьмерзла.

Цярэшка ўпусьціў у калідор сьляпую і яе дачку Броньку.

— Вялікі мароз, цёця Вярбіцкая?—роблена лагодным голасам запытаўся Цярэшка.

— Ой, мароз, ой, пячэ...

Сьляпая была апушана марознай шэраньню.

— Чаму так позна, цёця Вярбіцкая?

— Бронька нядаўна праходзіла каля вашага дому і пабачыла як фурманка на двор заехала. Думала, што з Курганішча, ад Крушынскага. Думала, можа ад Стэфачкі ліст.

— Ніхто да нас ня прыехаў.—Са злосьці, што яна перашкодзіла такой цікавай гутарцы ў яго габінэце, Цярэшка ледзь стрымаўся, каб ня выгнаць яе, але лагодным голасам сказаў:

— Хадзеце, цёця Вярбіцкая, пагрэцца да нас.

Цярэшка сумна ўсьміхнуўся:

...Нават перад нейкай няшчаснай сьляпой і то прыходзіцца быць у масцы. Эх, грахі чубатыя!

---

## 5

### Тады

Госьці разышліся позна.

— Цяпер мая чарга. Калі ласка да мяне на каляды!—запрашаў „маршалак“ пры разьвітаньні ўсіх гасьцей і энэргічна трос кожнаму руку.

— Дык не забудзьцеся!

У апусьцелым сталовым пакоі сьляпая Вярбіцкая частуецца халоднай цяляцінай і бісквітамі. У салёне сьпіць на канапе не распрануты старэнькі профэсар. Ён так і не прачнуўся пры стале. Яго перанесьлі на руках. Спрасоньня ён усхліпваў, як дзіцё, і шаптаў ахрыплым галаском: „дзеткі мае“.

Каля яго на падлозе расьцягнуўся рыжы сабака. Жонка Цярэшкі і работніца наводзяць парадак у сталовай і кухні.

— Ну і садом і гамора, садом і гамора—кажа пані Мар'я.— І так кожны раз...

Яна нэрвуецца. Няма каму сягоньня апавядаць аб гасьцёх. Застаўся пусты незапоўнены куток у яе сэрцы. Сьляпая Вярбіцкая для такой гутаркі не падыходзіць. Бяз зрокавых адчуваньняў яна ўсяго не зразумее. А старэнькага профэсара і гарматай цяпер не разбудзіш.

Антон Цярэшка сядзеў у габінэце. У ціхім пакоі слаўся пад суфітам сіняваты дым „міністэрскіх“ папярос. Ад палітычнай нарады, якая тут адбылася пад выглядам сямейнай балюшкі, шумела ў галаве. Яму падабалася романтычная таямнічасьць гэтых вечароў. Такія „конвэнты“ рабілі на яго кожны раз глыбокае ўражаньне. Выглядала, нібы сябры „конвэнту“—сапраўдныя гаспадары Беларусі. Здавалася, што яны толькі часова, з мэтай нейкай замыславатай рэпэтыцыі, адсунуліся самі ад кіраваньня дзяржавай, каб пацікавіцца, што з гэтага будзе. А як скончыцца рэпэтыцыя „гаспадары“ ўзмахнуць бел-чырвона-белым сьцягам, і ўздрыганецца зямля ад тупату ног „сапраўднага беларускага народу“. Тады Булак-Балаховіч скліча веча-сход, зазьвіняць званы смаленскія, полацкія, віцебскія, чарнігаўскія... Цяперашняе—гэта часовая інтэрмэдыя, якая хутка скончыцца. Скончыцца тады, як толькі падрыхтуюцца „свае людзі“, як толькі „сапраўдная беларускасьць“ увальлецца у кроў моладзі.

Тады...

І „гаспадары“ часта гаварылі:

— Па чыстаце славянскай крыві, паводле іхняга дзяржаўнага ладу, па сваей культурнасьці палякі нам куды бліжэй.

— Некалькі шыбеніц?—якое гэта мае значэньне пры перабудове дзяржаўнага ладу?

— Бядняцкія масы?—гэты этнографічны гной ніякага значэньня ня мае. З імі бяз пугі нічога ня зробіш.

— Культура?—Захад. Эўропа. Зруйнаваныя фальваркі і маёнткі зноў адбудуюцца.

Тады...

Часта „гаспадары“ ўспаміналі гэтае слова.

Тады—ганей.

Тады—пасьля.

Цяперашняе—часовае.

Ходзяць „гаспадары“ па Менску з прыжмуркаю вачэй, адзін аднаму знакі змовы падаюць, патаемнымі малайцамі разьяжджаюць па краі, чытаюць лекцыі, пішуць кнігі, „працуюць“ у школах, у установах і ўсюды хітра і спрытна раскідваюць свае бацылы „незалежнасьці“.

Яны ўдала карыстаюцца маскамі, улязаюць у давер‘е і ім часам дапаручаюць адказныя працы.

І Цярэшка—адзін з „гаспадароў“. І яму на „тады“ партфэль бяцалі.

У цішыні асірацелага габінэту, дзе толькі што абмяркоўваліся „вялікія пляны“, Антон Цярэшка ўспомніў урыўкі з мінулага. Выспачкамі ўсплываюць яны ў яго памяці. І вось губляецца пэрспэктыва аддаленасьці гадоў і дзён і з паплавоў забыцьця вызначаюцца дробязі хвілін.

---

Раніца. Толькі што прачнуўся. Цяпер Цярэшка—тады Крушынскі. Паглядзеў у вакно. У гарадзкім садзе пытлюецца вясновы дробны сьняжок. Жонкі ў спальні ўжо няма. Ён хутка апранаецца.

У сталовай сустракае жонку ў сьвяточным убраньні. Яна кажа:

— Скінь лахманы. Бальшавікоў ужо няма.

— Ну?!

Зноў вяртаецца ў спальню, пераапрануецца і думае:

...Цяпер я ўжо ня сын лёкая ад багатага домаўласьніка...

За дзьвярыма нецярплівы голас жонкі:

— Пасьнедаем і пойдзем глядзець.

Пані Мар‘я зьзяла ад зацікаўленасьці. Вочы гарэлі, шчокі ружавелі.

На двары марозьліва. Дробныя сьняжынкі прыемна ласкочаць твар. На Захараўскай царскія чыноўнікі ў бліскучых гузіках у форменых шапках, выфранчаныя абывацелі.

— Каб ня быць падобнымі да бальшавікоў,—тлумачыць жонцы Алесь Крушынскі.

— Не адны мы такія,—сьмяецца пані Мар'я.

Па вуліцы праходзяць патрулі з атрадаў Даўбар-Мусьніцкага. Дзе-ні-дзе некаторыя ў штацкім са стрэльбамі ў руках, з бел-чырвона-белымі нашыўкамі на рукавах. Сярод іх знаёмыя Алеся Крушынскага—беларускія самаабаронцы.

Раптам у ўрачыстасьць вуліцы ўрываюцца крыкі:

— Баль-ша-ві-і-ік!

Чалавек у акулярах, сутулы, з невялічкай барoдкай крычыць на ўвесь голас і махае рукамі:

— Та-ва-арыш! Трымайце яго!

— Дзе ён? Дзе ён?—хвалюецца пані Мар'я. Ёй цікава цяпер паглядзець на бальшавіка, як на зьвера ў клетцы.

— Вось ён! Вось ён!

На ім шэрае паліто, зашпіленае на ўсе гузікі. Ідзе наперад, нібы не на яго крычаць. У яго рыжыя вусы, твар у рабаценьні і сьветла-шэрыя вочы.

Мужчыны размахваюць рукамі, цюкаюць і люкаюць:

— Баль-ша-вік!

І баяцца затрымаць яго.

Вакол яго спыняюцца выфранчаныя жанчыны. У іх вачох нянавісьць. З губ вырываецца візгат:

— Баль-ша ві-і-ік!

Сутулы чалавек у акулярах ня можа супакоіцца, крычыць надрыўным голасам:

— Бальшавік! Рыжы! Ры-ы-жы! Трымайце яго! Трымайце!

Пара чалавек з натоўпу адважваецца, падбягае і ловіць яго за паліто. Ён бляднее. Прабуе вызваліцца. Ад шэрага паліта адскокваюць усе гузікі разам з кавалачкамі сукна. З галавы ўпала шапка. Сутулы чалавек падняў шапку і насунуў яму на галаву з такімі словамі:

— На, рыжы, па старай знаямосьці!

Вакол „рыжага" расьце разьюшаны натоўп з вышчаранымі зубамі, з вытарашчанымі вачыма. А ён ўсіх пранізвае пацямнеўшымі вачыма.

— „Какие у него нахальные глаза!"—кажа адна ў коцікавым паліце.

Падышоў патруль.

Чалавека павялі.

Сутулы ў акулярах ішоў побач з ім і задаволена крычаў:

— Ага-а! Папаўся, рыжы! Папаўся! Аг-га!

Крушынскі (цяперашні Цярэшка) ведае гэтага чалавека: наборшчык. Яго прозьвішча Сакалоўскі.

Натоўп доўга ішоў за арыштаваным і на розныя галасы, нібы шматгаловая жывёліна, рыкаў, выў, візгатаў:

— Бальшавік!

Сутулы чалавек тут-жа апавядаў:

— Гэты рыжы абяздоліў мяне. Забраў увесь шрыфт з маёй друкарні (я маю друкарню) для нейкай паходнай чырвонаармейскай газэты.

— Хадзем у „Беларускую хатку", там навіны пачуем,—сказаў Крушынскі да жонкі.

У „Беларускай хатцы" яны трапілі на цэлы склад масла, цукру, мукі, рысу. Пры гэтым стаяла ўзброеная варта з двух чалавек.

— Дзе дасталі?—запытаўся Крушынскі ў варты: знаёмых студэнтаў з настаўніцкага Інстытуту.

— Рэквізнулі бальшавіцкі коопэратыў,—пазаліхвацку тлумачыў адзін з варты, хлапец гадоў семнаццаці.

Другі „вайсковец", такога-ж узросту дадаў:

— Усім гэтым кіравалі Шчыла і Гамонька. Лепшыя рэчы ў Беларускі сакратарыят завезьлі. На пошце золата захапілі. Падзялілі з легіянэрамі. Вось была ночка!

Крушынскі ціскаў плячыма і ківаў галавою ад дзіва.

— „Вайсковец" тым часам выпусьціў стрэльбу з рук.

— Эх, ты, жаўнер беларускі!

— Ня спаў усю ноч. Добра, што яна ня стрэльнула.

Хлапец пачаў рукавом выціраць стрэльбу. Жонка Крушынскага з апаскаю паглядала на „стральца", адсунулася.

— А дзе вы, малакасосы, стрэльбы дасталі?

— Гэта ўсё Шчыла і Гамонька.

Хлопец зьзяў з радасьці, і ад захапленьня нават не заўважыў крыўднага слова „малакасосы".

— Вось беларускія героі!—пахваліла пані Мар'я.

Яна добра ведала кучаравага, круглатварага Шчылу з маленькімі п'янымі вочкамі і чорнавокага з шырокім ротам і тоўстым носам Гамоньку.

— Дык дзе-ж яны цяпер, Шчыла і Гамонька?—зацікавіўся Крушынскі.

— У сакратарыяце.

— У якім гэта?!

Ад неспадзеўкі ў Крушынскага, нібы ў рыбы, акругліліся вочы.

— У беларускім сакратарыяце, у губарнатарскім доме.

— Хадзем туды!—крыкнула пані Мар'я.

— Пасьпеем, сакратарыят не ўцячэ, сьцішыў Крушынскі яе імпэт і зьвярнуўся да загадчыка „Беларускай хаткі", чорнабародага Самчыцкага:

— Для каго такое інтэнданцтва?

— Не рабеце шуму. Падзелім між сваімі. І вам дастанецца,—шапнуў яму на вуха Самчыцкі.

Крушынскія пайшлі ў „Беларускі сакратарыят". На Катадральнай плошчы, на бальконе губарнатарскага дома стаяў кулямёт, накіраваны лычом на плошчу.

Крушынскія заходзілі ў габінэты „міністраў".

Сьветла-бірузовыя вочы „міністра“ асьветы—цёткі Гаруновай—утаропіліся ў беларускую газэту „Гоман“.

— Гэта вы, дзядзька Крушынскі?

— Я... Што вы цікавае чытаеце?

— Вывучаю ў „Гомане“ нямецкую орыентацыю ў артыкуле нашага Бісмарка—Антона. Дзякую, што зайшлі. Садзецеся, калі ласка, цётка Крушынская і дзядзька Крушынскі.

Профіль Гаруновай нагадвае Крушынскаму строгі профіль Дантэ.

— Пачну адразу са справы,—кажа „міністар“.—Ці ня возьмеце на сябе абавязак напісаць кніжку для беларускіх школ?

— Падумаю...

— Думаць няма чаго. Садзецеся і пішэце. Каб мы доўга думалі, дык ня мелі-б свайго беларускага ўраду.

І сьвяціліся гонарам бірузовыя вочы цёткі Гаруновай.

Адтуль Крушынскія зайшлі да „міністра харчаваньня“. Яго стол быў абкружаны з усіх бакоў крэпасьцю мяшкоў і скрынь. Толькі маленькі праход вёў да стала. І гэты „міністар“ знаёмы: дробненькі, сухенькі, чарнявенькі Бозыч. Яго мышыныя вочкі рупліва намацвалі мяшкі і скрынкі.

І хто мог падумаць, што і ён выйдзе ў вялікія людзі!—ледзь не сказаў Крушынскі замест прывітаньня.

— Маё вам пашчэньне!—зазьвінеў кавалкамі шкла галасок „міністра харчаваньня“.

— А што гэта ў мяшкох і скрынях?

— Харчы!

— Як гэта „харчы“?

— Ну, шамоўка: цукер, консэрвы ды іншыя смачныя рэчы.

— Дык няўжо-ж у міністэрстве ўсё гэта трымаць?

— А то дзе-ж? На тое-ж міністэрства харчаваньня!

— Вельмі прымітыўна вы разумееце ваш міністэрскі портфэль...

І Крушынскі пачаў выкладаць яму сваю дзяржаўную тэорыю ў справе гэтага міністэрства.

— Годзе! Годзе! Ведаю! А каб вы мяне не крытыкавалі...

„Міністар харчаваньня“ з крэхтам нагнуўся і дастаў з-пад стала круглую банку консэрваў.

...а каб вы не крытыкавалі, вось вам!

Банку консэрваў ён перадаў жонцы Крушынскага.

Яна дзякавала.

— Вось гэта, дык сапраўды міністар харчаваньня! Я да вас буду часта прыходзіць!—жартаваў Крушынскі.

Адтуль яны трапілі ў габінэт „міністра фінансаў“.

— Дык і вы, пане Кахарка, міністэрскі портфэль захапілі?

— Я...

Голас „міністра“ быў ціхі і сарамлівы.

Пры гэтым ён церабіў пальцамі стрыжаныя вусікі. Спакойнымі вачыма колеру волава ён паглядзеў на Крушынскіх, выняў з кішэні портсыгар, пачаставаў гасьця міністэрскай папяроскай.

На стале ляжаў перавернуты футаляр ад пішучай машынкі, прыкрыты зьверху газэтай.

Перад панам Кахаркай цыркуль, розныя прылады для рысаваньня і маляваньня.

— На што вам гэта?—запытаўся Крушынскі.

— А вось глядзеце!

Кахарка выняў з шуфлядкі стала некалькі сьвежа размаляваных паперак. На кожнай з іх—сьвяты Ягор на кані, каля беражкоў—васількі і кавалкі беларускіх паяскоў.

— Што-ж гэта?

— Проекты беларускіх асыгнацый.

Крушынскі паціснуў плячыма і аглядаўся па бакох, каб паглядзець, можа хто засьмяецца разам з ім. На крэсьле ля сьцяны спаў адзін са стрэльбай у руках, зьвесіўшы галаву на грудзі. Крушынскі засьмяяўся ціха, каб таго не разбудзіць.

— Няма чаго сьмяяцца,—пакрыўдзіўся Кахарка.

— А залаты фонд ёсьць у вас?

— О-о-о! Беларусь багата лесам, лёнам, збожжам ды шмат іншым. Пры тым ёсьць і з о л а т а.—На апошнім слове Кахарка зрабіў націск.

Слухаючы яго, Крушынскі падсунуў руку да газэты, якая ляжала на футаляры.

— Не чапайце! Не ча...—сказаў „міністар" такім голасам, нібы пад газэтай ляжаў скручаны зьмей.

— Што такое?—спалохаўся Крушынскі.

— Ня можна чапаць.—Кахарка многазначна ўсьміхнуўся.— Гэта фінансы майго міністэрства.

— Як гэта разумець?

— Зусім проста: фінансы!

І Кахарка зьвярнуўся да чалавека са стрэльбай, які спаў на крэсьле:

— Пётра! Пятро-о-о!!

— Га?—усхапіўся той і давай лыпаць чырвонымі заспанымі вачыма.

— Можна паказаць фінансы?

— Паказаць? Можна!

Узброены чалавек выціраў вочы. А „міністар" зьняў з футаляра газэту.

— ?!?!...

Крушынская ўспляснула рукамі. З яе горла вырваўся нечалавечы крык захапленьня.

— Або-о-ожа-ж мой!—прагаварыў Крушынскі, адскочыў назад ад стала і вытарашчыў на Кахарку зьдзіўленыя вочы.— Што гэта?!

— Самі бачыце...

Кахарка задаволена ўсьміхнуўся. Падаўжэлі, расьцягнуліся яго стрыжаныя вусы, паказаліся беражкі вільготных пажоўклых зубоў. Ціха хіхікаў і чалавек са стрэльбай.

І Кахарка і чалавек са стрэльбай былі вельмі задаволены эфэктам: перавернуты футаляр ад пішучай машынкі вабіў да сябе таемнай сілай і палохаў дзікай нечаканасьцю.

— Адкуль гэта ўсё?—запытаўся Крушынскі, і вочы яго ўтапіліся ў шахаразадаўскі футаляр.

— З Беларусі прыляцелі гусі, — кволым голасам сказаў Кахарка.

— Колькі тут?

— Гэта сакрэт ураду.

У футаляры ад пішучай машынкі ляжала куча залатых дзесяткаў...

З цяжкім настроем вышаў Крушынскі з „Беларускага сакратарыяту“.

— Гэта падобна да нейкага дурнога анэкдоту,—сказаў ён.— Няма ў нас дзяржаўных людзей. Вось дзе бяда.

Праз пару дзён прышлі немцы.

Адразу выкінулі „міністраў“ з губарнатарскага дому.

Злыя языкі гаварылі, што рабілася гэта ня вельмі далікатна...

Казачны футаляр ад пішучай машынкі прапаў.

---

Зьявіліся сапраўдныя „дзяржаўныя“ людзі. На чале іх— Раман фон-Скірмунт.

Тэлеграма кайзэру...

Орыентацыя на немцаў.

Сябры рады „Беларускай народнай рэспублікі“ здаволены:

— Раман Скірмунт—дзяржаўная галава.

— Раман Скірмунт—скарб для беларускага народу.

— Раман Скірмунт—член гасударсьцьвенага савету яшчэ пры цары.

Раман Скірмунт мае маёнткі і фабрыкі ў Беларусі.

— Раман Скірмунт—шчыры беларус.

— Раман Скірмунт напісаў граматыку беларускай мовы пінскага дыялекту.

— Раман Скірмунт выведзе беларускі народ з бальшавіцкага Эгіпту.

Алесь Крушынскі (цяперашні Цярэшка) яшчэ ў мінулым годзе пазнаёміўся з Раманам Скірмунтам. У катадральным саборы тады служылі паніхіду па Максіму Багдановічу. Чорнабароды поп чытаў са сшытка казаньне, напісанае для яго спэцыяльна пабеларуску. Некалькі дзесяткаў беларусаў з нашыўкамі чорнага крэпа на рукавох былі ў захапленьні ад беларускай мовы папа.

Алесь Крушынскі зьвярнуў увагу на адну лысіну, на рымскі профіль твару, на глыбокія чарнявыя вочы, на энэргічны падбародак, на зграбнасьць рухаў, на элегантны гарнітур.

— Раман Скірмунт.
— Раман Скірмунт.
Так шапталіся вакол.
Тады пазнаёміліся.
А вось праз год, пры немцах, у габінэце Рамана Скірмунта пішацца ўстаўная грамата беларускаму народу.
Алесь Крушынскі—стыліст.
У цішыні вялізнага пакоя воддаль ад вуліцы скрыпяць пер'і. Пішуць некалькі чалавек.
Раман Скірмунт частуе ўсіх папяросамі:
— З усіх напісаных грамат—кажа ён—выберам самае лепшае і склеім у адно. А потым пан Крушынскі навядзе стыль. Стыль мае вялікае значэньне ў такіх справах.
Раман Скірмунт бліШчыць чарнявымі вачыма і залатымі зубамі.
Сябры рады „беларускай народнай рэспублікі" пішуць, піша і Алесь Крушынскі. Думкі лебедзямі плывуць. Вокны завешаны гардынамі. Насьценны гадзіньнік дзеліць думкі на сэкунды:
— Тык-так, тык-так, тык-так.
Крушынскаму здаецца, што гадзіньнік кажа мовай чалавечай:
— Чакай, беларускі народ! Чакай...
І зноў тое самае, і зноў...
Скрыпяць пер'і.
Скардзіцца пан Саколіч:
— Нічога ў мяне ня выходзіць...
— Выйдзе!—бадзёрыць яго пан Скірмунт.—Да дзяржаўных спраў ня прывыклі. Трэба прылаўчыцца...
Раптам у цішыню пакоя ўрываецца няпрошаная Маруся. Катарынка грае пад самым вакном „Маруся атравілася".
Усе радаўцы злосна ўскокваюць з сваіх месц.
— Ох, чор-р-рт!
— Прынесла нячыстае!
— Ліханька яго матары!
— Не дае пісаць...
— Каб хоць што—кольвечы беларускае граў!
Раман Скірмунт усьміхаецца, адчыняе вакно і кідае трошніцу катарыншчыку.
Да вакна падыходзіць і Крушынскі.
Катарыншчык задзёр галаву ў гару да вакна. Яго чорная цыганская барада ледзь дрыжыць ад ветрыка. Трымае трошніцу на далоні і дзівіцца шчодрасьці паноў... Некалькі разоў дзякуе.
— Толькі зараз-жа ідзі з гэтага двара!—кажа строга пан Скірмунт.
Катарыншчык уходзіць.
Зноў скрыпяць пер'і.
Зноў Раман Скірмунт частуе папяросамі.
Зноў скардзіцца пан Саколіч:
— Нічога ў мяне ня выходзіць...

— Выйдзе!

Шалясьцяць белыя лісткі паперы. Размашыстыя почаркі.

Прыносяць піва.

А вось...

Кожны чытае сваё напісанае.

Пачынаецца монтаж.

Ад кожнага бяруць па самаму лепшаму абзацу.

Раман Скірмунт бадзёрыць:

— Будзе добра, добра будзе!

Доўга правяць кожны абзац паасобку. Крушынскі стылізуе.

Нарэшце...

Першы абзац першага аўтара:

**Год назад народы Беларусі разам з народамі Расіі скінулі ярмо Расійскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь; ня пытаючыся народу, ён укінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская народная рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю: вольнаю дзяржаваю. Самі народы Беларусі у особе свайго ўстаноўчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.**

Другі абзац другога аўтара:

**На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Бярэсьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі. На моцы гэтага ўрад Беларускай народнай рэспублікі мае ўвайсьці ў адносіны з зацікаўленымі старонамі, прапануючы ім пераглядзець тую часьціну Берасьцейскага трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць міравую ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.**

Трэці абзац трэцяга аўтара:

**Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбеную перавагу беларускі народ, аласьне Магілеўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродзеншчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежныя часьці суседніх губэрняў, заселёныя беларусамі.**

Чацьверты абзац чацьвертага аўтара:

**Рада Беларускай народнай рэспублікі пацьвярджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаны Ўстаўнай Граматай ад 9 сакавіка 1918 г.**

Пяты абзац пятага аўтара:

**Абвяшчаючы аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы.**

**Рада Беларускай народнай рэспублікі.**

**Дана ў Менску-Беларускім**

**25 сакавіка 1918 г.**

— Вось бачыце, як добра выйшла,—сказаў Раман Скірмунт.

— Нашым поэтам такая грамата натхненьне дасьць,—уставіў сваё слова Крушынскі.

На гэта ніхто Крушынскаму не адказаў.

Раман Скірмунт задумаўся. Нарэшце ён працадзіў праз зубы:

— Ведаеце, панове? Трэба будзе ў комэнданта гораду прасіць дазвол аб распаўсюджаньні граматы. Гэта ўжо не перашкода катарыншчыка.

Пачуліся ўздыхі.

— Пакуль што наша незалежнасьць... але лепш аб гэтым не гаварыць. Лепш з немцамі, нават з нэграмі, чымся з бальшавікамі,—сказаў адзін рыжавусы.

— Наладзім!—пацяшаў пан Скірмунт, а грошы на друк і распаўсюджаньне граматы пакуль што я даю. Толькі не ўпадаць у роспач. Пасьля наладзім сувязь з Украінай, з Донам ды з іншымі. Сродкі будуць. Зробім дзяржаўныя пазыкі.

— Усё будзе добра,—сказаў дзядзька Саколіч і пагладзіў пальцам маленькія вусікі.—Княгіня паможа. А вось учора я атрымаў ліст з Адэсы. Там справа ідзе дасканала. Адэса ледзь не беларускім горадам становіцца.

Крушынскі лавіў кожнае слова вялікіх „дзяржаўных мужоў“ і гардзіўся тым, што прымае ўдзел у такой палітычнай справе. Ён запрасіў усіх да сябе на вячэру. У „міністраў“ адразу паправіўся настрой.

Крушынскі пасьпяшыўся дамоў, каб рыхтаваць пачастункі для знакамітых гасьцей. На небе стала хмурна. Сьвежы вецер граў нядобра прыбітай кравецкай вывескай недалёка ад яго дому. З двара чуваць была ігра катарынкі. Той самы чалавек з чорнай цыганскай барадой граў „Маруся атравілася“

— Катарыншчык падобны да беларускага ўраду, які абівае парогі розных дзяржаў,—падумаў Крушынскі.

---

У цень, у прытульны халадок ад сьпякоты чэрвеньскага сонца!

У сад з запыленага бруку вуліцы Адама Міцкевіча!

Крушынскі (цяперашні Цярэшка) ведае ў садзе такія прытульныя мясьціны каля Сьвіслачы, дзе вербы зьнізілі галіны да самай вады, дзе між густых прысад сьцелюцца па жоўтых дарожках лагодныя сінія цені.

На хвілінку спыніўся каля сквэрыка. За тэатрам дашчаны летні рэсторан. Вакол яго, нібы вялізныя мухаморы, фарбаваныя фанерныя будачкі для парачак. На століках—лікёры.

У гуках сымфонічнай оркестры купаюцца бліскучыя пілсудчыкі, урачыстыя паны, далікатныя пані, кволыя панны.

**У пілсудчыкаў на шапках—арлы.**
**У паноў між зубоў—цыгаркі.**
**У паняў на каленях—пульхныя сабачкі.**
**У панн на тварах—мігдаловыя вочы.**
**Вочы страляюць у пілсудчыкаў.**
**Пілсудчыкі закручваюць вусы.**

Крушынскі (цяперашні Цярэшка) толькі што вышаў з нацыянальнага камітэту“ Дзведаўся там прыкрую навіну: няма добраахвотнікаў у войска „Беларускай вайсковай комісіі“. Ёсьць генэралы, лейтананты, ад‘ютанты, камандуючыя арміямі, ёсьць вайсковыя статуты, песьні, а няма салдат: нацыянальная трагедыя... Аднаго вярбоўшчыка сяляне біць хацелі. Моладзі наогул на вёсцы мала. Па лясох хаваецца. Сябры „нацыянальнага комітэту“ бандытамі называюць беларускую моладзь. Гэтыя „бандыты“ тым больш небясьпечныя, бо не рабуюць сялян, а нападаюць на братніх жаўнераў братняга Пілсуцкага. Небясьпечныя бандыты—бальшавіцкая зараза прыстала да іх. Што рабіць? „Ачысьціць ад іх беларускі народ, з карэньнем вырваць з вёскі гэту небясьпеку! А то...“

Крушынскі (цяперашні Цярэшка) толькі што вышаў з „Беларускага нацыянальнага комітэту“. „Ух, пральлецца кроў“,—гаварыў там адзін „прэм‘ер“, з гладкай лысінай філёзофа, у белых манкетах. Пры гэтым бурыя пальцы яго ў кіпці скруціліся.— „Фальваркі і маёнткі зьнішчаць, культуру зьнішчаць“.—Голас „прэм‘ера“ быў мэталёвы. Адзін з беларускіх генэралаў у ангельскай форме з двума коньнікамі (сьвятымі Ягорамі) на каўняры мундзіра там-жа думу глыбокую думаў і думу ў голас сказаў: „Язэп Пілсуцкі дапаможа. Ён любіць наш народ. Ён выратуе Беларусь ад бальшавіцкай заразы. Павінен выратаваць, а то...“

Крушынскі (цяперашні Цярэшка) толькі што вышаў з „нацыянальнага комітэту“.

На вуліцы сьпякота.
У сквэрыку весела.
У садзе халадок.
— Куды ісьці?

Ахоплены такой думкай, ён спыніўся пасярод вуліцы Адама Міцкевіча.

— Прэч з дарогі!

Крушынскі адскочыў на тротуар.

Цяжкім крокам ідзе купка сялян. Ланцугом вакол іх узброеныя легіёнэры.

Пячэ чэрвеньскае сонца.

Спыняюцца праходжыя. Крушынскі чуе шэпт:

— Глядзеце, глядзеце... Зноў павялі...

Босыя. Ногі патрэсканыя. Твары набраклыя. Вандзэлкі на плячох. Скалмачаныя бароды. Ёсьць і хлопцы-падлеткі. Ідуць

панурыя. Утаропілі вочы ў запылены брук. Крокаў іх ня чуваць, бо яны босыя. А крокі жаўнераў цьвёрдыя: раз-два-тры, раз-два-тры. Рытмічны стукат падошваў.

На галовах і плечах сялян гарачыя плямы чэрвеньскага сонца.

У сялян акамянелая спакойнасьць. Нібы гоняць іх кудысьці на прымусовую працу.

— Вядуць партызан на расстрэл,—чуе Крушынскі шэпт праходжых.

І прымусовая праца. Самі для сябе будуць магілы капаць у Камароўскім лесе...

Каб аддзяліць ад іх канвой і даць ім у рукі косы, выглядала-б, што яны варочаюцца з цяжкай касавіцы.

Касавіца была нялёгкая. Касцы баранілі ад зьвяроў у арлох сваіх жанок і дзяцей.

З летняга рэсторана—„Ешчэ польска“.

За канвоем—хвост з вясковых жанчын. Жанкі і маткі плачуць, лемантуюць:

— Зьлітуйцеся..,

— Зьлі-і-туй-це-ся...

— Не чакайце ад паноў літасьці!—гневаецца адзін з партызан.

У сялянак ад плачу заплылі вочы.

Бліскучы малады афіцэрык супакойвае праходжых.

— Не шкадуйце іх—гэта-ж бандыты!

— Гэта бандыты,—паўтарае за ім Крушынскі.

Пячэ сонца.

Потам пахне ад грамадкі сялян.

Па вуліцы Адама Міцкевіча прабягае босы хлопчык. На яго галаве шапка з паламаным брылікам. Хлопчык спыніўся каля жалезнай гарожы сквэрыка. Слухае музыку.

Партызаны скідаюць з сябе вандзэлкі—апошняя памятка родным...

Сівыя сялянкі паднімаюць вандзэлкі. Адна з іх туліць вандзэлак да твару...

— Гэта бандыты,—супакойвае Крушынскі праходжых.

Хлопчык, які слухае музыку, пабег за партызанамі.

Крушынскі толькі што вышаў з „нацыянальнага комітэту“. У яго вушах яшчэ зьвіняць словы „прэм'ера“:

— Ух, пральлецца кроў...

Босы хлопчык перабірае нагамі па гарачым бруку:

— Ай, пячэцца...

А тых пагналі ў цянёк, пад паветку Камароўскіх хваін. Там запахне чалавечым потам, хваёвай жывіцай і крывёю.

Крушынскі нядаўна вышаў з „Беларускага нацыянальнага комітэту“...

---

Аб вокны белага муру б'юцца акрываўленыя крыльлі заходніх праменьняў ліпнёвага сонца.
На востракантовых вежах муру дрыжаць ружовыя вейкі канаючага дня.
Крушынскі толькі што вышаў з гэтага гмаху. Тут адбылася апошняя нарада „найлепшых сыноў беларускага народу"—сяброў „нацыянальнага комітэту", „міністраў", „генэралаў".
Гаварыў „маршалак":
— Польскае войска нас пакідае на волю лёсу. Калі народ хоча адваяваць сваю незалежнасьць, ён павінен за гэта плаціць крывёю сваіх сыноў. Гэтаму нам трэба вучыцца ад палякаў. Беларускі народ да такой сьвядомасьці яшчэ не дарос. Кроў сваю ён пралівае, але на карысьць чужынцаў. У гэтым наша трагедыя. Панове! Самая краса беларускай нацыі цяпер сабрана тут пад суфітам гэтага гмаху. Калі-б, скажам, у гэту хвіліну рухнулі на нас сьцены, дык разам з намі прапала-б уся беларуская справа. Тады народ наш застаўся-б жыць у цемры яшчэ на доўгія гады. Мы—гэта нацыянальны скарб, нацыянальны мозаг, нацыянальная сьвядомасьць дзесяцімільённага народу. Наш сьвяты абавязак не паддацца ворагу. Чырвоны вораг ужо ля варот Менску. Наша зброя—сьвятыя ідэі незалежнасьці. Гэтыя ідэі будзем сеяць сярод беларускіх сялянскіх мас і надалей. Кожны з нас—позыцыя. Кожны з нас—армія. Кожны з нас—фронт. Беларускі народ...
Тут „маршалак" прадэклямаваў страфу з верша аднаго поэта.
Пасьля адбылася сакрэтная нарада, на якой было пастаноўлена, каму застацца тут, а каму ехаць разам з палякамі.
Вышаўшы з гэтага гмаху, Крушынскі сустрэў Сакалоўскага. У таго рыжыя вусы, рабаценьне на твары і сьветла-шэрыя вочы. На ім—расшпіленае шэрае паліто. Пад гузікамі латачкі. Відаць, нехта гвалтоўна вырываў гузікі разам з кавалкамі сукна.
Крушынскі ўспомніў паляваньне на бальшавіка пасярод вуліцы.
...Гэты самы... наборшчык...
З-пад расшпіленага паліта Сакалоўскага відаць парваная ніжняя кашуля.
— Многа такіх цяпер, беспрацоўных,—падумаў Крушынскі.
У Сакаўлоўскага ў руках кошык з лушпінамі ад бульбы.
— Няўжо-ж гэтым корміцца сям'я Сакалоўскага?
...Амэрыканская мука, консэрвы, сала, чакаляда...
Нясмачна стала Крушынскаму ад гэтых смачных рэчаў...
На адну хвіліну...
А ў рыжавусага ў сьветла-шэрых вачох—гіронія, у голасе—гіронія:
— Сягоньня паны ўцякаюць...
Сакалоўскі выцер са лба і з худых завостраных сківіц кроплі поту. Пайшоў спакойным крокам.
Крушынскаму стала горача. Нібы хтосьці бізуном сьцебануў па твары...

„Паны ўцякаюць“—урэзаліся ў яго памяць словы наборшчыка.
Толькі доўга падумаўшы, Крушынскі зразумеў, чаму Сакалоўскі сказаў „паны“, а не „палякі“.
Вярнуўся да хаты.
...Трэба рыхтавацца. Бацька быў лёкаем. Я—сын пралетара...
Замкнуў жалезныя вароты. Сам напісаў на паперы па польску:

| *Тут жывуць палякі* |
|---|

Прыклеіў да варот.
Пані Мар‘я ўзмацніла гэту абарону супроць адыходзячых пілсудчыкаў партрэтам Пілсуцкага.
Адна суседка вынесла абраз маткі боськей чэнстохоўскей“.
Крушынскі вышаў на балькон.
Каля сьцен высокага дома распаўзьліся саранчою трывожныя цені. Апусьцела вуліца. Нязвыклая цішыня.
І ў цішыні з воддалі Кашараў пачало расьці грукацэньне. І з грукацэньня пачалі выплываць, якбы толькі што народжаныя, конныя і пешыя жаўнеры, артылерыя. І жаўнэры гікалі, сьвісталі, лаяліся. І гіканьне, і сьвісты, і лаянкі наводзілі трывогу...
Крушынскі вужом усунуўся ў кватэру, зачыніў балькон. Вокны дзынкалі. Шум з вуліцы напоўніў кватэру сполахам.
Брат Алеся Крушынскага, Пётра, прывёў сюды жонку і дзяцей.
— На гэтым паверсе спакойней,—сказаў брат.
Малыя дзеці былі вельмі ўздаволёны. Дзіцячы сьмех надаваў кватэры штучны спакой і фальшывую прытульнасьць.
І пані Мар‘я бегала па пакоі і стагнала:
— Не магу... Не магу...
Затыкала пальцамі вушы і лемантавала:
— Не магу... Не магу...
Нібы кквактуха, вохкала-вохкала:
— Не магу... Не магу...
— Чаго ты крыльле апусьціла?—крыкнуў на яе муж і апусьціў на вокны, нібы крыльле, цёмныя шторы.
Надышла ноч.
Прыкры шум на вуліцы пранікаў праз тоўсты мур рытмічным лямантам крыкаў і стукату. Пад гэту рытміку Крушынскі дрыжучымі губамі напяваў два словы:

**Паны ўцякаюць.**
**Паны ўцякаюць.**
**Паны ўцякаюць.**

Вельмі ўрэзаліся ў мазгі словы Сакалоўскага.
А вочы ў жонкі былі пустыя і празрыстыя ад сполаху.
А вочы ў брата былі зьдзіўленыя.
А братава жонка ўкладавала дзяцей спаць.

З суседніх дамоў раптам пачуўся прыкры бразгат разьбітага шкла. За бразгатам—сьвісты п'яныя, лаянкі і жудаснае працяглае „а-а-ай"...

Жанчыны пачалі рукі ламаць. Крушынскія пабляднелі. Сам сабою вырваўся шэпт:

— А божа-ж мой... а божа-ж мой...

Прачнуліся дзеці:

— Ой, што гэта?

— Сьпіце. Пеўні сьпяваюць.

З розных месц вуліцы далятаді сюды крыкі, сьвісты, войканьне. Дзеці заплакалі. „Што гэта? Што гэта"—пыталіся яны.

— Сьпіце. Каты няўкаюць.

А ноч стагнала: „у-о-о-ой, у-а-а-ай.

А ноч выраблялася: „у-а-а-ай, у-о-о-ой"...

Вочы дзяцей сталі бліскучымі і зацікаўленымі.

— Што гэта? Што гэта?

— Сьпіце. Сабакі выюць.

Доўга цягнулася ноч.

І нібы ўсю ноч па вуліцах гораду збожжа малацілі.

Ніхто ня спаў.

І ноч праплыла доўгім нясупынным лямантам жудасьці і страху.

Некалькі разоў бразгаталі ў жалезную браму дома Крушынскага.

— Адчыні, пся косьць!

— Тут палякі жывуць,—адказваў ім з двара дворнік.

А ў грукаце і шуме, у крыках і лямантах Крушынскі чуў два словы, сказаныя Сакалоўскім:

— Паны ўцякаюць...

Калі пад раніцу ён на пекалькі хвілін заснуў на канапе, яму сьнілася

Над калыскаю дзіцяці нахіляецца маці—сялянка. І жаласьліва плача дзіця. І маці яго супакойвае і сьпявае:

Паны ўцякаюць...
Паны ўцякаюць...

— Я нейдзе бачыў гэту кабету,—успамінае Крушынскі ва сьне.—Ага, на вуліцы Адама Міцкевіча, калі вялі сялян на расстрэл у Камароўскі лес і я супакойваў праходжых, калі казаў:— „Гэта бандыты, бандыты..."

Раніцою нехта прынёс весткі:

— Рабуюць...

— Забіваюць...

— Прыкладамі залатыя зубы выбіваюць...

— Пажары...

— У кашарах гараць казармы... У аднэй з іх запёрты падонныя бальшавікі... Адтуль жудасныя крыкі і ляманты чуваць...

Плоймамі варон расьлі адна за аднэй страшныя весткі:

— Пілсудчыкі абяцаліся каменя на камені не пакідаць...

— Гарыць горад з усіх канцоў...
— Рабуюць крамы...
— Гранаты кідаюць...
— Забіваюць людзей...
— У агні Залатая Горка, Пярэспа, Кашары, Камароўка, вакзалы, ля жалезнага маста...

Замёст сьняданьня страшныя весткі.

І дзіва: наслухаўшыся гэтага, Крушынскі супакоіўся, баяцца перастаў. Толькі адно жаданьне зьявілася ў яго: паглядзець усё гэта сваімі вачыма. Можа толькі раз у жыцьці ўдасца пабачыць такую романтыку... Палякі (а можа паны, як гаварыў Сакалоўскі) любяць старадаўныя рыцарскія традыцыі...

Крушынскі зьеў халодны бутэрброд, узьлез на гару дома, а адтуль ускарабкаўся на дах.

Над горадам у розных мясцох клубіўся дым—чорны, рыжы. Узьнімаліся ракеты іскраў. Палыхалі агні. Горад лізалі чырвоныя языкі. Успыхне агонь агромністым букетам у адным месцы, у другім, у трэцім. Абхопіць будынак вянком з макавых кpасак у адным месцы, у другім, у трэцім. Дзікае ігрышча пажарышч імчыцца на гарачых крыльлях у адным месцы, у другім, у трэцім... Нібы палаючыя, крылатыя шчупакі, скачуць галавешкі ў гару, іскравяцца, дымяць... Смуродны дым, стрэлы з карабінаў, выбухі бомбаў, крэхт вокнаў, палаючых кроквaў, крыкі роспачы, грукат жалезных калёс па бруку, тупат войску, цоканьне конскіх капыт,—усё гэта зьмяшалася ў адно рытмічнае:

**Уцякаюць паны...**
**Уцякаюць паны...**
**Уцякаюць... уцякаюць...**

Усё насельніцтва, нібы ўстрывожаныя пчолы з вульляў, высыпала з кватэр на гароды—старыя, маладыя, малыя. Вакол іх узгоркі мяшкоў з хатнімі рэчамі. Па ўзгорках—жаўнеры капаюцца. Жанчыны ўзьнімаюць рукі ў гару, у неба і крычаць:

— Рату-у-уйце! Ра-а-туй-ця-а-а!..

Страшная агнёва-крывавая лазьня.

Паны ўцякаюць...

Крушынскі стаіць на даху свайго чатырохпавярховага мура, і яму здаецца ў гэту хвіліну, што ён жыве ў старыя-старыя часы, дзьве-тры тысячы год таму назад. Ён, Крушынскі,—вялікі жрэц Молаха, бога агня, і ён служыць цяпер урачыстае набажэнства ідалу, кідае людзей у агонь. А вакол сотні і тысячы ахвяр у прадсьмяротным захапленьні пяюць гімн:

**Паны ўцякаюць...**
**Уцякаюць паны...**

Відовішча затуляецца ад яго вачэй смуродным дымам.

Крушынскага пацягнула на вуліцу. Ён зышоў з даху і пераапрануўся ў старую вопратку.

— Куды ты? Куды ты?—залемантавала пані Мар'я,

— Хачу паглядзець...

— Ня пушчу! Яшчэ заб'юць!—і стала каля дзьвярэй.

Ён адпіхнуў ад сябе жонку, ірвануў дзьверы і вышаў.

На вуліцы ён не адчуваў гэтай урачыстасьці і „дзікага хараства", як раней з вышкі і аддаленасьці даха свайго высокага дома. Ён зьмяшаўся з вайсковым натоўпам. Было тут шмат і штацкіх, і ніхто на яго ўвагі не зьвярнуў. Легіёнэры прадавалі нарабаванае: вопратку, боты, мяшкі какао, скрынкі папярос, гадзіньнікі.

Магазыны і крамы на вуліцы Адама Міцкевіча разьзявілі вялізныя іртьі—выбітыя вітрыны. На тротуарах—бітае шкло, пустыя скрыні, як трупы,—манэкены з кравецкіх майстэрняў, вайсковыя галовы з цырульняў.

Хрусьціць і сквіргоча пад нагамі шкло. Па шкле ідзе нейкая прагавітая кабета, да вачэй захутаная хусткай. Нясе вядро з яблычным павідлам, нясе ды з апаскаю па баках аглядаецца.

— Дзе дастала?—зацікавіўся Крушынскі.

— Вунь там!

Голас яе гаспадарчы, заклапочаны.

Побач разьбіты коопаратыў. Каля яго людзі з мяшкамі і вёдрамі, з кошыкамі.

Ніхто з іх не зьвяртае ўвагі, што на суседнім двары—сьвісты. плач, гіканьне, рогат.

Два жаўнеры выгналі адтуль старога спалоханага яўрэя.

Ён у аднэй бялізьне, рукою прыкрывае падрэзаную бараду.

Адзін з жаўнераў падскочыў да кабеты і кінуў у вядро з павідлам жмут сівых валасоў.

— Ай, людцы!—завізгатала кабета,—павідла спаскудзіў.

— З жыдоўскай барадой смачней будзе,—засьмяяўся жаўнер.

Кабета тут-жа на шкло выплюхнула з вядра павідла і пабегла зноў у разгромлены коопэратыў.

Пад нагамі кабеты хрусьціць шкло. За яе сьпіною—цюканьне і люканьне.

А пасярод вуліцы плыве да вакзалаў войска, тупаюць людзі, цокаюць падковы, грымяць калёсы, лязгае жалеза артылерыйскіх павозак. Смурод чалавечага і конскага поту. І ва ўсім гэтым галасе Крушынскі чуе рытмічныя гукі, і ў рытмічных гуках—два словы:

— Паны ўцякаюць.,.

— Паны ўцякаюць...

І ў дзікіх лямантах з гародаў і кватэр, і ў крыку-плачы напалоханых людзей, і ў рогаце-сьвістах разьюшаных пільсудчыкаў, і ў шуганьні блізкіх пажарышч ён чуе гукі двух слоў:

— Паны ўцякаюць...

Крушынскі павярнуў назад і давай каля сьцен па шкле прабірацца дамоў. І раптам за яго сьпіной:

— Гэй! Ты-ы-ы! Стой!

Крушынскі адвярнуўся.

— Да мяне?
— Стой, псяюха!
Да яго падскочылі два п'яныя афіцэры.
— Хадзем!
— Куды?—запытаўся ён раптам ахрыплым голасам.
— Не размаўляцы! А то...
Над ім зьмеем узмахнуўся бізун. Крушынскі спакорліва нагнуў галаву. Піск зайца вырваўся з яго горла:
— Ня бійце...
— Прэндзэй!
Ня памятае, як дайшоў да каменнага дома. Усю дарогу чакаў.
...Вось-вось спаласуюць яго бізуном... Вось-вось стрэльнуць у сьпіну, і ён застанецца ляжаць на пабітым шкле ў лужы крыві... Вось-вось...
Стала горача, пуста ў грудзёх. Яму здавалася, што аглох, бо перастаў чуць гукат і крыкі.
Афіцэры завялі яго ў нейкую цустую кватэру.
— Нясі!
Паказалі на вялікі вандзэлак.
— Прэндзэй!
Першы раз у жыцьці ён быў такім паслухмяным. Узваліў на сябе нешта мяккае, укручанае ў плюшавую коўдру.
Накіравалі яго ў бок Віленскага вакзала. Немагчымая сьпякота. Ён спацеў. Некалькі разоў пераступаў праз трупы забітых. Чамусьці раней драўляныя тулавы і васковыя галовы, выкінутыя на тротуар, яго больш палохалі, чымся цяпер чалавечыя трупы. Дагарэў вакзал. Пакунак пацяжэў. Крушынскі пачаў пад ім сапсьці, як змардаваны конь.
— Прэндзэй! Прэндзэй!
Ён выбіваўся з сіл, нагнуўся ледзь не да самай зямлі. Валокся наперад, як заежджаны конь.
— Прэндзэй!
Смуродны дым клубіўся па вуліцы, выціскаў сьлёзы з вачэй, вырываў кашаль з горла.
— Прэндзэй!
Крушынскі быў увесь мокры ад поту, калі скінуў з плеч пакунак. Перад вачыма плылі зялёныя кругі.
Пакой.
Вакол стала п'яныя жанчыны ў адных кашулях.
На стале, на падлозе, на падваконьніках бутэлькі з віном, пячэньне, чакаляда.
Адзін з афіцэраў—чорнавусы з задзірыстым носам—разьвязаў пак. Адтуль высьлізнулася чорнай жывёлінай каракулевае дамскае паліто, разгарнуліся веярамі некалькі штук шаўковых вопратак, бліснулі завостранымі мордачкамі дзьве пары элеганцкіх лякіраваных туфель.

Жанчыны пачалі зараз-жа прымерваць. Афіцэры ім памагалі, прыгладжвалі на іх вопратку па выпуклых мясцох, адпускалі „вольныя жарты“.

— Мне можна ісьці?—як хлопчык запытаўся Крушынскі.

— Можна!—сказаў адзін.

— Не! Не! Пачакай!

Афіцэр паднёс яму шклянку віна.

— Пі!

Адгэтуль дамоў ён прабіраўся гародамі і закавулкамі. Кружылася галава.

Над палаючым горадам, над смуродным дымам, над крыкамі жудасьці плылі ў паветры два самалёты.

П'яны жаўнер задзіраў у гару галаву і хрыпеў:

— Бальшавіцкія, псякосьць!

Крушынскага сустрэў брат:

— Герой вярнуўся!

Пані Мар'я плакала.

---

У другую ноч пасярод войканьня і крыкаў чуваць было час-ад-часу бадзёрае „ура“.

Яшчэ з вечару суседкі прынесьлі вестку, што ў горадзе зьявілася самаабарона.

Раніцою адзінаццатага ліпеня горад анямеў. Надышла цішыня.

Крушынскі зноў высунуўся на вуліцу. На тротуарах каля брам стаялі групкі абываталяў. На вуліцы валяліся стрэльбы, скрыні з патронамі. Супроць сквэрыка ляжаў застрэлены конь. Побач дыміла паходная кухня са сьвежай ежай.

Раптам...

З боку Камароўкі цокнула страляніна. Нехта драпаў па сьценах:

— Та-та-та-тра... Та-та-та-тра...

Групкі людзей зьніклі, схаваліся ў ранейшыя заховы, тараканамі па шчылінах.

У маленькім сквэрыку стаяў асірацелы летні рэсторанчык.

— Та-та-та-тра...—жартаваў нейдзе кулямёт.

У Крушынскага кроў застыла ў жылах. Ён пачаў туліцца да дрэў маленькага сквэрыка.

Ар'ергард легіянэраў бег поўнай ходою па вуліцы Адама Міцкевіча. З-заду хвастаў па ім кулямётны град.

Крушынскі прырос да дрэва. Перад ім мітусіліся профілі легіянэраў. Спалоханыя. Нямігаючыя вочы. Бледныя твары.

— Паны ўцякаюць...

Упаў адзін... другі... трэці...

У Крушынскага пачалі цьвярдзець валасы пад шапкай. Каб мог, дык у самае дрэва ўлез бы.

— Цок-цок-цок...—цокаюць кулі вакол. Нібы хтосьці зашпіляе і адшпіляе ля самых яго вушэй бляшаныя кнопкі.

Праз некалькі хвілін паказаліся чырвонаармейцы. Сярод іх партызаны ў штацкім, узброеныя стрэльбамі.

Раптам Крушынскі ўсім целам падаўся наперад.
Ён угледзеў „таго“...
У „таго“ гарэлі агнём сьветла-шэрыя вочы. Рыжавусы Сакалоўскі бег наперад са стрэльбай у руках па вуліцы Адама Міцкевча.
Страляніна адсунулася далей. Здалёку здавалася, што гэта нехта малатком б'е гарэхі:
— Та-та-та-тра! Та-та-та-тра!
Супроць сквэрыка хлапчукі падбіраюць патроны, часткі кулямётаў. Сьмяюцца, Жартуюць. Сустракаюць чырвонаармейцаў крыкамі „ура“.
З двароў дамоў зноў пачалі высоўвацца абывателі.
Лагодна сьвеціць сонца.
Крушынскі падбег да белага знаёмага мура: цягнула паглядзець...
Над высокім ганкам белага мура, былога юбілейнага дома, красавалася бляшаная вывеска: „Беларускі нацыянальны комітэт“,
Хлапчукі. па загаду нейкага незнаёмага чалавека, ускарабкаліся на брыль ганку і сарвалі адтуль вывеску.
Бляха ірванулася з месца і з ляскатам і глухім грукатаньнем ляснулася і дзвынкнула аб цьвёрды каменны ганак. Нібы хтосьці камусьці даў поўху.
Хлапчукі рагаталі.
— Агідная вывеска,—сказаў незнаёмы чалавек.—Праўда, таварыш?—зьвярнуўся ён да Крушынскага.
— Праўда,—прамармытаў Крушынскі, і ў душы яго нешта абарвалася.
Як ранены драпежнік, ён курчыўся ад болю і рабіў у той-жа час вясёлую міну.
Адгэтуль ён пасьпяшыўся дамоў, каб хутчэй зьняць са сьцен дому партрэт Пілсуцкага, абраз „маткі боськей чэнстоховськей“ і паперку з надпісам „тут жывуць палякі“.
Пані Мар'я была куды рупнейшая за яго на гэты раз. Усе рэліквіі ўжо было зьняты, і над бальконам іхняй кватэры палыхаў ярка-чырвоны кавалак матэрыі...
Крушынскі ўсьміхнуўся, задзёр галаву да балкона і сказаў самому сабе:
— Правільна...

---

Так, пасьля таго, як госьці разышліся, Цярэшка сядзеў у габінэце, глядзеў на дымок сваёй папяросы і ўспамінаў „тады“.
Габінэт Цярэшкі добра абсталяваны: мяккая канапа, пэрсыцкі вялізны дыван на падлозе, круглы стол па сярэдзіне, пульхныя крэслы, ля сьцен шафы з кнігамі, насупроць вакна вялікі пісьмовы стол. На пісьмовым стале бронза і мармур, статуэткі, цацкі, Для пісаньня толькі кавалак вольнага месца.
Яшчэ нябожчык бацька абсталяваў гэты габінэт—падарунак на вясельле, калі Цярэшка ўзяў сабе за жонку дачку банкаўскага чыноўніка.

Часта поэт Цярэшка глядзіць праз вакно габінэта ў гарадзкі сад, які вельмі добра ўплывае на яго натхненьне. Абапал Сьвіслачы нахіляюцца вербы, глядзяць у ваду і прыхарошваюцца. Далей дарогі і дарожкі, пляцы і пляцоўкі, дрэвы, клюмбы. Улетку косяць траву ў гарадзкім садзе, тады Цярэшка адчыняе вакно, і ў габінэт пракрадваецца пах сьвежага сена.

„Як на вёсцы...“

Чуваць песьні піонэраў, фізкультурнікаў, чырвонаармейцаў.

Увосень, як на вёсцы, хмурна ў гэтым садзе. Шуміць вецер, разносіць чырвоныя кляновыя лісты. Строга ківаюцца хваіны, шапочуць нешта незразумелае пра старадаўніну, якая вельмі да смаку Цярэшку...

„Па садзе вандруе зіма ў белым плашчы“...—занатоўвае Цярэшка пачатак вершу ў блёкноце. Далей ня пішацца. Галава робіцца цяжкай пасьля балюшкі, ён кладзецца на канапу і засыпае, мармычачы:

— Вандруе зіма ў белым плашчы.

У 1922 годзе, калі пры савецкай уладзе жыцьцё ўваходзіла ў новую плынь, Алесь Крушынскі выбраў сабе псэўдонім „Антон Цярэшка“ і пачаў пісаць вершы. Яго лейб-крытыкам стаў Максім Гайдач. Дзякуючы такому крытыку, вершы Антона Цярэшкі мерылі пролетарскім аршынам. Пішучы свае вершы, ён стараўся „пролетарызаваць“ іх так, каб „у выпадку чаго“ яны яго не компромэтавалі...

На заўтра пасьля балюшкі Цярэшка позна прачнуўся. Зірнуў праз вакно габінэта ў сад. Адтуль чуваць была чырвонаармейская песьня. Адзін за адным з пагорку спускаліся лыжнікі. На глянцавітым сьнежным фоне ярка вызначыліся іхнія профілі, нібы абведзеныя атрамантам. Тут і дзеці на маленькіх саначках з горкі соўваюцца. Усе яны кудысьці імчацца ўдаль, у будучыну... Гараць шчокі, блішчаць вочы.

— Слаўная будзе моладзь,—мяркуе Цярэшка.—Мы іх выгадуем у патрэбным для нас кірунку... Будуць некалі жыць у нашай незалежнай...

Цярэшка памыўся і пабег у горад. Першым чынам яму трэба было даведацца, ці ўжо супакоілася, ці няма больш небясьпекі для Язэпа Крушынскага. Дамоў вярнуўся позна.

...Усё будзе добра...—радуецца Цярэшка.

У габінэт праз вакно няпрошаным лезе вячэрні змрок. Сінее гарадзкі сад. Лыжнікі выглядаюць як цені. Яны хутка выходзяць. Пусьцее сад. Над дрэвамі, над сьнежнымі палянамі вісіць марозная сіняя ноч.

Змрокі сьцелюцца празрыстым шоўкам да масыўных сьцен габінэту, расплываюцца па кутох і падлозе густой павуцінай.

Антон Цярэшка апускае шторы на вокны, асьвятляе габінэт электрычнасьцю, садзіцца к сталу і па прывычцы піша спачатку адрас на конвэрце, а пасьля пачынае ліст: *„Дарагі брат Язэп“*.

---

6

# Яшчэ рана

УЖО некалькі дзён, як Мікола Ярэмчык жыве ў бацькоў. Маці сустрэла яго так, як ён уяўляў сабе яшчэ ў дарозе едучы сюды з бацькам. Кожную раніцу яна пякла бульбяныя бліны і нецярпліва чакала, калі ўжо сынок, яе мяншак, прабудзіцца. Сьціртай ляжалі на стале гарачыя бліны і чакалі яго, прыкрытыя абрусом, каб не астылі. Яны дыміліся апэтытнай пахучай парай.

Мікола спаў тут-жа пры стале на лаве. Да паездкі ў Менск ён заўсёды спаў на гэтым месцы.

Усё лепшае і цяплейшае ляжала цяпер пад ім, „каб было мякка", і на ім, „каб было цёпла".

Так кожны раз тлумачыла маці, рыхтуючы яму пасьцель.

Маці заўладала Міколай цалкам толькі раніцою, бо як выходзіў пасьля сьняданьня, дык часта варочаўся дамоў позна ўвечары.

— Зусім ад хаты адбіўся,—скардзілася старая.

Затое раніцою ўся яе ўвага, якая раней была накіравана на ўнукаў (дзяцей старэйшага сына), была цяпер зьвернута на Міколава сьняданьне...

Першыя два дні, калі Мікола сьнедаў, яна адганяла малых. Старыя таксама елі асобна, пакуль Мікола аднаго разу не запытаўся:

— А дзе-ж гэта ўсе?

Маці зьбянтэжылася.

— Ты-ж, сынок, госьць цяпер. Мы ўсе, дзякаваць богу, не галодныя. Усе ўжо елі, а дзеці дык, як сьвіньні тыя, пастаянна жуюць...

І Мікола заартачыўся.

— Сам есьці ня буду! Не хачу, каб смачнейшае мне падавалася!

Ён аж зазлаваўся на маці...

Тады старая налаўчылася такім чынам, што калі ўсе сядзелі пры стале, падсоўвала Міколе лепшыя кавалачкі.

— Твае хітрыкі я добра бачу,—гаварыў Мікола жартуючы, і тут-жа з сваёй талеркі дзяліўся з дзяцьмі.

Маці непакоілася і ў роспачы ня ведала, што рабіць...

Стары Марцін жмурыў на сына вочы, пазіраў на яго дзьвюма сваімі вузенькімі ільдзінкамі і ўсё стараўся перадаць Міколе свае гаспадарчыя настроі.

У той час маладая Рабулька ацялілася. Цыпрук быў захоплены гэтай вялікай падзеяй. Цялушачку прынесьлі ў хату, ёю бавіліся ўнукі. Цыпрук глядзеў і радаваўся і шукаў такой-жа радасьці на твары Міколы...

Не знаходзіў. Стары крыўдзіўся.

З кожным днём стары ўсё больш ярка бачыў і разумеў, што сын „павярнуў аглоблі зусім ня туды, куды трэба".

З кожным днём стары ўсё больш упэўніваўся, што аб хатніх справах з сынам няма чаго гаварыць, бо „той пачаў тыкаць пальцамі ў неба, ці што?"

Пробаваў гаварыць з сынам аб тым, што каня трэба прадаць ды маладзейшага купіць, што сенакосу малавата, што таго-сяго не хапае, стары пералічыў вельмі шмат рэчаў, якіх няма ў гаспадарцы.

— Яшчэ шмат чаго не хапае,—адклікнуўся Мікола ў тон бацькі.

— Вось-вось, сынку, я-ж на тое і кажу і гавару з табою, ці што?—усхапіўся быў Цыпрук, і ў яго вачох зацьвілі радасныя бліскі.

— Калі возьмем, напрыклад, маёнтачак старых часоў,—працягваў далей гутарку Мікола,—дык калі будзем па ім раўняцца, табе не хапае кароў, коняй, сьвіней, зямлі, будынкаў, сельска-гаспадарчых прылад ды яшчэ шмат чаго.

— Навошта мне маёнтак?—сур'ёзна адпіраўся Цыпрук.—Мне, каб на старасьці год мець спакойны кавалак хлеба, бо ведаеш, я ўжо ня дуж.

— Я разумею цябе, тата. Хочаш быць маленькім кулачком. Кінь думаць аб гэтым. А што тычыцца тваёй старасьці, дык не бядуй. Вось я паступлю на службу і буду табе памагаць. Потым колгас будзе ў нас. Ня вечна-ж так будзе. Там непрацаздольныя забясьпечваюцца. Няма табе чаго бедаваць!

Цыпрук пасмутнеў. Злаваўся на старога матроса Солаха, бо той маляваў яму нейкі рай на зямлі ў сувязі з „кусамольствам" сына.

А ў той час Мікола быў першым комсамольцам у гэтай вёсачцы, і суседзі на яго паглядалі з цікавасьцю.

Дні стаялі марозныя, гучныя і белыя. Паветра было празрыстае і ружовае ад зімовага сонца.

Выпарыўся Мікола ў старой Солахавай лазьні і паехаў у лес па дровы. Маці не спадабалася, што „гасьцёк" працуе. Бацька глядзеў на гэта лагодным вокам.

— Няхай! Косьці маладыя, ці што!

Едучы ў лес па дровы, Міколе прыходзілася аб'яжджаць „Гарадок", круглую высокую мясьціну з ровам навакол—памятку княжацкіх часоў.

З „Гарадка“ далёка відаць навокал. Мікола, як быў малы, сюды з равесьнікамі-хлапчукамі каня на начлег вадзіў, або ўдзень кароў тут пасьвіў.

Вялікі абшар разгортваецца з „Гарадка“ навокал.

На балоце відаць „Швэцкі мост“: з зямлі тырчаць старыя зьгніўшыя палі. Яны цягнуцца на цэлую вярсту ўдаўжыню. Як кажуць дзяды, швэды шаблямі тут сяклі лес і пракладвалі для свайго войску мост па топкім балоце.

Вунь на сухім пагорку, падобным да вялізнага яйца, некалькі капцоў. Тутэйшыя людзі іх завуць „францускімі магіламі“. У 1812 годзе тут праходзіла напалеонаўскае войска. Галодная армія забірала апошняе ў сялян.

На „Гарадку“ растуць старыя таўшчэныя дубы. Пад адным з гэтых дубоў... Вось што бацька Міколы, стары Цыпрук, апавядае:

— Гэтае здарэньне было з маім дзедам. Пранукам зваўся. Стагодні Солах ня дасьць зманіць. Фурманам у пана Лісоўскага быў мой дзед. Унук таго Лісоўскага, пан Адась, стары д'ябал, уцёк у Варшаву разам з усімі панамі. Думаю, што нашыя яго добра памятаюць, ці што. Дык вось тады, пры дзеду пана Адася была паншчына. Пан Лісоўскі на гаспадарку не глядзеў. На гэта былі ў яго цівуны, аканомы, лютыя прыганятыя, ці што. Усе з бізунамі ў руках. Вось як і цяперашнія польскія ды іншыя паны. Натура тая самая засталася, ці што. Вельмі карты любіў пан Лісоўскі. І вось аднаго разу ён прайграў аднаму з суседніх паноў сівога стаеньніка ў яблыках. Калі ня верыце, у стагодняга Солаха запытайцеся. Ня дасьць зманіць. А любіў пан Лісоўскі гэтага жарабца, любіў да шаленства. „Дай, пан, жарабца, якога ў карты выйграў“. Шкадуе пан Лісоўскі. „Што хочаш дам, толькі жарабца мне пакінь“. „А што дасі?—пытаецца той. „Трох іншых стаеньнікаў дам“. „Не,—кажа той,—калі дасі мне пяць самых харашэйшых дзяўчат з тваіх прыгоньніц, тады не вазьму сівога жарабца“. „Добра,—кажа пан Лісоўскі,—выбірай“. А ў майго дзеда была дачка красуня. Кроў ды з малаком. Цяпер гэткіх ня знойдзеш. Любіў дзед дачку сваю можа больш, чымся пан Лісоўскі сівога жарабца, ці што. Пайшоў той пан выбіраць сабе пяць дзяўчат. І што вы скажаце? Забраў і дзедаву дачку. Яна на сабе валасы рве, дзед пану бух у ногі. А ведаеце, што ў паноў літасьці да нашага брата гэтулькі, як на бярозе яблыкаў. Забралі дзедаву дачку. Злы быў пан Лісоўскі, а дзед гнеўны быў. Сьціснуў зубы і маўчаў, і адплаціў, моўчкі адплаціў пану Лісоўскаму. Атруціў гэтага самага сівога жарабца. Пан Лісоўскі адразу здагадаўся, чыя работа, бо за гэтым жарабцом глядзеў толькі дзед Пранук. Доўга пан Лісоўскі думаў, як дзеда пакараць, каб было як найстрашней. Нарэшце прыдумаў і загадаў:

„Павесіць Пранука на адным з дубоў, што на „Гарадку“ растуць. Ды ня проста павесіць, а галавою ўніз і нагамі ўверх, каб больш мучыўся хамула!“

Люты быў пан Лісоўскі... Стагодні Солах ня дасьць зманіць. Так і зрабілі... Доўга мучыўся дзед Пранук, пакуль богу душу аддаў. На гэтым „Гарадку“ дзеда Пранука закапалі, як падла, а сівога жарабца ў панскім садзе пан захаваў. Здаецца, ксёндз над магілай жарабца малітвы сьпяваў, бо ў паноў польскіх і коні каталікамі, ці што.

Пры гэтых словах стары Цыпрук заўсёды дадаваў:

„І чаму-ж гэта бог маўчаў? Га? Няўжо-ж ня мог пану адплаціць за такія зьдзекі?“

Мікола добра памятае бацькава апавяданьне.

А вось у 1905 годзе адбылася новая сутычка паміж унукам таго самага пана Лісоўскага і праўнукам Пранука Ярэмчыка, старэйшым братам Міколы. Было так. Тутэйшыя сяляне судзіліся з панам Лісоўскім за сэрвітутную зямлю некалькі год. Выйграў пан. Усе суседзі Ярэмчыка былі злыя на пана, і многія гаварылі, што трэба за гэта пану адплаціць. Як адплаціць, што рабіць—ніхто не сказаў. І брат Міколы сам прыдумаў, сам адважыўся. Сказаў пасьля рэволюцыі 1917 году, што ўспомніў, як прадзеда Пранука пан замучыў, дык вось у адну восенскую цёмную ноч пайшоў на панскае гумно. Пажар асьвяціў тады ўвесь маёнтак. Было сьветла, як удзень.

Прыехалі казакі. Усіх з вёскі Лясоўшчыны загналі ў панскі двор.

— Прызнавайцеся! Хто падпаліў?

Усе маўчалі.

— Прызнавайцеся!

Маўчалі.

— Добра!—сказаў казацкі сотнік і загадаў катаваць усіх нагайкамі.

Знакі казацкіх нагаек на сялянскіх сьпінах засталіся назаўсёды.

І ніхто з сялян ня выдаў Ярэмчыка.

А вось абапал дарогі невялічкія крыжы, зробленыя на скорую руку. Гэта сьляды бежанства. Тудою ў восені 1915 году ўцякалі з паласы фронту сяляне з зямлі Горадзенскай і Віленскай. Казакі палілі іхнія сялібы і нагайкамі выганялі іх з дзедаўскіх насіджаных гнёзд. Тут яны, абяздоленыя бежанцы, гібелі ў восенскім цесьце шэрых дарог ад голаду, холаду, халеры і тыфусу. Пакідалі крыжы.

У гэтым самым лесе, дзе цяпер бяруць дровы, у 1920 годзе знаходзілі прытулак партызаны. Мікола быў тады пятнаццацігадовым хлапчуком. Есьці ім насіў. Пан Лісоўскі крычаў, скардзіўся, што па лясох банды жывуць. Аднаго разу папаліся Міколе насустрач два легіёнэры на конях. Ён іх вёў за сабою доўга, завёў у лес. Адтуль легіёнэры ўжо не вярнуліся...

— Багата ў нас цікавых мясьцін,—ня раз гаварыў Мікола Солаху. На гэтых мясьцінах расла нянавісьць паміж беднымі і багатымі, гадавалася крывавымі кветкамі. Адбываліся бунты. Нагайкі і шы-

беніцы зноў надзявалі на людзей ярмо. Пад ярмом нянавісьць да багатых расла калючая, як голкі ў пазногці, і няўхільная, як сьмерць. Яна плыла агнёвай рэчкай з гораду ў вёску, з вескі ў горад. І нянавісьць, выгадаваная сотнямі год, злучыла ў адно гарадзкі молат з вясковым сярпом. І толькі ў восені 1917 г. гэтая нянавісьць знайшла выйсьці і надавала сілу і адвагу скінуць з сябе раз наўсёды адвечнае ярмо.

Хутка, за тры дні, справіўся Мікола з дрывамі. Пасьля гэтага ён пачаў хадзіць да суседзяў, хацеў пагаварыць паасобку з кожным, каб вывучаць іхнія настроі і погляды.

Кожны дзень ён сустракаўся з Саўкам Солахам.

Яны разам пробавалі організаваць моладзь, каб наладзіць невялічкі тэатральны гурток, хату-чытальню (ён прывёз з сабою нямала танных кніжак, у складанку з Солахам выпісаў пару газэт). Была адна бяда: няма памяшканьня для хаты-чытальні.

Пробаваў Мікола гаварыць з суседзямі пра колгас, дык людзі яго засьмяялі.

— Няўжо-ж цяпер, у 1925 годзе, аб такіх справах гаварыць?— жартаваў з яго стары матрос Солах.—Хіба праз 20 год! І то можа ніколі гэта ў нас і ня будзе. А калі дзе і ёсьць дробныя сельскагаспадарчыя арцелі, дык гэта так сабе—гульня! Пабудуць там і выйдуць! Ніхто там ня дбае пра гаспадарку. Кожны сябе глядзіць. Такая ўжо ў чалавека натура. Яе не пераробіш.

— Пераробім!—гарачыўся Мікола.

— Не, братку, рана аб гэтым!

А вось наконт хаты-чытальні, дык гэта мо' і ня кепска. І даўней, калі я быў матросам, дык на караблі таксама розныя кніжкі былі. Нават нашаму брату чытаць давалі.

Тут стары матрос пусьціўся ў свае ўспаміны аб тых кніжках. Нібы па хвалях насіўся:

— „Севастопальскі бой", „Цар асвабадзіцель", „Пётра Вялікі," вайсковая славеснасьць ды шмат такіх.

І тады, значыцца, агітацыяю займаліся?—засьмяяўся Мікола.

— А як-жа! О-го-го!—ажывіўся Солах.—Бывала, як хто з начальства выступіць перад матросамі гаварыць наконт славы рускага аружжа, веры, цара і ацечаства, дык толькі дзяржыся!

— Соцыялістаў успаміналі?—запытаўся Мікола.—Гэта-ж было пасьля 1905 году.

— Аяк жа! О-го-го! Бывала, як пачнуць сыпаць на ўнутраных ворагаў, на бунтаўшчыкоў, супаставаў і жыдоў-амэрыкантаў, дык толькі дзяржыся! На нашым караблі нават злавілі аднаго такога матроса. У яго знайшлі кніжкі супроць цара. Строга было ў нас з гэтым. О-го-го! Таго матроса забралі. Памятаю, ціхі такі быў, сьветлавусы. Як забралі, дык я больш яго ня бачыў.

Солах захапіўся сваімі ўспамінамі. Вочы ў яго заблішчэлі.

— Адважны народ — нашыя матросы! Часта бунтаваліся супроць цара. Быў нейкі лейтанант Шніт.

— Шмідт,—паправіў яго Мікола.
— Вось-вось, дык аб гэтым Шміце многа гаварылі ў нас.
Солах пачаў блытацца ў сваіх успамінах, і Мікола зноў пераведў гутарку на хату-чытальню.
Уздумалі пакуль што наладзіць куток для чытаньня ў прасторнейшай чымся ў іншых вяскоўцаў хаце Солахаў. Гаспадар абяцаўся для гэтай мэты пазычыць старую шафу, якая стаяла ў сенцах без патрэбы.
— Няхай кнігі і газэты ляжаць у шафе,—параіў ён.
Таксама ён дазволіў у сваёй хаце па вечарох вучыць жадаючых чытаць і пісаць.
— Мне ня шкода. Яшчэ весялей будзе. Толькі няхай газы купяць...
Мікола радаваўся, што хоць нешта будзе зроблена ў гэтай глушы. Ён зьвярнуўся быў па сродкі ў сельсавет, але яму там сказалі, што сельсавет бедны, аб спэцыяльным памяшканьні і думаць няма чаго.
— Яшчэ рана аб гэтым!—кончыў старшыня сельсавету, дробненькі, сухенькі чалавечак, з закручанымі чорнымі вусікамі, з маленькімі шэрымі вочкамі. Ён замахаў на Міколу рукамі. Ня ведаў, як бараніцца ад „надакучлівага“ чалавека.
— Дык я ў раён паеду, буду скардзіцца на вас,—сказаў Мікола.
— Пажаласта, пажаласта!
— Чалавек сказаў гэта такім спрыяючым тонам, нібы Міколу на гарбату запрашаў.

---

Яшчэ ўдодні, калі мароз страляў па сьценах, стары Цыпрук запрог каня. Саўка і Мікола селі на санкі, і стары павёз іх у раён—у мястэчка Шапалевічы.

Гурбамі былі занесены гумны, гароды і вясковая вуліца. Сівер шчыпаў за вушы.

— Навошта яшчэ і табе, тата, ехаць? Сам з канём спраўлюся,—прасіў Мікола.
— Што ты, ачмурэў, ці што? Як гэта можна? Ты-ж каня на сьмерць загоніш...
Стары Цыпрук быў у такім настроі, што пярэчыць яму нельга было.
Мікола добра ведаў у чым справа, стары проста хацеў паглядзець і паслухаць новых для яго людзей, пабыць у іншых мясьцінах.
Рад быў стары, як хлапчук вызвалены са школы. Для яго дарога—духоўная страва, найвялікшая прыемнасьць...
З радасьці і каня не шкадаваў.
Не агледзеліся яны, як апынуліся недалёка ад Драздоў і Дзятлаў.
Разьвіднелася.

Стары раптам спыніў каня. Зышоў з санак на сьнег і давай тупацца на адны месцы.

— У ногі празяб?—запытаўся Мікола.—Я-ж казаў, што сам паедзем.

— Не. Вось тут, ці што, я тады, улетку кортрабанду знайшоў, чорны камячок. Якраз супроць гэтых бяроз... Тады і Падласенькую на штраф аддаў...

— Успомніў раптам!—зазлаваўся Мікола.

Яму няпрыемна было аб гэтым гаварыць.

Цыпрук сеў у санкі і давай зноў апавядаць сваю прыгоду з контрабандай, ужо вядомую ўсім у ваколіцы. Праехалі Дразды і Дзятлы, а ён яшчэ ня скончыў. Толькі тады кінуў аб гэтым гаварыць, калі здалёку паказаліся асьнежаныя нізкія дахі мястэчка Шапалевічы.

Прыехалі туды а дзесятай гадзіне раніцы.

Спыніліся каля старасьвецкай карчмы з вывескай „Чайная з заедкамі“.

— Ня шкодзіла-б гарбаты выпіць,—сказаў Мікола.—Пабачым „заедкі“.

Заедзем у стадолу, ці што?—даў згоду стары Цыпрук.—Якраз вароты адчынены.

Стары накіраваў каня ў вялізную, як поле, стадолу. Падкінуў каню сена, і яны ўвайшлі ў памяшканьне. Прайшлі два вялікія пустыя пакоі, пакуль дабраліся да „чайной“ з „заедкамі“. У пакоі стаяла некалькі доўгіх сталоў, воддаль ля сьцяны буфэт з „заедкамі“: рыба, селядцы, яйкі, булачкі, а побач—печка з катлом і медным кранам збоку.

Іх сустрэў стары высокі падсьлепаваты яўрэй з барадою патрыярха. Маладая жанчына стаяла пры буфэце.

— Дзень добры!—сардэчна прывітаўся Цыпрук.—Гэта-ж у вашай хаце заблудзіцца можна, ці што? Ледзь трапілі!

Мікола і Саўка падышлі да печкі грэцца.

— Камораў шмат у мяне,—адказаў гаспадар,—але што толку з іх. Чайком пагрэецеся?

— Вып'ем!

Маладая жанчына наліла гарбаты з катла.

Яны селі за стол.

— Можа што да чаю?—запыталася яна.

— У нас свая яда,—і Цыпрук палажыў на стол торбу з харчамі. Да іх прысеў стары гаспадар. Паважна пагладзіў бараду і давай прыглядацца да кожнага паасобку падсьлепаватымі мутнымі вачыма.

— Адкуль гэта людзі прыехалі?

Яго голас быў ціхі і рахманы.

— З вёскі. А я цябе, Мэндаль, знаю,—ажывіўся Цыпрук.

—Дзіва, што! Мяне ўся ваколіца знае,—абыякавым голасам адказаў Мэндаль і махнуў рукою.—Мне ад гэтага ніякага прыбытку.

— Цяпер ад твайго чаю галава не закруціцца ў нашага брата. А даўней бывалі бойкі цэлыя ў тваёй карчме, ці што. Помніш?

Па голасе Цыпрука нельга было пазнаць, ці ён шкадуе гэтае „даўней“, ці жартуе з яго.

— Эт!—Мэндаль махнуў рукою.—Шпіхляры ў мяне коопэрацыя заарандавала. Няма з чаго жыць. Але што аб гэтым. Эт! Няма да чаго рук прычапіць, дык я вось грэю кацёл. Эт!

Мэндаль утаропіў у Цыпрука падсьлепаватыя вочы і чакаў спачуваньня.

Мікола і Саўка пакінулі старога Цыпрука твар у твар з Мэндалем і пайшлі па справах хаты-чытальні.

Местачковыя вуліцы былі пустыя, рэдка ўбачыш па іх чалавека. На Саўку і Міколу глядзелі з усіх вакон. Па пустым рынку брылі козы і аблезлыя сабакі.

Райвыканком стаяў воддаль ад рынку ў вялікім новым доме з шырокай вэрандай замест ганку.

У першым пакоі іх сустрэла машыністка.

— Вы, таварышы, па якіх справах?—запыталася яна і выставіла на іх заспаныя сінія вочы. Мікола ёй сказаў.

— Дык вам у культаддзел. Бакавы пакойчык, направа.—Галавой кіўнула на той пакойчык, адвярнулася да сьцяны і пачала з асалодай пазяхаць.

У адгароджаным сьвежымі негабляванымі дошкамі пакойчыку нікога ня было. Доўга чакалі Мікола і Саўка. Нарэшце зьявіўся малады кучаравы чалавек у сінім фрэнчы, у акулярах.

— Вы ка мне, таварышы?

— Да вас,—сказаў Мікола і ад нецярплівасьці заёрзаў на месцы.

— Ну, раскажэце ў чым справа?—І кучаравы пачаў церці адну руку аб другую да хрусту ў суставах.

Мікола пачаў:

— Я сам студэнт з вёскі Лісоўшчыны, гэтага раёну, а вось гэты, таварыш Солах, таксама з Лісоўшчыны. Дык вось уявеце сабе, таварыш, што я адзіны комсамолец ня толькі ў нашай Лісоўшчыне, але яшчэ на пару вёсак, на вялікі жаль, больш ня знойдзеце. Вось на цэлы месяц дамоў прыехаў. Вакацыі цяпер у нас. Наша Лісоўшчына з старых часоў рэволюцыйная. Як мне вядома, тут нават пры паншчыне бунты адбываліся. Пасьля з 1905 году і далей ня мала было ў нас рэволюцыйных учынкаў. Ваявалі з панамі, партызаншчына. Словам, усё тое, што было па іншых нашых вёсках. А вось на дзіва, трэба сказаць шчыра, што цяпер наша Лісоўшчына як бы застыла на месцы. Сяляне адсталыя, верацъ у забабоны, у заломы ды ў іншую чартоўшчыну (Мікола нават згусьціў фарбы, каб расчуліць раённае начальства). Я і вось малады таварыш Солах доўга аб гэтым мазгавалі: што рабіць? Пра колгас з сялянамі гаварыў, дык яшчэ мала да гэтага падрыхтаваны, баяцца. Я вось кніжкі розныя прывёз, газэты выпісаў, дык няма ў нас такога кутка, дзе можна было-б

пасядзець вечарком. Ведаеце, можна было-б і падвучыць сялян чытаць, можна было б вялікую работу зрабіць. Спэктаклі там, словам, культурную работу вясьці можна. Моладзь ахвоту мае.

Кучаравы чалавек слухаў, ківаў галавою, падтакваў, часта паўтараў: „вельмі-очань добра“, многазначным позіркам утаропіўся ў негабляваныя дошкі сьцяны ды ўсё слухаў.

— Дык вось, таварыш,—гаварыў Мікола,—нам сродкі патрэбны на культурную працу. Трэба яшчэ кнігі набыць, хату-чытальню трэба будаваць. Калі цяпер аб гэтым падбаем, дык да сяўбы можна будзе сьцены паставіць. Лесу набыць можна. Я пастараюся, каб нашыя з Лісоўшчыны ды там іншыя самі бярвеньне вазілі з лесу. Дарога цяпер добрая. Нашыя трохі прывыклі да такой колектыўнай працы. Вось мы, напрыклад, самі, па сваёй ініцыятыве, грэблю добрую зрабілі. Дык вось нам, таварыш, грошы патрэбны на культурную справу. А то дзе спэктаклі ставіць будзеш? Дзе зьбірацца будзеш?

Кучаравы чалавек забарабаніў пальцамі па стале. Ужо ня чуваць было яго спрыяючых слоў „вельмі-очань добра“, твар выцягнуўся, зрабіўся сур'ёзным, і блеск акуляр затушоўваў выраз вачэй.

і Мікола яшчэ гаварыў:

— Дык вось, таварыш, якая ў нас справа. Думаю, можа хтонебудзь з раёну зацікавіцца прыехаць у наш сельсавет, каб пазнаёміцца на месцы са справаю. Старшыня нашага сельсавету адмахваецца і рукамі і нагамі.

Мікола змоўк.

— Вы кончылі?—запытаўся кучаравы, прыпадняўся з месца, нібы яго трасло ў возе па кепскай дарозе, і зноў сеў.—Мілыя таварышы! Калі свой сельсавет не памагае, дык я тым больш, бо сродкі гэтага бюджэтнага году ўжо вызначаны для ўсіх сельсаветаў. Кожная капейка мае сваю шчылінку. Хіба вы там сваімі сіламі, а праз год мы дапаможам, абавязкова дапаможам!

Кучаравы мэкнуў, кашлянуў, зірнуў на дзьверы, нібы яго там чакаюць, і „аудыенцыя кончана“...

З кепскім настроем вярнуліся Мікола і Саўка да бацькі. Стары Цыпрук сядзеў забедаваўшыся.

— А мне вечна не шанцуе,—папракаў ён самога сябе,—конь падкову згубіў.

— Эт! Ёсьць аб чым бедаваць,—сказаў Мэндаль.—Тут блізка каваль.

— А дзе?

— Вузенькая вулка налева ад рынку. Пытайцеся каваля Лейбу. Кожнае дзіцё пакажа.

Расплаціліся з Мэндалем і паехалі шукаць каваля. Кузьню Лейбы яны скора знайшлі.

— Ты, здаецца, жыў раней у Драздоў і Дзятлаў ці што?— зьвярнуўся Цыпрук да Лейбы, калі той прымерваў каню падкову.

— Жыў. Вы туды едзеце, добрыя людзі?

— Ня туды, але па дарозе.

Лейба ўзрадваўся.

То можа з вамі мая дачка пад'едзе? Там да сястры. Вы можаце там і пераначаваць, калі вам далёка ехаць.

— Каню цяжка будзе, ці што...—Цыпрук паморшчыўся.

— Няхай сабе едзе,—сказаў Мікола.

— Дарога цяпер добрая. Я затое, што завязеш дачку, ня дорага вазьму за падкову.

— Калі лупянеш, як Мэндаль за чай, тады дзякую, ці што, за гэткую дабрату.

— А вы ў Мэндаля спыніліся?—засьмяяўся Лейба.—Той скуралуп. Хто многа мае, той і дзярэ. У яго набярэцца золата на некалькі падкоў. А я толькі за працу, за голую працу бяру.

Пачало цямнець. Яны выехалі з мястэчка.

З імі ехала і дачка Лейбы, дзяўчына гадоў шаснаццаці; з-пад шарсьцяной хусткі блішчэлі толькі вялікія чорныя вочы.

Была цішыня.

Ноч насоўвала на абшар сіні капюшон.

Над старымі бярозавымі прысадамі ў мутным бяздоньні неба запаліліся тысячы запалак. Буйныя, яскравыя зоркі мігацеліся з такім блескам, нібы толькі што нарадзіліся.

Конь трухаў павольна.

Стары Цыпрук часта мацаў каня, ці не спацеў, цмокаў губамі і незадаволена эхкаў.

Быў лішнім чацьверты пасажыр—дачка Лейбы...

Каб ня сын, дык стары ня ўзяў-бы яе... Не хацеў Міколу саромiць, бо той адразу сказаў:

— Няхай сабе едзе.

Мікола ўступіў ёй свае месца і сам зьвесіў ногі з санак.

Быў незадаволены і Мікола, але зусім іншым: няўдача ў Райвыканкоме. Хоць, здаецца, і там віны ня было ніякай, бо (як тлумачыў той кучаравы) сродкаў няма на гэты год.

„Пачакаем трохі, яшчэ рана“,—думаў Мікола.—„Вось праз год абавязкова наладзім“.

Саўка тым часам гутарыў з дачкою каваля.

Мікола прыслухоўваўся да гутаркі.

Яна, гэта дзяўчына, марыць аб тым, каб паступіць у яўрэйскі пэдагогічны тэхнікум у Менску.

Голас незнаёмай дзяўчыны даходзіць да Міколы як-бы здалёку, трохі прыглушаны тоўстай хусткай.

З-за ружовага воблака высьлізнуўся яркі серп месяца.

Мікола ўспомніў залатыя падковы багатага Мэндаля.

Месяц ткаў у паветры тонкія сеткі павуціны. Асрыбрыўся шэраньню стары конік. Ён дыхаў лёгкімі дымкамі марозьлівай пары.

Мікола глянуў на захутаны хусткаю твар кавалёвай дачкі. Чорныя раней бровы цяпер пасівелі ад шэрані, а яе вялікія цёмныя вочы яшчэ больш павялічыліся і больш пацямнелі.

Плыве месячны серп над сьнягамі. Пыліць перад вачыма срэбным пылам.

Нейкая нязначная чуласьць зьявілася ў Міколы да гэтай незнаёмай дзяўчыны.

Толькі яе вочы бачыў і чуў яе прыглушаны хусткаю голас.

Ён зьвярнуўся да яе:

— Дык вы хочаце паступіць у яўрэйскі пэдтэхнікум? Напішэце туды заяву. Я таксама ў Менску вучуся...

— Вось як! Гэта вельмі добра.—Дзяўчына ўзрадавалася.—Дык вы мне свой адрас дасьцё. Знаёмых у Менску ня маю.

— Добра, з прыемнасьцю.—І ён у думках дадаў:—цёпла на марозе...

---

Яны спыніліся каля Марцінавай хаты, куды ехала да сястры кавалёва дачка.

— Вось тут мая сястра Мэра жыве,—сказала яна.

Па вуліцы ішлі ў абнімку хлапцы і дзяўчаты. Сьпераду гарманіст. Ён граў нейкую заліхвацкую песьню. Хлопцы прытупвалі нагамі. Дзяўчаты хіхікалі.

— Вечарынка,—сказала кавалёва дачка.—Пойдзем у хату грэцца.

Іх папрасілі начаваць. Пасьля вячэры ўсе пайшлі на вечарынку. Нават стары Цыпрук хацеў паглядзець, як Дразды і Дзятлы гуляюць.

І вось уздумалася Міколе на гэтай вясковай вечарынцы, дзе сабралася моладзь, выступіць з прамовай. Гэткім чынам хацеў пазнаёміцца з тутэйшымі людзьмі.

— Таварышы, папрасіў Мікола,—дазвольце мне сказаць вам некалькі слоў!

Гарманіст падняў бровы дзьвюма дужкамі і абарваў ігру. Танцы спыніліся. Калі раней мала ўвагі зьвярнулі на незнаёмага дзяцюка, дык цяпер усе з дзівам і цікавасьцю на яго глядзелі. Аглядалі з усіх бакоў.

— Таварышы! Я выпадкова, праездам зайшоў да вас, хацеў паглядзець, чым займаецца тутэйшая моладзь. Вельмі добра часам вось так пазабавіцца, вядома без гарэлкі і бяз лішніх там, як бы вам сказаць, выкрутасаў. Але такія вечарынкі бяз нічога іншага, ну, скажам, бяз чытаньня кніг і газэт, бяз спэктакляў, словам, бяз культурнай працы, апрача шкоды, нічога ня прыносяць. Вось бачу, вы забаўляецеся. Так. Запытайцеся ў вашых бацькоў, як яны забаўляліся дваццаць і сорак год таму назад. Яны вам тады скажуць, што так, як вы цяпер. Гэта нядобра, таварышы. Вось няма ў вас (а вёска нямалая) хаты-чытальні. Пэўна, ня ўсе вашыя пісьменныя. Скажэце па шчырасьці, ці ня лепш было, каб вашыя пісьменныя вучылі няпісьмен-

## 12

# Аграномаўская „мімрыка“

БЫЛО сонца і адліга. Капала са стрэх. Па адзінай Гайдачанскай вуліцы было сьлізка. Дарога блішчэла, як шкло. Дзе-ні-дзе сьпявалі пеўні. Дзеці каталіся з горкі на вялікіх санках, якія называлі аўтомобілем. Пацягнуць санкі без аглабель на горку, насядуць у іх грамадкаю і зьяжджаюць уніз са сьмехам, з крыкам, з гіканьнем, сьвістам.

У Гайдачаны прыехаў малады агроном Кавалькевіч, які быў у Язэпа Крушынскага, калі той хварэў на „рак“

У хаце Хвёдаравых бацькоў наладзілі сход. Сабралося шмат гайдачан і гайдачанак.

— Што скажа агроном?

Нібы маленькімі каменьчыкамі, людзі перакідваюцца слоўцамі, пашаптушкамі, жартамі, легкімі сваркамі.

— Што скажа агроном?

У прэзыдыуме—Змітрок, Хвёдар, старшыня сельсавету, сакратаром „Леў Талстой“.

— Драчыка правалілі, ня выбралі ў прэзыдыум!—сьмяецца дзядок Мікіта, сівенькі і лысенькі. Пры гутарцы стары трасе галавою, нібы не згаждаецца з тым, што сам гаворыць.

— Драчык вялікі крыкун. Яго ня можна ў прэзыдыум, бо ўвесь сход разгоніць,—тлумачыць цётка Мар'яна, удава, мужа якой забілі ў часы імпэрыялістычнай вайны.

— Ён-жа за нас, удоў і бедных, гарою стаіць!—кажа ёй другая, удава Мацеіха.—Што ты супроць Драчыка голас падаеш? Дурная. Мабыць, ня ты руку падняла, а пуд жыта, які табе Мікіта пазычыў...

Антось Драчык не зьвяртае ўвагі на гэтыя гутаркі. Ён шэпча на вуха Зьмітраку:

— Што скажа агроном?

— Зараз паслухаем.

— Вось гэта я разумею! Няма Фальковіча, Сініцы, Гарбачыка і Лаўронка. Яны сядзяць там, дзе даўно для іх месца падрыхтавана. Люблю шчырасьць!

— Цішэй, Антось!—кажа старшыня сельсевету. Ён сядзіць круглатвары, паважны, ня кіўне круглай, падобнай да гарбуза, галавою.

Драчык ня любіць яго, ён—Драчыка.
Антось Драчык на можа супакоіцца.

— Люблю шчырасьць! На сходзе яшчэ знойдзем некалькі чалавек, што шкадуюць тых. Вунь, Тамаш Пікунчык, Андрэйчык, Язэпчыха. Муж сам не пашоў, дык язычлівую бабу прыслаў. А вось і жонкі Слупа і Бочкі. Бачыш і Дразды і Дзятлы жанок прыслалі! А дзядок Мікіта! Сыны дома засталіся, дык старога гругана прыслалі! Люблю шчырасьць! Сягоньня зноў будзе бой!

— Ціха,—просіць старшыня сельсавету.

— Люблю шчырасьць, і ты такі самы, як тыя кулакі!!

Старшыня чырванее ад злосьці, але стрымліваецца.

Лямпа стаіць на стале каля самага твару маладога агронома. У хаце паўзморк. Твары гайдачан, якія стаяць і сядзяць далёка ад стала, у цені.

„Леў Талстой“ ня здымае вачэй з агронома, які чытае пратаколы гайдачанскіх сходаў, пісаных яго, „Талстога“, рукою.

„Леў Талстой“ заўсёды пісаў вельмі абшырныя пратаколы. Звычайна ён запісваў усе, што далятала да яго вушэй, з усімі заўвагамі і рэплікамі з боку сходу. Занатоўваў поўнасьцю кожнае выступленьне. Дома некалькі разоў перапісваў пратакол, дадаваў пры гэтым свае заўвагі і поўна апісваў абстаноўку. Кожны пратакол—аповесьць.

Цікавіцца цяпер стары выразам твару агронома пры чытаньні яго пратаколаў. Ніколі стары ня бачыў перад сабою чытачоў сваіх рукапісаў...

— А можа ён выкрые мой талент?—думае „Леў Талстой“.

Стары нейдзе вычытаў, што кожны чалавек мае сваю асаблівую міміку твару. Пры розных перажываньнях міміка мяняецца. Ён называў гэта „мімрыкай“, з тэй прычыны, што забыўся, як правільна выгаварыць гэтае слова. Ён сам вывучаў чалавечую „мімрыку“ ва ўсіх яе тонкасьцях на сотнях і тысячах твараў на судох у земскага начальніка.

Цяпер ён ня здымае вачэй з твару агронома. Вывучае яго „мімрыку“, хоча ведаць якое ўражаньне робіць на вучонага чалавека яго, старога, пісаніна.

Аграном моршчыць лоб, адтапырвае ніжнюю губу, нібы прабуе на язык новую страву і прыслухоўваецца да яе смаку.

„Леў Талстой“ шэпча на вуха Зьмітраку:

— Здагадваюся! Ён чытае твой даклад аб колгасах! Так!

Агроном тым часам паднімае вочы з пратаколу, глядзіць то на Зьмітрака, то на Хвёдара. Часам ківае галавою, нібы ня згодзен з тым, што напісана.

А вось на аграномаўскім твары выраз страху. Ён на хвілінку зірнуў на Драчыка і зараз-жа зноў утаропіў вочы ў пратакол.

— Ён цяпер чытае баявыя, тоісь выступленьні Драчыка! Гэта факт!—шэпча „Леў Талстой“ на вуха Зьмітраку.

Тут аграномаўскі твар выявіў вялікую зацікаўленасьць, напружыўся да таго, ажна жылы выступілі на яго лобе. Ён пачаў

барабаніць пальцамі па стале з вялікай нецярплівасьцю. Рукі яго задрыжэлі. У вачох засьвяцілася такое запытаньне: а ну, хто каго?

Зноў „Леў Талстой“ прыхіліўся да вуха Зьмітрака.

—Трэба прызнацца, чытае выкрыкі кулакоў супроць колгасу! Так Праглядвае іхнія запісаныя мною перагірківаньні з Драчыкам. Так!

Тут агроном ціха хіхікнуў, бліснуў зубамі і давай прыглядацца зацікаўленым і кплівым вокам да „Льва Талстога“.

Стары зноў Зьмітраку на вуха:

— Гэта ён, гад, маё выступленьне цяпер чытае. Так. Я тады тлумачыў Лаўронку, што такое за яно „слова“ на рэволюцыйных сходах. Я тады сказаў коратка і ясна: „слова ня значыць адно, тоісь, слова, а трэба прызнацца многа слоў. Так. Я гэта, каб іншыя ведалі з пэдагогічнага і адваротнага боку. Калі прэзыдыум дае слова, дык... Пры слове „дык“ маю прапанову спыніў тады гучны бясклясавы сьмех гайдачанскай масы. Так.

Зьмітрок засьмяяўся.

— Дык ты і цяпер сьмяешся?—пакрыўдзіўся „Леў Талстой“.

— Ціха...

Стары махнуў рукою, як на безнадзейнага чалавека, і давай зноў глядзець на агрономаўскую „мімрыку“.

Агроном аднэй рукой гладзіць валасы, а пальцамі другой рукі тыркае ў паперу. Ніжэй апускае галаву. У яго вачох ня то радасьць, ня то згода.

„Леў Талстой“ падсунуўся да агронома і з боку зірнуў у паперу. Агроном чытаў выступленьне супроць колгасаў падкулачніка Лаўронка.

У хаце накурана. Гул галасоў расьце.

Старшыня сельсавету падсунуўся да агронома і шапнуў яму на вуха:

— Таварыш Кавалькевіч, сход чакае вашага дакладу.

— Мне трэба пазнаёміцца з вашай ранейшай працай і настроямі сялян.

— Мы-ж вам удзень аб усім гаварылі.

Агроном паглядзеў на „Льва Талстого“ сьмехатлівымі вачыма і сказаў:

— Ваш сакратар так жыва піша пратаколы, што чытаеш іх, як раман.

„Леў Талстой“, пачуўшы гэта, зазьзяў з радасьці.

Тут агроном падняўся і пачаў сваю прамову. Усе былі зацікаўлены тым, што скажа агроном.

Змоўклі жарты, пашаптушачкі. Гайдачане наставілі вушы, выцягнулі шыі. Некаторыя нахілілі галовы і мармыталі:

— Так, так, так.

Слухалі ўсе.

---

Калі на лёгкіх саначках айцец Дзімітры ехаў да Крушынскага з Глухаўкі ў Курганішча, была адліга. Месцамі конь правальваўся ў лужы, месцамі ён сьлізгаўся.

— Ступіліся падковы,—гаварыў сам з сабою поп..—І трэба было мне ў бездарож. Але...

Ноч была сіня-цёмная. Зьверху, з воблачнага неба, апускалася на рукі і твар папа нешта вільготнае: ня то сьнег, ня то дождж. Дарогі бадай ня відаць было. Поп тут аддаўся волі боскай і волі каня—конь сам ведаў дарогу.

— У бездарож паехаў, але цікава...

Ён даведаўся, што ў Гайдачанах сход, на якім агроном робіць даклад. Ён ведаў, што звычайна, калі сюды прыяжджае агроном, дык спыняецца ў Крушынскага, у якога можна добра паспаць і добра пад'есьці. У Курганішчы і раённае начальства спыняецца...

...І вось—цікава...

У Крушынскага поп застаў Слупа і Бочку. Яны сядзелі пры гарэлцы і каўбасе.

— А-а-а, бацюшка!

— Неспадзяваны госьць.

Крушынскі дапамог яму зьняць футру.

Айцец Дзьмітры пацягнуў тонкімі ноздрамі.

— Садомам і Гаморай пахне ў вас,—прагаварыў ён баском, і вочкі яго сьвяціліся ад радасьці.—Нічога лепшага няма, калі неспадзяваны госьць зьяўляецца туды, дзе поўны стол, гасьцінны гаспадар і слаўныя госьці.

— Просім, просім!

Папу падсунулі крэсла.

— Сэрца чула,— сказаў поп,—што трэба ехаць сюды. А то нуда заела. Я-ж хачу, каб і да бога і да людзей.

— Правільна,—сказаў Бочка.

— Ум-гу!—дадаў Слуп.

Язэп Крушынскі выбег і праз некалькі хвілін прынёс дзьве бутэлькі віна.

— Ды мне беленькай, праваслаўнай гарэлачкі. Я ўпэўнены, каб Хрыстос хадзіў па зямлі ў нашыя часы, дык раіў-бы эвангелістам прабаваць белай гарэлкі,—сказаў айцец Дзімітры пасьля першай чаркі, выцёр бараду і сам наліў сабе яшчэ адну.

Пачалася гарачая бяседа.

Калі поп трохі падмацаваўся, ён асьцярожненька прагаварыў:

— Я чуў, што сягоньня зноў у Гайдачанах сход.

— А як-жа, агроном спэцыяльна прыехаў. Быў у мяне,—задаволена сказаў Крушынскі і пакруціў адзін вус.

— Якая-ж гэта моц прыгнала яго сюды?—запытаўся айцец Дзімітры.

— Хто яго знае! мабыць колгасы будаваць прыехаў,—адказаў Крушынскі, прыжмурыў адно вока і хітра зірнуў на Слупа і Бочку.

— Ну!—усхапіўся поп,—зноў гэтая самая музыка?

— Не палохайцеся, бацюшка,—пачаў яго Крушынскі супакойваць.—Ня страшна. Мне агроном гаварыў.

— А што?

— Не колгасы. Пакуль што хопіць іх. Наш сельсавет мае адну ўкрасу—комуну. Ну і досыць! Агроном з нашых! Мы з ім доўга гутарылі. Парафія, бацюшка, пакуль што застаецца вашай.

Крушынскі спакойна наліў усім у чаркі.

— Дык што-ж ён вам гаварыў?—запытаўся поп.

— Пасёлкі і хутары, вось што. Гэта, трэба сказаць праўду, разуная мэханіка. Агледзеліся, што бяз нас, бяз добра пастаўленай сельскай гаспадаркі, нічога ня будзе. І вось дапамагаюць нашаму брату—моцнаму гаспадару. На беднаце далёка не заедзеш.

— Чуў, чуў пра пасёлкі,—сказаў бацюшка,—гэта як-бы пераход ад вёскі да колгасу, каб добраналаджаны пасёлак пасьля перарабіць на колгас.

Поп глыбокадумна выставіў палец ў гару.

— Не, бацюшка,—пачаў расчырванелы ад выпіўкі Крушынскі.—Ня зусім тое, бо і хутары таксама будуюцца новыя. І яшчэ вось правільна зроблена: хто мае багатую гаспадарку, таму даецца большы надзел зямлі, таму і большая ад дзяржавы дапамога.

— Разумна прыдумана!—сказаў Слуп.

— Так, разумна!—дадаў Бочка.

— Калі так,—твар бацюшкі расплыўся ад добрай усьмешкі,—дык падсуньце сюды марынаваных баравічкоў. Я іх вельмі шаную.

Поп трохі падумаў і дадаў:

— Дык вас, Язэп Сымонавіч, трэба віншаваць! У вас такі хутар, які дзяржаве патрэбен! Што-ж, віп'ем!

— Гэта дзела!—згадзіўся гаспадар.—А каб больш упэўніцца, што там будзе на сходзе ў Гайдачанах, Слуп і Бочка туды сваіх жанок паслалі.

— Дык п'ем за пасёлкі?

— П'ем! Калі так, дык мы ўсе бальшавікі... Думаю нават і ў сваіх казаньнях у цэркві пахваліць гэту новую справу...

---

У агронома Кавалькевіча трохі прыглушаны голас, які часам пераходзіць у хрып і кашаль.

— Ня курыце, таварышы,—просіць ён.

Агроном доўга гаворыць аб сялянскім быце і псыхолёгіі, якія ўтрамбоўваліся стагодзьдзямі. Цяжка ўсё гэта адразу ламаць. Новае трэба праводзіць у жыцьцё вельмі павольна і вельмі асьцярожна...

— Відаць, агроном хварэе на мудрагельства! Люблю шчырасьць, гэта такі—кінуў Драчык у грамаду гарачыя, як вугольлі, словы

— Ціха!—папрасіў старшыня сельсавету, і вочы яго загарэліся ад злосьці.

Агроном тым часам сыпнуў бліскучы фонтан рыфмованых слоў

рацыяналізацыя,
канфігурацыя,
нацыяналізацыя,
індустрыялізацыя.
інтэнсыфыкацыя і г. д.

Сход слухаў з цікавасьцю. Можа дзеля таго, што некаторыя месцы ў прамове былі падобны да гучнай песьні на замежнай незразумелай мове, а можа лавілі пятае праз дзесятае зразумелыя думкі:

„...Трэба нам вучыцца ад фэрмэраў у Даніі і Амэрыцы...

„...Трэба памятаць, што ў нас, на Беларусі, няма такіх кулакоў, як у РСФСР, Сібіры, на Доне ды іншых мясцох. Таварышы, былыя чырвонаармейцы, відаць, наслухаліся аб кулакох у Расіі. Такіх у нас няма...

„...Глеба наша пакуль што не падрыхтавана да стварэньня колектыўных формаў сельскай гаспадаркі.

„...Трэба навучыцца раней быць культурным гаспадаром, а пасьля ўжо пераходзіць на новыя формы сельскай гаспадаркі...

„...Пакуль што толькі на землях былых маёнткаў могуць быць саўгасы, комуны і арцелі, бо там гаспадарка вялася і раней больш менш культурна.

„...Пакуль што мы павінны будаваць экономічна жыцьцёвыя гаспадаркі...

„Леў Талстой“ ня здымае з агронома вачэй. Яму падабаецца тое, што агроном нібы з кнігі чытае.

Сход маўчыць. Уважліва слухае.

Антось Драчык ловіць здаровым вухам кожнае слова агронома:

— На сельскай гаспадарцы ў часы мірнага будаўніцтва, па дарозе да соцыялізму, мы можам абыходзіцца без пажароў, без забойстваў ды наогул без скандалаў. Культурныя гаспадаркі хутарскія нам патрэбны, мы іх будзем падтрымліваць усялякімі сродкамі! Пераход на пасёлкіі нам патрэбен! Добрыя гаспадарскія двары нам патрэбны! Шматпольле нам патрэбна! Малочныя таварыствы, мэліорацыя, машыны— усё гэта такія рэчы, без якіх цяпер нам нельга абыходзіцца!

Агроном папрасіў вады. Гаспадыня хаты праціснулася праз грамаду з цяжкай меднай конаўкай. Агроном падазрона зірнуў на паіржавелую пасудзіну і давай піць маленькімі глыткамі.

Тым часам Антось Драчык папрасіў слова.

— Люблю шчырасьць,—пачаў ён адразу крыклівым голасам.— Трэба было вярнуць назад з турмы нашых кулакоў! Фалькевіч, Сініца, Гарбачык і Лаўронак яго агронома на гарэлку да сябе пазвалі-б! А Язэпа Крушынскага трэба было запрасіць у прэзыдыум. Ён-бы добра смакаваў прамову агронома...

Старшыня сельсавету пачаў перабіваць Драчыка:

— Ня крычы. Наркомзем ведае, што рабіць.

— Мы згодны на пасёлкі!—крыкнула некалькі чалавек.

— Я ведаю, што вы там, багаценькія і сыценькія, згодны,— не падаваўся Драчык.—Вам яшчэ і дапамогу абяцалі. Але што скажа на гэта ўдава Мацеіха ды іншыя такія беднякі?

— Нічога ня ведаю, нічога не разумею,—сказала Мацеіха і давай канцом хусткі выціраць вочы.

Драчык стукнуў сабе кулаком у грудзі:

— Таварышы! Я зразумеў са слоў агронома, што трэба ўставіць кол у калясо соцыялізму! Гэта няправільна! Наркомзем? Агроном мабыць не разумее наркомземаўскіх спраў!

— Далоў Драчыка!—крыкнуў нехта з кутка.

— Ура, агроном!

— Хочам на пасёлкі!

Агроном выціраў лоб і глядзеў на Драчыка, як дарослы на маленькага хлопчыка.

Да Драчыка падышоў Хвёдар і сказаў, каб усе чулі:

— Гэта музыка для цябе, Антоська, тонкая штука, г-м. Наркомзем ведае, што робіць. Агроном-жа не ад сябе гаварыў, а ад імя Наркомзему, г-м.

Драчык тупнуў здаровай нагою і крыкнуў на Хвёдара:

— Ня гмыкай, калі не разумееш, у чым тут справа!

— Разумею лепш за цябе!

Агроном папрасіў слова для тлумачэньня. Зноў доўга гаварыў аб неабходнасьці пасёлкаў і хутароў.

За ім, ня просячы слова, крыкнуў Драчык:

— Для мяне гэта ўсё роўна няясна! Люблю шчырасьць, нічога новага, соцыялістычнага ня бачу ў гэтых хутарох і пасёлках! Рассоўваюць людзей, як мядзьведзяў па бярлогах? Калі туды і некаторыя беднякі пападуць, дык кулакамі зробяцца і пачнуць разам з кулакамі супроць савецкай улады выступаць. Для мяне ўсё гэта няясна! Іду ў камуну „Чырвоны Кастрычнік"! Хто яшчэ!

— І я!—крыкнуў Зьмітрок.

— Каціцеся на калёсах!—падаў нехта голас са сходу.

Вялікая пакута была на твары Драчыка. Ён сказаў:

— Пабачым, чые калёсы больш трывалыя! Буду часта наведвацца на вашыя пасёлкі! Ня думайце акопвацца на доўгія гады!

Зьмітрок пачаў яго супакойваць:

— Гэта нейкае непаразуменьне. Усё роўна наша возьме!

Хвёдар сядзеў пры стале і гмыкаў.

---

Айцец Дзімітры так напіўся ў Крушынскага, што адзін ня мог ехаць дамоў. Ён застаўся начаваць у Курганішчы.

На двары раптам загуляла мяцеліца.

---

## 13

# Дзе мама?

НАСТАЧКА і Мзей, дзеці Язэпа Крушынскага, за зіму вырасьлі з сваёй вопраткі, спаднічкі пакарацелі.

Аднаго разу Стэфка заўважыла:

— Усё на вас коратка, дзеці. Трэба будзе пашыць для вас новую вопратку—даўжэйшую прыгажэйшую. Вы за гэту зіму падрасьлі.

І цёця Стэфка за зіму падрасла!—сказала Настачка.—Вунь які жывот у цёці, а-я-я які!..

Мзейляснула далонямі і крыкнула ў захапленьні:

— Глядзі, Настачка, якая пекная цёця Стэфка! Чыйвоная, чыйвоная...

Твар у Стэфкі загарэўся агнём. Нават шыя і вушы пачырванелі. Ад сораму сьлёзы блiснулі ў яе вачох.

— Праўда, праўда! Цёця Стэфка чырвоная, як мак!—згадзілася і Настачка.

— Ціха дзеці,—загаварыла Стэфка хрыплым голасам.—Ціха, а то я на вас зазлуюся!

Стэфка тупнула нагою.

Дзеці спалохана пераглянуліся між сабою і ня ведалі, за што злуецца „цёця“.

Ужо некалькі тыдняў, як Стэфка абыходзіцца з імі вельмі лагодна. Ня злуецца на іх, ня крычыць. Яна так чула да іх адносіцца, што злосьць Стэфкі зьяўляецца для іх цяжкай карай. Дзеці пытаюцца ў яе.

— Дзе мама?

— У Менску.

Пры гэтых словах злосьць „цёці“ адпадае. Яе голас прыдушаны. Яна адварочвае твар ад дзяцей, нібы баіцца глянуць ім у вочы, нібы нешта ў іх украла.

Пасьля гутаркі аб маме, цёця Стэфка заўсёды хаваецца ад дзяцей на маміным ложку. Кінецца і ўткнецца галавою ў падушку.

— Цёця Стэфка, цёця Стэфка...—палохаюцца дзеці.

Стэфка ім не адказвае.

— Цёця Стэфка плячыма трасе,—кажа Настачка.

— Цёця Стэфка душыцца,—кажа Мзей.

— Ідзеце адгэтуль!—крычыць Стэфка незнаёмым голасам.
Дзеці варочаюцца ў „салён“.
Няма да каго прытуліцца. Маці ў Менску. Бабуня, якая жыла ў іх некалькі год, яшчэ зімою ў Польшчу паехала.
Настачка пачынае ад нуды барабаніць на старым сапсутым фортап'яне, Мзей наводзіць стары гадзіньнік.
Фортап'яна выдае хрыплыя, дрыжучыя гукі, а гадзіньнік урачыстым басавым тонам пачынае біць свае дванаццаць разоў.
— Ціха вы там!—крычыць Стэфка з спальні.
Тады дзеці выходзяць на двор шукаць бацьку. Калі дзеколечы знаходзяць яго, спыняюць.
—Дзе мама?
— Паехала ў Менск.
Бацька таксама адварочвае ад іх свой твар.
— Дзеці, я часу ня маю... Мне трэба ісьці...
— Пачакай, татка...
І тут пачынаецца заўсёды адна і тая самая гутарка паміж Настачкай і Язэпам Крушынскім. У часе гутаркі Мзей глядзіць то на Настачку, то на бацьку—ловіць і глытае кожнае слова.
— Чаму мама дамоў ня едзе?
— Прыедзе...
— А цукерак прывязе?
— Прывязе
— А шапачкі мне і Мзей купіць?
— Купіць...
— А крычаць на нас ня будзе?
— Ня будзе...
— А гуляць нам дазволіць?
— Дазволіць...
— А будзе нам тады шмат весялей...
— Будзе весялей...
— Няхай толькі скарэй мама прыедзе. Мы, татка, яе слухацца будзем, добра?
— Добра...
— Чаму ты, татка, не такі, як раней?
— Мне часу няма...
Крушынскі ўцякае.
Дзеці зноў адны.
— Што гэта ў нас такое робіцца?—дзівіцца Настачка і давай рукі ламаць, як дарослая.
Мзей плача.
Яны пачынаюць глядзець на бацьку, як на чужога.

---

Ужо некалькі тыдняў, як пані Ганны няма ў Курганішчы. Дзеці ня бачылі, як маці паехала ў Менск. Прачнуліся аднаго разу раніцою і не знайшлі бацькоў у хаце.
— Дзе бацькі,—запыталіся дзеці ў Стэфкі.

— У Менск паехалі.

У „цёці“ Стэфкі тады вочы былі чырвоныя і дрыжэлі рукі. Яна карміла і даглядзела іх лепш, як да гэтага часу. Стэфка вельмі задумвалася ў той час і ўсё паўтарала адно і тое самае:

— О-о-ой...

— Цёці нешта баліць?—пыталася Настачка.

— Не...

— Чаму войкаеце?

— Так сабе...

Па некалькі разоў на дзень Настачка і Мзей выбягалі на дзядзінец, узьбіраліся на паркан каля саду і глядзелі, ці бацькі едуць.

З Менску бацька вярнуўся адзін і чамусьці цукерак ня прывёз.

Гэта ў пяршыню за ўвесь час, як памятаюць Настачка і Мзей.

Твар бацькі шэры. Сам ён маўклівым стаў. З Настачкай і Мзей гаварыць не хацеў. Ён доўга нешта ціханька вёў пашаптушачкі з „цёцяй“ Стэфкай, пасьля чаго зьвярнуўся да дзяцей і сказаў новым, нязвычайным для яго голасам:

— Маці засталася ў Менску. Як вернецца, шмат гасьцінцаў прывязе.

Не пасьпелі дзеці і слова на гэта сказаць, як бацька выскачыў з хаты і пабег за гумно да рэчкі, дзе пачалі будаваць млын.

У вакно лезла раньняя вясна. Сьпявалі птушкі. У садзе і на дзядзінцы зарунявіла зялёная трава. Доўга чакалі Настачка і Мзей маці з Менску. Часта выбягалі на дарогу глядзець, ці ня едзе.

А раніцамі сонца зазірала ў самае вакно, дзе спалі Настачка і Мзей. Як толькі прачнуцца, дык зараз да Стэфкі:

— Дзе мама?

— Мама ў Менску.

А на полі каля крушні пяць красуняў, пяць бярозак. Яшчэ, нядаўна яны былі зусім голыя, белыя, нібы ў палатняных кашулях, а вось апрануліся галінкі ў кволае жаўтавата-зялёнае лісьце.

Толькі два колеры на бярозках: зялёны і белы. А пад імі ад сонца цень на мяжы. А калі завандруе вецер на пагорку, ківаюцца бярозкі. Тады і цені на мяжы ківаюцца. Нядаўна Настачка маленькім сцызорыкам пакалупала адну бярозку, Мзей прысмакталася губамі і піла сакавік.

— Дзе мама?

— Мама ў Менску.

Спачатку пад самым лесам цьвілі беленькія пралескі. Шмат разоў Настачка і Мзей хадзілі туды па кветкі. Потым зьніклі пралескі. Новыя ў лесе паказаліся— сон-кветкі. Сіні званок з залатым сэрцам. У лесе хмяліў тады пах смалы, сонца і сонкветкі. Па карчох ёрзалі чырвоныя мурашкі. Здалёку чуваць былі людзкія галасы. А ў лесе ціха. Толькі часам на вяршалінах дрэў перашэптваліся галіны:

— Шу-шу-ш?
— Шу-шу-шу.
— Дзе мама?
— Мама ў Менску.
Вада ў рацэ мяняла колеры. У пагодны дзень яна была празрыстая, нібы тонкае фіміграннае шкло. Сонечные зайчыкі гралі на самым дне—на залатым пяску. Часам з-пад зялёна-імшыстых карчоў высоўваліся цэлыя статкі срэбных плотачак. Настачка і Мзей прыносілі ім сыру. Крышылі на драбнюткія капелькі і кідалі ў ваду. Плотачкі глыталі белыя іскрынкі сыру. Дзеці радаваліся. А вось хутка будзе дождж. Сіня-шэрыя хмары праглынулі сонца. Вада такая, нібы хмары ў рэчку кінуліся. Заржавела залатое дно.
— Дзе мама?
— Мама ў Менску.
Так плыў дзень за днём, тыдзень з тыднем. Мамы ўсё яшчэ няма.
Дзеці пачалі злавацца на бацьку, узненавідзелі Стэфку.
Настачка аднаго разу сказала Мзей:
Паправуем інакш пытацца, можа тады прыедзе мама.
Сустрэлі Стэфку.
— Калі мама прыедзе?
— Заўтра.
Сустрэлі бацьку.
Тое самае.
Дзеці ўставалі кожны дзень ранелька-рана. Яшчэ Стэфка спала, яшчэ бацька нешта ў нос праз сон сьпяваў. Давай будзіць Стэфку, бацьку.
— Мама прыехала?
— Не.
— Вы-ж учора сказалі, што заўтра прыедзе?
— Заўура і прыедзе.
Часам доўгадзюбыя, цыбатаногія буслы спацыравалі на пагорку пад бярозамі. А вось стаіць бусел на аднэй назе і думу думае. Мзей таксама стаіць на аднэй назе. Настачка сьмяецца. А то недзе блізка-блізютка над самым вухам як раздасца голас... Аж задрыжыць Мзей.
— Ку-ку?
— Ку-ку.
— Баюся...
— Ня бойся, Мзей, гэта зязюля.
Дзеці няпрыкметна для самих сябе пачалі адвыкаць ад мамы. м было цяпер досыць толькі гутаркі аб ёй.
Шмат незразумелага для сябе ўгледзелі дзеці.
Цёця Стэфка з бацькам нейк інакш між сабою раней абыходзіліся, калі мама яшчэ не паехала ў Менск. Раней, пры маме, Стэфка называла бацьку „Язэпам Сымонавічам“ альбо „таварышом Крушынскім“. Цяпер кажа да яго „мой хлопчык“, альбо

„Язэпка“. Раней гаварыла да яго „вы“, цяпер—„ты“. Тое самае бацька: „Стэфачка“, „міленькая“, „душачка“, „жоначка“:

Дзецям прыкра. Чаму—самі ня ведаюць.

У тую вясну дзеці пасталелі на некалькі год. Вочы пахмурыя. Падазрона паглядалі на людзей. Бацька і цёця Стэфка асьцерагаліся іх. Бывала, дзеці ўскочаць раптам у пакой, дзе татка з цёцяй Стэфкай—тыя адразу змоўкнуць.

— Мабыць пра маму гаварылі,—думала Настачка.

Бывала, калі надыйдуць Настачка і Мзей, татка і цёця Стэфка адскоквалі ў розныя бакі і чырванелі. Настачка па іх вачох пазнавала, што яны злуюцца. Настачка аб гэтым нічога не гаварыла маленькай Мзей, але старалася больш не заходзіць у той пакой, дзе татка з цёцяй Стэфкай сядзяць. Настачка замыкалася сама ў сабе і пачала лічыць сябе вялікай: туліла маленькую Мзей, і гаварыла:

— Пакуль мамка ня прыедзе з Менску, я буду тваёй мамкай добра?

— Доб'я..,

— Будзеш слухацца мяне?

— Буду...

— Будзеш слухаць маю казку пра белую козачку?

Буду...

Вялікія—тата і цёця Стэфка—не перашкаджалі дзецям гуляць у „мамку з дачкой“.

А як надыходзіў змрок, Стэфка часта находзіла іх у „салёне“ на старой канапе. „Мамка з дачкой“ спалі абняўшыся...

Калі Язэп Крушынскі бываў дома, Стэфка зьвярталася да яго:

— Перанясі дзяцей у спальню, мой хлопчык. Мне ня можна—зашкодзіць...

А калі яго ў хаце ня было, дзеці заставаліся на канапе да яго прыходу.

І кожную ноч маленькая Мзей па старой прывычцы клікала маці, каб брала яе да сябе спаць. Яна шаптала праз сон:

— Мамка, матанька...

---

Хутка пасьля сьмерці Сымона Чарнюка Курганішча па-новаму ажыло.

Дразды і Дзятлы вазілі з лесу калоды на будоўлю млына ў Курганішчы. Вазілі з таго самага месца, дзе ў летку Крушынскі сустрэў Мэру ў лесе. Яна тады ўцякла з хаты, бо бацька мужа абзваў яе „жыдоўкай. Вазілі да таго самага месца, дзе Мэра кінулася з абрыва ў рэчку. Тут вымеркаваў Крушынскі месца для млына—якраз за гумном.

Як прыемна пахла махорачным дымам на марозе ў лесе. Крушынскі ў ботах з доўгімі халявамі, у кароткім кажушку. Ён утаропіў вочы ў сьне і меркаваў свае грашовыя пляны. Весела

слухаць здалёку стукат сякер, крэхт хвоі, калі яна кідаецца плазма на сьнегавую пярыну. Прытульнасьць надаюць лесу людзкі гоман, візгатаньне піл, праведзеныя санкамі дарогі.

Зьвіняць калоды на санках, скрыпяць палазы, шліфуючы сьнег; пахне сьвежай хвояй, коньмі ды марозам. Людзі пераклікаюцца між сабою. Твары ў Драздоў і Дзятлаў чырвоныя ад марозу.

— Ня шкодзіць зарабіць лішні рубель. Прыгадзіцца пры пераходзе ў пасёлак.

— Нешта скупіцца пачаў наш Крушынскі. Зусім чалавек зьмяніўся.

На гэты раз Крушынскі маленькі броварок наладзіў у кузьні. Трэба-ж частаваць Драздоў і Дзятлаў пры такой справе, як будова млына. За некалькі дзён выгналі шмат гарэлкі. Вінакурам быў стары Галава. Напоўнілі некалькі невялікіх бочак і схавалі гарэлку і прылады для гонкі ў патаемным месцы.

— Танна абышлося,—радаваўся Крушынскі.

— Кожны дзень пасьля сканчэньня працы ён секачом і возьнікам выносіў самагон.

Хадзілі бутэлькі са шклянкаю з рук у рукі, з горла да горла, нібы пры рытуальным абрадзе. Людзі прыемна крахталі, як у лазьні на гарачым палку, лілі ў горла моцную гарэлку, са смакам выцiралі рукавом губы і зноў:

— Гэ-э-х... А скупым Крушынскі зрабіўся! Гэта-ж гарэлка без закускі, як касьцёл без званіцы...

— Выбачайце, суседзі, я адзін, а вас многа! Не набярэшся...— саромліва апраўдаўся ён.

Пасьля сканчэньня контрабанднай справы, калі тысячы ўжо ня плылі ў рукі, як рыба ў невад, калі ён пастанавіў будаваць млын, Крушынскі пачаў ашчадна абыходзіцца з грашмі і гаспадарчым дабром. Ранейшая шчодрасьць раптам прапала.

— Ня можна мне цяпер раскідвацпа рублямі,—гаварыў ён айцу Дзімітрыю, які часта прыходзіў глядзець будову млына,— кожная капейка падлічана. Кожны пятак мае сваю шчыліну. А ці хопіць пятакоў на ўсе шчыліны?

— Не згадзіцца з вамі нельга, Язэп Сымонавіч. Вашы словы хоць вазьмі ды ўпішы гусіным пяром у сьвятое эвангельле.

Цяпер толькі Крушынскі атрымаў ад роднага бацькі Сымона Чарнюка і ад дзядзькі! ў Менску сапраўдную спадчыну—скупасьць, дрыжэў над кожнай капейкай. Ён пачаў пералічваць перад айцом Дзьмітрыем колькі лішніх сродкаў выкінуў раней на вецер.

— Шмат золата прыпала пры Рахмільку, калі той быў забіты на граніцы.

— Ой-ой-ой...—ківаў галавою айцец.

— А колькі мне аграном каштаваў, апрача пастаянных падарункаў, жульніцкім спосабам абшустаў мяне на пяцьсот рублёў.

— Эх, вы!—папракаў яго айцец.

— А колькі Драздом і Дзятлам і іншым раздаў?

— Э-хэ-хэ, Язэп Сымонавіч! Вы падобны да таго рыбалова, які злоўленую рыбу ў ваду кідае.

— Тое-сёе ў мяне засталося. Вось млын будую.

— Але было-б яшчэ больш.

— Было-б...

Кожную ноч пачалі зьяўляцца да Крушынскага няпрыемныя здані—думкі аб растранжыраных ім раней сродках: кожная капейка, пушчаная раней на ўзьвей вецер, паўстала цяпер перад яго вачыма і скардзілася:

— Чаму ты мяне не шанаваў у свой час? Я-б прыгадзілася цяпер для твайго „мірнага будаўніцтва". Няхай-б ты памятаў, Язэп, разумныя гутаркі дзядзькі і папярэджаньні бацькі. Слаўныя былі людзі.

Тым часам праца пры будове млына ішла шпаркім крокам. З Менску прыехаў „майстар на ўсе рукі". Рабіў пляны. Працавалі пільшчыкі, стальмахі. Калі скончыўся ранейшы самагон, яшчэ сфабрыкавалі.

Парадамі дапамагаў айцец Дзімітры.

— Скуль у вас, айцец, такія інжынэрскія веды?

Айцец Дзімітры ўсьміхнуўся, сажмурыў вочы і працадзіў праз зубы:

— Калісьці вучыўся.

— Дык вы, бацюшка, якія навукі праходзілі?

— Усе навукі ад госпада бога.

Яны сядзелі ў тым пакоі, дзе Крушынскі адлежваў свой „рак". На вакне яшчэ стаялі бутэлечкі з лякарствамі. Айцец зірнуў на іх і ўсьміхнуўся.

— Эх, Язэп Сымонавіч, я быў прымушаны быць папом, каб вас спавядаць пры хваробе. Хто-ж мог ведаць, што ачуняеце ад рака.

Крушынскі зарагатаў.

— Затое я добра адпачыў!

— І я адпачываю ў папоўстве. А калі захачу, дык і мне, служыцелю культу, дадуць надзел зямлі. Чым кепска?

Ня гледзячы на шчырую гутарку між імі ў часе „хваробы" на рак, айцец Дзімітры застаўся для яго ня зусім разгаданай загадкай.

Поп трохі і яго асьцярагаўся.

А калі поп у яго запытаўся пра пэўных людзей у сельсавеце, Крушынскі зарэкомэндаваў яму Слупа і Бочку.

---

## 14

## „Вельмі романтычна“

ГЭТА было на прадвесьні.

Пані Ганна, жонка Крушынскага, угледзела: Стэфка пачала ад яе адварочвацца. Вечна апраналася ў паліто.

— Мне холадна,—гаварыла яна.

— Як холадна?—дзівілася гаспадыня. Гэта-ж у нас так цёпла. Дроў многа, дзякаваць богу. Дзеці ледзь не ў адных кашульках бегаюць па пакоях.

А Стэфка сваё:

— Мне холадна... Ой, як холадна...

І нават пачынала дрыжэць і ляскаць зубамі.

Гаспадыня ціскала плячыма, і вочы яе рабіліся вялікімі.

— У нас, здаецца, горача, як у лазьні.

— Хо-о-ладна...

Стэфка цэлымі днямі ня вылазіла з свайго паліта.

— Можа вы нездаровы? Трэба напіцца маліны і добра прапацець.

Так некалькі дзён.

І вось пані Ганна раскумекала.

Твар яе зрабіўся шэрым. Вочы запаліліся. Яна спацела. Шэпт яе быў скрыпучым, нібы вадзіла нажом па шкле. Злосна прахрыпела.

— Вы, Стэфка, вы... цяжа-а-арная...

Стэфка сьцяла зубы і маўчала.

— Ад каго?—крыкнула гаспадыня не сваім голасам:—ад каго?

Крушынскі ў той час стаяў у другім пакоі і слухаў. Дзяцей у хацэ ня было.

Гаспадыня стала непадобна да сябе. Твар пачырванеў, вочы сыпалі маланкі.

— Вон, з маёй хаты! Мала вас там шляецца ў Менску? Вон адгэтуль!

Урэпілася пальцамі ў валасы Стэфкі і пацягнула да дзьвярэй. Настаўніца не баранілася. Рукі ў яе віселі, як абамлелыя. З вачэй капалі сьлёзы.

Выскачыў з другога пакою Крушынскі. Падбег да жонкі. Схапіў яе за рукі.

— Супакойся, Ганна!

— Я не супакоюся! Аскандалю яе і цябе на ўсю ваколіцу. Крушынскі так моцна сьціснуў рукі жонкі, ажно яна пабялела і вокнула. Выпусьціла валасы Стэфкі. Тая давалаклася да канапы і паваліласяа.

— Пусьці рукі, ой, бал-і-ць...—заенчыла пані Ганна.

Крушынскі выпусьціў яе рукі.

— Глядзі,—сказаў ён,—ня думай выганяць яе з хаты! Я вазьму яе за жонку.

А я? А дзеці?—застагнала пані Ганна.

— Дам табе кавалак зямлі, пабудую для цябе хату. Дзеці мае, як і твае. Няхай пры мне жывуць.

Ня дам!

— Вазьмі іх сабе... Толькі, каб шуму ніякага не рабіць, а то...

Крушынскі патрос кулаком.

У ночы месяц тады стаяў над самым дзядзінцам. Сьнегу бадай ня было.Толькі лужыны былі ахоплены тонкім шкелкам ільду. Зямля была трохі прыпечана калючым вясеньнім марозам—ён калоў, нібы тоненькімі голкамі, пальцы, вушы і нос.

Крушынскі вышаў на дзядзінец. Пабег на стайню. Выцягнуў калёсы і хутка запрог самага лепшага каня. Рукі і ногі дрыжэлі. У вачох стаяў спалох.

Жонку ён перад гэтым перанёс са спальні ў „салён“, каб дзеці не прачнуліся ад яе стогнаў. Ён злаваўся на местачковага аптэкара, які прадаў яму летась па знаёмству бутэльку неразведзенай карболкі. Жонка знайшла гэта дабро ў хатняй аптэцы. Трохі выпіла. Ён злаваўся на Стэфку, разбудзіў яе.

— Глядзі, што ты нарабіла.

— Што я нарабіла?

Жонка атруцілася...

А-а...—ускочыла яна. нібы яе падкінулі сталёвыя спружыны.— Атруцілася?.,

— Атруцілася...

Яе лоб пакрыў халодны пот.

— Дык гэта я нарабіла?—запыталася Стэфка.

Ён маўчаў.

— Гэта-ж ты сам зрабіў! Ты мяне згвалціў!

— Маўчы...

З таго часу яны ўжо больш на „вы“ не гаварылі.

Каня ён не шкадаваў. Гнаў ва ўсю моц аж да Менску. Па лясной дарозе яшчэ ляжалі гурбы сьнегу, пасіненыя месяцам. Усю дарогу месяц гнаўся за ім як за разбойнікам. Ад каня і воза плылі па дарозе доўгія цені.

Адразу завёз у бальніцу. Была яркая раніца з брызгамі вясновага сонца.

— Памрэ,—сказаў яму ў змрочным калідоры больніцы дзяжурны доктар.—Тут ужо не паможа ніякая мэдыцына.

— Ніякая мэдыцына...—шаптаў Крушынсккі сам з сабою, пакуль даехаў да сваякоў.—Ніякая мэдыцына...

Вельмі цяжка было яму ў калідоры бальніцы, а як яго воз тарахтаў па ціхіх ранічных гарадзкіх вуліцах, стала лягчэй, хоць ён увесь час шаптаў доктарскія словы:

„Ніякая мэдыцына".

Сьвяціла сонца. У горадзе ўжо ня было сьлядоў зімы.

Жонка Антона Цярэшкі зараз-жа прачнулася.

— Сядайце, сваячок, тут на маім ложку. Што вас нялюдзкае прыгнала так рана?

Антон Цярэшка павярнуўся тварам да сьцяны і зноў заснуў.

Крушынскі шэптам усё расказаў сваячцы.

Яна нецярпліва глытала сумную вестку. У яе вачох расла зацікаўленасьць.

— Дык толькі да вечера дацягне?

Яна схапіла яго за руку гарачымі пульхнымі пальцамі.

— Так доктар сказаў, і ніякая мэдыцына не паможа.

Крушынскі сьціснуў лоб рукамі.

...Ня вельмі ахвотна выдалі за мяне, мужыка, замуж шляхцянку Ганну. Была яна тады ружовая, круглая. Вечна сьмяялася. Што-б я ні сказаў, Ганна—хі-хі-хі. Пры гэтым яе зубы блішчэлі ў ледзь прыкметнай вільгаці чырвоных губ. Пасьля першых родаў пачалі выпадаць зубы. Сінія жылы выступілі на яе нагах. Пасьля другіх родаў яна перастала сьмяяцца. Займалася гаспадаркай. А вось...

Што вы так задумаліся, сваячок? Шкадуеце?

— Ня то, што. Ня думаў, што так скончыцца.

— Трэба было раней падумаць. Цяпер Стэфку не пакідайце, Ганьне ўжо ўсё роўна.

— Ня пакіну, але вы вінаваты...

— Я?..

— Вы...

— Чаму?

— Каб не пасваталі тады Стэфку ў настаўніцы, да гэтага не дайшло-б.

— Яшчэ хто вінаваты?

Крушынскі махнуў рукою.

— Лёгка вы, сваячок, узвальваеце ўсе беды на іншых. У вас гэта старая прывычка. Заўсёды любіце заграбаць жар чужымі рукамі. Ідзеце ў сталовую. Я апрануся і настаўлю самавар. Будзем сьнедаць. Ідзеце!

Ён яшчэ не пасьпеў выйсьці са спальні, як яна ўскочыла з ложку. Ён адвярнуўся да яе.

— Не глядзеце, вочы сапсуяце.

Як пілі гарбату, свячка сказала:

— Шчасьлівая яна...

— Хто?

— Стэфка.

— Таму, што за мяне замуж ідзе?

— Не. А вось таму, што дзеля яе самагубствам канчаюць.

— А вы-б хацелі, каб хто дзеля вас так зрабіў?
— Ого! яшчэ як хацела-б...
Крушынскі званіў лыжачкай па шклянцы.
Сваячка ўвайшла ў натхненьне:
— У мяне ёсьць адна знаёмая. Нельга сказаць, каб яна была ўжо вельмі цікавая, але мужчыны ліпнуць да яе, як мухі да атручанай паперы. Прыклееццa і дрыг-дрыг лапкамі. Гэта жанчына паказала мне альбом з портрэтамі яе ахвяр. Там цэлы аддзел самагубнікаў. Хто дзеля яе страляўся, хто вешаўся, хто рэзаўся, хто труціўся— розныя. Яна помсьціла мужчынам, такім. як вы, лысым ды вусатым. Яна такая шчасьлівая, ажно зайздрасьць бярэ.
— Вам гэта падабаецца?
— Гэта-ж вельмі романтычна.
— У вашым жыцьці ня было такіх здарэньняў?
— Не,—сумным голасам сказала яна.—Няцікава праходзіць маё жыцьцё. Была раз справа. Мільгнуў перад маім вачыма сьветлы прамень і хутка згас. Але вы, сваячок, майму мужу аб гэтым нічога не кажэце...
— Не, не.
— Ну і пазнаёміліся... Цікавы такі хлопец! Высокі, з чорнымі вачыма. Таемна ўсьміхаецца. Ветлівы. Трымаецца інкогніта, як пераапрануты турэцкі каліф. Я ня ведала, хто ён і што ён. Свайго імя і прозьвішча пе хацеў сказаць. Гэта-ж вельмі романтычна, праўда? Прыходзіў бадай штодня. Але глядзеце, трымайце язык за зубамі, а то муж як даведаецца, бяда будзе...
— Што вы? Я нікому не скажу.
— Вельмі цалавацца любіў. Цалуецца-цалуецца і гэтак далей. Я,—казаў ён застрэлюся, калі ня будзеце маёй. Страляйцеся!— кажу.
— Я-ж нават ня ведаю, хто вы. Ён зараз-жа выняў рэвольвэр і паказаў мне. Вось гэтым пушчу сабе кулю ў лоб. Мяне ахапіла радасьць. Вось, думаю, будзе задаволена мая жаночая гордасьць. Прамень у маім шэрым жыцьці. Я глядзела на яго з замілаваньнем. Частавала віном. Ён прыходзіць ка мне. А я ўсё думаю. калі ён гэта зробіць? Толькі вы майму—ані-ні...
— А ні-ні.
Аднаго разу каля нашай кватэры прайшла пахавальная процэсія.—Я выскачыла на вуліцу. Кажуць мне: „адзін малады чалавек застрэліўся, романтычная гісторыя.“ Радасна затухкала маё сэрца. Ці ня мой?—падумала я. Хацела ўжо суседцы па сакрэту пахваліцца. Паглядзела труну—не ня мой... Зноў сумна стала. Але і ён гэта зробіць. Я ўпэўнена—сам гаварыў. Вы, сваячок, глядзеце, каб ад вас мой пясьняр на даведаўся. Яшчэ пісаць кіне.
— Нікому не скажу.
Дык вось аднаго разу мой Цярэшка атрымаў гонорар і купіў мне залаты гадзіньнік. Удзень ляжу сабе на канапе і грэюся на сонцы. Гадзіньнік тут-жа на стале. Ажна бачу праз вакно—ідзе

мой невядомы герой. Я зажмурыла вочы і чакаю. Нібы сплю. Ну, думаю, сягоньня давяду яго да таго, што заўтра абавязкова застрэліцца. Ён увайшоў. Ціханька падышоў да мяне. Зараз пацалуе, думаю. Не. Не пацалаваў. Пакруціўся туды і сюды і ціханька высунуўся з пакою. Мне здалося, што ён шапнуў: „застрэлюся". Толькі вы, сваячок, нікому.

— Нікому...

— Ускочыла з канапы. Неяк крыўдна. Чаму перад сьмерцю мяне не пацалаваў? Потым агледзелася—залатога гадзіньніка няма.. Вось мой пераадзеты каліф! Больш романтычных гісторыі ў мяне ня было. Як муж агледзеўся пасьля, дык шмат рэчаў з кватэры зьнікла: срэбны портсыгар, портфэль з залатой монограмай і яшчэ тое-сёе. Усё гэта падарункі, якія муж атрымаў на свім літаратурным юбілеі. Вы мужу не кажэце, што гэта мой патаемны романтык зрабіў.

— Не, не...

— Некалькі дзён, як мой ня ў гуморы. Вышла яго новая кніжка „Сонцакруткі", а пакуль што ні слова аб ёй няма. Яго лейб крытык Алалоўнік чакае, што людзі скажуць. Другі прыяцель таксама крытык, дык таксама маўчыць. Той выключна юбілейны крытык—выступае толькі на юбілеях пісьменьнікаў і хваліць іх. Гэта цікавы чалавек. Тоўсьценькі, нізенькі, ружовенькі, лысенькі, з масьлянымі вочкамі. Гаворыць жабіным голасам—„кхэ-кхэ", а язычок яго нібы вазалінай намазаны, такі падатлівенькі язычок, што здаецца, у дзірачку голкі лезе, калі трэба. На попіка вучыўся гэты юбілейны крытык, казаньні пробныя гаварыў, дык вось засталася ў яго папоўская прывычка. Потым ён з пачкай нашых адэсатаў у Менск прыехаў. Ён абяцаўся мужу пахваліць яго на чарговым юбілеі.

Раптам гаспадыня ўсхапілася:

— Язэп, што з вамі?

Крушынскі ўсхліпваў.

— Вы толькі што пачалі плакаць?

— Я ў-у-увесь час.

— Ня чулі меёй гутаркі?

— Н-н-не-е...

— Ну і добра. Мужу не раскажаце.

— Не раскажу...

— Даць вам віна?

— Дайце.

---

Доктар падвёў Крушынскага. Пані Ганна жыла яшчэ два дні. Яе пахавалі ціха. Апрача сваіх нікога на могілках ня было.

Ня вытрымала сваячка Крушынскага. Не магла хаваць у сабе такой „романтычнай" справы. Зараз-жа з могілак пабегла да сьляпой маткі Стэфкі і усё ёй апавядала.

Маці Стэфкі, цёця Вярбіцкая, зьявілася да Крушынскага ў пакой. Яе дачка, Бронька, засталася ў калідоры. Ён ціханька высунуўся за дзьверы і ўцёк ад сваёй новай цешчы.

У пакоі засталіся поэта Цярэшка і яго жонка Мар'я.

Сьляпая Вярбіцкая, думаючы, што яе зяць тут, загаварыла:

— Гэта-ж вы, Крушынскі, маю Стэфачку абманулі! Што вы мелі да яе і мяне, старой ды сьляпой? Вось чаму яна дамоў усю зіму не прыяжджала. Вось чаму яна лістоў мне ня піша. Як вам ня сорамна? Яна-ж яшчэ дзіцё!

Сьляпыя вочы ўтаропіла ў столь. Размахвала рукамі ў бок вакна і гаварыла далей.

— Я ж нават ня ведаю, хто вы такі. Чым я гарантавана, што з маёй Стэфкай ня здарыцца тое самае, што з вашай ранейшай жонкай? Навошта маёй Стэфцы няньчыцца з чужымі дзецьмі!. Не хачу такога шчасьця для маёй дачкі! Не хачу.

Сьляпая Вярбіцкая трэсла кулакамі. Твар яе, заусёды бледны, быў у чырвоных плямах.

— Зараз-жа аддайце мне Стэфачку! Паганец вы! Вось што я вам скажу! Паганец! Паганец!

Антон Цярэшка і яго жонка слухалі і маўчалі. Ён жонцыківаў пальцам, каб яна голасу не падала, і яна яму тое самае.

— Вельмі цікава,—гаварыў Цярэшка вачыма да жонкі.

— Яшчэ больш, чым вельмі,—адказвала яна мужу таксама вачыма.

Сьляпая Вярбіцкая плюнула ад злосьці на плюшавы дыван. Цярэшка ўсхапіўся з месца.

— А вы, цёця Вярбіцкая, ня плюйце! Яго тут няма, вашага зяця Крушынскага.

— Няма? Дык чаму вы маўчалі? Выбачайце...

Вось што твой язык нарабіў!—зьвярнуўся Цярэшка да жонкі.— Ты-б яго лепш у іншым месцы трымала, чымся ткнуць туды, куды ня трэба.

— Хам! Лёкаўчук! Яшчэ поэта!—ускочыла з плачам жонка. А твой бацька царскі чыноўнік задрыпаны!

Слухаючы такія пераклікі, сьляпая Вярбіцкая анямела, хацела сунуцца да дзьвярэй і трапіла выстаўленымі рукамі ў вакно.

— Бронька, дзе ты? Хадзем дамоў!

Бронька пайшла ўжо,—сказала Мар'я.—Я з вамі пайду.

Паднялася з места, выцерла вочы і ўзяла сьляпую за руку.

---

У кузьні Крушынскага зьвінелі малаткі. Рабіліся розныя жалезныя прылады для млына.

Настачка і Мзей пашлі да млына. Мітусіліся людзі, туды і сюды. Габлявалі дошкі, пілавалі, рэзалі, секлі. Цэлыя горы стружак і трэсак валяліся. Сьцены расьлі.

Крушынскі камандаваў. На дзяцей увагі не зьвярнуў. Яны трохі пастаялі пры будоўлі і пашлі далей у лес, да таго месца, дзе ў мінулым годзе знайшлі скарб. У лагчыне стаяла ўжо добрая трава. Да самага лесу даходзіла высокая жытняя рунь. Воддаль чарнела глеба. Дзед Галава хадзіў з сявалкай у руках. Сеяў авёс.

На мяжы стаялі калёсы, пасьвіўся спутаны конь. Воддаль сядзела старая Галавіха, якая прынесла мужу палуднаваць.

Настачка і Мзей зацікавіліся. Падышлі.

— Сюды, дзетачкі! Сюды, сіраткі горкія! залямантавала Галавіха.—Блыкаюцца, бедныя, няма ведама чаго. Можа па кавалачку блінца даць?

— Не хачу,—сказала Настачка.

— Я хачу— папрасіла Мзей.

Галавіха дала ёй кавалак блінца і агледзела яе з ног да галавы.

— Стэфка-мачыха вас, сіраткі, б'е?

— Не.

— Ходзяць, бедныя, швэндаюцца няма ведама чаго і дзе, бо нагляду няма. Роднай матачкі няма.

— Мама ў Менску,—сказала Настачка.

— Шмат, шмат гасьцінцаў мама прывязе нам,—сказла Мзей.

Старая Галавіха зморшчыла твар, і ў яе вачох заблішчэлі сьлёзы.

— Бедныя, бедныя сіраткі! Ня прыедзе ваша матанька з Менску. Не прывязе вам гасьцінцаў. Яна без пары, бедненькая, у сырую зямельку лягла.

Настачка і Мзей заплакалі.

— Плачце, сіраткі, плачце, маленечкія!—ламала над імі рукі старая Галавіха.—Плачце, бо вашыя валасочкі вецер-сівер расчэсваць будзе. Бо вашыя тварыкі будзе мыць расіца халодная.

Спаткі класьці маці родная вас ня будзе. Карміці вас піражочкамі ня будзе. Ой, горькая доля сіраціначак...

Настачка і Мзей нястрымана плакалі.

— Плачце, міленькія, плачце! надавала ахвоту бабуля Галавіха.—Ваша маці на векі вечныя аглухла, анямела, асьлепла. Ручкамі белымі не паверне. Галоўкаю не пакруціць. Ножкамі ня пойдзе. Есьцікі і піцікі ня будзе.

Настачка і Мзей трэсьліся ад страшнага плачу, які нахлынуў на іх, як навальніца. Усё тое, што накіпела ў іх за апошнія некалькі тыдняў, вылілася цяпер праз плач: і няшчырыя вочы бацькі і Стэфкі, і тое, што надта блізкімі сталі між сабою родны бацька з чужой Стэфкай, і тое, што маці з Менску ўсё яшчэ ня прыехала...

— Плачце, ягадкі мае, плачце!—зацягнула Галавіха на сьпеўны лад.—Кусток-яварок, на якім вы расьлі, вецер-віхор вырваў

і панёс. А вы адзінюткамі, адарванымі лісточкамі засталіся. А вы нават ня ведаеце, дзе магілка вашай роднай маткі...

Падышоў Галава. Як закрычыць на жонку:

— Старая, ды дурная! Навошта дзяцей разжальбіла? Эх ты...

— Сам стары і дурны!—узьелася Галавіха.—Дзеці павінны ведаць. Ня можна малых абманваць.

Старая Галавіха ўзяла на рукі Мзей, за руку Настачку і пашла з імі ў Курганішча. Дзеці ўсхліпвалі кулачкамі сьлёзы з вачэй выціралі.

З таго часу Настачка і Мзей пачалі ненавідзець бацьку і Стэфку; глядзелі на іх, як на грабежнікаў, якія забралі ў іх маму і схавалі няма ведама дзе...

---

# 15

## Хрэсьбіны

ІРДЗЯНЫМІ матылямі плямілася лісьцё кленаў і дубоў. Асьцярожнымі шолахамі шасталі ў павуцінным полі вільготныя крокі восені. Калі-ні-калі ўздумвалася ёй зірнуць на Курганішча расплылымі бельмамі бірузовых хмар. Тады вецер, нібы садоўнік яблыню, трос белагрудыя зьдзіўленыя бярозы, і з іх сыпаліся дзівацкімі садавінамі паіржавелыя і скурчаныя бляшкі лістоў. Недакучліва выбівалі дроб густыя дажджы. Аднатонныя і нудныя—без разьюшанай музыкі грымот і вухарскіх росчыркаў маланак. З расхлябаных хмар цягнулася ўніз бесьперапынная дажджова-ніцяная пража. Па каламуці рэчкі тады пукаліся сівыя ўспышкі бурбалак.

А часам бабай-весялухай высоўвалася з-за фірганак хмарын са сваёй блакітнай сьвятліцы лагоднае і цёплае сонца. Сушыла, як бялізну, вільготнае іржанё і абмоклыя лясы.

І зноў адзін за адным на шпацыр выходзілі пазалочаныя летнія дні. І зноў яскравасьць і цяплынь і прытульная цішыня апляталі зычна-чулую далячыню.

У такія дні Стэфка, жонка Крушынскага нарадзіла хлопчыка.

У такія дні Крушынскі ладзіў гульбішча для суседзяў, знаёмых, прыежджых.

Хрэсьбіны былі „чырвоныя". А як-жа інакш? Гулялі сельсаветчыкі, гаварылі прамовы,—пышныя, рэволюцыйныя. Хлопчыка Уладзімерам запісалі.

— „Гэта не зашкодзіць ні сыну, ні мне",—думаў Крушынскі.

Пышныя хрэсьбіны, пасьля нуднага зімаваньня „рака", пасьля няшчасьця з першай жонкай, сонечныя дні пасьля няветлага насупленнага восенскага неба.

Вось калі надышоў час запрасіць да сябе ў Курганішча знакамітых знаёмых, якіх Крушынскі часта сустракаў на вечарох у стрыечнага брата, поэта Цярэшкі. Вось калі ён пакажа на шырокай далоні Курганішча сваю гаспадарку з добрай сытай жывёлай, з мёдам, з садам, з сельскагаспадарчымі машынамі, з новым млынам, дзе вось-вось жорны аб жорны закруцяць, заміляць, запыляць, запахнуць збожжам і мукою, зажывуць агойданыя

людзкімі гутаркамі і жартамі. Вось калі знаёмыя з Менску пабачаць, як ён умее жыць, умее ўгашчаць—шчодра, шчыра, па-свойску,—добрых людзей.

У такія сонечныя дні вясёласьць плыла ў Курганішча ручаінамі іскраў і сьмеху, кроплямі хмелю сачылася па ваколіцы:

— Хай бачаць, хай ведаюць, хай спачуваюць, хай спрыяюць. Гэта аплаціцца ў дубальт...

І былінныя дні ў Курганішчы чакалі былінных гасьцей з Менску.

— Гэта аплаціцца ў дубальт...

Крушынскі выправіў у Менск дзьве фурманкі. Ахвотна адклікнуліся на яго запрашэньне знаканамітыя госьці.

— Гэта аплаціцца...

Апрача дзьвюх фурманак, на вялікім, як поле, дзядзінцы Курганішчы бліскаў у вечары ліхтарамі-прожэктарамі аўтомобіль.

У пахучую сінь фальварковага вечару, апрысканага дажджом дагістарычных зорак, укінуліся менскія госьці: стрыечныя браты гаспадара, „маршалак", „прэм'ер", адзін незнаёмы з чорна-сівой барадою і знаёмы Цімафейчык, які часта на вечарох у Цярэшкі кідаўся бутэлькамі ад піва, выклікаў скандалы і шчырыя сьлёзы, і роспач, і плач у пані Мар'і—жонкі Цярэшкі.

Незнаёмы меў ніткі сівізны ў чорнай барадзе, акуляры на падсьлепаватых шэрых вачох і быў апрануты ў сівы гарнітур, у жоўтых і сініх мякавінках. Нешта апостальскае было ў яго круглых, падсьлепаватых вачох, у яго маруднай паважнай хадзе, буркатлівым голасе, з ноткамі суму, скромнасьці і вінаватасьці—нешта апостальскае. Аднак нічым ня быў ён падобны да вядомых дванаццаці апосталаў на вядомых абразох, і ў той-жа час хацелася лічыць яго трынаццатым апосталам.

Знаёміўшыся з Язэпам Крушынскім, ён назваў сябе:

— Лапоўскі, Лявон Максімыч

Гаспадар Курганішча зірнуў на пані Мар'ю жонку Цярэшкі, яго вочы пыталіся:

— Гэты хто?

Яе вочы ляконічна і многазначна адказалі:

— Гэта шышка.

Яго вочы зноў запыталіся:

— Свой?

Яе вочы зноў адказалі:

— Свой...

Пасьля першага прыліву і адліву сардэчных гутарак і кампліментаў, пані Мар'я, улучыўшы хвілінку, няпрыкметна ільнула шушуканьне ў правае вуха Крушынскага:

Стары беларус. Профэсар. Быў нейкім упаўнаважаным пры Керанш чыне на Румынскім фронце. Пасьля організоўваў там беларускае войска. Пасьля быў за мяжою. Нядаўна адтуль пры-

ехаў. Займае розныя пасады. Нашыя яго вельмі шануюць. Яго называюць „чалавекам без знакаў прыпынку“. Потым падрабязна раскажу.

— Ага! - задаволена ўсьміхнуўся Крушынскі.

— Ага!—мармытнуў ён яшчэ раз апэтытна і зацікаўлена.

— Дык вы, пані Мар'я, будзьце гаспадыняй,—зьвярнуўся Крушынскі з просьбай,—мая з дзіцём занята. Ня можа. Адплачу.

— Добра, добра, сваячок. Яна кіўнула на яго пульхным пальцам.—А вы адразу „адплачу“!

Пасьля позьняй вячэры гасьцей разьмясьцілі спаць у салёне, па ўсіх пакоях. Знайшліся ахвотнікі, якія спалі на сене.

Ніколі не начавалі тут такія знакамітыя госьці.

Ноч была цёплая, прытульная, ціхая. Ноч была нібы спэцыяльна для гасьцей падрыхтаваная Язэпам Крушынскім. Шанцавала яму і з гэтай ночкай.

Дзень назаўтра выдаўся летні—спэцыяльна для гасьцей. Шанцавала гаспадару і з гэтым днём.

Сьняданьне зацягнулася да самага абеду. Багатырскае сьнеданьне. Не абед—вясельле. Не абед—пір. Не абед—банкет; гаспадарскі, палітычны банкет з усім, што да гэтага патрабуецца: з тостамі, з урачыстымі прамовамі, з хвалебнымі слаўцамі па адрасе гаспадара—з усім.

На закуску—лес. Госьці разбрыліся па лесе хто куды і зноў зыходзіліся. Сьмешачкі, пашаптушачкі, сур'ёзныя гутаркі—усяго было.

З імі і Крушынскі.

Ірдзянымі матылямі пляміласся лісьцё на клёнах і дубох. Ля бяроз—пажоўклая трушанка мядзяных лісткоў. Стромкія барыны Сонца і цень. Сасновая жывіца і спозьненыя сыраежкі.

Ня лес—баляда.

Стары вываранець—канапа.

Адсечаныя пні—крэслы.

Верасьнёвы мох—дыван.

Для гасьцей—прывольле.

Ня лес—палацы.

Ня лес—романтыка.

Госьці расьселіся дзе хто хацеў, як хацеў.

І раптам перад вачыма Язэпа Крушынскага праплыў ледзь прыкметным воблачкам урывак дня з мінулай восені на тэму я і „яна“.

...Тут...

...На гэтай самай паваленай бярозе я пацяшаў Мэру...

...Яна засталася ляжаць...

...Я ўцёк...

...Яна кінулася ў рэчку...

...Мяне ўжо тут ня было...

...Яе выратавалі...

...Я вельмі палохаўся...

...Мужу, відаць, нічога не сказала...
...Малайчына...
Пані Мар'я да яго:
— Што, сваячок, задумаўся?
Я так сабе.
Крушынскі гульліва ўсьміхнуўся.
Незнаёмы госьць—чалавек без знакаў прыпынку—утаропіў падсьлепаватыя, у акулярах, вочы ў блізкія хвоі. Ён быў задумёны, шамкаў губамі, нібы хацеў зараз жа нешта сказаць, але баяўся, стрымліваўся.
Пані Мар'я сядзела побач з Крушынскім, шапнула яму на вуха:
— Гэты самы, Лявон Максімавіч Лапоўскі, завецца „чалавекам бяз знакаў прыпынку". Так назвалі яго студэнты, якім ён чытае лекцыі. Ён гатоў гаварыць цэлую гадзіну і нідзе ў гутарцы кропак ня ставіць. Так мне гаварыў адзін студэнт. І вось дзеля гэтага словы яго здаюцца двухсэнсовымі і выклікаюць сярод студэнтаў непаразуменьне.
Крушынскі ледзь улавіў яе шэпт, нічога не зраумеў, але па прывычцы сказаў:
— Так, так. Нікому не скажу.
— Як бы для ілюстраваньні слоў пані Мар'і чалавек бяз знакаў прыпынку загаварыў ня то для ўсіх, ня то для сябе тонам песьні над калыскай:
— Як тут хораша і прыемна! Ты забываеш аб усіх прыкрасьцях жыцьця, бо пахне тут часамі „Нашай нівы„, ясе ідыліяй, і няма клясавасьці паміж асінамі, хвоямі і бярозамі.
„Маршалак" і „прэм'ер" усьміхаліся.
— І я тут ня мала вершаў напісаў. Такая мясцовасьць дае натхненьне,—прыемна ўзбудзіўся сваімі ўласнымі словалі Антон Цярэшка.
Чалавек бяз знакаў прыпынку хмыкнуў у чорна-сівую, колеру каўкаскіх сярэбраных аздобаў, бараду, зьдзівіўся і тлумачыў:
— Цяпер не прызнаюць „Нашай нівы" і не разумеюць, што такім чынам падсякаюць сук. на якім самі сядзяць ой гэты усход па сягоняшні дзень татаршчынай пахне.
Гэта ўзнэрвавала Цімафейчыка:
— А вас на захад цягне? Хочацца да „культурных" жандараў?
Вышла нешта ад тэатральнай ігры.
— Не не не таварыш Цімафейчык,—занекаў чалавек бяз знакаў прыпынку і давай здымаць пылінкі з пінджака.—Я наогул у палітыку не ўмешваюся і толькі тэорытычна разважаю. І паводле маёй тёорыі і паводле ходу гісторыі нам ня шкодзіла б незалежнасьць потым мы пайшлі-б далей куды нас цягне на аркане ўсход мешаніна розных нацый з перавагай аднэй вандроўнай нацыі якая сваёй пастаяннай паводкай усяму сьвету дарае падарункі гандляроў банкіраў музыкантаў журналістаў пісьмень-

нікаў палітычных дзеячоў сьвет жыдоўствуе і наш беларускі народ круціцца ў гэтым віры ніхто нас не разумее але ня трэба пераскакваюць праз гістарычныя шляхі як праз гнілыя калоды і пабачым што з усяго гэтага яшчэ выйдзе я толькі спэц па беларусазнаўству пры чым тут палітыка і я не палітык.

„Маршалак“ і „прэм‘ер усьміхаюцца.“

Цімафейчык ускочыў і пачаў трэсьці кулакамі. І зноў у яго голасе і выглядзе было нешта наігранае:

— Я вас разумею, Лявон Максімыч! Вам не падабаецца наша новая культура? Вядома, яна не такая, як бы вам хацелася— яна ня панская. Мы за яе нямала крыві пралівалі! А наконта гістарычнага шляху, дык вы праўду сказалі, мы сапраўды пераскакваем праз гнілыя калоды.

Чалавек бяз знакаў прыпынку бліснуў вачыма праз шкелкі акуляр, і нешта савінае было ў яго твары.

Няма ў нас таварыш Цімафейчык,—сказаў ён грудным голасам—ні паноў ні пролетарыяту і ёсьць толькі адзін беларускі народ ня трэба яго драбіць на кавалкі молатам і ня трэба яго крымсаць сярпом на багатых і бедных на кулакоў і беднякоў на сялян і рабочых увесь беларускі народ бедны ўжо таму што яму ўсё гэта навязвае чужая воля і вы ведаеце якія ў нас зусім не такія гістарычныя ўмовы як скажам у Масковіі.

Твар яго яшчэ больш зрабіўся падобным да савы.

— Ведаеце,—ускіпеў Цімафейчык,—ад, вас сапраўды трухлявай калодай аддае!

— Вы недалікатны чалавек, дзядзька Цімафейчык,—ледзь не заплакала пані Мар‘я!—нельга так выражацца.

— Трэба Эўропу выветрыць з мазгоў дзядзькі Лапоўскага. Даўжэй у нас пабудзе, тады інакш гаварыць пачне. Мае словы няхай будуць для яго нашатыркай. Можа ачухаецца.

„Маршалак“ і „прэм‘ер“ усьміхаліся

Цімафейчык плюнуў і пайшоў шпаркімі крокамі.

— Што ты яго вечна цягнеш за сабою?—абурана зьвярнулася жонка да Цярэшкі.—З ім вечныя скандалы.

— Міленькая,—мякка сказаў Цярэшка.—Ты добра ведаеш, што каб ня ён, мы-б учора на машыне сюды не прыехалі. Няма чаго баяцца. Няхай сабе гаворыць. Партыец інакш ня можа гаворыць. Але ён наш.

— Эх,—уздыхнуў чалавек без знакаў прыпынку,—кіньце аб ім я даўно знаю яго з Адэсы ў нас з ім агульныя радасьці і агульны смутак.

— Ён спыніўся і ў другі раз уздыхнуў:

— Эх ўсё наша шчасьце ў тым што бяз нас старых спэцаў абыходзіцца ня могуць калі-б маглі выкінулі нас даўно і нам трэба жыць і ім патрэбны спэцы а на кожным кроку нам вытыркаюць марксысцкі мэтад я напрыклад чытаю лекцыю а мяне перабівае нейкі Мікола Ярэмчык мой вучань і крычыць няпра-

вільна ва ўвесь голас і такіх Міколаў Ярэмчыкаў многа вось да чаго дайшлі мы інтэлегенты нас сьцёбаюць пугамі Міколамі Ярэмчыкамі

„Маршалак“ і „прэм‘ер“ усьміхаліся.

Гаспадар меў з сабою ў кошыку некалькі бутэлек віна, тарты, яблыкі.

Ён пачаў частаваць гасьцей.

Дзе Цімафейчык?—запытаўся Цярэшка.

— Пашоў да хаты,—сказаў Крушынскі.

— Каб ён са злосьці не паехаў адзін у горад на аўтомобілі,—заўважыў профэсар ад дзіцячага лемантара.

— Ня зробіць гэта,—супакоіў чалавек бяз знакаў прыпынку.

— Кінем аб гэтым, шаноўныя госьці!—папрасіў гаспадар.—А на савецкую ўладу сапраўды няма чаго наракаць. Глядзеце вось справу з пасёлкамі і хутарамі. Мне здаецца, што гэта вельмі добрая рэч.

Згодзен, згодзен, Язэп Сымонавіч!—усхапіўся чалавек бяз знакаў прыпынку і пачаў на гэты раз устаўляць знакі прыпынку ў сваю гутарку.—Пасёлкі і хутары—добрая справа, добрая! Гэта паказвае толькі, што бальшавікі, калі хочуць, дык тое-сёе пераймаюць і ад эўропейскай культуры. Ня так ужо страшна. Калі яны ва ўсім пойдуць па такой дарожцы, як хутарская гаспадарка, тады і я бальшавіком зраблюся!

Цяпер ён быў падобны да нейкага трынаццатага і ў хрысьціянскай мітолёгіі няіснуючага апостала.

Над дрэвамі з няпрыемным крыкам праляцела плойма варон.

— Паляцелі за граніцу,—сказаў Крушынскі.—У Польшчу захацелі. З блізкага клёна пасыпалася пара чырвоных засохлых лістоў. „Прэм‘ер“ мэлянхолічна зірнуў на ўпаўшыя лісты, пагладзіў пяшчотна руку аб руку і шапатлівым голасам запрарочыў:

— А ўсё-ж такі пральлецца тут нямала крыві!

У яго словах чулася вялікая ўпартасьць, як даўней у Галілея, калі ён сказаў: „А ўсё-ж такі яна кружыцца!“

Госьці на гэта нічога не сказалі. І невядома было, ці хто з іх згодзен з гэтай думкай, ці не.

„Прэм‘ер“ пагладзіў ружовымі пальцамі бронзавую лысіну і паўтарыў сваё прароцтва:

— А усёж-такі пральлецца тут нямала крыві...

Госьці быццам ня чулі.

— А ўсё-ж такі... пачаў ён у трэці раз, нібы прыпеўку, махнуў рукою, не дакончыў і выняў з кішэні срэбны поргсыгар.

„Маршалак“ слухаў ды усьміхаўся. Выглядала, нібы ён ўсіх экзамэнуе і вось, праслухаўшы ўсе развагі, зараз скажа, хто вытрымаў экзамен, а хто не.

— Шаноўныя госьці, пійце і закусвайце,—лемантаваў гаспадар—Выбачайце, што гаспадыні тут няма. Яна ад дзіцяці адыходзіць баіцца.

— Нічога, нічога, сваячок,—пацяшала яго пані Мар'я.—Я буду гаспадыняй. Бяру ўладу с свае рукі!—і пачала частаваць гасьцей.

Крушынскі быў у гэты дзень палахлівы і саромлівы, як ніколі: упяршыню ў Курганішча прыехалі такія госьці... Ён стараўся з усіх сіл, а ўсё баяўся:

— Можа ня так, як трэба угашчаю

—Можа ня так, як трэба, гавару.

— Можа ня так, як трэба, прашу.

Ен стараўся па вачох кожнага з гасьцей улаўліваць яго жаданьне, падаць, што трэба, пытацца, чаго той хоча, ды пры гэтым увесь час бянтэжыўся:

— Жартачкі, такія госьці...

Ён быў ім адданы ўвесь. Да кожнага падыходзіў, нагінаўся ў вочы заглядаў, быў гатовы да паслугваньня. Адчуваў сабе вінаватым.

— Жартачкі, такія госьці...

Пані Мар'я яго супакойвала:

— Усё добра, сваячок.

А госьці жартавалі, сыпалі іскрамі сьмеху і свойскасьцю слоў, адчувалі сябе тут пагаспадарску і прасілі Крушынскага неклапаціцца аб іх.

У лесе ні ветрыка. Цішыня. Водаль у хмызьняку жаласьліва чылікае адзінокая птушка.

Ня лес—баляда.

Ня лес—сьвятліца.

„Маршалак" падняўся з свайго месца, залажыў рукі за сьпіну і давай у задумёнасьці спацыраваць туды і сюды. Сутулілася яго нязграбная фігура. Ён нешта неразборлівае напяваў сабе пад нос. Раптам зьвярнуўся да гаспадара ціхім голасам:

— Ну, а людзей гаспадарных шмат у вашай ваколіцы?

— Ёсьць такія-сякія,—уважліва ўскочыў Крушынскі з свайго месца.

Ласкавасьць гасьця да гаспадара, хоча пагаварыць са мною аб тутэйшых гаспадарчых справах, а то аб чым ён са мною гаварыць будзе?—падумаў Крушынскі.

— Часта сустракаецеся? Дружыце між сабою?—„Маршалак" звузіў вочы, і твар яго стаў сур'ёзным і зусім свойскім, нібы заўсёды вядзе з Крушынскім такія гутаркі.

Крушынскі пагладзіў лысіну і перайшоў на такі-жа тон:

— Вядомая справа. А то як? Заўсёды прыямней сустракацца з чалавекам, які табе роўны і воўкам на цябе не глядзіць. А бяднейшы хоць паважае мяне, але заўсёды зайздросьціць і трымае на цябе камень за пазухай.—Я ўмею ладзіць і з гэткімі,—пахваліўся гаспадар.—Але ёсьць тут і ворагі, якіх нічым ня возьмеш, як да іх не падыйдзеш. Яны вечна ражнамі ў вочы лезуць. Ёсьць адзін такі, Антось Драчык, дык гатоў жыўцом мяне зьесьці. Вуха востра трымаю, такое цяцер жыцьцё. Адно

маё шчасьце, што я стары рэволюцыянэр. Бо той Драчык так брэша, каб яму паверылі, мяне паслалі-б туды, дзе салаўі сьпяваюць.

Варта вам з гаспадарамі вашага складу цясьней трымацца. Ну, вы мяне разумееце?

Яны адышлі ў глыб лесу, дзе цішыня лавіла здалёку кожны гук і кожнае слова. Трэск галіны пад нагамі рэзаў вуха, здаваўся няпрыемным у такой дрымотнай цішыні.

— Дык вы кажаце, Язэп Сымонавіч,—пачаў „маршалак" гарачым шэптам зацікаўленасьці, што ў вас тут ёсьць ворагі? вострацьна нас зубы?—Са звужаных шчылінак яго вачэй замігацелі іскры. Трэба сказаць праўду, што з кожным годам вашаму брату рупнаму гаспадару горш стане. Да гэтага дойдзе. Трэба быць гатовым.

— Усё гэта сам добра ведаю,—хацеў сказаць Крушынскі.— Я супроць гэтага вяду сваю політыку.

Не сказаў толькі таму, каб паказаць гасьцю, што той „адкрывае яму Амэрыку". Няхай гасьцю будзе прыемна, калі падумае, што навучае гаспадара, як жыць на сьвеце.

— Дык што рабіць?—запытаўся Крушынскі, нібы школьнік. Ён граў ролю школьніка яшчэ таму, каб праверыць, ці правільна дагэтуль накіроўваў політыку у сваёй „рэспубліцы".

— Што рабіць?—„Маршалак" наблізіў губы да самых вушэй Крушынскага.—Усе свае людзі павінны быць гатовы на выпадак вайны з Польшчай. Чуць што якое, старацца апынуцца на тым баку, разумееце?

— Як гэта на тым баку?—зьдзівіўся Крушынскі.—А гаспадарка? А зямля? А млын?

— Разам з гаспадаркай, разам з зямлёю, разам з млынам. Вы мяне разумееце?

— Разумею...

Крушынскі пагладзіў вусы і недаверліва паглядзеў на „маршалка". Ён адчуў кроплі поту на сваім твары.

„А можа ён мяне так на цыгундар бярэ, каб пасьля расказаць дзе трэба? А можа ён хоча цяпер выслужыцца? Мала такіх? А каб недалёка шукаць... (Крушынскі успомніў самога сябе ў такіх ролях). „Не! гэтаму чалавеку магу верыць"!—упэўніўся ён, нутром адчуў.

Тым часам „маршалак" разгортваў свае думкі, як трубку палатна:

— Я так кажу, на ўсялякі выпадак, але пакуль што вайна можа і ня будзе. Калі так далей пойдзе з пасёлкамі і хутарамі, дык трывожыцца няма чаго, а некалі яна вырвецца ўсё-ж гэта вайна.

На блізкай асіне над самой галавою нешта лёгка стукнула, нібы маленькім малатком. Абодвы задрыжэлі. Паднялі ўгару галовы: дзяцел. Закурылі і на некалькі хвілін спынілі гутарку.

З заходняга боку неба плыла маленькая, пухлая, з ружовымі беражжкамі, і кволае, як ягнё, хмарынка. Блізка была яна ад лесу. Здавалася, вось-вось упадзе.

— Тут, здаецца, комуна недзе блізка?—запытаўся „маршалак“.

У гэту хвіліну Крушынскі падумаў, што можа дзеля гэтай гутаркі знакаміты госьць сюды прыехаў і апошняе запытаньне самае галоўнае. Ёд паглядзеў сабе пад ногі і сказаў:

— Так, комуна. І каморніцкія ножніцы добра працуюць. На маё шчасьце я ня зусім блізкі сусед гэтай комуны, а то як толькі прыбавіцца комунар, зараз-жа чык кавалак зямлі ў нашага брата-хутараніна.

— Вось тут і магіла для вашага брата. Калі так пойдзе далей, ад вашага брата нават рожкі ды ножкі не застануцца. Праўду я кажу?—панастаўніцку запытаўся „маршалак“.

— Ясна.

— Дык вось трэба старацца, каб людзі баяліся комуны, як чумы. Як гэта рабіць? То там коні дохнуць, то гумно гарыць, то... ды самі ня лыкам шыты. Бо інакш і каля вас наладзіцца комуна. Вы свой чалавек, і я вам кажу шчыра, што думаю. Організавацца трэба, вось што. Даць ім па лапах! Так у іншых мясцох і робіцца.

Крушынскі задумаўся. Яго твар зрабіўся сумным і ўстрывожаным. „Так яно і робіцца ў нас, але няма сыстэмы ў працы, няма організацыі“.

Думку ўголас паўтарыў:

— Робіцца гэта ў нас, але кожны сам па сабе.

— Трэба організавана рабіць.

Горача і не па сабе стала Крушынскаму.

— Там госьці чакаюць, можа пойдзем туды?—прапанаваў ён.

— Нічога, пачакаюць.— „Маршалак“ кіўнуў пальцам.—Толькі памятайце... Наша гутарка...

— Магіла... —шапнуў Крушынскі. —Эх, дзядзенька, ня ведаеце, што я ўжо рабіў на сваім вяку.

— Ведаю... Інакш я-б так з вамі не гаварыў. Я з вашымі стрыечнымі—свае людзі.

— Дзеля гэтай гутаркі гэты дзядзя сюды і прыехаў,—упэўніўся цяпер Крушынскі.

А тым часам госьць яму гаварыў урачыстым тонам прысягі:

— Памятайце, што наша бацькаўшчына трымаецца на такіх людзях, як вы! Кожны з вас—пазыцыя! Кожны з вас—фронт!

Дзяцел рупна длубаў асіну.

Калі яны вярнуліся назад, ля вываратня ўжо гасьцей ня было. Гасьцей яны знайшлі ў салёне. Хтосьці трымкаў на старым сапсутным музычным інструмэнце. Ня было толькі „чалавека бяз знакаў прыпынку“.

— А дзе профэсар?—запытаўся „маршалак“.

— Пайшоў курганы аглядаць,—сказала пані Мар'я.—Каб хаця не спазьніўся. Нам хутка ехаць трэба.

— Паедзем, як добра сьцямнее,—сказаў „маршалак“.

Крушынскі паглядзеў на яго са шчырай пашанай і падумаў:

— Мазгавіты чалавек. Я сам хацеў прапанаваць (пасьля такой гутаркі), каб паехалі, як добра сьцямнее. А то лішнія вочы, лішнія языкі, лішнія...

---

— Люблю адзіноту і містыку,—сказаў „чалавек бяз знакаў прыпынку“. —Нашыя продкі ў курганах шуму ня любяць. Сам туды пайду.

А пайшоў ён не да кurganоў, а воддаль у лес. Хацелася пабыць сам-на-сам якраз у такой мясьціне, якая шмат аб чым напамінае

— І Майсей самотна брыў па пустэчы на развагі і гутаркі з богам,—кінуў яму ўздагон „прэм'ер“.

Гэты жарт спазьніўся на часьцінку хвіліны і не дайшоў да вушэй чалавека бяз знакаў прыпынку.

Хутка ён апынуўся ў сухім хвойніку. Пні—шэрагам, нібы прысады, стромкія, роўныя. Прайшоў далей маленькай пасекай. Заласкатала ў ноздрах прэлай вільгацьцю і апенкамі. Упяршыню ступае па гэтай глухой мясьціне. Да жудасьці прыемна. Дэкарацыя з „Зялёнага дуба“. Любіць новыя мясьціны—аднолькава і шум гарадоў і шум лесу.

Яшчэ хлапчуком такім быў, калі з роднага фальварку на Меншчыне паехаў у Менск, у гімназію, потым у Маскоўскі унівэрсытэт, потым у Вільню, дзе быў дырэктарам гімназіі, а пасьля—вайна, афіцэрскія пагоны. Рэволюцыя. Румынскі фронт. Організацыя там-жа беларускіх часьцей. Саноўныя залатапагонныя і аксэльбантавыя начальнікі: генэрал-маёр Пажарскі, генэрал от-інфантэрыі Шчарбачоў, розныя Чухніны, Манцэвічы і г. д. Пасьля—Пятлюра, Скарападзкі ды іншыя: галерэя пышных герояў недалёкага мінулага. А пасьля — чорны парадны палітычны сурдут.

— Ой, гэты сурдут...

Па якіх калідорах ён ня цёрся, дзе ён не пабыў...

Поэма, а ня сурдут.

Лятуценьне, а ня сурдут.

А за сурдутам у грудзёх, якія пачуцьці, які гонар, якая дастойнасьць... Жартачкі, сурдут прадстаўляў сабою беларускі народ у абхопе ўсёй яго шырачэзнай энтографічнай глеба-лясістасьці, пянькова-жывёлiннай сыравіннасьці...

Ой, гэты сурдут...

А барада?

Чорна-дыплёматычная, пасольская, паважная, ледзь падстрыжаная.

Сурдут і барада ня мала павандравалі па Эўропе. Сурдут пакамечыўся, паліняў. У бараду ўпляліся пасмы мужнай сівізны

У багатым фільме ўспамінаў: славянская Скарыненская Прага, строгі Бісмаркаўскі Бэрлін, добрапамятная паводле мірнага дагавору Рыга, гульлівы вялікасьвецкі Парыж, сонечны, руіністы, аздоблены Тыбрам, помнікамі і цэзарскімі легендамі Рым. І яшчэ, і яшчэ... Колькі рэк, колькі мораў! „Чалавек бяз знакаў прыпынку“ ведаў усё гэта яшчэ са школьных падручнікаў. Кожны куток Эўропы выпукляе ў яго ўспамінах лялечныя фігуркі яго настаўнікаў. Вось калі прыгадзіліся.

Эўропа...

І лезуць,—ці то няпрошаныя, ці прошаныя,—у палітычныя калідоры Эўропы залётныя птушкі: Беларуская народная рэспубліка, важныя сакрэтныя місіі, дзяржаўныя справы...

Географія на практыцы.

Сурдут, барада, калідоры, перакладчыкі—усё гэта радкі аднэй і тэй самай граматы да беларускага народу і ад „беларускага народу“ да міленькай цётухны Эўропы. Прадстаўніком—сурдут і барада чалавека бяз знакаў прыпынку ды іншых такіх чалавекаў.

„Вайс“, „блянк“, „рус“ „рутэйн“—беларусы, белыя русы?

Белыя?

Не. Народ такі...

Такое крывічанскае племя, але ў палітычным значэньні—белыя.

Мэмарандумы, у якіх трохі этнографіі, трохі гісторыі, цяга да культурнай Эўропы і, галоўнае, экономіка—дапамога і тавараабмен; лён, пянька і гэтак далей.

Ратуйце ад бальшавікоў!—шчырая просьба, сьлёзная прозьба.

Анэкдотычна блыталі справу перакладчыкі-белагвардзейцы. Усьмешачкі, дыплёматычныя вялікасьвецкія далікатныя ўсьмешачкі

— Чаго вам хочацца, панове?

— Мы—урад беларускай народнай рэспублікі. (Паўтарэньне ўсяго ранейшага). Прыпеў:

„Ратуйце ад бальшавікоў“...

Сурдут і барада плылі ў арамaтных хвалях зычна-барвістых букетаў готэляў, рэсторанаў, кафэ, фокстротаў, джазбандаў. балярын і красунь з эўропейскіх шумліва- пярэстых панэляў.

„Ратуйце ад бальшавікоў“...

Дыплёматычныя пашпарты. Па чыгуначных рэйках імчаліся суматошныя экспрэсы. Барада і сурдут ля вакна купэ. Назад, назад па-вар'яцку мігцяцца пэйзажы. Ляндшафты мяняюцца, фабрычныя корпусы шпілямі комінаў і дымам у жудасную вышыню. Усё імчыцца і гойдаецца на гойдаўках-рэсорах Эўропы. Перарэжа экспрэс адну мяжу эўропейскай дзяржавы, другую. Праверка пашпартаў, жар-птушкамі мяняюцца валюты. А яна, валюта, у барады і сурдута, авох-ці-мне, якая шчупленькая...

„Ратуйце ад бальшавікоў“..

Нарэшце—зноў валюта. І ў тым і бяда, што тая як тая незалежная, сплыла і няма яе...

Уздыхаюць валасатыя грудзі пад парадным сурдутам. У чорнай барадзе сівымі герогліфамі ўпісан політычны стаж Лапоўскага:

„Ратуйце“...

Тут ужо не ад бальшавікоў, але ад голаду і холаду Эўропы. Ніхто там больш валюты не дае. Кончылася байка аб незалежнасьці. Апошні акт аб роспуску „ўраду“. Заход Эўропы—па Шпэнглеру.

Апошні акт.

Не...

Мы яшчэ пабачым...

Мы яшчэ па...

Але...

Атрос Лапоўскі (і Лапоўскія) пыл гульліва—... Эўропы з лякіровак сваіх і... сурдут пакамечаны, барада пакамечана, і без перакладчыкаў пайшоў у савецкае консульства.

Грахі?

Так. Былі

Цяпер?

Толькі пролетарыят. Ратуйце...

Паверылі. Патрэбны спэцы. Патрэбны працаўнікі. Патрэбны людзі.

Вярнуўся. Назваў сябе блудным сынам. Далі працу.

Прытулілі.

Далі годнасьць профэсара.

Політычны лексыкон разгубіў-расьсеяў па шырокіх шляхох. Самы экстракт політычнага лексыкону ілам і глеем сьценкі сардэчных кляпанаў абхапіў, нібы панцыр.

Для віду:

Чалавек бяз знакаў прыпынку.

Знакі прыпынку, нібы бісарныя камары, рассыпаліся пакуль што па той бок слоўных барыкад. У монолёгах Лапоўскага няма стрыжня, няма шкілету, няма знакаў прыпынку. Монолёгі ўюцца доўгамэтравым солітэрам. Сьцёрты нейкай разінкай знакі прыпынку.

Але ў часе патрэбы...

Пакуль што трэба зьвіцца па-мудраму, як тая біблейная жывёліна, што Эву спакусіла.

А тады?

Вернем беларускаму народу тое, што яму належыць спакон вякоў, і дзядоўскі фальварак...

І вось лес у Курганішчы. Лес—дэкорацыя для „Зялёнага дуба“ новай формацыі.

Чырвонымі матылямі пляміцца лісьцё клёнаў і дубоў. Ня то восень, ня то лета. А сонца такое лагоднае... І на хвілінку, толькі на частку хвілінкі, чалавеку бяз знакаў прыпынку здаецца, што

нічога тут ня здарылася. Усе так, як было даўней, да рэволюцыі, да імпэрыялістычнай вайны, да... калі вякі аднолькавымі пластамі лялеялі родную глебу.

Толькі адзін мігатлівы міг.

А якія бураломы тут прагульваліся! Якія навальніцы з грымотамі!

Зноў спакойна ў краіне, як у гэтым лесе. Толькі здаецца, што спакойна. Трывожыць такі „спакой“. І хочацца Лапоўскаму выклікаць з фальшывай застыласьці новую буру. І хочацца Лапоўскаму, каб руль павярнуўся ў адваротны шлях гадоў... І хочацца Лапоўскаму...

Ен успомніў раптам прыпеўку „прэм'ера“:

„Яшчэ шмат крыві пральлецца“.

Ці лёгка будзе пакруціць такое жудасна-агромністае калясо ў другі бок? Ці сьцерпіш у ціхім чаканьні? Ці ўдасца?

А ён—чалавек бяз знакаў прыпынку—вярнуўся сюды паранейшую шапку і па ранейшыя рукавіцы. Яшчэ ня страчана надзея зрабіцца Напалеонам, яшчэ ня страчана надзея растаўляць у сваіх монолёгах такія знакі прыпынку, ад якіх зазьвініць стальлю, ад якіх за...

Пад яго нагамі ўслужліва сьцелецца пухкі мох. Над яго галавою лес і неба. У небе заблудзілася адна хмарынка, з ружовымі беражкамі, кволая, нібы ягнё.

...Лёгіка падзеяў кіруе і без мяне туды, куды хачу. Бальшавікі перараджаюцца. Адна маленькая дапамога, адзін маленькі націск на пэдаль—і ўсё пойдзе, як па масьле. (Вось ужо гавораць аб навуковай конфэрэнцыі, на якую прыедуць у Менск „нашыя“ з усіх тых мясьцін, дзе сівела яго барада і дзе камечыўся яго сурдут і дзе ён на пэўны час замарозіў, нібы чорных кусьлівых скочак, свае знакі прыпынку.) Усё ідзе добра.. Аграрная справа... Родная культура...

Вось дзе знакі прыпынку...

Нібы ружовыя шчылінкі праз пальцы, праз высокі паркан нязьлічаных барын прасьвечваецца дарога. Жоўты пяшчаны тракт. На тракце ня то мужчына, ня то жанчына, шэрая доўгая вопратка.

— Гэта-ж мужчына...—капялюх... шапнуў Лапоўскі.—Поп.

І адтаго, што поп, стала цяплей у грудзёх.

— Яшчэ ня вывеліся... А там гаварылі, што духавенства ў загоне, вешаюць, страляюць.

І ад таго, што поп, стала лягчэй на сэрцы.

І не ад таго, што поп, але адтаго што хрысьціянскі шаман надае лесу і дарозе адценьне ранейшага, калі... калі Лапоўскі быў яшчэ гаспадаром свайго фальварку...

Лапоўскі пільна прыглядаецца. З хвоі ўпала шышка. Ён уздрыгануўся. Поп падышоў бліжэй. Усё больш ярка выпукляецца яго твар, усё больш ярка вызначаюцца дэталі твару.

А вось...

— Такая знаёмая хада... Такія знаёмыя вочы...

Лапоўскі азірнуўся па бакох.

Апрача папа, нікога ня відаць.

Лапоўскі вышаў насустрэч.

У самы твар папа з дзівам, з захапленьнем, са свойскім усхліпам.

— Зьмітры Апанасавіч!

Айцец Дзьмітры (гэта быў ён) паглядзеў на Лапоўскага, адскочыў назад, насунуўся мядзьведзем на яго і войкнуў:

— Льля-во-он Максімавіч!

Адзін аднаму плюхнуліся на шыю.

— Пойдзем у лес. Тут не выпадае.

— Але, але.

Пайшлі ў лес, у павець з хвояў. У абдымку пайшлі брысьці па пухкай падатлівай коўдры імху.

Пашаптушачкі, успаміны, сантымэнты. Адны здным запоўнілі пропускі аўтобіографіі.

Дабраліся да бярозавага гайка. На бярозах, нібы садавіны, ірдзеліся пажоўклыя сухія лісты. Была цішыня. А каб падзьмуў хоць малейшы ветрык, ён, нібы садоўнік яблыні, трос-бы белагрудыя зьдзіўленыя бярозы, і з іх сыпаліся-б дзівацкімі садавінамі паіржавелыя і скурчаныя бляшкі лістоў.

---

# 16

## Выратавалі гаспадарку

ПАСТАНОВА аб пасёлках адбылася тэй зімою і ў Драздоў і Дзятлаў. На вясну ў Гайдачанскім сельсавеце пачалася завіруха: каморнікі, перавозка маёмасьці, перарэзка зямлі, лес, будаваньне на новых мясцох, пры гэтым сваркі між сялян за лепшую зямлю, за лес ды іншае.

Антось Драчык выканаў сваё слова: пашоў у комуну „Чырвоны Кастрычнік". Зьмітрок зацікавіўся пасёлкамі і падаўся туды.

---

Адразу, пасьля пастановы аб пераходзе гайдачан на пасёлкі, сяляне разышліся па хатах. Марцінава хата, у якой адбыўся сход, здавалася пасьля сходу прасторнай, як ніколі.

Было так накурана, што прышлося адчыніць дзьверы ня гледзячы на мароз. Марцініха выцірала адразу падлогу на якой стаялі лужыны ад сьнегу, нанесенага лапцямі гайдачан.

Марцін Тумілоўскі, бацька Хвёдара, пахмурнеў. Ён разуўся з такой уважлівасьцю, нібы зьбіраўся праверыць, колькі пальцаў у яго на нагах.

Пасьля шуму і галасу на сходзе ў хаце стала ціха. Марцінава сям'я адпачывала ў цішыні, усе маўчалі.

Гаспадар узьлез на печ і зьвесіў ногі ўніз. У яго вачох была такая рашучасьць і пагрозьлівасьць, як бы ён зьбіраўся зараз зарэзаць чалавека. Ён хмурыў чарнявыя бровы і шукаў месца куды ўтаропіць для самотнага раздум'я свой цяжкі, як жалезныя гіры, позірк. Супроць яго босых ног, з якіх даўно адлупіўся закарэлы летні гной, стаялі на падлозе яго скураныя атопкі. Яны былі пастаўлены так, каб, саскочыўшы з печы, можна было адразу трапіць у іх нагамі.

Марцін—кароткі шырокі ў плячох, з моцнымі рукамі і нагамі, з вялікай круглай, як гарбуз, галавой,—здаваўся каменным, цяжкім. Вось расьціснне печ. Пад яго цяжарам яна раздасца, развеліцца на цэгліны. Селянін сядзеў нярухома. Яго цёмныя вочы ўпёрліся ў новы хамут, які вісеў на сьцяне.

Хатнія не чапалі Марціна. Між сабою гаварылі шэптам, нібы ў хаце знаходзіцца вельмі хворы чалавек. Нават Хвёдар, які заўсёды любіў пашумець, стараўся на гэты раз быць няпрыкметным.

Дзьве рэчы лезьлі неадчэпна ў мазгі старога, супакою не давалі. Часта ён мармытаў назвы гэтых рэчаў:

— Гной...

— Вясельле...

Надварэ пасьля адлігі пачалася завея. Сьнег пытлюецца за вокнамі, круціцца шархаюцца каля сьцен. Маленькая лямпачка на стале кружыць вакол сябе сьветла-жоўты круг.

Хатнія кладуцца спаць, а Марцін усё сядзіць на печы. Ён абдумвае свае новыя гаспадарчыя пляны ў сувязі з пераходам на пасёлкі.

У запечку скрабуцца мышы. Сьнег на дварэ туліцца да сьцен, засыпае вокны. Вецер ледзь-ледзь у коміне завывае

— Гной...

— Вясельле...

Хатнія ляжаць на ложках. Ня сьпяць. Ніхто лямпы ня тушыць, бо гаспадар яшчэ ня думае спаць, хаця позна ўжо.

Здаецца на першы погляд, што гной і вясельле ніякага дачыненьня ня маюць да пераходу на пасёлкі. Хатнія, якія чуюць гэтыя словы з вуснаў гаспадара кожныя дзьве-тры хвіліны, ня могуць здагадацца, да чаго ён іх устаўляе ў сваю маўклівасьць, нібы тычкі ў пустое поле.

Марцін сьвідруе цяжкім позіркам хамут на супроцьлеглай сьцяне.

З самых маладых год Марцін вельмі шануе гной. Ён часта паўтарае свае спрактыкаваныя агранамічныя веды—калі добра ўгнойваць зямлю, яна дае добры ўраджай; для зямлі гной—тое самае, што хлеб для чалавека, авёс для каня.
Ён гэта гаворыць кожны раз з такім захапленьнем, нібы толькі што сам вынайшоў гэты спосаб палепшаньня ўраджаю. На зямлю ён глядзіць, як на жывую істоту, і шануе яе харч—гной. Вельмі рупліва ён заўсёды запасіць гной у хляве, зьбірае яго на дзядзінцы, на вуліцы, на выгане і кошыкамі у хлеў носіць... Суседзі з яго сьмяюцца, а ён увагі не зьвяртае.

Калі вясною ці ўвосені Марцін выходзіць на рунь, дык заўсёды яго палоскі вызначаюцца, гусьцейшыя і вышэйшыя, чымся ў суседзяў.

Ен тады гаворыць толькі адно слова, укладае ў гэтае слова вялікі сэнс:

— Гной!

Глядзіць пераможцам на суседнія шнуры.

Не варухнецца цяпер Марцін на печы. Перад сабою нічога ня бачыць. Ня чуе, як за сьценамі хаты гуляе завея, кідае сьнегам у сінія шыбы вакенцаў, дзьме ў комін, сьвішча. Лямпа міргае на стале жоўтым вокам.

— Камусьці чужому пакіну ўгноенае поле, думае Марцін.— Як на ліха ўвосень увесь гной вычысьціў з хлява. Каб ведаў, дык два гады падрад зьбіраў-бы ў хляве... Чорту лысаму застанецца...

Адчуваў Марцін, як сэрца ў яго баліць.

— Шкада...

Баліць сэрца, нібы хто сьціснуў яго моцнымі пальцамі і трымае...

Другі Марціну клопат:

— Яшчэ да службы ў Чырвонай арміі круціўся мой Хвёдар з Язэпавай Марыляй. Ходзіць, ходзіць да яе, дыбае, як бусел, а толку мала. Цьфу! А дзеўка гаспадарная ды з твару гладкая.

Ні ён—Марцін, ні Язэп—бацька Марылі, нічога супроць гэтых залётаў ня маюць. А вось чакаюць...

Чакаюць год, другі, трэці. Хвёдар ходзіць да Марылі, на вечарынках заўсёды разам, часта шэпчуцца то каля Язэпавых, то каля Марцінавых варот, а толку ніякага.

Можа што колечы і вышла-б у іх, але ёсьць тут адна закавычка.

Хвёдар ня прызнае папоўскага шлюбу. Бацькі Марылі не прызнаюць бясшлюбнага вясельля. Марыля не пабаялася-б і бяз шлюбу пабрацца з Хвёдарам, але ня хоча астацца без пасагу. Яе бацька ня раз гаварыў, што пасагу ня дасьць, калі не пажэняцца „па-людзку“. Ня будзе яна мець тады ні кароўкі, ні парсючкоў, ні таго-сяго... Хвёдар і на гэта пашоў-бы. Часта ён гаварыў Марылі:

—Паедзем у горад. Дастану працу і будзем жыць.

— Баюся гораду. Ты мяне кінеш у горадзе,—кожны раз адказвала Марыля.

Цягнецца час доўгаю істужкаю для Хвёдара і Марылі, а на гэтай істужцы ўсё адно і тое самае напісана!

Адбедаваў Марцін на печы свой гной, які ўсё роўна назад з поля ня зьбярэ, каб забраць з сабою на пасёлак.

Але вось другая бяда—вясельле Хвёдара.

Вельмі непакоіць старога і гэта справа. Зьлез Марцін з печы, крэхчучы і стогнучы, затушыў лямпу і лёг спаць.

Ён заснуў з пэўнай думкай:

— Маё возьме!

Яшчэ ў сьне ён крахтаў і стагнаў, але ўжо ад прыемнасьці нібы пад бярозавым распараным венікам у лазьні.

— Маё возьме!

На яго губах, абкружаных цёмнай шчэцьцю валасоў барады і вусоў, прытаілася злодзеем задаволеная ўсьмешка, нібы вось зараз ён прачнецца і скажа:

— Маё возьме!

Завея гуляла ўсю ноч.

Марцін рана падняўся з ложку, вышаў з лапатай на двор, каб вызваліць ад сьнегу дзьверы і вокны і раскапаць сьцёжку да хлявоў, да гумна і да вуліцы. Да поту працаваў. Пасьля

такой працы пасьнедаў, насунуў на ногі сьвяточныя боты, апрануўся ў жоўты кажух і вышаў з хаты...

— Куды яго панесла?—запыталася Марцініха ў Хвёдара.

Хвёдар моўчкі паціснуў плячыма.

Марцін ішоў па гайдачанскай вуліцы цьвёрдым крокам чалавека ўпэўненага ў сваёй перамозе. Трымаў галаву роўна перад сабой і не аглядаўся па боках.

За ноч навярнула на ўсю вуліцу адну вялізную гурбу сьнегу. Трэба было выбіраць каля сьцен, каля платоў, але Марцін не зьвяртаў увагі. Месцамі ён па калені ў сьнег увальваўся, але выратоўвалі доўгія халявы яго новых ботаў. А вось вуліца павярнула ў другі бок, дзе ня было сьнегу.

Супроць хаты Антося Драчыка ён незнарок стукнуўся лоб у лоб з „Львом Талстым“. На далікатную заўвагу старога „тоісь, як гэта?“ ён нават не адказаў.

Адна думка сьляпіла яму вочы і надавала бадзёрасьці:

— Маё возьме!

Язэп—дзьдзька з рыжай барадой і ружовым гладкім тварам—угледзеў яго яшчэ з вакна, сустрэў ля самых дзьвярэй.

— Сваток?

— Сваток.

Ужо некалькі год яны называюць адзін аднаго сватамі.

Язэп прыемна сажмурыў вочы, нібы не на Марціна глядзіць, а на яснае сонейка і запытаўся:

З якою навіною?

З такою, што нам трэба найхутчэй скончыць гэту справу—вясельле.

Марцін яшчэ не адсопся ад хады па глыбокім сьнезе.

Голас яго выклікаў трывогу ў Язэпа.

— Што здарылася?—спалохаўся Язэп.—Можа твой Хвёдар ужо...

Ён не дакончыў і строга зірнуў на сваю дачку Марылю, якая мыла гаршкі каля печы.

— Не,—засьмяяўся Марцін.— Мой Хвёдар не з такіх.

— І мая Марыля не з такіх.

— Але як найхутчэй трэба ладзіць вясельле.

Пры гэтым Марцін махнуў рукою, нібы адганяў ад сябе надакучлівых мух.

— Уламаў сына на людзкі шлюб.

— Не, дзе там! Але ўсёроўна трэба...

Язэп спахмурнеў. Раней зажмураныя вочы расплюшчыліся. Сіняватая сталь заблішчэла ў іх.

— Значыцца, нічога ня будзе, калі так. Пачакаем, сваток. Ведаеш, я сказаў: і аман, як адрэзана!

— Будзе!—зароў басам Марцін.—Яшчэ як будзе.

Ен з упэўненасьцю палажыў цьвёрдую руку на Язэпава плячо.
— Ніколі за бязбожніка дачкі сваёй не аддам! Ніколі!
Пры гэтым Язэп ківаў галавой направа і налева ў знак пацьверджаньня сваіх слоў.

Марцін, адчуваючы сваю перамогу, якую зараз будзе мець, захіхікаў тоненькім хітрым сьмяшком, адразу стрымаў свой сьмех, зрабіўся сур'ёзным і давай тлумачыць:

— Кінь, сваток, бязбожніцтва і божніцтва! Ад гною большая карысьць, павер ты мне. Калі яны, маладыя значыць, цяпер не запішуцца, дык можа прапасьці цэлая гаспадарка. Я тады скажу, сваток, што ты зьнішчыў, спаліў гаспадарку. Мае словы шчырай праўдай будуць. Вось што!

Язэп адскочыў на крок назад і вылупіў на свата зьдзіўленыя вочы.

Як гэта гаспадарка?

— А так, гаспадарка...

Чорныя вочы Марціна і сінія вочы Язэпа перапляліся рознакаляровымі агнямі зьдзіўленьня і многазначнасьці.

— Як гэта?
— А так...
— Нічога не разумею!
— Зразумееш!
...Жартачкі—гаспадарка...—думаў Язэп.
— Ого гаспадарка...—меркаваў Марцін.

Зараз-жа бязбожніцтва і божніцтва адплылі кудысьці далёка ад іхняга ўяўленьня, як-бы ніколі сваты ня чулі царкоўнага звону, ніколі ня бачылі айца Дзімітрыя, які ня так, як усе папы, свае казаньні гаварыў.

Думкі сватоў былі вельмі падобныя адны да адных.

„Прападзе гаспадарка“

Якая? Дзе? Якім чынам?

Гэта ўжо ня так важна. А гаспадарка гэта—хата, хлявы, пуня, гумно агароды, жывёла, поле...

Сэрца Язэпа забалела.

...Што за загадка?

Непакоіўся, рабіў сумны выгляд і Марцін. Яго трывога была робленая, каб падбухторыць Язэпа. Ён добра ведае, што гаспадарка не прападзе. Зараз вытлумачыць Язэпу.

Водгаласкам на яго думкі Язэп сказаў:
— Дык растлумач, сваток, у чым справа?
— Справа простая. Пераходзім на пасёлкі?
— Пераходзім.
— На кожную сям'ю даюць надзел зямлі?
Даюць.
У мяне цяпер адна сям'я разам з Хвёдарам?

— Адна.

— А калі Хвёдар ажэніцца, будуць дзьве сям'і, і на яго дадуць надзел зямлі. Зразумеў?

— Зразумеў...

Язэп церабіў бараду, і вочы яго зрабіліся такімі вінаватымі, нібы ён сапраўды хацеў разбурыць гаспадарку.

Марцін глядзеў на яго хітрымі вачыма і хіхікаў, і ў яго словах адчуваўся лагодны сьмяшок.

Ну, сваток, што па-твойму важней—гаспадарка, ці шлюб у цар...

Язэп ня даў яму скончыць. Сажмурыў вочы і кінуў у хату загад:

— Хутчэй да Сымона па самагонку!

---

17

## Пад Крушынскага

ПРАЗ тыдзень пасьля гэтай гутаркі адгулялі Хвёдарава вясельле без папа.

Улетку Хвёдар ужо меў у пасёлку новую хату, хлеў, гумно, жывёлу і розныя прылады для гаспадаркі.

Ранейшая хлапцоўская вёрткасьць Хвёдара мінула. Ён агаспадарыўся і з выгляду. Тыднямі не галіўся. „Часу няма",—тлумачыў ён суседзям. Рухі яго зрабіліся павольнымі, зьмеранымі, узьвешанымі. Адчувалася, што калі ідзе куды на дзядзінец, ці ў хаце ад кута да кута, дык ня так сабе, а каб нешта рабіць, нешта паглядзець, ці ляжыць або стаіць на месцы. Ужо калі ступіць дзе, дык пакіне сьлед—патрэбны, карысны для сваёй гаспадаркі. Бровы яго заўсёды цяпер насупленыя, вочы накіраваны ў адзін пункт і нібы прыглядаюцца да тых відовішч, якія Хвёдар малюе ў сваіх думках. Нават голас яго зьмяніўся, пасталеў: няма лішніх неабмеркаваных выкрыкаў. Словы льлюцца павольна, тоненькім шнурком, нібы праводзіцца роўненькая, але глыбокая баразна. Ня кідае Хвёдар слоў на вецер. Кожнае слова выпешчана, вынашана ў думках; выцягвае Хвёдар яго, нібы па кропельцы мёду з поўных сотаў.

Калі гаварыў з кім-небудзь, дык стараўся абдумваць, абмяркоўваць і адшліфоўваць кожнае слова, каб яно было вострым і гладкім, багатым па сэнсу. Дзеля гэтага паміж словамі заўсёды ён рабіў маленькія перапынкі, замаскаваныя клейкім і расьцягненым, гмыканьнем; гмыканьне прышчапілася да яго гутаркі, стала патрэбным, як восі да колаў.

Спачатку ён выгмыкваў такія думкі:

— Г-м м. Такі закон. Трэба навучыцца гаспадарыць пакультурнаму... Г-м-м. Пасьля, як навучымся, пяройдзем на колектыўныя формы гаспадаркі. Г-м-м. І агроном гаварыў: „пераходная ступень да колгасу"... Г-м-м...

Гэта ён аратарстваў перад суседзямі-пасялкоўцамі, якія ведалі яго зусім інакшым у працягу ледзь ня году пасьля яго звароту з Чырвонай арміі.

Калі-ні-калі наведваліся да Хвёдара яго былыя сябры—Зьмітрок і Антось Драчык. Зьмітрок жыў у другім пасёлку, а Драчык—у камуне. Яны часта між сабою сустракаліся і разам прыходзілі да Хвёдара.

— Глядзі, Хвёдар, каб ты тут гаспадарчай шэрсьцю не абрастаў і каб твая псіхалёгія, як кажа „Леў Талстой", не зьмянілася,—гаварыў яму Зьмітрок.

—Г-м-м... ня зьменіцца,—супакойваў Хвёдар.

— А ты пра колгас трубіш людзям у вушы, культурнай справай займаешся?—дапытваўся Драчык.—Люблю шчырасьць, мабыць, сьпіш у шапку.

— Г-м-м... дайце, браткі, людзям ачухацца. Яшчэ новыя гаспадаркі ў пасёлку як мае быць не наладжаны, а ўжо культура, колгас. Г-м-м... Што-ж гэта за скокі такія? Ведаеце, што працаваць на зямлі не гімнастычныя фокусы, а поўная напружаная праца. Г-м-м... Ды я-ж таксама, ведаеце, сам адзін. Няма калі разгульваць. Ня тое, што раней, калі пры бацьку жыў. Усё-ж такі я думаю аб культуры. Г-м-м. Часам агроном сюды прыяжджае раіць, як і што рабіць. Толькі я не чакаю яго. Купляю сам сельскагаспадарчыя кніжкі ды стараюся пакуль што хоць у сябе наводзіць культуру. Пабачаць людзі мае ўраджаі—вось і будзе агітацыя!

Новая хата Хвёдара пахне сьвежай смалою. Вокны вялікія: шмат сонца, шмат сьвятла. Па сьценах граюць сонечныя зайчыкі. У хаце ўсё новае і бліскучае. На стале ў кутку каля сьцяны купка кніжак, газэт. Яго жонка, Марыля, ня вельмі гаворкая, але гаспадыня вет-ая, з усьмешкай на ружовым твары. Валасы яе золатам адліваюць, і здаецца, што і ад яе пахне сасновай смалою. Яна цяжарная. Асьцярожна ступае па жоўтай новай падлозе. Ленасьць і дрымотнасьць у яе хадзе.

Задаволена глядзіць муж на жонку. Нібы пасьля буры ў моры дабраўся да ціхай прыстані. Вось угледзеў, што абрус ня роўна ляжыць на стале—паправіў. На падлозе газэта—падняў, злажыў акуратненька і на месца.

Госьці, Зьмітрок і Драчык, пераміргваюцца.

Прынес Хвёдар з сенцаў пляшку гарэлкі. Жонка падала к сталу сыр, масла, сала, хлеба, белую булку.

— Ого!—зьдзівіўся Зьмітрок.

— Люблю шчырасьць, гэта лішняе!—сказаў Драчык.

— Г-м-м...—усьміхнуўся Хвёдар,—вы-ж у мяне самыя найлепшыя таварышы і госьці. Чаму трохі не пабалавацца?

Селі за стол.

Няма жывой шчырай гутаркі паміж старымі таварышамі. Нібы малазнаёмыя людзі сустрэліся. Зьмітрок глядзіць на новую печ. Драчык утаропіў вочы перад сабою на дзьверы.

Здаецца, што яшчэ кагосьці чакаюць, які павінен увайсьці ў хату, тады толькі пачнецца самае шчырае, цікавае і прыемнае.

Гаспадыня ставіць пачастункі на стол, працяжна і голасна ўздыхае. Хвёдар кладзе гасьцям па відэльцу і нажу, расстаўляе талеркі, чаркі, налівае гарэлкі.

Усё гэта робіцца моўчкі—як-бы ў хаце нехта сьпіць, якога будзіць нельга.

— Г-м-м... калі ласка, таварышы, сілкуйцеся! Г-м-м...—просіць Хвёдар.

— Проша...—кажа гаспадыня.

— Што-ж гэта ў цябе, Хвёдар, за новая прывычка зьявілася? Пры кожным слове гмыкаеш,—заўважыў Зьмітрок.

Хвёдар пачырванеў.

— Вось прычапілася, г-м-м... нейкая дурная прывычка...

— Гэта ад розных думак на гаспадарцы. Глядзі, Хвёдар, каб праз меру уласная гаспадарка цябе не захапіла. Люблю шчырасьць, ты забываешся аб грамадзкай працы.

— Г-м-м... А ну яе к ліху, зноў загмыкаў,—сьмяецца Хвёдар. Выпіце, браткі, і закусіце. Будзьце пэўны, што застануся такім, якім быў раней, толькі дайце агледзецца. Г-м-м...

Ня клеілася ў іх гутарка. Гарэлка і закуска не памаглі. Моўчкі елі і пілі. Часта спыняліся, забываліся пра яду.

Зьмітрок глядз ў у новую сьцяну сумным позіркам.

Драчык зазіраў Хвёдару ў глыбіню вачэй, нібы нешта вычытваць там хацеў.

Хвёдар адварочваецца. Яму няпрыемна.

Праз адчыненыя вокны крадзецца ў хату ціхі летні поўдзень. Дзынкаюць пчолы. Два каляровыя матылькі ўляцелі праз вакно і замільгалі над сталом. На вуліцы на сонцапёку капаюцца ў пяску дзеці. Сьмяюцца. А вось сварыцца паміж сабою пачалі. Пачуўся дзіцячы плач, працяжны, жаласлівы, гучны.

Усе зірнулі ў вакно.

— Г-м-м... Глупства,—кажа Хвёдар,—пасварыліся, паміраццa. Піце, браткі, ежце!

Ён стараецца заглушыць няпрыемнасьць, якая пануе ў хаце.

— Дзякуем,—кажа Зьмітрок.—Чаму да мяне ня прыдзеш?

— Усё, г-м-м... няма калі...

— А колькі разоў прасіў цябе паглядзець наш „Чырвоны Кастрычнік“. Люблю шчырасьць, цікавіцца перастаў нашай камунай. Стары „Леў Талстой“ і то часта наведваецца.

— Пасьпею, дайце агледзецца!—з хваляваньнем у голасе адказвае Хвёдар.

Падняўся з зэдліка і давай спацыраваць па хаце туды і сюды. У гэтыя хвіліны Хвёдар зноў як-бы стаў ранейшым (да наладжваньня уласнае гаспадаркі): рухлівым, гарачым, вёрткім, шчырым і натуральным. Ранейшы голас, ранейшы бляск у вачох. Ходзіць па хаце і гаворыць так, нібы перад самім сабою апраўдваецца:

— Усе гады пражыў у беднаце, у гразі, у цемнаце. Дык ці-ж ня маю права і я, г-м-м... наладзіць сваё жыцьцё? Хачу трохі на ногі падняцца. Няўжо-ж гэтым раблю злачынак перад бядняцкай грамадою? Я-ж таксама сябар грамады. Я-ж ня болей як чалавек. Г-м-м...

Зьмітрок міргнуў Драчыку, Драчык—Зьмітраку.

— Бярэшся пад Крушынскага...—заўважыў Зьмітрок.

— Правільна!—пацьвярдзіў Драчык і стукнуў кулаком аб стол.

— Што вы, таварышы?—пакрыўдзіўся Хвёдар.—Крушынскі эксплёатуе чужую працу. Ён багатыр, а я? Г-м-м... Я ўсё сваімі рукамі. Во, глядзіце,—мазалі на маіх руках. Наркамземаўскі аграном хваліць мяне кожны раз, як сюды прыяжджае.

— Ты забыўся на беднату, на сацыялістычнае будаўніцтва. Думаеш толькі аб сабе. Вось што, Хвёдар, я табе скажу!—прабіраў яго Зьмітрок.

— Праз некаторы час зробішся воўкам, мядзьведзем у бярлозе. Люблю праўду, гэта факт! Вось і пасёлкі! Вось яны!—крыкнуў Драчык.—Ражнамі лезуць яны ў горла! Ну, і прыдумаў Нарказем! Гэта-ж чорт ведае што...

Твар у Хвёдара наліўся крывёю. Вочы памутнелі і зрабіліся вільготнымі.

— Браткі...—пачаў ён дрыжачым голасам.—Вы-ж сапраўды лічыце мяне злачынцам. За што? За тое, што перасялілі на новае месца і далі магчымасьць весьці па-культурнаму гаспадарку і па-культурнаму жыць? Г-м-м... За тое, што я чытаю газэты і кніжкі і хачу суседзям паказаць розьніцу паміж маёй гаспадаркай і іхняй? Г-м-м... Каб мог-бы, дык сэрца сваё паказаў вам, што я гэта ўсё шчыра раблю, шчыра... Г-м-м...

Хвёдар змоўк. Сеў за стол, падняўся, гмыкнуў і зноў сеў. Па ўсім відаць было, што чалавека нешта мучыла. Ён сабе месца не знаходзіў. Адварочваўся да вакна, зганяў мух з падаконіка, глянуў пустымі вачыма на гасьцей, на хату і ня ведаў, што рабіць і дзе дзецца.

Зьмітрок падсунуўся да яго бліжэй, пасяброўску палажыў яму руку на плячо і лагодным голасам шапнуў:

— Супакойся, Хвёдар, супакойся.

Гаварыў ён да Хвёдара такім тонам, нібы доктар да хворага. Гаварыў ад усяго сэрца:

— Глядзі, вось у пасёлку, дзе я жыву, малочнае таварыства наладзілі, машыннае, мэліорацыйнае. Я бадай кожны дзень пасялкоўцам газэты чытаю. У цябе нічога гэтага няма.

— Будзе!—крыкнуў Хвёдар на ўвесь голас, і ад нутранага хваляваньня твар яго афарбаваўся ў колер цэглы.

Жонка Хвёдара моўчкі прыслухоўвалася да гутаркі і варожымі вачыма глядзела на гасьцей. Ледзь-ледзь з яе языка не сарваліся словы такога зьместу:

— Чаго вы прышлі? разбурыць тое, што мой Хвёдар пачаў будаваць? Няма чаго сказаць, добрыя таварышы!

У хаце стала ціха. Няпрыемная была гэта цішыня. Ніхто ня ведаў, аб чым яшчэ гаварыць. Усё было сказана. Усё было абмеркавана.

Зьмітрок утаропіўся вачыма ў бутэльку з гарэлкай, на якой сонца грала колерамі.

Драчык прылажыў руку да грудзей, і на твары яго быў такі выраз, нібы яму не хапае паветра.
Хвёдар схаваў вочы пад брывамі, увесь як-бы сьціснуўся і чакаў новага нападу.
Ва ўсіх было адно і тое самае жаданьне: як найхутчэй разысьціся хто куды. Гарэлка і закуска стаялі на стале бадай нечапаныя. Быў страчан апэтыт.
І госьці і гаспадар адчулі, што паміж імі ўстае сьцяна. Пакуль што паложана толькі адно бервяно. Яшчэ можна праз яго пераходзіць. Але бярвеньні будуць паднімацца адно за адным. Сьцяна будзе расьці і расьці, аж пакуль з абодвых яе бакоў адны адных бачыць ня будуць.
На адным з адчыненых вакон грэецца на сонцы белы тлусты кот. Ён паглядае на хату дрымотнымі сажмуранымі вачыма. З двара чуваць, як квактуха кліча сваіх куранят. А вось з боку агароду пачуўся гуд—вясёлы, гуд з тонкімі пераззонамі: нехта вядзе адну ноту на ліры.
Усе наставілі вушы.
— Што гэта гудзе?—усхапіўся Хвёдар.
Яго жонка, якая ўвесь час маўчала, успляснула рукамі і крыкнула ў роспачы:
— Малады рой вылецеў! Хвёдар, хутчэй!
Хвёдар ускочыў з месца ўстрывожаны, нібы дом загарэўся.
— Прападзе малады рой...
Захлапочаныя Хвёдар з жонкаю выбеглі на двор і давай гнацца за пчоламі.

---

## 18

# „Мая хата культурная“

ХВЁДАР пчол палюбіў.

На другі год працы ў пасёлку пятнаццаць рамавых вульляў паставіў. Каня памяняў на лепшага, гадаваў жаробку. Купіў яшчэ адну карову.

— Для гною, каб больш гною было ў гаспадарцы,—раіў яму бацька.

Часта прыходзіў і бацька яго жонкі. Радаваўся і нарадавацца ня мог. Гарэла агнём яго рыжая барада. Сьветлыя вочы былі сажмураны ў дзьве бліскучыя шчылінкі.

— Вось гэта я разумею,—гаварыў ён.—На вокнах фіранкі, вазоны. На падлозе дарожкі. Гэта па-людзку! Хвалю!

— Кіньце аб гэтым, тата. Вечна адно і тое самае гаворыце. Я гэта, каб людзям паказаць, як жыць трэба па-культурнаму... Г-м...

— Ну і жартаўнікі!

На поўныя грудзі рагоча рыжы Язэп.

— Гэ-гэ-гэ! Гостры ты, зяцек, на язык, ой гостры! Мабыць, ад Крушынскага навучыўся. Разумны ён чалавек, ой, разумны! Малайчына ты, што здружыўся з ім, ой, малайчына!

Трасе Язэп рыжай барадой, аглядае ўсе куткі Хвёдаравай хаты, радуецца і нарадавацца ня можа. Раптам мяняе тон і сур'ёзным голасам пытаецца:

— Як унук?

— Здароў.

— Не пашкодзілі папоўскія хрэсьбіны?

— Г-м-м...

З хрэсьбінамі вышла гісторыя.

Хвёдар тады павёз збожжа ў млын да Язэпа Крушынскага. Рыжы Язэп, цесьць Хвёдара, аб гэтым ведаў. Малога хлопчыка, сына Хвёдара, павезьлі да айца Дзімітрыя. Там-жа чакалі кумы. Ахрысьцілі хлопчыха паводле ўсіх правіл.

Хвёдар сядзеў тады ў млыне ў Крушынскага аж два дні. Як вярнуўся адтуль, дык падняў скандал на ўвесь пасёлак.

— Маё шчасьце,—крыкнуў ён,—што я беспартыйны, а то выкінулі-б з партыі.

Праз некалькі дзён ён забыўся пра скандал і запытаўся ў жонкі:
— Папу заплаціла?
— Заплаціла. Ты, здаецца, перад тым, як паехаў у млын, сам сказ...
— Жонка стрымалася на паўслове.
— Г-м-м... Занясі яму трохі мёду. Чалавек ён культурны. Можа калі прыгадзіцца.
Селі палуднаваць.
Рады Хвёдар, што сынок гадуецца.
— Трэба старацца цяпер і на маленькага Мікітку!—кажа ён да жонкі бадзёрым голасам.
— Яму яшчэ мала трэба.
— Але-ж падрасьце. Мала ў нас замлі. Вось, каб яшчэ кавалак сенакосу, пару шнуроў пад жыта. Эх, загуляў-бы...
— Ты-ж ня здолееш.
— Яшчэ як здолею! Толькі давай!
Хвёдар і пры ядзе ад руплівасьці лоб моршчыць:
...Да каго падсунуцца? Ніхто лішняга ня мае.
Есьць шпарка:
— Трэба ўпарадкаваць гумно. Як пачнецца касьба, ня будзе калі.
Неўзабаве нехта рыпнуў дзьвярмі, Хвёдару думкі перабіў. У хату ўваходзіць хлопчык гадоў дзесяці, чарнявы, як цыганёнак, у яго чорныя спалоханыя вочы. Стаў хлопчык каля парогу, апусьціў рукі, перабірае на адным месцы закарузлымі босымі нагамі і канфузіцца ступіць далей: чыста вымытая, жоўтая, як воск, падлога, тканая ўзорамі дарожка ад дзьвярэй да стала палохаюць яго.
Хлопчык глядзіць на Хвёдара, разявіўшы рот.
Прыемна Хвёдару, што яго хата робіць на хлопчыка такое ўражаньне.
— Што, братку, скажаш?—пытаецца ён у хлопчыка лагодным голасам.
— Тата прасіў...
Але яго Хвёдар перабівае:
— Што трэба сказаць, як уваходзяць у хату?
— Дзень добры!—кажа хлопчык і чырванее.
— Вось так! Ну, а цяпер, што тата прасіў?
Тата прасіў, каб дзядзька Хвёдар да нас прышоў.
— Добра. Скажы, што зараз прыду.
Хлопчык ціханька высунуўся за дзьверы.
— Г-м-м... Навошта ён мяне заве?
Ведае Хвёдар, што бацька гэтага хлопчыка, Сідар Мядзьведзкі, ужо другі тыдзень з хаты ня выходзіць. Яшчэ з вясны занядужаў, высах, кашляе. З бядой папалам абсеяў поле вясной, а цяпер зусім паддаўся.
Кончыў полудзень і пашоў да Сідара.

На дварэ горача. Сонца пячэ якраз у твар. Хвёдар жмурыць вочы, ідзе павольным млявым крокам.

Вось і Сідараў двор—адчынены. Вароты ляжаць на зямлі, і пустая брама выглядае, як разьзяўлены бяззубы рот. На дрыватні ні палена дроў. Малыя дзеці сядзяць на возе, а двое большых цягнуць за аглоблі.

— Адразу відаць, што гаспадар хворы, кажа Хвёдар самому сабе, адчыняючы дзьверы хаты.

У бруднай і запушчанай хаце цэлыя хмары мух.

Сядзіць Сідар на ложку, кашляе і рукамі мух ад сябе адганяе. Ён кашляе надрыўна і прытрымлівае грудзі аднэй рукою.

— Дзень добры!

— Добры дзень!

Голас у Сідара такі, нібы нехта водзіць пілою па гнілой калодзе.

Хвёдар да яго прыглядаецца; вельмі зьмяніўся хворы за апошні час. Сядзіць згорблены ў расхрыстанай зрэбнай кашулі. Шчокі пажаўцелі, заўпалі, скура да самых касьцей прыліпла. Толькі вочы гараць чорным ліхаманкавым бляскам.

Каля ложку наплёвана.

— Чаму вокны зачынены? Табе-ж няма чым дыхаць.

— Пацею вечна. Баюся, каб не прастудзіцца.

— Пацееш, бо ў душнай хаце сядзіш. Вышаў бы на гумно, там паветра чыстае.

— Ат... махнуў Сідар рукой.—Не магу... Сэрца баліць, як гляну на гаспадарку. Лепш, каб вочы ня бачылі...

Хвёдар маўчаў. Ня ведаў, што на гэта адказаць. Пасьля запытаўся:

— Да майго дачніка хадзіў? Ён-жа добры доктар!

— Ат... Мала ён памагае. Раней, ведаеш так-сяк працаваў, абсяваў поле. А цяпер... (Сідар закашляўся) касьба не за гарамі, і ня ведаю, что рабіць...

Хворы ўтаропіў у Хвёдара пранізваючыя вочы.

Хвёдар гмыкнуў глыбокадумна і адвярнуўся:

...Г-м-м... Што яму параіць?

Каб гэта было два гады таму назад у Гайдачаных, дык грамадою дапамаглі-б пры такой бядзе справіцца з сенакосам. Тады іншае было. Тады Хвёдар яшчэ ня меў сваёй сям'і і сваей гаспадаркі. Тады ён сябраваў з Зьмітраком і Антосем Драчыкам. А цяпер?

...Г-м-м... Жыцьцё ў мяне інакш накіравалася...

Пры гэтых думках Хвёдар не адважваецца зірнуць Сідару ў бліскучыя вільготныя вочы. Нібы нешта ўкраў у хворага.

А вочы Сідара мігацяцца ад нейкай затоенай сарамлівасьці. У іх нямое запытаньне.

— Што рабіць?

Хвёдар толькі адным вокам зірнуў на вінаватую зьбянтэжаную постаць Сідара. Нешта ўзварухнула ўсё яго нутро. Ледзь з языка не сарваліся такія словы:

— Пагавару, Сідарка, з пасялкоўцамі. Агульнымі сіламі мы табе ўпарадкуем сенакос...

Ведае Хвёдар:

Каб ён так сказаў, дык Сідар ад шчырай ўзьдзячнасьці яшчэ больш засароміўся-б, яго вочы яшчэ больш вільготнымі сталі-б. Яго, Хвёдара, пранізала-б пры гэтым наскрозь гарачая хваля прыемнасьці...

...Вось зараз скажу яму...

У хаце глухі гуд ад мух. Хворы кашляе.

Хвёдар перабіў свае думкі такім запытаньнем:

— Дзе жонка?

— Павяла каня на пашу.

— Чаму хлапца ня выправіла?

— Хлопец? каня баіцца. Брыкаецца конь.

— Г-м-м...

І думкі Хвёдара накіраваліся ў другі бок:

...Што мне больш за іншых клапаціцца пры чужой бядзе? Мяне ўсёроўна ніхто ў бядзе не пашкадуе. Яшчэ я сам добра на ногі ня стаў, каб пра іншых думаць.

І Хвёдар сказаў зусім ня тое, што хацеў сказаць спачатку:

— Прыдзецца табе, Сідар, аддаць сенакос каму-небудзь на палавіну. А там да жніва можа сам паправішся, а не—дапаможам грамадою.

— Дзякую, суседзе... Але хто возьме ў мяне сенакос?

— Г-м-м... Хто яго ведае? Ты ні з кім з пасялкоўцаў яшчэ не гаварыў?

— Табе першаму кажу.

Хвёдар паморшчыў лоб, каб схаваць радасьць, выкліканую апошнімі словамі Сідара, і давай разважаць у голас:

— Бадай што ніхто ня возьме, бо ў кожнага сваё.

Сідар забедаваўся.

І пачаў Хвёдар аглядаць усе куткі хаты: усюды бруд, лахманы. Захаваная гордасьць зьявілася:

...Мая хата культурная...

Ён пералічыў у памяці ўсе двары пасялкоўцаў:

...Па-ранейшаму, як у Гайдачанах, жывуць. У мяне самая лепшая гаспадарка...

— Г-м-м... Дык вось, братку, трэба абмазгаваць справу з тваім сенакосам.

Сідар палахліва зірнуў на Хвёдара. Запрапанаваў:

— Можа-б ты, Хвёдар, узяў на палавіну мой сенакос?

— Ня спраўлюся.

Бацька дапаможа, цесьць.

Сенакос астаўся ў Хвёдара...

---

## 19

## Хведаравы дачнікі і Лявонка

У КОЖНУЮ летнюю раніцу Хвёдар любіць абыходзіць сваю гаспадарку, аглядаць тое, што з кожным днём расьце і плодзіцца.

Выйдзе з расою, каб паглядзець, ці няма сьлядоў чужых ног, ці ня здратаваны поле і луг начлежніцкімі коньмі.

Каля хаты кветнік насадзіў. Курэй і сьвіней на чысты двор ня пускае, бо дарожкі пасыпаны жоўтым пяском. Куры і сьвіньні маюць сваё месца каля хлява. Пры чыстым двары белы частакол, вароты з разьбою, з пяцікантовымі зоркамі.

Кветнік ён зрабіў для дачнікаў.

Ужо другое лета да яго доктар з сям'ёю на дачу з Менску прыяжджае.

Сухі хваёвы бор зусім блізютка ад гумна. Стромкія дрэвы жывой сьцяною адгароджваюць гумно Хвёдара. Нават на гумне смалою пахне. Калі хвоі шушукаюцца ад ветру, дык іхны шэпт даходзіць праз гумно аж да хаты.

— Зімою выскачу з хаты з паляўнічай стрэльбай, прайду некалькі сот крокаў і ўжо ў лесе,—хваліцца Хвёдар перад дачнікам.

— Гэты бор лепшы курорт, чымся Крым і Каўказ,—кажа яму доктар па сакрэту.

Два разы на тыдзень доктар хворых прымае. Прыходзяць і прыяджаюць з усёй ваколіцы.

— Вось вам і доктарская дапамога,—хваліцца Хвёдар перад суседзямі.—Г-м-м... Ня жарты, культура!

— Дзякуем за такую культуру. Доктар па тры рублі дзярэ. Ласка невялікая...

— Г-м-м... і яму-ж трэба жыць. Мала ён гараваў, пакуль навучыўся? Г-м-м... Доктарства—яго поле, яго барана, яго саха.

Маўчаць суседзі.

— Г-м-м... А бальніца ў Шапалевічах. Там дарэмна лечаць. Каму не падабаецца доктар, можа ехаць туды.

Маўчаць суседзі.

Ня ведае Хвёдар, ці згодны з ім, ці не...

— Г-м-м... Вы, суседзі, такой культурнай выгады не разумееце. Доктар тут-жа, на месцы. Хоць штодня хадзі да яго. Як у горадзе...

Весела ўлетку ў Хвёдаравым двары.

Ён, яго жонка, малы хлопец, доктарава сям'я і бедная жанчына сваячка, якой ён, Хвёдар, „даў прытулак" (працуе ў яго да дзесятага поту).

І нават бор ажыў.

Ня лес, а парк з прысадамі. Песьні, гутаркі, сьмех, шум дзяцей. У сонечныя дні гамакі прывязаны да хвояў. Прытульна.

Воддаль ад гамакоў лупіны ад яек, косткі ад курэй, газэты, акуркі ад папярос, бутэлкі ад піва, віна.

Часта падкрадваецца туды пастушок Лявонка. Стаіць за дрэвам, каб яго не заўважылі і сьлінку глытае, гледзячы на доктарскі абед.

Дзівіцца дванаццацігадовы Лявонка, сын удавы Мацеіхі, глядзіць на старэйшага доктарскага сынка, такога-ж хлопчыка як ён.

Той ляжыць сабе ў гамаку ў кароткіх трусіках і пячэ плечы на сонцы. Тоцікам завецца доктарскі хлопчык.

Часта Тоцік кніжкі чытае—кніжкі з прыгожымі малюнкамі...

Вострае вока ў Лявонкі—здалёку ўгледзеў.

— Чым Тоцік лепшы за мяне?—часам думае Лявонка.

А ў лесе смалою пахне. Зьнізу, дзе гамакі, ціха. Зьверху вечна шумяць вяршаліны хвояў.

Часам зязюлька кукуе.

— Ку-ку! ку ку!—лічыць яна хвоі.

Доктар ляжыць у гамаку і глядзіць у неба. Па сіняве праплываюць ваўняныя бялявыя хмаркі. Нехта вялікі курыць там папяросы і дым пускае.

Доктарыха, тоўстая і заклапочаная, злуецца на Тоціка, візгатлівым голасам, нібы шкло рэжа, крычыць:

— Чаму, Тоцік, нічога не ясі?

— Я толькі што еў.

Тоцік дрыгае нагамі.

— Ты-ж павінен папravіцца на дачы. Ну, і сынок...

Лявонка не варухнецца за дрэвамі. Слухае. Цікава. Вельмі хочацца кінуць шышкай на Тоціка і крыкнуць „Тоцік-дроцік"!", але баіцца.

— Мая маці ніколі ня крычыць на мяне за тое, што мала ем. Розныя маткі бываюць...—думае Лявонка.

Уяўляе Лявонка сваю матку: тонкая, касьцістая, вечна плача. Яе босыя ногі з крывымі пальцамі—чорныя патрэсканыя.

Лявонку злосьць бярэ на матку, што яна такая. А можа ня злосьць, а жаласьлівасьць, бо яму раптам сумна становіцца хоча плакаць...

---

І лезе Лявонку нешта ў галаву—ня то думка, ня то сон.

Гэта было тады, калі Лявонка быў яшчэ зусім малы, ледзь носам да стала даставаў.

Як прывалілі аднаго разу легіёнэры ў хату. У руках у легіёнэраў бізуны:
— Давай сена!
— Давай аўса!
— Каня!
Спалохаўся спачатку бацька. Потым пачаў аднекваццца:
— Няма.
Тады бацьку бізунамі білі па сьпіне, па твары, па вачох...
Бацька сьцяў зубы і маўчаў.
Хутка пасьля гэтага ня стала бацькі. Ня прыходзіў да хаты дзень, два, тыдзень і больш.
Нудна Лявонку бяз бацькі...
Раней, бывала, бацька садзіў яго да сябе на калені, гладзіў па галоўцы і гаварыў:
— Вырасьцеш, Лявонка, тады вучыцца будзеш, малайцом у мяне станеш.
Аднато разу з Шапалевічаў коніка паліўнага прывёз. Лявонка дзьмуў, пальцамі па дзірачках перабіраў.
Вельмі ладныя гукі выдаваў конік.
У другі раз белую булку прывёз з Шапалевічаў. Смачная была булка, у пяршыню Лявонка еў такую...
Занудзіўся Лявонка.
— Дзе тата?
Глядзела тады на яго маці, забедавалася і пачала вочы выціраць.
— Дзе тата?—не адставаў Лявонка.
— Ты, Лявонка, сіратою застанешся.
— Чаму?
— Бо тата ў лес пайшоў.
— Няхай хутчэй адтуль вернецца!
— Бог ведае, ці вернецца...
— Дык і я да яго пайду!
— Ты яшчэ малы...
І маці глядзела тады на Лявонку такімі вачыма, нібы радавалася, што ён яшчэ малы...
І ня толькі адзін Лявонка бацькам цікавіўся: часта прыходзілі ў хату легіёнэры—злосныя, страшныя.
— Дзе муж?—крычалі яны на матку і лаялі яе.
— Дзе тата?—пыталіся ў яго.
— Ня ведаю,—казала маці.
— Ня ведаю,—паўтараў за ёю і Лявонка, хоць ён і ведаў, што тата ў лесе.
Зноў бізун...
І ўздумаў Лявонка:
— Пайду ў лес тату шукаць.
Маці аб гэтым не сказаў ні слова, бо яна не дазваляла малому з хаты выходзіць у гэткі неспакойны час.

Лявонка пайшоў у той самы лес, дзе цяпер сядзяць дачнікі, тату шукаць.

Над хвоямі кружыўся груган. Спачатку цямнеўся маленькай кропкай у залацістай вышыні, а пасьля пачаў расьці, распрасьцёр шырокія крыльлі.

— Пэўна груган недзе тату бачыў...

Доўга тады брыў Лявонка па лесе. Высокія хвоі маўчалі, дрымотныя ад гарачыні. На некаторых пнёх, аблысеных сякерай, цякла смала.

— Дзе тата?—думаў Лявонка.

І яму здавалася, што дрэвы шапочуць і кажуць:

— Няма таты.

Па дрэвах не смала цячэ, а сьлёзы.

А птушкі сьпяваюць, а сонца лезе з хвоі на хвою і глядзіць на Лявонку... І так жаласна стала Лявонку. Ён заплакаў: вельмі хацелася тату пабачыць...

Вышаў на бераг леса да жыта. Лёгкі ветрык нешта шапацеў з каласамі. Яны нахіліліся да Лявонкі—і можа яму здавалася, што яны гаварылі:

— Шукай у полі! Шукай у полі!

І пабег Лявонка ў чыстае поле, а ў сэрцы хлопчыка такая жаласьць...

Бяжыць, бяжыць сенакосам, аусамі, па жытніх межах.

Бяжыць, бяжыць.

Ніхто яго тут ня стрымае, пакуль таты ня знойдзе.

Спацеў увесь Лявонка, змарыўся і дабраўся аж да вялікага каменя.

Камень аброс лішаямі, на ім сьляды птушак. Часта яны тут спачываюць. І цяпер некалькі шчыглоў сагнаў Лявонка з каменя. Камень падобны да вялікай і высокай труны.

Успомніў Лявонка, што дзяды кажуць пра гэты камень.

У акамянелай труне ляжыць тут акамянелая пані. Апоўначы, як толькі месяц узьнімецца над полем, яна ходзіць па гонях туды і сюды. А валасы ў яе распушчаныя.

І сеў Лявонка адпачыць ля каменя. Каб уночы, дык пані спалохаўся-б. Удзень сонца тут сьвеціць, птушкі чылікаюць.

А воддаль вёска Рудня. Цяпер на тым баку мяжы пад Польшчай.

Як тады дамоў дабраўся, Лявонка ня памятае. Здаецца, нейкая цётка з Рудні прывяла яго да хаты.

Лявонка больш таты ня бачыў.

Суседкі на яго жаласьлівымі вачыма паглядалі і называлі сіратою.

І лезе Лявонку нешта ў галаву—ня то думка, ня то сон...

---

Доктарыха ляжыць у гамаку. Гамак пад ёю аж да зямлі апусьціўся. Абхапіў яе гамак з усіх бакоў белым палатном. Бачыць Лявонка, якая яна круглая і тоўстая, яна газэту чытае.

Хмельны пах лесу лезе ў нос, у горла. З блізкага лугу пахне скошанай мурожнай травою. Гудуць пчолы.

Дзівіцца Лявонка:

— Як гэта доктарыха чытае, калі газэта на самым яе носе?

Востры слых у Лявонкі.

— Х-х-м-м... Х-х-м-м...

Доктарыха ня чытае, а сьпіць. У яе добры сон. Ня чуе, як над самай галавою зязюля кажа грудным зычным голасам:

Ку-ку! Ку-ку! Ку-ку!

Водгаласкі з усіх бакоў.

Лявонка нацэліўся вачыма. Глядзіць. Радасьць засьвіцілася раптам у яго вачох. Ціханька падняў шышку. Доўга цэліўся. Кінуў...

— Ай-ай...—візгатнула доктарыха.—Хто гэта? Што гэта?

Доктар яе супакойвае і тлумачыць:

— Шышка з дрэва ўпала.

Але ў самы нос трапіла... баліць...—дзівіцца доктарыха.

Лявонка ціханька адсоўваецца далей ад дачнікаў. Рот рукою прыціснуў. Каб так не зрабіў, дык зарагатаў-бы на ўвесь бор.

Праз некалькі хвілін Лявонка зноў падбягае да дачнікаў і крычыць на ўвесь голас:

— Тоцік-дроцік, зьеш кампоцік!

Шануе Хвёдар доктара.

— Ого! Такі культурны чалавек!

І Хвёдар часта напамінае пасялкоўцам:

— Доктар прасіў, каб дзеці не цягаліся ў лесе па тых мясцох, дзе ён з сям'ёю адпачывае.

— Цьфу! пан які! Як гэта дзецям забароніш? Глупства, Хвёдар, гаворыш!

Калі просьба Хвёдара не памагае, ён сам прыбяжыць у лес ганяць адтуль сялянскіх дзяцей.

Хвёдар любіць культурных людзей.

— Гэта-ж ня жартачкі, на некалькі сот рублёў дачнікі ў мяне за лета продуктаў купляюць.. Г-м.м... Я-ж не шкадую. Няхай ядуць на здароўе. Яны-ж культурныя людзі...

Але часта хмурыцца Хвёдар, незадаволена аглядаецца па бакох.

Ён адчувае за сваёй сьпіною неспагадлівыя вочы пасялкоўцаў. Яны перасталі яго паважаць.

Драчык і Зьмітрок да яго больш не паказваюцца, а па ваколіцы пусьцілі гаворку, што ён, Хвёдар, кулаком зрабіўся, што нават сябраваць пачаў з Язэпам Крушынскім.

---

# 20

## „Трэба труціць студні“

А Ў АДЗІН з лістападаўскіх дзён-непагадзяў тысяча дзевяцьсот дваццаць шостага году Язэп Крушынскі, паводле свайго звычаю, прыехаў у Менск да Антона Цярэшкі. Адна з традыцыйных яго паездак у горад, якія былі ледзь не пастаўлены яму ў абавязак год таму назад, у часе хрэсьбін, калі „знакамітыя людзі“ гасьцілі ў Курганішчы.

Тады Цярэшка яму сказаў:

— Ты, братку Язэп, прыязджай ка мне больш акуратна. Хоць бы раз у месяц. Шкадаваць ня будзеш. Ты-ж у нашым доме выгадаваўся. Будзь у мяне, як у сваёй хаце. Табе карысна сустракацца з рознымі людзьмі. Чуць якая-небудзь небясьпека тваёй гаспадарцы, млыну, дык ня бойся. У Менску ёсьць нямала сваіх людзей—дапаможам. Прыязджай!

І тут-жа Цярэшка навёў стрэлку гутаркі на іншы лад, на ўспоміны дзяцінства, калі яны жылі разам:

— Помніш, Язэпка, як пацук у ваньне апынуўся? Помніш выпадак з грашмі, калі я ўкраў у бацькі сто рублёў, і ён думаў, што гэта твая работа? А як я ўкінуў тваю шапку ў студню, помніш? Эх, як ідуць гады! Здаецца, толькі ўчора ўсё гэта было...

Дык ты, братку, прыязджай да нас.

Крушынскі адчуў, што ўспомінамі з дзіцячых год Цярэшка хоча нешта, нібы заслонай, прыкрыць, схаваць. Ніколі Цярэшка не ўдаваўся ў такія сантымэнты.

У Менску гутаркі між стрыечнымі братамі заўсёды накіроўваліся на адну тэму: аб настроях сялян на тэрыторыі „рэспублікі“ Язэпа Крушынскага ў ваколіцы Курганішча—у прымежнай паласе. На гэту тэму вельмі асьцярожна і трапна наводзіў гутарку Цярэшка. У выглядзе пачынкі ён перамешваў сказы ўспамінамі ранейшых часоў, успамінаў бацькоў, матак і ўсіх сваякоў, пускаў у ход жарцікі, дробныя анэкдоты. Усе гэтыя гутаркі мелі заўсёды розныя варыянты аднаго і таго самага канчатку:

— Рэспубліка твая моцная. Жыві, Язэпка, спакойна. Ніхто цябе не зачэпіць.

Заўсёдныя паўтарэньні аднаго і таго самага спачатку дзівілі Крушынскага. „Гэта не здармо,—думаў ён.—За гэтым нешта

захована, нібы костачка ў сьліве. Такое супакойваньне, што ўсё ў мяне будзе добра, зьяўляецца нейкай адплатай за нешта-нейкае".

І Крушынскі трохі крыўдзіўся на стрыечнага брата за ледзь улавімую скрытнасьць, адчуў не смак. Жмурыў вочы, усьміхаўся і з яго языка вось-вось сарвуцца словы:

...Ведаю...

...Разумею...

Ён прыпамінаў гутарку з „маршалкам", дзе той хваліў такіх гаспадароў, як ён—Крушынскі—і здагадваўся, што такія візыты да стрыечнага брата ўведзены не без парады з боку „маршалка", што гэта ідзе можа яшчэ аднекуль „вышэй". І ён адчуваў сябе пакрыўджаным: чаму перад ім не адкрываюць сутнасьці справы? чаму ён павінен выконваць нейчыя загады і ня быць у цэнтры ўсяго? Чаму... Цярпеў яго гонар. Але ён адчуў, што яго місія—такая маленькая і бязьвінная— да таго, відаць, важна, ажна адкінуў, як брыдкага сьлімака, свой гонар. Антось Драчык часта рабіў падкопы пад яго гаспадарку, пад яго млын. І вось Цярэшка аднаго разу ў сябе на вечары пазнаёміў Крушынскага з нейкім наркомземаўскім тузам. Туз спадабаўся Крушынскаму. Той быў вельмі ласкавы, прыгожы і фарсісты. Туз яму сказаў:

— Калі што якое, дык адразу праз Цярэшку дайце знаць мне. Такіх культурных гаспадароў крыўдзіць ня будзем.

Пасьля гэтага Крушынскі стараўся кожны раз прывозіць Цярэшку як найбольш вестак, цікавіўся імі на месцы, зьбіраў іх ад суседаў і адчуў сябе гаспадаром нечага такога, чаго рукамі ня зловіш, вокам не пабачыш і вухам не пачуеш, але... з гэтага нешта выйдзе такое (ён успомніў словы „маршалка" аб вайне), выйдзе нешта такое... Тады і рукамі і вачыма і вушамі...

Плян і думкі роіліся ў галаве Крушынскага руплівымі пчолкамі:

...Толькі цяпер, калі ў Кургані́шчы маё карэньне ўрасло глыбока ў зямлю, патрэбна тое, аб чым гаварыў „маршалак": каб комуны і колгасы не распаўсюджыліся, а то...

...Калі я цяпер выконваю нейкія абавязкі, дык толькі для сябе. Я граю на сваей уласнай скрыпцы.

Ён стараўся шчыра. Ён хацеў, каб такая дзейнасьць разгортвалася ня толькі тут, але па ўсёй Беларусі. З некаторых слоў Цярэшкі, з адносін да яго, Крушынскага, знакамітых знаёмых, ён зразумеў, што так яно і робіцца. Ён быў вельмі рад... Ён цяпер толькі пачаў разумець гутаркі „знакамітых" аб беларускай культуры, аб розных кнігах:

...Тое самае...

Дык вось у адзін з лістападаўскіх дзён Язэп Крушынскі прыехаў да Цярэшкі з вялікім запасам сьвежых вестак.

---

А ў кватэры Цярэшкі садом. Прыемны садом. Мэбля перакідваецца і перастаўляецца з месца на месца, чысьціцца, гладзіцца, выбіввецца з яе пыл у салодкім рыхтаваньні да нечага новага і надзвычайнага. Прыемны садом. Печанае, смажанае, варанае ў сталовым пакоі, у кухні выдае сымфонію смачных пахаў. Прыемны садом. У буфэце і ля буфэта на падлозе цэлая армія рознастайных бутэлек з рознастайным пітвом знаходзяцца ў шаноўным чаканьні шаноўных гасьцей. Строгая рэвізія адбываецца ў шафе з вопраткай. Адбіраецца лепшае, з лепшага— самае найлепшае і чысьціцца, прасуецца, гладзіцца,

Рыпаюць дзьверы, тупаюць ногі, трывожныя галасы. Завіруха. Кватэра Цярэшкі адноўлена, асьвежана, усе рэчы яе, усё абсталяваньне чакае гасьцей над гасьцямі, нібы дзеці багатага дзядзьку.

Такую завіруху сустрэў Язэп Крушынскі, калі ўвайшоў у кватэру Цярэшкі.

Пані Мар'я агнявела сіньню вачэй, палыхала пунсовасьцю шчок, гойдалася ў зыбцы прыемнага хваляваньня. Пройдзе некалькі крокаў плаўна, пышна, нібы пава, потым бягом туды і сюды ўся напружыненая ды ўсё камандуе работніцай, нібы генэрал арміяй, робіць па пакоях вялікай кватэры тое вялікае бязладзьдзе, з хаосу якога павінен вось-вось, нібы чапурыстая дама, выступіць строгі лад і парадак.

Пані Мар'я зірнула на Крушынскага,—ён стаяў супроць яе, дзівіўся і ня ведаў дзе дзецца,—ды запыталася ўсхліпным голасам:

— Сваячок?

Пані Мар'я прывіталася з ім за руку і прапяяла-прастагнала з кволай зморанасьцю:

— Ой, часу няма... Пасьля аб усім раскажу...

— Калі ласка.

— Ведаеце, сваячок?

— Не.

— Чулі?

— Не.

— Госьці прыехалі ў Менск... І ў нас будуць.—Яна пачала пералічаць з тэатральнымі спынкамі, з эфэктам шматкроп'я:

— ...З Германіі...

— ...З Польшчы...

— ...З Латвіі...

— ...Чэхіі...

— ...З Літвы...

— ...З...

Захапленьне пані Мар'і мяжы ня мела. Кожная з гэтых пералічаных ёю дзяржаў—струна. Кожная з гэтых струн нацягнута на яе сэрцы, як на балалайцы.

Крушынскі ва ўсім гэтым адчуў нешта вялікае і шматсэнсавае.

Ён абрадаваўся тэй радасьцю, хмыкнуў тым хмыкам, лысіна засьвярбела тым сьвербам, які бывае ў астронома, калі раптам, неспадзеўна знаходзіць у жудасным бяздоньні нябёс новую, нязнаную зорку-плянэту. Здаецца гэта зорка божай кароўкай на цёмна-сінім плюшы вар'яцкіх вышынь, а ў сапраўднасьці гэта тысячамільная куля—можа з акіянамі, гарамі, лясамі, можа з жывёліннай і расьліннай насельнасьцю, можа няменш цікавымі конфэрэнцыямі ды ня менш прыемна-зьбянтэжанымі гаспадынямі, як пані Мар'я.

Наслухаўшыся тут няраз ад былых міністраў пра вайну, інтэрвэнцыю, Эўропу, пра „нашых", якія там жывуць (ня раз пані Мар'я апавядала аб гэтым), сам уцягнуты ў кампанію „нашых", прахвалены імі да касьцей, падтрымліваны, падбадзёраны, абласканы імі да ахмяленьня, нібы ён адзін з тых трох кітоў, на якіх зямля трымаецца, Язэп Крушынскі цяпер адчуў ледзь відочную павуцінку сувязі паміж „нашымі" адгэтуль ( у Менску і па ўсей рэспубліцы) і „нашымі" адтуль:

...У Германіі...

...У Польшчы...

...У Латвіі...

...У Чэхіі...

...У Літве... ...У...

Злавіўшы гэту ледзь відочную павуцінку сувязі, ён злажыў яе ў некалькі столак—і выйшла нітка, з ніткі—шпагат, і так да самай тоўстай, самай моцнай вяроўкі...

...Можа цяпер і пачнецца тое, аб чым „знакамітыя" гавораць і не дагаворваюць, аб чым за дзесяцьцю дзьвярыма, за дзесяцьцю замкамі шапочуць і не дашэптваюць?

Усё гэта ён зьвязаў і са сваімі гутаркамі аб настроях у прымежнай паласе са сваім слаўным стрыечным братам.

...Вайна, інтэрвэнцыя...

...Тады зажыву і я, добры гаспадар, ва ўсю шыр...

...Тады адпадуць мае дрыжыкі страху перад кожнай новай савецкай хвілінай. А гэтымі дрыжыкамі мая скура абрасла, нібы рыба лузгою...

...Можа хутка яно будзе...

...Вайна, інтэрвэнцыя...

Язэп Крушынскі быў вельмі рад, што трапіў якраз у пункт сваім сягонешнім прыездам у Менск.

---

А Цярэшкі ня было дома. Ён быў у інстытуце.

Чакалі гасьцей і там.

Па галоўных габінэтах—плюшавыя дываны. Па сходцах трохпавярховага мура—плюшавыя дарожкі. Швайцара пры парадных дзьвярох—худзенькага, бляявенькага, спрытненькага чалавечка, пры якім часта ў швайцарскай зрабіліся вечнымі нявідзімкамі каракулевыя шапкі і новыя галёшы інстытутчыкаў,—апранулі

ў форму: сіні мундзір з галунамі, два солідныя шэрагі бліскучых гузікаў на грудзёх, шапка з жоўтымі кантамі. Дастаў вось гэтыя прычындалы старога лёкайства гаспадарчы апарат інстытуту. Хоць цяжка было гэта здабыць. Абсталявалі ў нейкага старэнькага дагістарычнага краўца.

Адзін сакунскі этнограф,—„правадзейны член інстытуту",—які дзень-у-дзень да зялёных кругоў перад вачыма ў арцабы рэзаўся са швайцарам, падышоў да яго—ушляхотненага „формай"—і папрасіў:

— Хукні на мяне.

Швайцар хукнуў.

— Зноў гарэлкі надрызгаўся... Хоць бы ў гэтыя дні як-небудзь...

— Не магу!—рашуча сказаў бялявенькі швайцар.—Не магу! Ведаеце, я інвалід і ну яе к..!

Сакунскі энтограф зірнуў на яго спачувальным вокам, і яго голас зрабіўся водгаласкам швайцара з дадаткам „і я"

—І я не магу! Хоць я не інвалід, але ну яе к...! Толькі ў мяне ёсьць сродак, каб ня пахла гарэлкай...

— А што?—зацікавіўся швайцар.

— Пасьля гэтага жую сухі чай.

— І я тое самае раблю, але не памагае.

— Так,—сакунскі этнограф уздыхнуў.—Не памагае. Дайце пакуль што зыграем!

— Дайце!

Швайцар „у форме" дастае арцабніцу.

Хто ні хто з тых, што працавалі ў інстытуце, чакалі сваёй Эўропы. І дачакаліся. Але сонца радасьці затуляла цень смутку.

— Антона няма... Не хапае нашага віленскага Бісмарка...

Так перадаваліся скаргі з вуснаў у вусны. Але няма тэй бяды, якая пры пэўных умовах ня была-б паўбядою. Адсутнасьць Антона компэнсавалася прысутнасьцю іншага: прыехаў з берагоў Вільлі з пэўнай місіяй ад аднэй вельмі важнай установы аўтар „Пана міністра". Весткі перадаў радасныя:

— Усё будзе добра, калі будзем трымаць сувязь. Я прыехаў для сувязі...

Доўганосы (і сіняносы ад агнявай вады) аўтар „Пана міністра" шушукаўся з панамі „міністрамі:"

— Сувязь...

— Сувязь...

І яшчэ раз:

— Сувязь...

...З Бісмаркам ды іншымі, якія нам спрыялі, спрыяюць і будуць спрыяць, якія чакаюць хвіліны, калі можна будзе сказаць: „Годзе!"

І вось тады прыбудзе „наш" Мэсыяш-вызваліцель і навядзе лад.

Хто ён?

А вось ён!

У неаддаленай мінуўшчыне ён грэў груганowыя крыльлі пад сонцам Мазыршчыны, пугачом лунаў над палямі і лясамі, над вёскамі і мястэчкамі. Шаломам ваду піў з Прыпяці. А рэчка тая мела колер чырвонага заходу сонца, колер гэты так быў падобны да нечага, ажна вада аддавала смакам крыві... Яшчэ плачуць сіраты па бацькох. А многія з сірот і ня плачуць: іх той славутны „Мэсыяш" галоўкамі аб вуглы хат—і змоўклі...

І прыехалі тады з Віньніцы ў Мазыр да „Мэсыяша" нейкія „милостивые господа" і сказалі:

— Мы міністры. Мы прадстаўляем беларускі народ.

І блявалі, і хадыром туды-сюды хадзілі і ледзь насамі не аралі набухлую ад крыві глебу мазырскую—былі пад хмяльком.

— Давайце грошы!

І прапанавалі гругану ад імя беларускага народу стаць начальнікам дзяржавы беларсукай...

А за гэта:

— Давайце грошы...

Адзін „міністар" быў чырвонатвары ошуст, падліза Радзівілавай, цюцька Скірмунтавы. Другі—кульгавы шыбенік-галаварэз з „зялёна-дубаўскай" ганьні. Яны тут-жа распаўсюджвалі „адозву да беларускага народу", якая пачыналася такімі словамі:

„Труціце студні па дарозе, дзе праходзіць Чырвоная армія".

— Сувязь!—шушукаў на вушы аўтар „Пана міністра" да „міністраў"

— Сувязь...

...Тады прыедзе мазырскі Мэсыяш пад протэктаратам пыш-„навусага дзядуні", перад якім у тысячу дзевяцьсот дзевятнаццатым годзе... „плакалі маткі ў Віцебску... " ... стагналі людзі ў Магілеве.—„і"...маўчаў хаўтурны голас аб „імшэлых званіцах Смаленску"... Перад якім...

— Сувязь...

Прыехала Эўропа...

— Шкада, што няма Антона...

— Ён бы труціў савецкія студні.

Былі ў гэтай „Эўропе" і Слуцкія „героі"—акрываўленыя. Рубінамі блішчэлі. У Случы трупы плылі. Случ шмат чаго ведае, шмат аб чым шапаціць вецер, над прыбярэжнымі логамі рэчкі. Але „міністрам" і так вядома: польскія паны—найлепшыя прыяцелі Беларусі... Яны дапамагалі і дапамогуць чым толькі льга...

— Патрэбна сувязь... сувязь...

Прыехала Эўропа.

Паверылі ім, што будуць працаваць на карысьць працоўных. Даравалі грахі і грашкі.

— Шкада, што няма Антона...

А на вуліцы, за вокнамі інстытуту, палістападаўску імжыць дождж. Цягнецца ад ваўняна-набухлых воблакаў тоненькімі, ледзь прыкметнымі для вока, валокнамі.

Цярэшка кончыў разьмеркаваньне білетаў на конфэрэнцыю і глядзеў праз вакно на восенскае надвор'е.

— Каб хаця каго не забыць...—трывожыўся ён.

Яшчэ раз прагледзеў доўгі сьпіс запрошаных на конфэрэнцыю. Позірк яго прабег з заклапочанай руплівасьцю па маленькіх птушачках, размашыста начырканых алоўкам, з левага боку, побач з назвамі організацый і асоб, каму ўжо білеты пасланы. Чамусьці даўжэй спыніўся на слове „Маладняк". Па яго твары мільганулася зьмейкай злая ўсьмешка.

Да пісменьніцкай організацыі „Маладняк" Цярэшка адносіўся з тым пачуцьцём, якое моцна, бы каханьне: ён жадаў гэтым маладым пісьменьнікам таго, чаго імкнуўся ў свой час выконваць над працоўнымі крыважэрны груган, прысланы польскімі панамі ў Мазыршчыну.

Цярэшка ня чуў тупату ног і жвавай гутаркі ў пакоі, яго думкі былі заняты „Маладняком":

...Гарэзьлівыя хлопцы. Свае зьезды і конфэрэнцыі ладзяць, езьдзяць па Беларусі, па розных гарадох СССР, у іхняй організацыі некалькі сот чалавек з моладзі. Ладзяць шумлівыя сходы, вечары, бяруцца ў рожкі са старымі, не прызнаюць літаратурных аўторытэтаў. Хлопцы гэтыя косткамі ў горле стаяць, пішуць вершы пра торп, пра электрыку, фабрыкі, заводы, пра Кастрычнік, пра Леніна. Што за тэмы?! Чужыя тэмы... Няма ў іх беларускіх традыцый, адарваліся ад „нашаніўскіх" карэньняў, ад усяго роднага, цярушаць беларускі народ на нейкія прыдуманыя клясы... Птушкі чужога гнязда...

— Усім пасланы білеты, дзядзька Цярэшка?—запытаўся чалавек бяз знакаў прыпынку і бліснуў на Цярэшку шкелкамі акуляр.

— Усім, усім!—супакоіў яго Цярэшка.

І зноў давай думаць пра „Маладняк". Цярэшка меў ад сваіх адну місію: апрацаваць „Маладняк" у патрэбным кірунку... „Яшчэ ўчора паслаў „Маладняку" пакет з білетамі:

— Конфэрэнцыя зробіць у іх пэўны пералом,—сказаў яму чалавек бяз знакаў прыпынку.—Яны абавязкова павінны быць на конфэрэнцыі. Іх трэба гладзіць, бо ня вельмі пахвальна адзываюцца пра некаторых з правадзейных сяброў нашага інстытуту. Мы ім заткнем глоткі запрашэньнем на конфэрэнцыю.

...Можа „Маладняк" перародзіцца?—ня раз гаварыў сваім Антон Цярэшка.

Цярэшка зірнуў у вакно. Дробныя кроплі дажджа, ледзь прыкметныя для вока, туманілі шыбы.

Запрацаваны і памізарнелы ад клопатаў дзелавод палажыў на стол перад Цярэшкам пакет. Цярэшка зірнуў на пакет стомленым вокам, але заўважыў на конвэрце штамп „Маладняка" і ўстрапянуўся:

— Цікава... цікава...—мармытнуў ён трохі ўсхваляваны, і давай дрыжучымі пальцамі расьпячатваць.

Усунуў у пухлы пакет адзін палец, зірнуў туды адным вокам, адхіліў галаву на бок, як бусел, і так пачырванеў, нібы ні з таго ні з сяго хтосьці сыпнуў яму пару гучных аплявухаў. Раптоўна ахрыплым голасам ён выгукнуў адно толькі слова, слова найвялікшага абурэньня:

— Бай-стр-р-ру-кі!

І ён расшыфраваў гэтае слова бяз слоў, толькі ў сэрцы сваім:

— Вырадкі! Ня любяць яны культуры беларускай, сапраўднай, самабытнай, старадаўняй і формай і зьместам. Агіткі бальшавіцкія, чэрці, пішуць. Некаторых узялі на кручок, яшчэ возьмем!

Вельмі самаўпэўнены быў Цярэшка.

Тым часам з расьпячатанага пакета высыпаліся на стол, нібы блявоціна, маленькія шматочкі парваных білетаў на конфэрэнцыю...

...Што яны гэта? Супроць Эўропы?

І Цярэшка прыгнуўся да вуха чалавека бяз знакаў прыпынку:

— Гэты выбрык чырвоных сысуноў мае сымболічнае значэньне.

Чалавек бяз знакаў прыпынку ня меў часу, махнуў рукою і сказаў:

— Эт-т-т...

Не здаволіўся Цярэшка гэтым „эт-т-т" і ў другі раз прыгнуўся да вуха „вялікага арганізатара":

— Ці тактыка, апрацаваная намі, правільная?

— Чудэсна... Будзем труціць студні...

І ў трэці раз Цярэшка прыгнуўся да яго вуха:

— Трэба ведаць, дзе мы знаходзімся. За намі сочаць вочы, вушы.. Можа быць ужыта нават...

— Ладно. Будет хорошо.

Чалавек бяз знакаў прыпынку, калі бываў вельмі заняты, забываўся і пачынаў гаварыць на мове таго адрэзку часу свайго жыцьцёпісу, калі „беларуская справа" яшчэ ня высоўвала яго ў „вялікія людзі" і яшчэ ня пеставала яго ў эўропейскіх готэлях і не апранала яго ў дыплёматычныя сурдуты.

— Знаете, милый Терешко. Это является обыкновенной невоспитанностью со стороны „Молодняка". Ужасно не терплю невоспитанности. Я чудесно поступил, когда по дороге в Минск оставил свою Клавочку в Праге. Пусть там воспитывается. Чудесно!

І раптам усхапіўся, чартыхнуўся і перайшоў на беларускую мову:

— Мы тых, з так званага „Маладняка", і за пісьменьнікаў ня лічым. У нас ёсьць свае... І добра, што адмовіліся ад конфэрэнцыі. Менш будзе вачэй і вушэй, калі яны такія.

— Пераробім іх.

— Толькі шкада, што няма Антона.

Прышоўшы дамоў, Цярэшка паглядзеў на Язэпа Крушынскага вачыма чалавека, якому здаецца, што бачыць ня толькі тое, што ёсьць, але і што будзе.

Ён сказаў:

— Добра, Язэпка, што прыехаў. Вось табе білет на конфэрэнцыю. Шкада, што ня разам з намі сядзець прыдзецца. Але бяда не вялікая. Праўда?

— Ясна.

Білет на конфэрэнцыю вельмі заімпонаваў Крушынскага:

...Ня толькі ў гасьцёх бываю разам з вялікімі людзьмі, але і на конфэрэнцыях...

Крушынскі адчуў, што расьце, расьце, як на дражджох.

---

Па глянцавітай вільгаці тротуараў адсьвечваюцца прытульныя праменьні электрычных ліхтароў. Імжыць надакучлівай машкарой восенскі дождж. На вуліцы, побач з гарадзкім сквэрыкам, ланцуг фаэтонаў.

Антон Цярэшка прысьпешнымі крокамі ідзе па дарожцы сквэру. Жонка ў коцікавым паліце і вязанай бэрэтцы побач з ім. Язэп Крушынскі тут-жа.

— Спознімся,—непакоіцца пані Мар'я.

— Пасьпеем,—пацяшае Крушынскі.

Цярэшка ад нецярплівасьці адшпіляе і зашпіляе чорнае новае паліто, папраўляе капялюх на галаве і адчувае сябе, як калісьці ў гімназіі перад выпускнымі экзамінамі. Вільготны пылок восенскай імжы ледзь дакранаецца яго твару.

Прыемная трывога.

У яго кішэні зграбная кніжачка з залатым абрэзам. На ёй: „Акадэмічная конфэрэнцыя".

Ва ўсёй яго істоце—пах Эўропы...

Каля вешалкі ў клюбе шмат народу. Кароткія прывітаньні між знаёмымі. Нецярплівае чаканьне з чаргі шапкамі і польтамі ў руках.

Узьлётам сокала Цярэшка ўзьнёсься па сходах уверх.

За ім пані Мар'я.

За ёю Язэп Крушынскі.

Па ўсіх кутках вусна-перадача знаёмых:

— Прыехалі...

...З Германіі...

...З Польшчы...

...З Латвіі...

...З Чэхіі...

...З Літвы...

...З...

Так зюзюкаюць знаёмыя.

Цярэшка плыве вачыма па дэлегатах і гасьцёх. Шукае сярод менскіх „азіятаў" маленькіх „оазісаў Эўропы" ў „культурных" сурдутах, у белых цьвёрдых манішках...

Жонку згубіў яшчэ ля дзьвярэй. У Язэпа Крушынскага прабачэньня прасіў, што аднаго пакідае.

Цярэшка зьзяе вачыма. Перад ім адзін з „тых"—з Эўропы.

Чорная вопратка, белы каўнер, бліскучая лысіна, русая бародка, вочы сфінкса. А манеры, а плаўнасьць хады, а ўсьмешка—эўропейская, лагодна-іранічная, містычна-задумёная—эўропейская ўсьмешка.

— А-а-а...

— Як маецеся...

— Гэта вы, дзядзенька...

— Як...

У першую хвіліну гарачнасьці лезуць трафарэты прывітаньняў, лезуць старымі цёткамі-прыжывалкамі. Але гэта толькі маскі слоў. А за імі: многакроп'е і тое, што словамі ня выкажаш.

Тры раза цалуюцца: „па-хрысьціянску"—крыж з трох пацалункаў.

Глядзяць адзін на аднаго—не нагледзяцца.

Куды ісьці?

Аб чым гаварыць?

З чаго пачынаць?

У кожнага з іх такія запытаньні. Нібы жаніх і нявеста, шукаюць прытульнага кутка. Нідзе яго няма такога кутка, бязьлюднага і ціхага, у вялізным клюбе. Усюды ён тут, гэты прытульны куток, бо ў таўканіне шматлюднай, у тлуме і галасе ніхто на цябе і ўвагі ня зьверне.

Цярэшка і чалавек з вачыма сфінкса ў клюбнай людзкой завірусе, нібы рыбкі ў вадзе. Шчыльна, плячо-у-плячо, ідуць з буфэтнага пакою ў галоўную залю.

Праз трыццаць хвілін павінна адбыцца ўрачыстае адчыненьне конфэрэнцыі.

— А вось Антон з Вільні ня прыехаў,—сумуе чалавек з вачыма сфінкса. Электрычныя жырандолі запаўняюць усе куткі майскім яркім сонцам. На твары чалавека з вачыма сфінкса вялікая стомленасьць. Дрымотная мелянхолія ў вачох.—Няма Антона.

Пані Мар'я ўжо размаўляе з двума замежнікамі: старымі знаёмымі. Колеры на яе твары мяняюцца. Муж падыходзіць з „міністрам".

Гутарка-шэпт:

Будынак належаў дваранскаму сабраньню. Аляксюк. Скірмунт. Генэрал Кандратовіч пацалаваў белы сьцяг, калі нехта прапанаваў зьмяніць белыя сьцягі на чырвоныя. Былі: гучныя былі воплескі, гарачыя прамовы пра беларускі народ (пра „лепшых" людзей народу), пра той „беларускі народ", які зьбірае свае кагорты пад белы сьцяг, абсмактаны губамі заліхвацкага генэрала.

Недалёкае мінулае агортваецца ў гірлянды романтыкі і лірыкі.

— Успамінаеце старое, пане Цярэшка?

Цярэшка чырванее, і на самае вуха:

— Не завеце мяне „пане", а „дзядзька", яшчэ лепш —„таварыш".

— Выбачайце, я ўсё забываюся...

Селі на свае месцы.
У залі мора электрычнага сьвятла. Нідзе няма ценю. На крэслах ніводнага вольнага месца.
Паглядзеў Цярэшка перад сабою—рознастайныя патыліцы.
Адвярнуўся ў бок—профілі, непадобныя адны да адных.
Яшчэ болей павярнуўся—багаты выбар анфасаў.
— Цікава колькі тут „нашых“? Колькі яшчэ надбавіцца? Аб чым усе гэтыя галовы цяпер думаюць?
А вось на пяць шэрагаў далей Язэп Крушынскі да яго ўсьміхаецца. Дзьве нітачкі праменьняў з вачэй гаспадара Курганішча злучаюцца з праменьнямі яго, Цярэшкавых, вачэй.
Гутарка вачыма:
— Ня нудзішся?
— Не.
— Добра.
Гутарка вачыма.
Трэці сыгнал.
У залі пацямнела.
Абрываецца шэпт публікі, падобны да ляснога шуму. Нібы нажом зрэзваецца ў залі людзкі гул.
Цішыня.
У цішыні шорханьне заслоны, нібы шорханьне крыльляў.
Узьнімаецца заслона.
На сцэне сьветла.
Усе вочы, уся ўвага туды—у сьветлы квадрат сцэны. Туды накіраваны прыцэл тысячаў пацямнеўшых у паўзмроку зрэнкаў. Усе ловяць з цэнтру ўвагі—са сьветлага квадрата—халаднаваты подых.
У залі да таго ціха, што Цярэшку прыкрым становіцца травяністае шуршаньне вопраткі яго жонкі, пані Мар'і. У прыемнай нэрвовасьці ён барабаніць пальцамі па каленях. Нібы вандруе імі па клявіятуры музычнага інструманту.
Конспэкт успамінаў:
...Калі-ні-калі на яркім „міністэрскім“ небе зьяўляюцца чырвоныя хмары. То граматыку крытыкнулі. Контррэволюцыйныя сказы. „Гэта-ж народныя пагаворкі“—аж зямлю грыз аўтар.—„Пры чым тут палітыка. Звычайнае практыкаваньне для дзяцей“. Чаму для практыкаваньня няма нічога ў такіх школьных падручніках з савецкіх лёзунгаў? Вось кажы ім чаму! Усё кажы... Здаецца, сказалі ў адным часопісе, што савецкія штампы на кнігах непатрэбны. Што яшчэ сказаць? Вось капаюцца...
І зноў конспэкт успамінаў:
...Якраз у мінулым тысяча дзевяць сот дваццаць пятым годзе, ледзь ня гэтай восенскай парою новы падзел Беларусі, ці яшчэ горш—падзел беларускай інтэлігенцыі на градацыі—паркан ад самых правых да самых левых. Білі трывогу... І „яны“ і беларуская інтэлігенцыя. Гэтай справе былі прысьвячаны некалькі вечароў у адным з многіх клюбаў.

Цярэшка шукаў сваё месца ў гэтым паркане. Ён добра ведаў сваё месца...

...Калі-ні-калі на яркім міністэрскім небе зьяўляюцца чырвоныя хмары.

І зноўконспэкт успамінаў:

...Дэлегацыі замежных рабочых сюды да (лічы не беларускага) пролетарыяту... Энтузыязм... Прывітаньні... Паказ дасягненьняў у чырвонай бацькаўшчыне сусьветнага пролетарыяту...

На сцэне прэзыдыум з многіх асоб. Прывітаньні і туш. Туш і прывітаньні.

„Юпітары“ сьлепяць вочы.

Туш глушыць вушы.

І ў дзівосных вузлох электрычных хваляў, музыкі ды ўрачыстых прывітаньняў гурчыць „замежная“ крынічка.

Вочы сфінкса пытаюцца:

— Ці памятаеце, дзядзька Цярэшка, беларускі нацыянальны комітэт у юбілейным доме?

Перапуджаныя думкі Цярэшкі разьбегліся ад гэтага запытаньня, як малыя дзеці ад злоснай цёткі.

Гульлівыя іскры замігалі ў вачох сфінкса. Вочы сфінкса пілі блакітнасьцю сваёй словы Цярэшкі:

— Так. Мы з вамі калісьці працавалі ў аднэй установе...

Вочы сфінкса дадалі многазначна і многаабяцаючы:

— І цяпер...

— Калі ласка, да мяне заўтра на вячэру,—просіць Цярэшка.— Там аб усім...

— А то зойдзем сягоньня пасьля ўрачыстасьці да мяне ў „Эўропу“. Разумееце, дзядзька Цярэшка—(ён прыемна картавіць)—адзін-на-адзін...

— Адзін-на-адзін...

І Цярэшка тапіўся ў пяцьдзесятгадовай паблеклай сінявасьці сфінксавых вачэй.

---

Зараз-жа пасьля паседжаньня конфэрэнцыі Антон Цярэшка пайшоў у „Эўропу“ з чалавекам, вочы якога нагадвалі вочы сфінкса, і які прыемна картавіў.

Імжыў лістападаўскі дожджык. На тротуарах было мала народу. Толькі дзе-ні-дзе ля коопэратываў сядзелі на тумбачках пышнакажуховыя вартаўнікі, і на вуглох вуліц тупаліся міліцыянэры. Вуліцы рыхтаваліся да ўрачыстасьці цішыні. Цішыня была яшчэ палавінная, дапаўночная, і калі-ні-калі ў яе хлюпкасьці цокалі капыты рамізьніцкіх коняй, і калі-ні-калі ў яе шаўковасьці шорхаліся гумовыя калёсы аўто, вар'яцкія вочы машыны мерылі жоўта-сьветлым вокамерам вулічную змрочную даўжыню. Шофэр даваў урывістыя сыгналы. Гэта былі менскія вуліцы канца 1926 году—бяз новых гмахаў, бяз тых фабрычных корпусаў, якія маем цяпер, без рабочых пасёлкаў, без унівэрсытэцкага гарадка, без трамваяў, без пяцігодкі.

Вуліцы рыхтаваліся да ўрачыстай цішыні.

І ў габінэтах найлепшых сыноў пролетарыяту рыхтаваліся да новых плянаў, меркавалі аб далейшым. Там сьвяцілі вокны. Там ня ведалі цішыні ночы. Там думкі зьяўляліся і аб тым:

— У нас яшчэ ня мала нутраных замежнікаў. Мы ім даравалі ранейшае, але ці выправяцца яны? Ці пойдуць яны па нашых рэйках? Час пакажа...

Тым часам ішлі ў „Эўропу“ два замежнікі, адзін з замежным пашпартам у кішэні, другі з замежнымі думкамі ў галаве.

У готэлі, у нумары чалавека з вачыма сфінкса, яны гаварылі шэптам: можа дзе няпрошаныя вушы.

І комфортабельная прытульнасьць пакоя, пяшчотны плюш пад нагамі і на канапе, люстранасьць нікеля з паасобнай адчыненай спаленкі, лякіраваны дуб пісьмовага стала, шафа са шліфованым масыўным люстэркам, малюнкі на сьценах і гардыны на вокнах— усё гэта вымагала цішыні.

Старыя прыяцелі пры новай сустрэчы гаварылі шэптам.

Вочы сфінкса:

— Вялікая шкода, што на конфэрэнцыю ня прыехаў Антон.

Цярэшка:

— Усе нашыя аб гэтым шкадуюць.

І перад уяўленьнем прыяцеляў „геній“ з берагоў Вільлі стаяў мітычным народным героем. Яго мала хто бачыць, а ён усюды. Адна з галоўных галоў „Нашай Нівы“. Адна з галоўных галоў беларускай дыплёматыі. Адна з галоўных галоў беларускага руху, зьбіральнік нацыяналістычных сіл і груповак. Мала аб ім вершаў пісалі. Мала ён увекавечаны ў літаратуры нашай. Толькі дзе-ні-дзе... Ніхто, як ён ня ўмеў так кіраваць, нібы арабскімі бягунамі, орыентацыямі... Ніхто, як ён—Бісмарк з руін Гедымінавых. Ніхто, як ён—капельмайстар з прыпеўкай: „усе, толькі не бальшавікі“.

Цярэшка бачыў яго толькі адзін раз: маленькі, кругленькі, лысенькі, ружовашчокі з пяшчотнымі з паволокаю вачыма. Акуратненькі, далікатненькі. Лагода ў голасе і сьлінкі гневу на пульных губах—ціхамоўны Златавуст.

...Няма тут цяпер Антона.

І душа чалавека з вачыма сфінкса была вылажана на ўсіх лапках:

— Прыеду сюды працаваць. Нашыя тут у шапку ня спалі. Многа зроблена ва ўсходняй часьці Крывіі. Трэба, трэба працаваць. Некаторыя з нашых прыехалі сюды на агледзіны. Некаторыя прыедуць пасьля. Чым больш людзей, тым хутчэй тут колер зьменіцца. Галоўнае, сувязь, сувязь усюды. Вось, напрыклад, з нашымі з Украіны. З Яхрэмавым часта бачыцца трэба, раіцца. У іх афіцэрства ў духавенства ідзе. Спакойна рыхтуе народ і рыхтуецца само. Я чуў, што і ў нас гаварылася пра аўтокефальную, але нешта не ўдалося. Нават многія з нашых пісаліся, зьбіраліся подпісы, і вы, здаецца?

— І я... хоць я католік...

— Дык раскажэце, як тут у вас праца ішла?

Цярэшка сеў на канапу, утапіўся ў яе мяккасьці, побач сеў чалавек з вачыма сфінкса, і на чатыры вочы Цярэшка здаў кароткую справаздачу. Шэптам гаварыў, доўга гаварыў, з захапленьнем гаварыў, бо і яго доля працы была ў гэтым „вялікім пляне", і ён прымаў удзел, і ён мае вялікія заслугі.

...У нас праводзіцца тэорыя каналізацыі краіны—каналы і раўчакі, праз якія нашыя ўплывы, нашыя ідэі працякаюць ва ўсе артэрыі культуры і гаспадаркі. Мы групуем і зьбіраем нацыяналістычныя сілы, мы гадуем новыя такія сілы для патрэбнага моманту. Першы канал—настаўніцкія курсы, вышэйшыя курсы беларусазнаўства, разьмеркаваньне сваіх людзей па ўсіх школах. Другі канал—падручнікі для школ. Трэці канал—літаратура мастацкая. Там ня мала нашых і яшчэ больш будзе. Чацьверты канал... пяты канал...

Сфінксавыя вочы адлюстроўвалі ў сабе гэтыя „каналы". Сфінксавыя вочы радаваліся і слухалі, слухалі і радаваліся.

Цярэшка доўга інформаваў. Нарэшце выняў з кішэні верш, перадрукаваны на пішучай машынцы.

— Вось гэта твор аднаго з нашых, сказаў ён,—разасланы ўсім камісарам ды ўсім рэдакцыям тутэйшых газэт. Гэты экзэмпляр я для вас пакінуў. Гэты верш маленькая забаўка. Няхай пайграе на нэрвах некаторых асоб. Літаратура мае вялікае значэньне. Гэта добрая драцянка, якая часам б'е балюча.

Сфінксавыя вочы ўпіліся ў радкі. Губы шапталі, губы мармыталі:

— Во-во-во-во... Так так-так-так...

Лоўка атручваеце савецкія студні...

Можна будзе яго надрукаваць там. Харошы верш. З перчыкам. Востранькі. Во-во-во...

— Цяпер ня друкуйце. Лепш трохі пачакаўшы, а то здагадаюцца,—прасіў Цярэшка.

Чалавек з вачыма сфінкса палажыў верш у кішэнь. Сказаў:

— Тактыка ў вас тут правільная. Лоўка рыхтуецеся. Многія з кніг мяне таксама задавальняюць. Дзякую за прысланыя. Я цешыўся. У некаторых (я пільна правяраў) ні разу не ўпамінаецца слова „савет", „комунізм", "бальшавізм" ды іншыя „ізмы". Аграрная справа таксама ня страшна. Сваіх людзей разьмяркоўваеце правільна. Лапоўскі мне таксама гаварыў. Ён абяцаўся, што перацягне некаторых экономістаў. Статыстыкай можна так агітнуць. Трэба ў статыстыцы, у лічбах пастарацца паказваць адваротнае таму, што паказваюць саветы. Трэба труціць савецкія студні...

Цярэшка слухаў замежніка, нібы оракула. Сьлінкі пускаў, глытаў сьлінкі, падтакваў, згаджаўся.

На хвілінку сфінксавыя вочы змоўклі. Плюш ля сьпіны быў напружаны і падатлівы, пад нагамі ён скрадваў шолахі. Нібы ня

людзі тут сядзяць, а духі продкаў, выкліканыя праз мэдыума. знакі падаюць. Ці можа духі Мазырскіх „герояў"?

Тым часам сфінксавыя вочы:

— І вашыя творы чытаў, дзядзька Цярэшка. Ведаеце? Падабаюцца мне. Ёсьць шмат такога чыста беларускага, характэрнага (сфінксавыя вочы прыемна картавілі), бяз тых налётаў, якія жывуць сягоньня, у тутэйшым спэцыфікуме, а заўтра... Ну, разумееце мяне, дарагі дзядзенька?

Замежнік правёў рукою па белым каўнерыку сваёй замежнай манішкі, нібы нажом разануў.

— Разумею...

— Вось такая літаратура нам патрэбна. А я? Вандраваў па Эўропе. Там работу робім. У Рыме быў. Аўдыэнцыю меў у папы. У нас, бачыце, шмат каталікоў.

Па калідорах готэля хадзілі туды і сюды людзі. Крокі скрадваліся капітальнымі сьценамі, даходзілі сюды глуха і таямнічасьцю вушы ласкаталі. Чалавек з вачыма сфінкса і Цярэшка гаварылі шэптам. Спрытнымі і нячутнымі кашачымі лапкамі гэты шэпт усё бліжэй накіроўваўся да „самага галоўнага":

— Калі?—запытаўся Цярэшка з заміраньнем сэрца і зірнуў апасьлівым зрокам на вадзяністы нікель і на масыўнае люстэрка.

Вочы сфінкса зразумелі значэньне „калі".

— Пабачым. Пакуль што многа вады плыве на наш млын. А далей пабачым, як усё падрыхуецца, высьпее, тады—наш парадачак і лад. Мы? Слуцкае паўстаньне паказала, што ў нас яшчэ ня мала клёку. Такіх Слуцкаў ня мала на Беларусі. Людзі гаспадарныя па вёсках, старая інтэлігенцыя па гарадох, старое афіцэрства. А ў выпадку чаго, дык лепш што-б ні было, хто-б ні быў, толькі не... Разумееце?

— Разумею...

— Вось і фінал вашай работы тут. Усе каналы, аб якіх вы мне гаварылі, кіруюцца туды. Эх, дзядзенька, жыве Беларусь, наша і сапраўдная... Сягоньня я тут, дэлегат, а праз год можа гаспадаром буду. Тое самае і вы. Магчымасьці ёсьць. Але аб усім гэтым яшчэ будзем гаварыць. Дык заўтра ўсе ў вас будзем.

З „Эўропы" дамоў Цярэшка пайшоў пад раніцу. Дожджык быў ледзь прыкметны і гладкай брытвай казлытаў твар. Была цішыня. Ля коопэратыва на Савецкай дрымаў у кажуху вартаўнік. Па вуліцы плылі трывожныя цені.

Каля сквэрыка да яго пад'ехаў заспаны рамізьнік.

— Паедзем?

Цярэшка махнуў рукою.

Ад сквэрыка да яго кватэры два кварталы. Блізка.

З-за воблакаў, бахматых і пушыстых, як расчосаная кудзеля, вынурнуў месячны чаўнок. І месяц па-інакшаму, па-замежнаму сьвяціў сягоньня Цярэшку. Ён ішоў дамоў праз анямелы сквэрык. Цішыня поўзала па ценях пад дрэвамі, каля жалезнай агарожы.

Цярэшка, азірнуўся па бакох—пустата ночы. Прыслухаўся—цішыня ночы. А ў цішыні крокі. Крокі набліжаліся і гулка аддаваліся ў яго вушах. Прайшоў міліцыянэр.

...Вось і дома.

Бацькаўскі дом высіўся ўсімі паверхамі і бальконамі.

— Дармо паслухаў Язэпа і аддаў дом,—пашкадаваў ён.

Яго думкі раптам перабіў фабрычны гудок. Ён плыў з розных акраін гораду, ён будзіў горад бадзёрым прызывам і рэзаў цішыню, нібы нажом падатлівы сьвежы сыр. Цярэшка ўздрыгануўся. Зьнекуль, як бы з-за сотні міль ад яго, пачаў падкрадвацца страх. З далёку-здалёку... Аднак халодныя пазуры гэтага страху краналіся яго разгарачанага ілба. Гэта былі ледзь прыкметныя кроплі лістападаўскай імжы... Але часам бываюць страшныя восені...

Пані Мар'я і Язэп Крушынскі яшчэ гутарылі ў сталовым пакоі, калі вярнуўся Цярэшка.

— Чаму ня сьпіце?—запытаў Цярэшка.

А жонка яму на гэта сваім запытаньнем:

— Што цікавага чуў там, у „Эўропе"?—яна ведала, што ён быў там.

Нічога асаблівага. Вось хацелася з сваім чалавекам пагутарыць. Глядзі, Марыська, заўтра госьці ў нас будуць. На гэты раз трэба, каб ўсё было добра.

— А ты ня пужай. Сама ведаю.

— Ну, Язэп, спадабалася?

---

# 21

## „Дзе тут маё ранейшае?“

НА НЕБЕ паводка колераў—лілёвых, сінявых.

У гэтыя летнія дні сонца ўзыходзіць якраз над тым месцам, дзе капаюць гліну, дзе будуецца цагельня комуны „Чырвоны Кастрычнік“. Блішчыць пад сонцам чырвоная цагліна, агорнутая ў глянц раніцы. Пляц вялікі, роўны, гладкі, вытаптаны, як гліняны ток. На ім цэглы—палоскамі, клеткамі, узорамі. Тут-жа дашчаны шалаш, дзе паліцца цэгла. Побач—глыбокія ямы з мутнай вадою.

У гэтыя летнія дні сонца заходзіць якраз на тым краі неба, дзе свойскім спосабам капаюць на балоце торф для патрэб комуны.

Над чорнымі цаглінамі торфу расплываецца вячэрні змрок. А раней, калі балота яшчэ ня было парэзана ў палосы вострымі рыдлёўкамі, калі груды тлустай чорнай зямлі з шэрымі жылкамі карэньняў расьлін яшчэ ня былі навалены зьверху, тут кружыліся дзікія качкі. У бурштынавыя раніцы яны насіліся над балотам нявялічкімі сямейкамі.

Даўней, калі яшчэ тут комуны ня было, і гэты абшар зямлі належыў да маёнтку Хадыкаўкі, пан Гардзялкоўскі сюды хадзіў на паляваньне. Блізка было.

Па краёх комунарскай зямлі хутары.

Ад некаторых вакольных хутароў—былых арандатараў пана Гардзялкоўскага—прырэзаны да камуны кавалкі зямлі. З году ў год ідзе наступ на хутары. Прыбавіцца новы комунар і адбавіцца некалькі гэктараў хутарской зямлі.

Плыве сполах ад комуны на хутары нявідочнай паводкай. Баяцца заможнікі.

У хмызьняках, у садочках прытуліліся хутары, чакаюць сваёй нямінучай чаргі...

Хутаранін Макар Пархамчук выходзіць паглядзець:

— Дзе тут маё ранейшае?

Цягам сюды цягне...

А вось як было.

Калі яго парабак перайшоў у комуну, адрэзалі з Пархамчуковага хутара кавалак зямлі. Хоць старшыня сельсавету быў свой, але і ён нічога супроць гэтага зрабіць ня мог. Круглатвары

старшыня, стаўленік Язэпа Крушынскага, прымушаны быў гэта зрабіць. З раёну быў загад. І сам старшыня селсавету праклінаў комуну.

Пархамчук узяў жбан мёду, сала і паехаў да айца Дзімітрыя на параду. Гучна цмокнуў айца ў руку, доўга апавядаў пра сваю бяду і дадаў моцную канцоўку:

— Я за лерыгію! А калі камунія ўсё ў мяне забярэ, дык чым-жа я тады дапамагу лерыгіі?

Паглядзеў на айца Дзімітрыя вільготнымі вачыма. У айца быў строгі выгляд. У гэту хвіліну здавалася Пархамчуку, што бацюшка шмат чаго рабіць можа ў яго дапамогу. Ці здавалася Пархамчуку, ці можа гэта было так сапраўды: бацюшка нешта брыдкае пра комуну прабурчэў. І яшчэ большая пашана да бацюшкі зьявілася. Пархамчук сарамлівым голасам дадаў:

— Там, у кухні, паставіў для бацюшкі сала, мёду...

Пархамчук шырока ўзмахнуў рукамі і пачаў у голас уздыхаць.

Айцец Дзімітры нэрвова шчыпаў бародку. Быў устрывожаны больш, чым Пархамчук думаў. Пачаў хадзіць з кута ў кут і доўга маўчаў. Потым спыніўся насупроць Пархамчука, зірнуў яму глыбока ў вочы, нібы хацеў упэўніцца ў тым, ці зразумее Пархамчук яго словы. Вось што ён сказаў:

— Вельмі кепская гэта справа. Пакольki жыве комуна, павінны цярпець хутары. Вось, каб яе ня было, гэтай комуны, тады іншая справа. Трэба богу маліцца, каб ачысьціў зямельку нашу ад бязбожніцкіх комун. Вось мая парада! Бог дапаможа. Ня вечна так будзе!

Голас бацюшкі гучэў пагрозай. Вочы гарэлі агнём.

— Калі загінуць розныя там комуны і колгасы, тады ня будуць у нас богапраціўныя грабежніцтвы! Тады рупныя гаспадары будуць жыць спакойна!

Поп прагаварыў гэта голасам прарока і праніклівымі вачыма глядзеў на Пархамчука. Так глядзеў, нібы хацеў даведацца, ці можна ўсё Пархамчуку гаварыць.

— Але што-ж мне цяпер рабіць?—пытаўся Пархамчук.

— Цяпер? Маліся богу, і ўсемагутны накіруе твой розум, куды трэба.

— Я лерыгію паважаю,—з крэхтам праказаў Пархамчук,— толькі калі гэта ён разваліць камунію?

Айцец ўсьміхнуўся.

— Усё ад бога. Вайна напэўна будзе!—Кожнае слова зьвінела срэбным рублём.—Калі бог захоча, дык пакуль што якое ў самой комуне могуць быць няшчасьці. Ён і на бязбожніцкі Эгіпет розныя беды пасылаў: мор на жывёлу, на людзей, пажары і шмат іншага такога дабра...

Айцец хіхікнуў і адным вокам падміргнуў Пархамчуку.

Такая „лерыгія“, дзе бог пасылае пагібель на бязбожнікаў, вельмі спадабалася рыжабародаму хутараніну. Ён гатоў шчыра служыць такому богу.

## 26

## Грыбны вальс

У МІНУЛЫМ годзе Драчыха сядзела раз у гэтай самай альтанцы з аднэй з былых парабчых. Тая расказала ёй, што тут пан Гардзялкоўскі часта з паненкамі балаваўся, віно піў. Садоўнік нікога ў сад ня пускаў.

З клюбу чуваць музыка. Нібы гучнымі кроплямі мэлёдыя прасочваецца сюды праз пахучы змрок, аплятае Драчыху прыемнай сеткай гукаў.

Драчыха ведае: гэта адна з настаўніц грае на піяніне, паасабліваму нахіляецца над інструмэнтам, пальцы яе бегаюць па белых клавішах вельмі спрытна. Грае нейкі вальс, які завецца „Грыбным вальсам". Як пачула Драчыха ўпяршыню гэты вальс, дык вельмі расчулілася і апавядала сваю гісторыю аб грыбах і гэтай самай музыцы: тады было грыбнае лета.

Густы высокі панскі лес і сярод белага дня стаяў змрочнай сьцяною. Вельмі вабіў да сябе грыбамі.

Іншай яды ў той час у Драчыхі ня было.

Доўга гнаўся тады за ёю палясоўшчык пана Гардзялкоўскага. Пры гэтым соп, як мядзьведзь. Яна так спалохалася... Той дагнаў, сарваў хустку з галавы з жмутам валасоў. Галава пасьля гэтага некалькі дзён агнём гарэла... Адабраў кошых з грыбамі і пагнаў яе ў маёнтак.

Валасы на яе галаве раскалмачыліся. Драчыха плакала і нічога перад сабою ня бачыла.

З гэтага самага пакою, дзе цяпер клюб, чуваць была музыка. Ніколі раней Драчыха гэткай пекнай музыкі ня чула. Яна тады спыніла плач і пачала прыслухоўвацца.

Прыгожая паненка высунула галаву з вакна і паглядзела на Драчыху.

Зычным, як музыка, голасам паненка паскардзілася, надзьмула губкі:

— Навошта дапускаеш да майго вакна гэтакіх?

Драчыха ўздрыганулася ад крыўды. Страх прапаў. Забыла боль ад вырванага жмута валасоў. Толькі ў грудзёх нешта загарэлася.

Палясоўшчык зьняў шапку перад паненкай і сказаў:

— У лесе, паненачка, злавіў. Грыбы зьбірала. Самыя лепшыя баравікі выбіраюць хамулы, а для панскага стала ніколі сваіх грыбоў няма.

Раней, ідучы ў маёнтак, Драчыха думала адпрасіцца, каб ёй кошык з грыбамі аддалі, але тут яе рот замкнуўся. Яна маўчала.

— Якія гэтыя вясковыя калматыя, дзікія,—грэбліва сказала паненка.

Драчыха зірнула на яе злоснымі вачыма. Сьлёз у іх ужо ня было. Вочы Драчыхі цьвёрда сустрэлі пагардлівы позірк паненкі.

Тая пачырванела і адвярнулася.

Палясоўшчык, шчупленкі і спрытны, з маленкай чорнай бародкай, кінуў Драчысе хустку:

— На, на, жаба карэлая! Чаго вачыма лыпаеш? Ідзі адгэтуль!

Грыбы панёс на кухню. Нават кошыка не аддаў.

Драчыха пачала каравымі ад працы пальцамі папраўляць валасы.

— Новы кошык,—успомніла яна, як пашла з панскага двара.

Ня плакала. Злосьць была такая, што, каб магла, дык тады маёнтак падпаліла-б...

Яе даганялі гукі пекнай музыкі.

Яна тады праклінала і маёнтак і музыку.

Вось за такую гісторыю жартам назвалі цяпер гэту музыку „Грыбным вальсам“.

Часта настаўніца, дачка аднаго з комунараў, грае той самы вальс, які тады грала паненка.

---

У садзе пацішэла

Ня чуваць сьмеху і жартаў. Толькі птушкі пераклікаюцца ў кустох.

— Мабыць, у клюб пашлі.

Драчыха ўскочыла з месца так раптоўна, нібы яе хтосьці даўно кліча, або дзеці пакалечыліся.

— Нельга доўга заседжвацца.

Бягом пусьцілася...

Так „дома“, у Гайдачанах, яна заўсёды рабіла—не хадзіла павольна, а вечна бягом. Засталася старая прывычка. Нават у ранейшай маленькай хатцы знаходзіла месца для свайго „бегу“.

...Часу няма...

Стаяла цяплынь.

У небе цьвілі зоркі.

Успомніла Драчыха, што хопіць ёй часу і стрымала свой „бег“, хаця, каб павольна хадзіць, ёй прыходзілася напружвацца і на гэта пакласьці спэцыяльнае стараньне...

Па жоўтай дарожцы ў садзе Драчыха заўважыла некалькі сучкоў, чысьценька падабрала і палажыла каля старой яблыні.

Ішла ў клюб. Гукі „Грыбнага вальсу“ ледзь чуваць былі. Затое гул галасоў плыў на вялікі дзядзінец з адчыненых вакон разам з палосамі сьвятла.

У тлуме ніхто не заўважыў, як Драчыха ўвайшла ў клюб.

...Чамусьці сягоньня людзі ажыўлены больш, чымся звычайна.

Камунары спрачаюцца, махаюць рукамі.

З урыўкаў гутаркі Драчыха толькі адно ўлавіла:

— Драчык правільна напісаў.

— Драчык перахапіў мерку.

— Ён нахлусіў.

— Ён праўду сказаў.

— Не, не.

На розныя лады людзі мяркуюць пра яе мужа.

— Што тут такое здарылася?—устрывожылася Драчыха.

Яе муж сядзіць тут-жа на канапе і маўчыць. Вочы ў яго такія строгія, што лепш да яго цяпер не падхадзі. Ён пускае ў гару над сваёй галавою махорачны дым і здаровым вухам зацікаўлена прыслухоўваецца да гутарак.

Сьвятло ў клюбе няроўнае. Па сьценах мітусяцца людзкія цені. Плывуць празрыстыя цені па розных портрэтах і плякатах. Затуляе цені куток бязбожнікаў. Эгіпэцкія, кітайскія і хрысьціанскія богі на хвіліну выступаюць у сьвятле, а вось іх зноў пакрыў цень. Строгія багі злуюцца. Мітусеньне сьветаценяў робіць іхнія вочы жывымі, мігатлівымі.

На сьцяне над піянінай цэлы шэраг малюнкаў з каньмі.

Коні, рознага выгляду і масьці, красуюцца на плякатах. Пад кожным плякатам розныя парады пра гадоўлю каня, пра выбары каня, лячэньне.

Цікавяцца ў комуне гадоўляй коняй. Комунарскія коні славяцца на ўвесь раён.

Каля аднае сьцяны ціснуцца людзі.

— Чытаць нельга, адступецеся!—крычыць Калістра.—Не шкляныя вы. Нічога ня відаць!

Людзі адступаюцца і зноў падыходзяць.

На сьцяне сьвежы нумар газэты „Камунар“. Газэта напісана ад рукі буйнымі роўнымі літарамі. Дзе-ні-дзе, паміж слупкамі тэксту, красуюцца карыкатуры. Набела ўсю газэту перапісала настаўніца, якая ледзь чутна наігрывае цяпер ня піяніне „Грыбны вальс“. Здаецца, што коням грае. Яны нібы прыслухоўваюцца з малюнкаў—нярухомыя, у розных позах.

Настаўніца ціха перабірае пальцамі клавішы і адным вухам ловіць людзкую гутарку.

Карыкатуры маляваў студэнт-практыкант, які прыехаў сюды на некалькі тыдняў. Ён сядзіць цяпер у кутку пры століку і кніжку чытае.

Зьнялі газэту са сьцяны, палажылі на стол. Усе глядзяць на Калістру і сьмяюцца. Пасьпелі даць на яго карыкатуру: ён падае на воз сена Троську і вельмі пацее. Пад ім—рэчка поту.

Троські няма ў клюбе. Пайшоў коняй паглядзець.

— Стараецца праз меру,—сьмяецца нехта.—Можа зьлітуюцца нам ім і ня выкінуць з комуны.

— Чакайце ад яго дабра, як ад казла малака,—устаўляе слова Драчыха і папраўляе хустку на галаве.

---

# 27

## Новае аб нашай комуне

СЫМОН Троська пасьля вячэры апрануў лепшую вопратку, абуў новыя боты, але ў клюб чамусьці не пашоў. Яшчэ пры вячэры ўсе заўважылі, што ён сягоньня сур'ёзны і маўклівы, як ніколі. Многа было пушчана жартаў аб яго сягонешнім стараньні. Ён глядзеў спадлобу, часам мільгне белымі вострымі зубамі: вось нешта скажа калючае і вострае, але стрымліваўся. Толькі скосу зірне на аднаго-другога з такім выглядам, нібы зараз скажа: „вось расплачуся з вамі“. Мала еў.

Як добра пацямнела, ён пашоў у канюшню. Ціханька, асьцярожна адчыніў вароты. Аддала цёплай парай конскага паху. Ліхтары з лямпачкамі кідалі вакол бледнае сьвятло. Дзе-ні-дзе ў стойлах ветліва заіржалі коні.

Троська пачаў прыслухоўвацца.

Раздумаў.

Нейкая нерашучасьць лягла на яго твары. Потым ён махнуў рукою і пашоў у кут, дзе ляжала сушаная канюшына. Узяў ахапак абедзьвюма рукамі і панёс чорнаму, бліскучаму, як аксаміт, каню, пад клічкаю „Бура“. Ня любіў гэты конь Троську. Скасіў на Троську грознае вока, злосна пачаў стукаць капытом і стрыгчы вушамі.

— Ну, ты, ганаровы! Супакойся!

Троська кінуў яму ў кармушку канюшыны і пачаў гладзіць па шыі.

Заіржаў побач „Танцор“ і зазьвінеў ланцужком.

Ведае Троська, „Танцор“ спакойны, сьпі пад ім—не зачэпіць.

А вось за перагародкаю грызуцца дзьве кабылы—„Зара“ і „Маруся“. Ніколі ня ладзяць між сабою, а іх чамусьці заўсёды побач ставяць.

— Стоп!—крыкнуў на іх Троська.—Я вам дам зараз гасьцінцу, чэрці!

— „Зара“ і „Маруся“ настаражыліся, застылі на месцы і чакаюць порцыі канюшыны. Апусьцілі вінавата галовы.

— Разумныя вы, ліха на вас...—кажа Троська з пашкадаваньнем у голасе.

Кожны раз, як Троська падасьць каню канюшыны, дык пачынае чысьціць свой сіні сьвяточны фрэнч.

— Напрацаваліся вы за дзень,—размаўляе ён з коньмі,—але і я сягоньня здорава валтузіўся. Ледзь дух з Калістры ня выпер!

Сьмяецца Троська, задаволены сваёй удаласьцю

Коні шчыра жуюць Ад нецярплівасьці скубуць з яго ахапкаў, якія нясе па чарзе кожнаму каню.

Кончыў Троська раздачу корму. Старанна ачысьціў вопратку і вышаў з канюшні. Азірнуўся ва ўсе бакі. Лавіў кожны гук з дзядзінцу. Нідзе ні жывой душы. Па небе плылі хмаркі, пухкія, як бы з сівой шэрсьці тканыя, з ружовымі краямі. Паміж хмарамі з пустога цёмна-сіняга бяздоньня неба лезьлі зоркі, нібы хацелі ўпасьці ўніз.

Пах сушанага сена ласкатаў ноздры.

Троська заскрыгатаў зубамі. Вочы яго былі дзікія і злосныя. Ён зноў вярнуўся ў канюшню. Дастаў з кішэні маленькую аптэчную пудэлачку. Падышоў да жвавай „Марусі“.

---

Разлажыўшы газэту на стале, Калістра пачаў чытаць у голас.

Усе стаўпіліся вакол яго. Змоўклі. Прыслухоўваюцца. Глядзяць яму ў самы рот, у апушчаныя на паперу вочы.

Калістра чытае басам.

На яго загарэлы шырокі твар падае сьвятло. Калістра робіць частыя перапынкі, аглядаецца вакол і кажа:

— Глядзі вось напісаў такі!

— Бач, як хваліць нас!—адзываецца адзін зморшчаны дзядзька.

— Чаго добрага, перахваліць.

— Правільна хваліць!—чуваць некалькі галасоў.

— Дайце чытаць!

— Сам сябе перабівае, а потым „дайце чытаць“. Прахвэсар.

Калістра пачынае нанова чытаць артыкул Драчыка пад назваю „Новае аб нашай комуне“

> За ўсе гады свайго існаваньня наша комуна вельмі добра жыве і мацнее. Павялічыла гаспадарку ва ўсіх яе кірунках, а іменна: жывёлагадоўля, гадуем добрых коняй, ураджаі усялякіх гатункаў збожжа, крухмальня і гэтак далей. Шмат новых будынкаў зьявілася ў нас за гэтыя гады. Прыносім пролетарскай дзяржаве ня мала карысьці. Ніхто супроць гэтага нічога сказаць ня можа. Самі добра жывем, ямо белы хлеб, мяса. Ніхто за яду нас таксама ня злае.
>
> Мы бадай зьліквідавалі няпісьменнасьць сярод нашых комунараў, вучым дзяцей у школе, ёсьць у нас дзіцячы сад, ёсьць у нас гурток бязбожнікаў і шмат іншых гурткоў.
>
> І за гэта нас ніхто лаяць ня будзе!
>
> Ёсьць у нас партыйная ячэйка, комсамольская. У межах комуны ідзе ў нас усё добра. Усё, здаецца, так, як павінна быць.

Калі часам зьявіцца да нас якая-небудзь экскурсія, дык ёсьць чым пахваліцца, ёсьць што і паказаць.

Правільна, я пішу?

Правільна.

Калі прыедзе хто да нас, калі прыдзе, мы і накормім і напоім.

Няўжо пакуль што пры нашых цяжкіх умовах можа быць лепей?

Не! Ня можа быць лепей!

Мы жывем пры такіх добрых умовах, што ніхто з комунараў ад нас уцячы, я ўпэўнены, ня хоча. Калі ёсьць у нас гультаі і п'яніцы, як Троська, дык гэта можа два-тры, ад якіх, я ўпэўнены, мы хутка збавімся.

Усе са мною згодны?

Думаю, што ўсе!

У нас не комуна якая-небудзь бедненькая, нэндзная, а сапраўдны ўзор, хоць маленькі, але бліскучы ўзор соцыялістычнага будаўніцтва, на якім адпачывае вока кожнага пролетара, бядняцкага сялянства ды іншых.

Наша комуна блішчыць, як сьвежы чырвоны яблычак пад сонцам Кастрычніка.

Ніхто ня скажа, што гэта мана?

Ніхто! Я ўпэўнены.

І мая жонка выдзе ў сад, у альтанку пасядзець і хлопцы і дзяўчаты спакойна газэткі чытаюць, і музыку паслухаюць на манер „грыбнога вальсу", і жывем мы сыта і добра.

Хто скажа, што ня так, той паклёп навядзе на нас. Гэта так, таварышы!

Наша комуна акурат прыгожы яблык. Паспрабуйце гэты яблык раскусіць і знойдзеце чарвячкоў.

У чым-жа чарвячкі нашай комуны?

А вось у чым:

Мы зашыліся, як у мяшку. Па-за межамі нашай комуны нічога ня бачым і бачыць ня хочам, нічога ня ведаем і ведаць ня хочам.

Ня ў тым толькі павінна выяўляцца наша праца па-за сьценамі комуны, каб далучыць да яе некалькі гэктараў зямлі ад сумежных хутароў. Ня ў тым толькі, каб калі-ні-калі павялічыць нашу комунарскую сям'ю на аднаго, двух новых комунараў.

Ня ў гэтым уся мэта існаваньня комуны.

Ці бачыла комуна ўсе гады тое, што вакол яе робіцца? Ці змагалася яна супроць розных Язэпаў Крушынскіх, якія млыны пабудавалі, якія эксплёатуюць беднату і жывуць сабе спакойненька, прыпяваючы?

Ці многія з комуны зьвярнулі ўвагу на тое, што сельсавет, Дразды і Дзятлы яшчэ па сягонешні дзень знахо-

дзяцца пад ўплывам Язэпа Крушынскага, тутэйшага папа і іншых такіх дабрадзеяў?

Не! Вельмі мала ва ўсім гэтым робіць наша комуна. Зусім правільна, што яна сьвежы яблык з чарвяточынамі.

Мы сабе адзін да аднаго прывыклі, зжыліся, а на тое, што вакол нас робіцца, нам напляваць.

Так мы і робім—плюем!

Сорамна нам, таварышы! Люблю шчырасьць, сорамна!

Мы праз меру захапіліся пшанічнымі блінцамі і „Грыбнымі вальсамі“.

Хто ў гэтым вінаваты?

Мы ўсе вінаваты!

Асьлепленыя сваім лагодным добрабытам, замазанымі маслам вачыма і вушыма, мы ня бачым і ня чуем, што робіцца вакол нас.

Рассыпемся, таварышы, ва ўсе бакі будзіць сялянскія масы.

---

Храпе „Маруся“. З яе чулых ноздраў у твар Троські падаюць цёплыя брыскі. Ён выцірае рукавом твар і сыпле нешта з пудэлачкі на пучок канюшыны, які „Маруся“ цягне ў рот мяккімі губамі.

Еж на здороўечка...

Троська абыходзіць па чарзе самых лепшых коняй.

У яго дрыжаць рукі.

Высоўваецца са стайні хуткімі нячутнымі крокамі, туліцца да сьцен, агляцаецца, шаснуў каля клюбу. Гул галасоў. Ціхі „Грыбны вальс“.

Пашоў Троська на гумно, адтуль накіраваўся ў лес.

Мігацяць зоркі над хвоямі, рыпяць дрэвы аб дрэвы. Стаіць лес цёмнай аграмадай. Пад нагамі Троські трышчаць сучкі, аддаюцца ў цішыні глухой ночы трывожным шэптам.

Троська прыслухоўваецца да сваіх крокаў і ваўком глядзіць у лясную цемру.

---

Кончыў Калістра чытаць. У голас прачытаў подпіс: „Антось Драчык. Комуна „Чырвоны Кастрычнік“. 1929 год“.

Ён азірнуўся ва ўсе бакі і запытаўся:

— Ну?

Усе маўчалі.

Некаторыя выглядалі, як аблітыя халоднай вадою.

У іншых на тварах можна было заўважыць выраз незаслужанай крыўды

Чутно было, як над лампай гудзелі мухі.

Нясмачна?—запытаўся Калістра ў другі раз.—Драчык майстра падносіць нясмачнае пад самы нос. Вось так!

Пры гэтых словах Калістра сьціснуў у адно кончыкі сваіх трох пальцаў, жоўтых, прыпаленых махорачнымі папіросамі, тыкнуў імі сабе пад нос і адышоў ад стала.

— Лоўка!— грымнуў сівы, барадаты Язэп, адзін з першых організатараў комуны шэсьць год таму назад.

—Лоўка!—паўтарыў ён у другі раз.

І невядома, што ён хацеў сказаць гэтым „лоўка"—ці згодзен з Драчыкам, ці не.

За сьпіною старога нехта хіхікнуў.

— Сьмяяцца няма чаго!—злосна сказаў стары і падышоў да Драчыка з такім імпэтам, нібы хацеў задушыць яго адным махам.

Драчык сядзеў каля сьцяны з апушчанай галавой. Стары патармасіў яго за плячо.

— Га?—устрапянуўся Драчык.

Стары перабіў яго думкі.

— Калі-б пачалі, таварыш Драчык, паводле тваёй парады рассыпацца ад комуны ў бакі, дык яна даўно рассыпалася-б, як сухі гарох.

Стары глядзеў на Драчыка такімі вачыма, нібы вось толькі што злавіў яго пры зладзейскім учынку.

Як гэта рассыпалася-б?—запытаўся Драчык, падняўся з канапы і наставіў на старога Язэпа вострыя, як шпількі, вочы.

— А рассыпалася-б! Даўным-даўно і сьлядоў комуны тут ня было-б! Дальбог, праўду кажу!

У кожным руху старога адчувалася абурэньне. У яго паружавеў твар, заблішчэлі маленькія сьлязьлівыя вочы.

— Лёгка табе цяпер браць нас на цыгундар'—прабіраў ён Драчыка тоненькім галаском.—Лёгка браць нас на цыгундар, калі на ўсё гатовенькае сам прышоў сюды!

І стары Язэп пачаў апавядаць Драчыку гісторыю комуны, якую ён па традыцыі заўсёды гаварыў усім тым, хто сюды прыяжджаў і прыходзіў. Апошнія два гады стары Язэп на цяжкую працу ня выходзіў, поркаўся на дзядзінцы каля дрывотніку. Хто-б толькі ў комуну не паказваўся-б, стары Язэп першы яго сустракаў. Не аднаму экскурсанту і супрацоўніку газэт гэты стары, былы парабак пана Гардзялкоўскага, дыктаваў ў блёкнот гісторыю комуны „Чырвоны Кастрычнік". Гэта зрабілася яго абавязкам, стала яго „амплюа". Ніхто так гладка, як ён, ды з такім шчырым пачуцьцём і апавядаць ня мог. У яго гэта выходзіла ня звычайнай гутаркай, а лірычнай поэмай.

Заўсёды ён пачынаў апавядаць з старых часоў, калі пан Гардзялюкоўскі яшчэ быў у маёнтку Хадыкаўцы. Пасьля апавяданьньня аб зьдзеках гэтага пана над парабкамі і вакольнымі сялянамі з беднаты, ён пераходзіў да апошніх часоў:

...як у 1922 годзе заселі тут былыя парабкі пана Гардзялкоўскага, якія вярнуліся з Чырвонай арміі, з грамадзянскай вайны.

...як цяжка тут было наладзіць зруйнаваную гаспадарку. Ня было ні жывёлы, ні сельскагаспадарчых прылад. Нічога ня было, апрача будынкаў, якія захаваліся нейкім цудам з панскай мэбляю у палацах.

...як у першыя гады людзі сюды прыходзілі і выходзілі, як у адчыненую стадолу. Два разы гарэла комуна: падпальвалі кулакі хутаране.

Ніхто старога Язэпа не перабіваў.

Ніколі з гэткаю цікавасьцю ня слухалі ўсё вядомае комунарам,як ў гэты раз.

— Драчык кажа, што мы тут нешта не тае, нядобрымі справамі займаемся,—зрабіў стары Язэп канцоўку, сеў і заківаў незадаволена галавою. Хутка зноў стаў і вышаў на двор.

Шаневіч, старшыня комуны, маўчаў, паглядаючы сабе пад ногі.

Комунары зноў падзяліліся на групкі, спрачаліся між сабою: хто быў за Драчыка, хто супроць. Хоць вокны былі адчынены, але душна стала ў пакоі.

Да Драчыка падскочыў другі комунар, Цішка Пархвенчык, нізенькі сутулы, на крывых нагах з доўгім вострым носам.

— Брэшаш!--крыкнуў ён Драчыку адно толькі слова.--Брэшаш!

— Адстань,—ціха адказаў Драчык.

Шаневіч кідаў убок Драчыка строгія позіркі.

— Пляваццa табе лёгка!—не адставаў стары Пархвенчык і як-бы цэліўся вострым носам у Драчыка.

— Якое там пляваццa!—пакрыўдзіўся Драчык.—Я ад сэрца пісаў, бо люблю шчырасьць!—Драчык стукнуў сабе кулаком у грудзі і падскочыў. Вочы ў яго гарэлі ад абурэньня.—Пляваццa! Уласнай крывёю плюю...

Клюб выглядаў, як стрывожаны вулей.

— Правільна напісаў Драчык!

— Брэша!

— Хлусіць!

— Праўду сказаў!

Адны адным даводзілі сваю правату, хваляваліся. Ледзь іх супакоіў старшыня комуны, Шаневіч. Ён падышоў да Драчыка. У яго прыкметна дрыжэлі губы, быў бледны. Ён запытаўся ў Драчыка спакойным голасам:

— Комуну трэба было замацоўваць ды на ногі паставіць? Гэта па-твойму не грамадзкая праца—каля трыццаці сямействаў перашліфаваць ад „маё“ да „наша“?

— Такое „наша“ майму сэрцу нічога ня кажа. Мы сабе добра жывём вялікай сям'ёю і адгарадзіліся кітайскай сьцяною ад усіх. Як у манастыры жывём, люблю шчырасьць!

— Перагібаеш, Драчык. Гарачы ты чалавек. Гарачнасьць не заўсёды на карысьць ідзе. Як табе здаецца : наша камуна сама па сабе ня жывая агітацыя для ваколіцы? Нашыя ураджаі, добра

пастаўленая праца ня кажуць усёй беднаце і серадняцтву: „жывеце так, як мы?“ Ты, Драчык, лішне строга ґаворыш.

— А спэктаклі для сялян? А лекцыі?—крыкнуў нехта з грамады.

— Гэта ўсё капеечкі, а не рублі! Люблю шчырасьць! Мы закапаліся ў сваіх акопах і сядзім тут.

Шаневіч сеў побач з Драчыкам, палажыў яму руку на плячо і, ледзь усьміхаючыся, сказаў:

— А гэта-ж, міленькі мой, капеечкі, што сам у комуне вырас за чатыры гады? Успомні толькі: тут партыйцам стаў, чытаеш газэты дзень-у-дзень, кнігі розныя, Леніна. Малую школу ты тут праходзіш? Чаму толькі цяпер загаварыў аб тым, што праца ў ваколіцы ў нас кепска пастаўлена? Дзе ты, разумнік, раней быў? Зусім магчыма, каб сярод нас былі не адны сяляне, а хоць адзін-два рабочых з фабрыкі, дык раней загварылі-б аб тым, што сягоньня ў газэце напісаў. Цяжка, братку мой, было нам гэтым займацца, калі наша комуна тут выспачкай у моры стаіць, а вакол плодзіліся, як ты сам ведаеш, новыя хутары, пасёлачкі, дзе гадаваліся заможнікі. Усё будзе, толькі гарачыцца, таварыш Драчык, ня трэба.

У гэту хвіліну з шумам адчыніліся дзьверы.

З разьзяўленым ротам і выпучанымі вачыма стаў на пароче чалавек. Увесь ён дрыжэў. Твар яго быў белы, як палатно. Гэта быў стары Язэп, які пасьля таго, як апавядаў гісторыю комуны, вышаў на двор.

Усе на яго зірнулі з трывогаю, да таго ён зьмяніўся за некалькі хвілін.

— Што здарылася?

— Што?

— Гавары!

Яму паветра не хапіла. Ён душыўся словамі:

— Ко-ко-ні падушыліся.

— Га?

— Дзе?

Усе падскочылі да дзьвярэй, спалоханыя, напружаныя.

У адну хвіліну клюб апусьцеў.

Па дзядзінцу ў бок канюшні бягом пусьціліся комунары.

---

# 28

## Сьвет перакуліўся

НА ЛІСТОХ бяроз ружавее цёплая раніца.

Уводдалі местачковыя хаты. Выган у белых пер'ях, нібы сьняжынках. Сажалка. Па сажалцы гусі. Сонца толькі што высунулася з-пад заслоны лесу, Крык варон глушыць сьпевы жаўранкаў.

Сьцёжкаю побач з трактам, ідзе з мястэчка каваль Лейба. Сягоньня ён першы пакідае нязграбныя сьляды па роснай стоптанай траве. Пад мяшком на сьпіне ён да таго нагінаецца, што сівая барада прыціснута да грудзей. Рукою абапіраецца аб кій.

Павольна ідзе Лейба наперад да Драздоў і Дзятлаў. У мутнаватых чорных вачох выраз дзіва і непаразуменьня.. Павольная хада надае такт яго думкам:

...Ужо гэтулькі год ня быў у Драздоў і Дзятлаў. А за гэты час ай-яй-яй, як мястэчка зьмянілася! Мабыць і Дразды і Дзятлы ня тыя...

Муліць мяшок на сьпіне. У мяшку цьвёрдыя пакуначкі. Стары зьнімае яго з плеч з усьмешкай перабірае там пакуначкі і зноў ускідвае на плечы.

... Зусім ня цяжка.

Пашоў шпарчэй. Ніводнай фурманкі. ніводнага чалавека на дарозе, Толькі абапал па полі, недзе далёка, мітусяцца людзі з коньмі—чорныя кропкі на сіняватым фоне далегляду.

... І не агледзеўся як мястэчка інакшым стала. Каля мястэчка некалькі дробных сельскагаспадарчых арцеляў. „Ідн зайнэн авэк аф карке"[1]).

У мястэчку некалькі саматужных арцеляў. У сынагозе—клюб.

...Сьвет перакуліўся...

Ад таго, што „сьвет перакуліўся", Лейба цяпер ужо ня сумуе, прабаваў раней сумаваць—не памагло, дык ліха з ім. Няхай ідзе, як ідзе!

„Няхай ідзе, як ідзе". Лейба часта паўтарае такім тонам, нібы ён сам выпусьціў з рук, з-пад свайго кіраўніцтва гэты сьвет, які скача перад ім галёпам.

---

1) Яўрэі пайшлі ў земляробы.

Дзень-у-дзень дзівіўся Лейба страшнаму „галёпу“.
...Сьвет перакуліўся...

Няма часу дзівіцца гэтаму, аднак Лейба дзівіцца... А раней сумаваў, што „каралева Шабас“ [1]) узьнялася і паплыла на воблачным крыльлях да „караля Адэная ў самае сёмае неба (вобраз гэты Лейба запазычыў з суботняй малітвы). Ды ня горш за „каралеву Шабас“ комсамолка Серада—дзень адпачынку ў саматужных арцельшчыкаў. Так маршуюць у гэты дзень, што сумаваць ня прыходзіцца.

Спачатку Лейба палохаўся.

Потым разам з „каралевай Шабас“ зьнік страх. Замест страху ў яго засталося адно зьдзіўленьне.

Учора ён атрымаў па пошце ліст ад сваёй дачкі Мэры. Падумаеш, пошта запатрэбілася, калі ад Драздоў і Дзятлаў да мястэчка тры разы плюнуць!

Мэра пісала па-яўрэйску. Так пісала:

„Дарагі татынке!

Зорачка, унучка твая (ён думаў, што дачка Мэры завецца Сорачка), хоча цябе пабачыць. Дзеда Лейбу дай ёй,—кажа яна. Напішы, калі згодзен прыехаць, калі злосьць твая адлегла ад сэрца, і мой Марцін запражэ каня і паедзе па цябе. Я таксама хачу цябе пабачыць. Чакаем цябе.. Якраз цяпер да нас прыехаў твой другі зяць Мікола Ярэмчык. Вось і пазнаёмішся з ім. Твая дачка Мэра.“

— Я толькі Сорачку хачу паглядзець сваю кроў... апраўдваўся Лейба перад жонкай.

Быў якраз дзёнь адпачынку—камсамолка Серада—і Лейба, замест таго, каб напісаць ліст аб згодзе, запрог сваю пару“, насунуў новыя боты на ногі і раніцой пашоў да Драздоў і Дзятлаў. Яго жонка, якая ўжо некалькі разоў была ў дачкі, накупіла для ўнучкі розных падарункаў, дала яму з сабою харчоў („трэфнага мой Лейба ня будзе есьці, хоць з голаду памрэ“,—гаварыла яна часта суседкам), і ён пашоў.

Адно толькі кальнула старога тонкай шпілечкай, што і другая дачка, Соня, якая вучыцца ў Менску, таксама за „гоем“ замужам. Але на гэты раз укол быў ня вельмі балючы:

— Прывык да Мэрынага Марціна, прывыкну і да Сонінага Міколы. Як Марцін ня Шлёма, таксама і Мікола ня Борух.

Доўга аб гэтым разважаў перад сваёй жонкай, якая лічыць яго самым разумным на сьвеце чалавекам...

Ён часта выкладаў перад ёю сваю новую філёзофію наконт „перакуленага сьвету“. Звычайна канчаў так:

— Мы ўсе цяпер ходзім дагары нагамі, а калі ўсе так ходзяць. дык здаецца, што роўна... Цікава паглядзець і другога—Міколу

Пагладзіў бараду і дадаў:

1. Субота.

— Дзьве бяды аднолькавыя—адна бяда. Звыкнешся з бядою—палавіна бяды. Усё гэта залежыць ад часу. На цяпершні час можа і ніякай тут бяды няма...

Жонка не дачула канчатку яго разважаньняў. Яна і так добра ведае:

...Бо „сьвет перакуліўся“.

Зьдзіўленыя вочы Лейбы паглядаюць на знаёмы стары тракт з бярозавымі прысадамі.

...І старыя бярозы ня тыя, што даўней.

Калісьці яму здавалася, што старыя бярозы вечна богу моляцца, а цяпер нейкія гарэзьлівыя песьні пяюць.

... Вунь, як тыя дзеўкі...

(Па дарозе ішоў цяпер гурт дзяўчат з граблямі ды гучнай песьняй).

— Адкуль?—запытаўся Лейба.

— З комуны „Чырвоны Кастрычнік“,—адказала адна з іх

За апошнія гады выраз зьдзіўленьня ніколі не зыходзіў з твару Лейбы.

Са сьлязьмі на вачох Мэра сустрэла старога бацьку, упяршыню пасьля некалькіх год разлукі. Зараз-жа пабегла ў пуню будзіць сваіх—Марціна і Міколу.

— Уставайце, госьць прышоў. Мой тата.

Мужчыны ўвайшлі ў хату. Стары Лейба іх ня прыкмеціў. Трохгадовая Зорачка сядзела ў яго на каленях. Адзін і той самы выраз зьдзіўленьня і замілаваньня быў у вачох дзеда і ўнучкі

Гэты выраз падраўняў пад адзін штрых іхны ўзрост. Абое глядзелі на адну цікавую рэч—на стары мяшок, які стаяў тут побач на лаўцы і нібы падміргваў ім з хітрыкай клёуна.

У мяшку было ўсё прыгожае, цікавае і смачнае, што толькі можа быць на сьвеце...

— Ясцэ,—гаварыла Зорачка,—ясцэ.

Дзед выцягваў з мяшка ўсё новыя рэчы павольна, і з доўгімі спынкамі, з тэатральнымі гэстамі.

— Ясцэ...

З мяшка перавандравалі на стол: спаднічка, пернікі, паліўны конік, цукеркі...

Мяшок пусьцеў, моршчыўся і, здаецца, радаваўся свайму спустошаньню, а самае прыгожае, цікавае і смачнае, што толькі можа быць на сьвеце“, запаўняла стол са спрытам фокусьніка...

Зорачка была ў захапленьні ад свайго „новага дзядуні“, сьмяялася, пляскала ў ладкі ды ўсё паўтарала:

— Ой, якое прыгожае! Ясцэ, дзядуня, ясцэ.

— Больш няма,—сказаў Лейба.

На дне мяшка засталася толькі яго „кашэрная“ ежа.. Мяшок быў цяпер скамечаны ў блін.

З твару старога Лейбы зышоў выраз зьдзіўленьня і ўступіў чаргу выразу ціхай лагоды,—гэта ўпяршыню за апошнія гады.

— Мабыць, „той“ так захацеў,—падумаў Лейба.—Тут ужо нічога ня зробіш...

Пад словам „той“ стары разумеў бога, ад якога яшчэ не адышоў, але ў яго ўяўленьні і „бог“ зьмяніўся разам з „усім на сьвеце“.

— Відаць бог зьміраўся. Ну дык і я тое самае...

Марцін і Мікола моўчкі глядзелі на старога і падміргвалі адзін аднаму, Бяз слоў.

— Глядзі асвойваецца стары...

— Але..

Мікола заўважыў кавальскія рукі Лейбы—патрэсканыя чорныя.

Цёплая сардэчная ўсьмешка зьявілася на твары Міколы.

Стары гэрб працы. Такі самы гэрб і на руках майго бацькі. Гэрб інтэрнацыяльны. Няма расавых адзнак...

— Глядзі, дзядуня,—усхапілася Зорачка, татка плісёў і дзядзька. Яны глядзяць на нас і хочуць сьмяяцца...

— Хочам—сказала Мэра і ўсе засьмяліся. Віталіся са старым. Лейба падняўся і паказаў рукою на Міколу.

— Дык гэта Мікола? Муж маёй Соні?

— Гэты самы,—адказаў Мікола.

— А дзе цяпер Соня? і палажыў руку на плячо Міколы. Успомніў, што Мікола „гой“—і зьняў руку.

— Соня госьціць цяпер у маіх бацькоў—адказаў Мікола.

— Кожнае дзіцё мае бацькоў, і ўсе бацькі маюць сваю бяду,— падумаў Лейба.—Можа бацькі Міколы плакалі, што іх сын за жонку ўзяў нейкую яўрэйку...—І Лейба спачуваў старым бацьком Міколы.

Мікола пільна прыглядаўся да старога. Ён знаходзіў у рысах твару Лейбы, аброслага да самых вачэй сівізною, нешта агульнае з рысамі твару Соні.

Тым часам Лейба сказаў у голас:

— Ну, што-ж! Калі ты муж маёй дачкі, дык значыць, ты мой сын. А калі ты мой сын, дык значыць ты паедзеш да мяне ў госьці разам з імі (ён паказаў рукою на Марціна і Мэру).

Добра, выбярэмся калі,—за ўсіх даў згоду Марцін.

І тут-жа стары Лейба пашкадаваў, што прасіў іх у госьці.

...Гэта-ж местачковыя як пабачаць, як возьмуць на языкі.

Не падумаў да канца. Нешта рашучае бліснула ў яго вачох. І ён сказаў голасам цьвёрдым, як бы гневаючыся:

Абявязкова прыедзеце! Будзем чакаць. Старая вельмі прасіла...

На гэты раз ён схлусіў, бо старая аб гэтым яму нічога не казала.

Лейба зноў узяў да сябе на калені маленькую Зорачку і загаварыў сам з сабою на яўрэйскай мове голасам замовы:

— Зэер гут вос амэйдэлэ ун ніт а інгелэ, Мэдарф ніт махн абрыс. Гот хот дос гетон цуліб мір... [1])

— Рэйд ніт ідэш татэ. С'паст ніт [2]),—сказала Мэра.

— Гаварэце, гаварэце па-яўрэйску схамянуўся Марцін.—Я ўсё разумею. Толькі мне самому гаварыць цяжка на гэтай мове.

А я і гаварыць ад Соні навучыўся,—пахваліўся Мікола.

— Добра, сынкі, добра...

У Лейбы зноў зьявілася зьдзіўленьне ў вачох.

...Нейкая блытаніна сярод народаў...

Мэра мітусілася каля печы. Яна была заклапочана захаванай думкай:

— Ці тата будзе есьці яе сьнеданьне?

Лейба аглядаў хату. У куце абразоў няма, але і „мэзузэ“ [3]) няма пры дзьвярах. Нешта ня тое ды ня сёе...

У гэту хвіліну павольна адчыніліся дзьверы. У хату ўсунуўся бокам маленькі сівы дзядок. Твар у глыбокіх маршчынах. Барада рэдкая і жаўтавата-белая. Гэта быў Марцінаў бацька.

— Я ўгледзеў, што свой чалавек ідзе,—пачаў старэнькі тоненькім пісклівым галаском, і вочы яго засьлязіліся,—свой Лейба, дык я, казаў той, падумаў, што трэба прысьці. Як жа ж гэта казаў той, ня прыдзеш?

Марцінаў бацька паглядзеў на кожната паасобку і пачаў нешта засоўваць глыбей за пазуху.

— Дык чаго сядзіш, Лейба? Дай павітаемся. Ці ты мо', казаў той, злуеш на мяне? Я-ж не вінават. Сьвет такі настаў.

— Сьвет перакуліўся...—паправіў Лейба і асьцярожненька, нібы жбанок, поўны малака, паставіў унучку на падлогу.

Абодвы дзяды павольна ішлі адзін да аднаго. Здавалася, што ногі іхныя наліты волавам. Твары сур'ёзныя, і рашучасьць у вачох.

Можна было падумаць, што яны рыхтуюцца да бойкі альбо да такога нязвычайнага ўчынку, ад якога зараз, калі ня ўвесь сьвет, дык прынамсі Марцінава хата перавернецца...

Можна было падумаць, што Марцін, Мэра і Мікола таксама рыхтуюцца да нечага нязвычайнага, бо яны моўчкі з вялікай зацікаўленасьцю паглядаюць на абодвых дзядоў.

Сустрэліся дзяды па сярэдзіне хаты, падалі адзін аднаму рукі з такім выглядам, нібы яны два асілкі, якія за апошнія гады вельмі аслабелі.

— Сваток,—дрыжучым голасам прагаварыў Марцінаў бацька.— Сваток.

---

1 Вельмі добра, што дзяўчынка, а ня хлопчык. Не патрэбна абразаньне. Бог гэта дзеля мяне зрабіў

2) Не гавары па яўрэйску, тата. Не выпадае.

3) Скрутак пергаміна з надпісам-замовай супроць „нячыстай сілы“ ля дзьвярэй яўрэйскіх памяшканьняў

— Мэхутн, паправіў бацька Мэры,—па-нашаму гэта будзе мэхутн...

— Няхай сабе „хамуты", усё роўна братку,—дадаў Марцінаў бацька.—Унучка ў нас адна—Зорка.

— Сорка,—паправіў бацька Мэры,

Старыя абняліся і заплакалі.

Мікола з Марцінам пераміргваліся. У вачох Мэры заблішчэлі сьлёзы.

— Не хачу, каб плакалі дзяды,—прасіла Зорачка.

Дзяды супакоіліся, селі.

Марцінаў бацька з асаблівай урачыстасьцю выцягнуў з-за пазухі пляшку гарэлкі, узмахнуў ёю супроць сонца і ў бутэльцы закіпелі іскры.

Бацька Мэры падышоў да свайго мяшка, каб дастаць адтуль „кашэрную" закуску.

Стары Лейба быў усхваляваны. Думкі плылі шпарка адна за адной, як чаўны на рэчцы.

...Новае сваяцтва (стары Лейба любіў мець як найбольш сваякоў).

Ен пачаў лічыць:

...Марцін, Мікола, іхныя бацькі, маткі браты, сёстры, дзядзькі цёткі, стрыечныя браты...

Закружылася галава:

...Я не адзінокі.

Успомніў біблію:

...Першы яўрэй Абрам для свайго сына Ісака таксама ўзяў жонку не яўрэйку-..

А я тое самае раблю. Вось і аднолькавы пачатак і канец бібліі.

Тым часам Марцінаў бацька наліваў гарэлку ў чаркі і прыгаварываў:

— Казаў той, цікава жыць на сьвеце- Лейба, што там порпаешся ў мяшку?

---

## 29

# Яшчэ шмат крыві пральлецца...

ЧАЛАВЕК з вачыма сфінкса любіў мэтафоры. Ён імі зьвінеў, як бразгулкамі. Ён любаваўся імі і сабою. Ён гаварыў. Ён мілагучна картавіў:

— За гэты час мы колькі разоў пробавалі наступаць на „іхнія“ мазалі. Яны кожны раз з крыкам падскаквалі. Акадэмічную конфэрэнцыю па сягонешні дзень не забываюць. А тэатральная дыскусія? А подпісы пад адным артыкулам? А „пераклічка з Антонам“, як яны называюць? Гэта значыць, што на нашых кручках ёсьць тропная прываба. Бяруцца рыбкі і рыбіны. Калі нам далі бой, дык прынамсі ведаем, дзе каменьне на нашым шляху. З нашага боку было шмат неасьцярожнасьцяй, надалей трэба гэта памятаць. У нас таксама шмат рук і шмат вачэй. У кожнага з нас ёсьць свае Язэпы Крушынскія. Сваякі. Знаёмыя. Спачуваючыя. Па ўсёй Беларусі. Мы з імі трымаем добрую сувязь. Гэта нашыя, пакуль што, сталёвыя панцыры. Мы будзем мець падтрыманьне і ад вялікай часткі гарадзкіх і местачковых. Гэта нашыя рэзэрвы. Яны будуць з намі. З кожным годам, з кожным месяцам мы ўсё бліжэй і бліжэй падыходзім да тэй гістарычнай хвіліны, калі прыдзецца крыкнуць: „Годзе“! Нашыя на мясцох чакаюць і пытаюцца: „калі“? Нашыя на мясцох ня могуць дачакацца, нібы галодныя ежы. Ім хутчэй падавай. Яны кажуць: „мы гатовы“! Трэба і нам ў кожную хвіліну быць на пагатове. Мы-ж ведаем, што апрача нас таксама ідзе праца па тэй-жа самай лініі. Нам і тыя дапамогуць. Мы ім таксама дапаможам. Бо хто супроць бальшавікоў, той ужо з намі. Значыць, панове, трэба рыхтавацца. Дзяржаўная машына павінна быць наладжана. У любую хвіліну трэба чакаць магчымасьці прыняць уладу ў свае рукі. Не тады сабак карміць, як на паляв...

На гэтым месцы чалавек з вачыма сфінкса спыніўся. Прымоўка наконта сабак і паляваньня была ў даным выпадку нядалая ў адносінах да „дзяржаўнай машыны“—„габінэту міністраў“.

Чалавек з вачыма сфінкса прыемна картавіў і з радаснай узнэрваванасьцю гладзіў далонямі калены.

На гэты раз справа адбылася днём у кватэры чалавека з вачыма сфінкса (ён прыехаў ў Менск на працу праз некалькі

месяцаў пасьля акадэмічнай конфэрэнцыі). Кватэра яго ў былым доме манахаў, у ціхай кельлі ніжняга паверху, ледзь не падзямельлі. Старасьвецкая мэбля, растаўленая ў пакоі абы як і старасьвецкія абразы па сьценах нагадвалі музэйны куток. Сонца ніколі не заглядала ў гэты змрочны пакой. Аддавала халадком і ледзь прыкметнай трухляцінкай. На кватэры ў Цярэшкі далей нельга было зьбірацца, бо зборышчамі цікавіцца пачалі суседзі з розных кватэр вялікага мураванага дома. Тое самае было і ў іншых. Быў зьменены і час. Калі раней патаемныя нарады адбываліся ўвечары пад маскаю балюшак, дык цяпер агледзеліся, што лепш гэта рабіць удзень: вось забягуць з устаноў з портфэлямі ў руках на пару хвілін ды й то ня разам, ды й то ўсяго некалькі чалавек.

Змрочна было ў пакоі і тухляцінкаю аддавала. Пакой у гусьце чалавека з вачыма сфінкса. Ён за сваё жыцьцё начытаўся шмат твораў аб падзямельлях, аб грабніцах эгіпецкіх фараонаў, аб рымскіх катакомбах, аб падвалах „сьвятой інквізыцыі“, аб падземных ходах старасьвецкіх князёў. Як кажан любіць ноч, ён любіў нязвычайныя абставіны і містыку. Верыў у забабоны. Сны тлумачыў. Беларускі стыль зьвязваў з старадаўнім Эгіптам: Беларускі стыль рабіў уплыў на ўсе славянскія стылі. Яны ўсё запазычылі ў беларусаў і называлі сваім. Такім чынам усё ў яго кватэры было ў беларускім стылі... Такім чынам ўсё на сьвеце было ў беларускім стылі, апрача... дзяржаўнага ладу ў самой беларусі...

Ён цяпер гаварыў, прыемна картавіў. Красамоўствам не вызначаўся, як, напрыклад, „маршалак“ сваім грубаватым, чыста сялянскім красамоўствам; альбо, як чалавек бяз знакаў прыпынку, які браў людзей сваёй „эўропейскай эрудыцыяй“. Не. На чалавека з вачыма сфінкса глядзелі, як на „вундэркінд“, самародка. Яго шанавалі, як старога, „заслужанага“.

Развагі чалавека з вачыма сфінкса на гэты раз слухалі некалькі чалавек.

Чалавек бяз знакаў прыпынку глядзеў падсьлепаватымі ў акулярах вачыма ў самы рот чалавека з вачыма сфінкса. І нібы падганяў прамоўцу. І нібы хацеў сказаць: „хутчэй да справы, хутчэй да самага галоўнага“!

„Маршалак“ усёй нязграбнай фігурай—аляпаваты Хрыстос, высечаны з дрэва сякерай вясковага аматара—падаўся наперад і часта выціраў хустачкай слязьлівыя вочы. У апошні год ён захварэў на вочы і заўсёды быў ўзброены хустачкай. Здавалася, што кожнае слова чуліць яго да сьлёз.

„Прэм‘ер глядзеў на самыя кончыкі сваіх выглянцаваных жоўтых бацінкаў з такой увагай і пільнасьцю, нібы на іх сконцэнтравана нейкая таямнічая руйнуючая сіла: узварухне нагамі і ўвесь сьвет устрасянецца ад гэтай сілы.

Саколіч вадзіў адным пальцам па маленьніх вусіках, двух чорных рабачках. Гладзіў іх пальцам, нібы вуглем чарніў, і па прывычцы калі-ні-калі з яго горла вырывалася:

— Хі-і-ік, хі-і-ік.

Такі гарлавы гук надаваў гутарцы чалавека з вачыма сфінкса сымболіку энэргіі ды конкрэтных учынкаў.

— Хі-і-ік—правядзем нажом па горле...

Хі-і-ік—будзем рэзаць тых, хто супроць нас...

Гэтая невялічкая зграйка людзей лічыла сябе „найлепшымі", сьмятанкаю былой і будучай „беларускай народнай рэспублікі".

Вокны пакою ўвабралі ў квадратовыя рамкі вялізны дзядзінец з каштанамі і клёнамі. Пад дрэвамі лавачкі фарбаваныя ў блакітны колер, лавачкі—з тоненкіх драўляных планак, прышрубаваных да гнутага жалеза. Прытульныя лавачкі. За дзядзінцам распаўзаўся па лагчыне запушчны сад, у якім даўней чорным па зялёным ратаваліся ад спакусы манахі. У садзе цяпер сьвеціць сонца. І праменьні яго лакіраванымі ружовымі палосамі прыклейваюцца да дрэваў, разьлягаюцца па скамечанай сакавітай траве, па аграмадным зонце круглай альтанкі.

Са змрочнага тухлаватага пакоя, дзе ніколі не гасьцявала сонца, здавалася Цярэшку, што глядзіць ён на дрэвы, на сонечныя праменьні, на градкі з геранямі здалёку—праз бінокль з цёмнай верставой аддаленасьці. Глядзіць з поўначы ў поўдзень. І слухае картавыя словы чалавека з вачыма сфінкса:

— Уся Беларусь ахоплена нашай густой сеткай. Сетку гэтую вачыма ня ўгледзіш, рукамі не намацаеш, а моцная яна, нібы са сталёвых прэнтаў скутая. Дзе ні-дзе з вострымі дзідамі любіў чалавек з вачыма сфінкса моцныя мэтафоры. Сетка гэта—нашыя пэўныя, выпрабаваныя людзі.

— Хі-і-ік, хі-і-ік—згаджаецца з ім дзядзька Саколіч.

„Прэм'ер", утаропіўшы вочы ў кончыкі бацінкаў, трасе правай рукою, з белай манкетай, нібы трымае нявідочны сьцяг і прарочыць:

— Яшчэ шмат крыві пральлецца...

„Маршалак" мяняе позу з „як пан Езус пакутаваў" на позу „Наполеона ля сьцен крэмля".

Чалавек з вачыма сфінкса мілагучна картавіць.

Цярэшку здаецца, што кожнае слова той расьцягвае на некалькі хвілін. І паміж кожным словам ляжыць вялікая прастора і доўгі час. І паміж кожным словам Цярэшка, нібы ва сьне, бачыць малюнак. І такім чынам ён бачыць многа малюнкаў. І малюнкі гэтыя—фільмы бачанага і чутага Цярэшкам раней у розныя часы—не перашкаджаць яму слухаць словы чалавека з вачыма сфінкса унікаць у іў сэнс, рязумець іх, звязлаваць у адно цэлае

---

**...Вакол круглай печы ў гуце мігацяцца аганькі. Шмат аганькоў. Скачуць яны, робяць розныя геомэтрыныя фігуры. Нібы вакол печы стаяць жонглёры і фокусьнічаюць. Дзівосныя аганькі. Ён, Цярэшка, падыходзіць бліжэй да аганькоў. І вось яны—гэтыя жонглёры—хлопцы і дзяўчаты. Аганькі—падатлівыя пухіры з жоўта-сьветлага цягучага шкла—на кончыках доўгіх жалезных рулек. Рабочыя выстаўляюць перад сабою рулькі, нібы флейты, і дзьмуць у іх. Надуваюцца**

шчокі, як у музыкаў з духавой аркестры. І вочы ў іх напружаныя, і рукі напружаныя. Нялёгкая гэта „музыка“. А на кончыках рулек бляднеюць аганькі і растуць шклячыя пухіры. А вакол—мітусьня, стукатаньне формаў, нібы хрумсаньне пашчанкамі. І выходзіць з гэтага жалезнага рота пасудзіна. Пераходзіць пасудзіна з рук у рукі. Кожная рука нешта сваё робіць і ў другую печ. І з другой печы вымаюць шкляное печыва, бліскучае і празрыстае. І носяць на насілках у другі пакой. Рабочыя мітусяцца туды і сюды. І ў гэты час Цярэшка, думае, і думкі быццам крадзеныя, а не яго: „вось яны забясьпечваюць дзяржаву ўсім і кіруюць дзяржавай. Гаспадары“. Рабочыя мітусяцца туды і сюды. Мітусяцца?—Цярэшка бачыць у „мітусьні“ гармонію, адчувае рытм. Твары ў іх сур'ёзныя, вочы пільна сочаць за рукамі. Хтосьці ціха, самому сабе, напявае, хтосьці чамусьці кідае аднаслоўны жарт. Цярэшка ня ведае, дзе стаяць, з якога боку глядзець за працэсам працы. Усюды перашкаджае. І зноў думкі лезуць крадзенымі, лезуць хлапчукамі-зухамі „для іх клюбы, рабфакі, даклады газэты. Для іх—усё, і яны ўсё. Яны змагаліся за свае правы на розных франтох і будуць змагацца. І ім ёсьць за што змагацца“. У гэту хвіліну, апрануты ў нязвыклыя вопраткі нязвыклых для яго думак. Цярэшка адчувае, што ён разрозьнены на некалькіх частак, расшчэплены, як лучына, Цярэшка стаіць на дарозе і перашкаджае. „Асьцярожна, браток“,—кажа яму адзін з закасанымі рукавамі, з высокім ледзь успацелым лобам. Цярэшка адыходзіць у другі бок. „Асьцярожна, браток“,—просіць дзявочы зычны галасок. Яна нізенькая, шчупленкая і спрытная. Цярэшку чуліць тое, што яны так сардэчна кажуць: „браток“... „якія яны простыя і харошыя“—думае ён.—„Любуюся імі па-панску“—злавіў ён сам сябе на гэтай думцы. Гэта ў іх я краду даверлівасьць... Яны робяць на мяне уплыў“...—спалохаўся ён раптам.— Я гэтага не хачу, мне гэта шкодна. Ня трэба быць мяккацелым“.

А вось урывак з другога малюнку:

...Сустрэў ён, Цярэшка, на Савецкай настаўніцу Сакалоўскую. Яна ўся—лагодная ўсьмешка. Яна ўся...

---

Затуманіўся, паплыў урывачак малюнку кудысьці, нібы воблачка. Зноў слухае Цярэшка словы чалавека з вачыма сфінкса:

— Вось у мяне (выймае з кішэні лісток паперы) ужо ёсьць разьмеркаваньне міністэрскіх портфэляў. Ня ведаю, як вы, панове будзеце на гэта глядзець. Здаецца, што разьмеркаваньне правільнае. Я і дзядзька Лапоўскі аб гэтым доўга мазгавалі і прышлі да пераканаяньня, што кожная з вызначаных асоб будзе якраз на сваім месцы. У гэтай справе зноў-жа Антон адмовіўся ад портфэля (чалавек з вачыма сфінкса трохі падняў галаву, вочы ўтаропіў у вакно, у далёкае адгэтуль сонца, і бачыў нешта, і зусім ня тое, што было перад вачыма. Бо лятуценная ўсьмешка яго была нутраная, з глыбіні затоеных думак). Антон наказаў, што будзе стаяць з боку. Па традыцыі ён з боку будзе ўсім кіраваць. Гэта яго мэтод. Вайсковым міністрам будзе...

---

...Настаўніца Сакалоўская ўся—лагодная ўсьмешка, уся вясёласьць і дабрата. „Зойдзем,—кажа,—таварыш Цярэшка, у дзіцячы сад. Вы, савецкі пісьменьнік, павінны пабачыць, як гадуюцца ў нас дзеці пралетарыяту“. Яна з ласкавасьцю, з такім шчырым замілаваньнем прасіла, што ня мог адмовіць. Зайшоў. Нізенькія столікі, табурэцікі, цацкі, забаўкі, гульні. Грамада хохлікаў. Кругленькія вясёлыя тварыкі, бліскучыя рознакаляровыя вочкі. І маленькія таварышы ў сваёй

**маленькай рэспубліцы жывуць агульным жыцьцём вялікай рэспублікі.**
**Вось адзін сьмешны карапуз прадэклямаваў верш пра Леніна. Хлопчык рабіў маленькія зьмены ў альфабэце: літ ру „р“ ён замя яў на „ль“, „ш“ на „с“. Забаўны хлопчык. Але вершык зусім не забаўны і не забаўка. І забаўны хлопчык падскочыў да Цярэшкі, задзёр угору да Цярэшкі галоўку (хлопчык быў нізенькі) і прасіў:**

**— Тавалісь Цялеська, напісіце нам вельсік...**

**— Пра што?—пытаецца Цярэшка.**

**— Пля-пля-пля...—хлопчык пачырванеў.**

**Яшчэ больш пачырванеў Цярэшка: „Гэта я краду даверлівасьць дзяцей“...**

**А вось мільгануў адзін мур на Савецкай. Чырвонаармеец на варце. У Цярэшкі на хвіліну задрыжэлі калены... Гэта ўжо ня хлопчыкі... Але ня трэба быць трусьлівым... Узяўся за гуж, не кажы, што...**

---

І слухае Цярэшка картавую мілагучнасьць чалавека з вачыма сфінкса:

— Вайсковым міністрам будзе ў нас Булак-Балаховіч, бо досыць нам забаўкамі займацца. Справа сур'ёзная. Патрэбны сур'ёзныя людзі, якія ня любяць жартаваць. Гэта ня тое, што даўней. Горкая практыка паказала, Булак-Балаховіч чалавек цьвёрды. Тое, што мы думаем цяпер, ён калісьці ў Мазыршчыне пачаў рабіць. Ён Булак-Балаховіч—герой. Ён—беларускі дыямэнт. Ён самы галоўны ў нашым беларускім пантэоне...

Ён крывавым зьнічам ачысьціць ад „іх“ нашу бедную старонку...

Любіў чалавек з вачыма сфінкса ўзьлетныя мэтафоры..

— Яшчэ шмат крыві пральлецца!—са смакам акомпануе былы „прэм'ер“—Ой, пральлецца!

Тут падняўся з свайго месца чалавек бяз знакаў прыпынку і кінуў кавалачак Ніцшэ ў стылі „Так кажа Зоратустра“. І нібы дынар кінуў па-каралеўску жабраком ля брамы божага хорама:

— Благая кроў зыйдзе, а здаровая застанецца.

— Дык вы, панове, не перашкаджайце!—просіць чалавек з вачыма сфінкса (а вочы яго цяпер ня сфінксавыя, а воўчыя). Ён чытае паперу з пералічэньнем міністэрскіх портфэляў і канчае:

— На гэты раз маршалкам рады беларусяай народнай рэспублікі пад протэктаратам Польшчы назначаецца пан Лапоўскі..

Пры апошнім слове былы „маршалак“ устрапянуўся з такой сілай, што крэсла пад ім зарыпела. Яго постаць страціла ранейшую позу „Так пакутваў пан Езус“, пазьнейшую позу „Наполеона ля сьцен Крамля“. І ўвесь ен быў гнеў і ўвесь ён палаў абурэньнем і ўвесь ён кіпеў ад злосьці. Ен сказаў адно моцнае народнае слова, якое азначае вялікую актыўнасьць...На колькі год раней адзін поэт і вучоны пад такім-жа настроем абурэньня выканаў гэтае слова ў памяшканьні аднэй рэдакцыі,пад сталом аднаго рэдактара ў кошыку са збракаванымі рукапісамі..

Цярэшка зразумеў абурэньне былога „маршалка“. Па-першае, „маршалак“ хацеў быць падобным пакуль што хоць зграбным лексыконам, да маршалка Пілсуцкага. Па-другое, ён насіўся сваім маршалкаўскім падпольным гонарам гэтулькі год, а раптам— на табе! Маршалкам будзе Лапоўскі, а ня ён! Было з чаго быць абураным. Было дзеля чаго сказаць тое, што ён сказаў. Цярэшка добра яго зраумеў.

Былы „маршалак“ больш нічога ні сказаў. А што больш скажаш пасьля такога ядранага слова? Пасьля такога слова ўжо не казаць, а рабіць трэба.

У гэтую ўрачыстую хвіліну дзядзька Саколіч пару разоў „хі-і-ікнуў“. Былы „прэм'ер“ зьняў пылінку з белай манкеты. Чалавек бяз знакаў прыпынку—новы „маршалак“—скромна ўтаропіў вочы ў вакно, нібы нічога ня чуе, нічога ня бачыць і быццам нічым ня пахне. Цярэшка лавіў вачыма гэсты і позы кожнага з „вялікіх“ людзей. Ён хацеў усё гэта ўвекавечыць некалі ў літаратуры. Чалавек з вачыма сфінкса сваімі картавымі развагамі затуліў урачыстую маўклівасьць хвіліны:

Гэты проект трэба будзе добра абмазгаваць і паслаць на Украіну Яфрэмаву. Цікава, што ён на гэта скажа. А тады нам трэба будзе...

---

...У сакратара ком'ячэйкі Інстытуту вечны флюс. Заўсёды ходзіць з чорнай павязкай на твары. Ня выкраіць сабе вольнага часу на лячэньне зубоў. У яго блакітныя вочы і хрыплаваты голас. Ён былы матрос. Удзельнік грамадзянскай вайны. Яго блакітныя вочы кожны раз пранізваюць Цярэшку наскрозь. Цярэшку здаецца, што той ведае ўсё яго паднаготнае. Няпрыемна сустракацца з матроскімі вачыма. Няпрыемна чуць матроскі голас.

...Гэта адзін з тых малойцаў, якія ў свой час здорава дзейнічалі...— думае Цярэшка.

...Можа гэты сакратар ячэйкі ўвесь час назірае за намі і дае ацэнку некаторым нашым дробным учынкам у штодзённай працы ўстановы і выводзіць з гэтых дробязяй свае сур'ёзныя падазронасьці?—думае Цярэшка.

...Ці ня ён гэта ў кожным нумары нашай насьценгазэты гладзіць нас супроць шэрсьці? Так гладзіць, ажна іскры з вачэй сыпюцца...—думае Цярэшка.

...Часта ў выглядзе анэкдотаў нашым кідаюць жарцікі: „маршалка“ называюць „маршалкам“, „міністраў“—„міністрамі“ і наогул кожнага паводле свайго старога чына і годнасьці. Называюць, а „Васька слухае ды есьць“, але ў сакратара ячэйкі з матроскім чуцьцём могуць зьявіцца пэўныя меркаваньні...—думае Цярэшка.

І вось яму няпрыемна сустракацца з сьветла-шэрымі вачыма былога матроса. І штодня сустракаецца...

І вось у адным з калідораў ля кніжнай вітрыны, калі Цярэшка ўглыбіўся ў вокладку новай кніжкі, нехта на яго плячо мякка руку палажыў. Ён уздрыгануўся.

— Які вы нэрвовы, таварыш Цярэшка. Прабачайце.

Хрыпаваты голас былога матроса.

— Вы, таварыш Цярэшка, павінны сягоньня ў клюбе харчавікоў чытаць даклад пра... (голас былога матроса сардэчны і даверлівы, блакітныя вочы зусім непраніклівыя...). Дык пойдзеце?

**Нешта скрабе ў Цярэшкі на сэрцы...**

**...Тут-жа ў Інстытуце. Геолёгічны аддзел. Некалькі пакояў. Скрыні з рэльлефамі глебы. Мяшочкі з узорамі глебы, гліны, торфу, вапны, каменьняў. І вось адзін вучоны („шчыра аддаўся бальшавікам") з захапленьнем апавядае Цярэшку:—Завод можна будзе пабудаваць у Мазыршчыне. І гуту таксама...**

**Ціхім голасам гаворыць вучоны. Яго фігура сутулая. Вечна працуе ў лябараторыі. На сталох мудроныя інструмэнты. Вакол—асьпіранты: маладыя хлопцы—кроў з малаком. Загарэлыя ад геолёгічных экспэдыцый. Тут-жа вылучэнец з друкарні.**

**Цярэшка павінен усьміхацца, радавацца іх дасягненьням. Няпрыемна, агідна робленая ўсьмешка, фальшывае захапленьне... І Цярэшка „ўсьміхаецца" і „захапляецца"...**

**Толькі адзін ёсьць „свой" у гэтым аддзеле інстытуту—сярэдніх год адэсіт з монархіцкім ухілам. Скардзіцца:**

**— Не падступіўшыся да іх...**

**А геолёг падступае:**

**— Дык вы нас за працу ня будзеце лаіць, таварыш Цярэшка.**

**Цярэшка „радуецца" і нават „дзякуе"...**

**Грызе нешта яго нутро. Часам у яго бываюць такія імкненьні:**

**— Пайду куды трэба ды ўсё раскажу. Сам не агледзіўся, як на мяне гэтыя гады, бальшавіцкія гады, уплыў зрабілі...**

**І валасы цьвярдзеюць са страху. А „міністры"? А „маршалы"? А „народная"?**

**...Сумленьне?**

**...Раздвоенае...**

**...Частка тут, частка там....**

**...Ня сумленьне—гнілы яблык...**

**...Што значыць сумленьне ў дзяржаўных справах?**

**...Ныцік я... інтэлігент...**

дыходзіць ад Цярэшкі гэты ўрывак, адплывае ў бок. Нейкі гарачы і прыемны ток пранізвае яго наскрозь. Ён чуе картавыя словы чалавека з вачыма сфінкса:

— Цярэшка назначаецца міністрам асьветы...

Цярэшку да ўспаценьня горача стала ад нязнанай да гэтага часу прыемнасьці... Ён ускочыў з месца і зноў сеў. Так некалькі разоў. Нібы шпарка імчаўся на машыне і ад шпаркасьці яго падкідвала. Сонечныя плямы, якія ён бачыў раней праз вакно ў аддаленьні вялізнага дзядзінца, раптам шуганулі ў змрочны і тухлаваты пакой, дзе калісьці жылі манахі і дзе ніколі ня было сонца, і сонца раптам запраменіла ў самыя вочы Цярэшкі. Ён іх сажмурыў і гатоў быў у гэту хвіліну крыкнуць:

— Няхай льлецца кроў, няхай ставяць шыбеніцы, няхай будзе ўсё, што павінна быць! Дзяржава гэта не забаўка, абы я міністрам буду! Годзе з сантымэнтамі, прэч мяккацеласьці! Абы я міністрам буду! І мае рацыю былы прэм'ер у белых манкетах, калі заўсёды акомпануе ўсім нам такім адважнымі палітычнымі словамі, як ..

І тое, што думаў Цярэшка, новы „міністар асьветы", сказаў былы „прэм'ер" на гэты раз яшчэ больш рашучым, чым заўсёды голасам:

— Яшчэ шмат крыві пральлецца?

Гэтыя словы яшчэ гучэлі ў вушох Цярэшкі, старадаўная мэбля, вокны з аддаленым сонцам, былыя і будучыя „міністры“ яшчэ мітусіліся перад фокусам яго затуманенага зроку, калі ён прачнуўся.

Міраж, ажыўлены сном, павольна адсоўваўся ўдаль летняга дня 1928 году, адыходзіў неахвотна ад уяўленьня Цярэшкі, як сірата ад матчынай магілы.

Цярэшка прыпадняў галаву, абапёрся вераценевай вастрынёй правага локця аб падатлівую маккасьць падушкі і пачаў прыслухоўвацца да цішыні, прыдушанай змрочнай духатой пакоя. Ня чуваць прывычных ранішніх гарадзкіх гукаў: грукату калёс, людзкай хады і гутаркі, ранічных гудкоў. Ен успомніў, што госьціць у Курганішчы, у свайго стрыечнага брата Язэпа Крушынскага.

Праз шчыліну акяніцы цячэ сонечна-рыжая ручаінка раніцы. Яна дрыжыць у змроку пакоя сьветлай жылкай на чорным мармуры і перарэзвае наўскос мядзяным нажом дубовую шафу.

Цярэшка намацаў на крэсьле гадзіньнік і злавіў сеткай цыфэрбляту сонечную палоску.

...Восьмая гадзіна раніцы. Пагодны дзень.

Узрадаваўся. Адчыніў акяніцу, а разам і вакно.

У пакой хлынула сонца і сьвежае паветра.

Цярэшка хутка апрануўся і пайшоў да рэчкі мыцца. Млявасьць паўзла па ўсім целе. Жмурыў вочы ад сонца. Каля млына мітусіліся завозьнікі. Пахла каламазьзю і сьвежым сенам. Адзін селянін з бялявымі вусамі, апушчанымі на рот, гнуўся пад мяшком збожжа, нёс па роўным дашчаным ганку ў адчыненыя дзьверы млына. Другі селянін—нізенькі, сівенькі—падскочыў да яго і давай рукамі падпіраць мяшок на сьпіне белавусага.

— Ну й дапамога,—пачуўся з-пад мяшка надрыўны хрыплаваты голас.

— Скінеш мяшок. Глядзі, скінеш!

Каля ганку капаліся па-гаспадарску рупатлівыя вераб'і.

Ідучы да рэчкі, Цярэшка дамалёваў наяве працяг свайго сну:

Аднадушна ўсе тады згадзіліся толькі з кандыдатурай Булак-Булаховіча. Лепшага вайсковага міністра і ня трэба. Ён, як вялікі вайсковы спэц, ужо выявіў свой талент на Беларусіі... А вось наконта іншых міністэрскіх портфэляў пачалася калатня... Калаціць адзін аднаго прыходзілася ціханька, асьцярожненька, каб часам, чаго добрага... Калаціць трэба было балюча, каб кожны адчуваў.

І пайшлі брат на брата, „міністар на міністра,“ „маршалак“ былы на „маршалка“ будучага і наадварот.

І тым больш сур'ёзнай і зацяжнай была гэтая вайна яшчэ таму, што яна не магла быць вынесена на суд „народнай грамадзкасьці,“ бо ўся „народная дзяржава“ была закулісная...

Чалавек бяз знакаў прыпынку глядзеў на гэта, як дыктатар, і маўчаў, як філёзоф.

Дайшло да таго, што „міністры“ ад грызьні забываліся аб усім іншым. На сакрэтных нарадах ваўкамі глядзяць адзін на аднаго, адзін аднаго нэрвуе. Кожны паасобку лічыць сябе пакрыўджаным і ўсе ў цэлым таксама лічаць сябе пакрыўджанымі.

Дайшло да таго, што „міністры,“ сустракаючыся дзе кольвечы ў аднэй установе, лаяліся ды агрызаліся між сабою пры любым выпадку, вядома, не на „міністэрскую“ тэму. Калі хто з іх чытаў перад аўдыторыяй дакладна навуковую тэму, дык другі яго сябар па габінэту“ выступаў супроць і разьбіваў яго ў пух і прах. Прычынай гэтаму была адна—паднаготная і таемная: міністэрскія портфэлі...

Чалавек бяз знакаў прыпынку глядзеў на такія ўчынкі спакойна і ня зусім спакойна, бо нават радаваўся. Ён меў на гэта свой погляд:

Вельмі добра, што многія бачаць сваркі між нашымі людзьмі. Вельмі добра, што часова ня ладзім між сабою. Вельмі добра. Гэта толькі дапамагае нашай консьпірацыі. Пры такіх абставінах ніхто ня будзе падазраваць, што мы аб‘яднаны ў адно цэлае, што ў нас вядзецца агульная падпольная справа. Вельмі добра...

Чалавек бяз знакаў прыпынку аднойчы сказаў Цярэшку:

— Трэба, каб нашыя людзі публічна сварыліся і спрачаліся між сабою, і ня толькі міністры. Гэта для консьпірацыі. Дайце мы з вамі паспрачаемся раз. Я буду чытаць у інстытуце даклад і вы выступіце супроць мяне. Вострымі слоўцамі будзем лаіць адзін аднаго. А то ўсе бачаць, што мы вельмі дружым. Гэта для нас небясьпечна. Вы згодны?

— Згодзен!—сказаў Цярэшка.—Яму гэта вельмі спадабалася.

Пасьля нашай спрэчкі мы з вамі, дзядзька Цярэшка, некалькі тыдняў гаварыць ня будзем і вітацца ня будзем. Вы згодны?

— Згодзен!

— Для большай агалоскі нашых спрэчак мы адзін на аднаго будзем скардзіцца ў мясцком інстытуту, а то за намі сочаць вочы і вушы. Мы сапраўды неасьцярожны між сабою.

Чалавек без знаку прыпынку і Цярэшка так зрабілі. Яны выкарысталі для гэтай мэты дыскусію аб мове і, спрачаючыся, так уваходзілі ў сваe ролі, ажна сапраўды пасварыліся...

Тады ў насьценгазэце інстытуту прабралі і аднаго і другога, бо ня ведалі, хто вінават у гэтай сварцы.

А яны пасьля, як сустрэліся на падпольнай сходцы, умовіліся яшчэ некалькі тыдняў ня быць знаёмымі і сьмяяліся, сьмяяліся...

Лоўка было прыдумана, ня прыдумана, а сама практыка паказала.

Калі часам у інстытуце, ці дзе ў іншым публічным месцы двое з „міністраў“ шапталіся і хто-кольвечы чужы заўважаў, тады зараз-жа пачыналі між сабою „спрачацца“ на навуковую тэму...

Выкрыцьцё „С. В. У.“ на Украіне памірыла ўсіх на Беларусі.

„Міністры“ прызнаваліся публічна ў розных дробненькіх памылачках у сваёй працы...

Успомніўшы гэта тут, у Курганішчы, Цярэшка ўздыхнуў, усьміхнуўся і сказаў:

— Дыялектыка...

Жоўты пясок каля рэчкі ахапіў нямалы кавалак зямлі, вырваны з паплавоў. Пясок пабялеў на сонцы і быў падобны да мукі. Цярэшка падышоў да разьвілістай вольхі, крануў рукою галінку. З яе нізіліся буйныя кроплі расы.

Пасьля купаньня вярнуўся ў хату. На стале чакала сьнеданьне. Апрача пляменьніц, Настачкі і Мзей, нікога ня было.

Настачка выцягнулася, вырасла і, як кажуць, не паводле гадоў разумна. Мзей даганяе сястрычку, пераймае ад яе і манэры і розум. Нават шапяляць кінула.

Настачка кажа да Цярэшкі сумным галаском:

— А мы дзядзьку чакаем.

Мзей паўтарае, і Цярэшку здаецца, што гэта водгалас Настачкі:

— А мы дзядзьку чакаем.

Дзяўчаткі ў адных і тых-жа самых ружовых спаднічках з чорнымі гарошынкамі. Ручкі і ножкі загарэлыя на сонцы. Дзяўчаткі—як спарышы.

Вычышчаны да яркага блеску самавар шуміць, сьпявае тоненькім галаском, кашляе гарачым варам.

Цярэшка глядзіць на маўклівых і сумных дзяцей.

— Дзе-ж гэта цёця з хлопчыкам?—пытаецца ён.

— У млын пайшлі, да таты.

— Чаму вы, дзеткі, ня гуляеце?

— На нашага татку вясковыя дзеці ўчора сказалі „сволач і кулак,“ бо татка, кажуць, багаты, бо татка, кажуць, млын мае.

— Дык што з таго?

— Ну, мы—яго дзеці. Ня хочуць гуляць з намі, бо мы—сволачы і кулакі...

— А хто-ж гэта іх навучаў?—устрапянуўся Цярэшка.

— Ня ведаем...

— Вось як...

Самавар паказаў яму скрыўлены выцягнуты твар з рашыранымі злоснымі вачыма.

Цярэшка маўчыць.

Праз вакно лезе ў пакой разрэджанае сонца. Па кутках сьцен дрыжаць сонечныя зайчыкі.

Дзеці глядзяць на Цярэшку пільнымі вачыма, чакаюць адказу. Ён ад іх адварочваецца.

— Дык вы ня гуляйце з тымі дзяцьмі, а самі забаўляйцеся.

Настачка крывіць губкі

— Ай, ня хочам самі...

Цярэшка маўчыць.

— Татка нягодны. Нам бабулька Галавіха гаварыла, што татка нашу матку ў магілку ўвагнаў і ўзяў сабе гарадзкую пантыплюшку...

— Не гавары глупства, Настачка!

— А дзеці сваё кажуць: сволач і кулак...

— Мзей маўчы!

Цярэшка без апэтыту ўзяўся за сьнеданьне. У гэты час прышло яму ва памяць прароцтва былога „прэм'ера" з белымі манкетамі і з ружовымі выпешчанымі пальцамі:

— Яшчэ шмат крыві пральлецца...

— І чым хутчэй, тым лепш...—дадаў Цярэшка ад сябе ў вялікай злосьці.

---

## 30

## Справы сельсавету

МІКОЛА накіраваўся ў сельсавет.

За гэтыя некалькі дзён, што ён жыве ў швагра, пазнаёміўся з рознымі людзьмі. Тут цэнтр яго ўвагі—сельсавет. Часта прыходзіць да Міколы нейкі дзівацкі стары пад мянушкаю „Леў Талстой“ са сшыткамі сьмешных твораў, у якіх, аднак, шмат цікавага. Сяляне скардзяцца, што ў млыне Язэпа Крушынскага пруская вага падгульвае. Праз меру многа бяруць на „фунты“. Кажуць, што ледзь ня дзень-у-дзень Слуп і Бочка возяць вазамі ў Менск прыватным пекаром пшанічнай і жытняй мукі.

Сонца пячэ. Яно вандруе па пустэчы неахопнага блакіту і заглядае няўтомным агнёвым вокам ва ўсе куткі і шчыліны. Цень самы кароткі і празрысты. Пахне жывіцай, мурагом і распаранай сонцам глебай. Бзынкаюць мухі. Дзе-ні-дзе па полі сустракаюцца курганы розных памераў і форм. Яны адпачываюць нярухома сярод абшараў дагістарычнымі мастадонтамі. Вакол, куды ні кінеш вокам, дасьпявае жыта. Дзе-ні-дзе зялёны шоўк аўсоў. Па курганох і полі тэлеграфныя і тэлефонныя слупы. На нацягнутых бліскучых дратох—вераб'і. Над вясковымі хатамі калі-ні-калі сустрэнеш шасткі радыё.

Каля самага лесу пасуцца каровы. На паваленым пні сядзіць пастушок. Сядзіць моўчкі, скурчыўся. Нібы ў зямлю пад свае босыя ногі пільна ўглядаецца. Можа назірае над бронзавымі мурашкамі, ці над сабачымі грыбамі. Чамусьці пастушок ня дзьме ў традыцыйную жалейку, апяваную на ўсе лады беларускімі песьнярамі старэйшага пакаленьня.

Можа пастушок кошыкі пляце або лапці? Не. Ня рухае рукамі. Доўга ўглядаецца Мікола здалёку на яго скалмачаную кучаравую галаву, з паліняльмі ад сонца валасамі. Зацікавіўся, падышоў бліжэй.

— Кніжку чытае,—узрадваўся Мікола,—піонэрскую кніжку.

Пастушок зірнуў на Міколу. У хлапца звужаныя ад сонца зрэнкі, загарэлы твар. Ён жмурыць на Міколу вочы ды ўсьміхаецца як свайму.

— Чытаеш?

— Чытаю.

Два словы дзьвёх істот якія толькі што сустрэліся, а даўным-даўно знаёмы і блізкі...

Мікола адышоў. Жоўтае карэньне дрэў вылазіла з-пад зямлі, як электрычны кабэль. Купкі сухога сіўца бялеліся вакол вялізнымі барадаўкамі.

А вось белыя хутаркі, новыя творы прышчэпаўшчыны. Воддаль старыя гайдачанскія хаты.

Кроплі поту блішчэлі на ілбе Міколы, пакуль дабраўся да сельсавету. Над ганкам на паіржавелым цьвіку вісіць наўскос вывеска:

ГАЙДАЧАНСКІ СЕЛЬСАВЕТ

...І вывеска паказвае, што тут справы ідуць няроўна,—жартаўліва падумаў Мікола.

Першае, што ён у хаце сустрэў, яго зьдзівіла: каля печы завіхалася разрумяненая ад гарачыні жанчына. Яна садзіла хлеб у печ. Дружным хорам гулі мухі. Чорным воблакам яны кружыліся пад стольлю, над сталом, каля печы. На Міколава „дзень добры“ жанчына не адказала.

Мікола зьбянтэжыўся.

...Можа ня сюды папаў?

Дзьверы вялі ў другі пакой—у сьвятліцу. Пачуў адтуль гул галасоў. Адчыніў дзьверы і ўвайшоў.

...Так і ёсьць. Сельсавет...

Каля адзінага доўгага стала стаіць некалькі чалавек. Некалькі сядзяць на доўгай лаве каля сьцяны.

Старшыня разглядае пошту. Сакратар—маладая жанчына—раскладвае стопкі картак. Выбірае адны, адкладае, нешта ўпісвае ў іншыя і зноў бярэцца за першыя. Выглядае здалёку, нібы яна варожыць на карты.

Перад ёю сьціртачкі картак—вёскі і хутары. Кожная картка—гаспадарка. На картках рубрыкі, клеткі, лічбы.

Гайдачанскіх сельсаветчыкаў Мікола бачыць ўпяршыню, але паводле таго, як яны абмаляваны перед ім Антосем Драчыкам, ён іх адразу пазнае...

На тварах старшыні і сакратара стомленасьць. Бледныя твары. Пад вачыма шэрыя кругі. Нэрвовасьць ў рухах.

— А-а-а... таварыш.

Старшыня падняўся з свайго месца і хацеў загаварыць да Міколы як да знаёмага, але зараз-жа паправіўся:

— Хто вы такі будзеце, таварыш? Па якіх справах?

Жанчына сакратар зірнула на яго з-пад лобу і левай рукой паправіла „стрыжку“.

— Я з Менску.

Мікола выняў з кішені паперку і падаў старшыні.

Старшыня толькі зірнуў на пасьведчаньне рэдакцыі „Зьвязды" і зараз-жа вярнуў н зад, нібы раней яе чытаў.

Бацька Марціна яшчэ ўчора пахваліўся перад ім, хто такі Мікола і чаго ён сюды прыехаў. Ведаў старшыня, што Мікола шмат ужо з кім бачыўся...

Угодлівым голасам:

— Садзецеся, тав. Ярэмчык. Праз гадзіну кончу справы, а пасьля пагаворым. А ты, Анкуд (да босага селяніна, які сядзеў на лаве каля самых дзьвярэй), зачыні дзьверы, а то мухі адтуль налятуць. Ад іх паратунку няма.

— Вось тут садзецеся, тав. Ярэмчык!—старшыня паказаў месца каля сябе пры стале.—Мы ад удавы арандуем гэты пакой пад сельсавет. Пяць рублёў у месяц.

У голасе, у твары—дображаданьне тлумачыць, інформаваць, дацамагаць у корэспондэнцкай справе Міколы чым толькі можа. Старшыні прыемна. Гэта відаць з яго карых вачэй:

„Жартачкі, таварыш з Менску, ад „Зьвязды"...

— Паратунку няма ад гэтых мух!—тлусты дзякаўскі басок.

Гэта Анкуд, які зачыніў дзьверы, каб бараніць сельсавет ад мух. Ён адчыняе вокны.

— Праз вокны можа вылятуць на двор,—кажа ён з абурэньнем і глядзіць на Міколу.

У Анкуда рыжая бародка клінам, твар у рабаценьні, хітрыя прыжмураныя ад сонца вочы. У босых нагах з крывымі запэцканымі ў гнаі пальцамі хлапцоўскі спрыт.

— Дык вы працуйце, таварыш старшыня, перашкаджаць ня буду,—сказаў Мікола і пачаў адным вухам лавіць сялянскае шушуканьне.

...Як-бы ўсе тут баяцца мяне,—падумаў ён.

Стала няпрыемна.

...Няўжо-ж усе яны гадунцы Крушынскага?

Струмень чыстага паветра з адчыненых вакон казлытаў ноздры. Зашалясьцела на стале папера. Жанчына прыціснула рукою карткі, якія ветрам растрэсьліся ва ўсе бакі, і крыкнула „ай" такім голасам, што ўсе засьмяяліся.

Зачынілі вокны. З пакою гаспадыні запахла сьвежым хлебам. Пачуўся шэпт:

— Можа што і выйдзе.

— А хто яго ведае!

— Мы з ім пасьля пагаворым аб усім, што ў нас робіцца.

— Хіба што! Дагэтуль і носа ніхто сюды не паказваў.

— Не перашкаджайце!—пачуўся трэці голас.

Мікола запрыкмеціў. Двое, якія гутараць між сабою, сядзяць ў расхрыстаных кашулях. Галовы ў іх потныя, ускалмачаныя. Адзін малодшы, з шэрымі вачыма, з гладкім даўгаватым тварам. Другі, старэйшы, голены, з глыбокай маршчынай на ілбе. Лупавокі. Простая дзіцячая ўсьмешка. „Цяжка здагадацца, аб чым гэта яны мяркуюць",—думае Мікола.

Агледзеўшы ўсіх сялян, ён зварочвае ўвагу на адну маладую пару—дзяцюка і дзяўчыну. Яны вызначаюцца сваім урачыстым выглядам і сьвяточнай вопраткай. Нецярпліва чакаюць. Да таго пацеюць і чырванеюць, нібы толькі што ў лазьні парыліся. Шэпчуцца між сабою нячутна—на вуха адзін аднаму. Час-ад-часу паглядаюць у бок старшыні такімі вачыма, нібы ён павінен іх выратаваць з вялікай бяды.

Нарэшце хлопец нецярпліва зьвярнуўся да старшыні:

— Дык можна ўжо?

— Можна,—радасным голасам кажа старшыня. Да Міколы:—жэняцца яны, тав. Ярэмчык, па-новаму, без папоўскага шлюбу. Наша, так сказаць, перамога на культурным, так сказаць, фронце.—Зноў да маладых:—няма сьпешкі. Ночы цяпер усё роўна кароткія.

Старшыня хіхікае на сваю трафарэтную дасьціпнасьць, адтапырвае тоўстыя губы.

...Няйначай старшыня хоча перада мною пахваліцца чырвоным вясельлем...

Усё ў старшыні ў круглых формах: галава, шчокі, плечы пад сацінавай чорнай касавароткай, а на стомленым твары ўсьмешка захованай перамогі. Ён чамусьці вельмі рад і ня можа схаваць сваёй радасьці Ён пільна пераглядае паперы маладых і давай сам рыхтаваць новы дакумант.

Маладая аказалася няпісьменнай.

— Вось табе і культурны фронт!—нехаця вырвалася ў Міколы.—Што робяць вашы лікпункты?

Пачырванеў старшыня.

— Вось і стаў крыжыкі на дакуманце—стыдзіў ён маладую,—вось і стаў...

Відаць, што старшыні гэта вельмі няпрыемна.

— Ня маю калі вучыцца, працаваць трэба,—адказвае маладая.

На тэму жаніцьбы і граматы сяляне пачалі апавядаць вясёлыя анэкдоты. Гульлівыя сьмешкі, разьвязаліся языкі. Успамінаюць і айца Дзімітрыя.

Тут-жа адчыняюцца дзьверы, і сам айцец ва ўсёй сваёй духоўнай красе ўваходзіць у сельсавет.

Нявысокі, шырокі ў плячох, айцец на нікога не глядзіць, мэтравымі крокамі падыходзіць да старшыні. Паасобныя кусткі рэдкіх рыжаватых валасоў на яго твары зьлеплены ад поту. Чырвоныя тонкія губы сьціснуты.

Старшыня паблядне́ў. Вочы яго пацямнелі. Ён заёрзаў на лаве так нецярпліва, нібы пробаваў шараваць сасновую дошку.

— Як наўмысьня сягоньня, - ледзь ня вырваўся ў яго злосны крык. Ён насупіўся. Разьзявіў рот і глядзеў на папа як на здань.

— Ці вырашана справа з маім гародам?—пытаецца айцец з ноткамі далікатнай просьбы ў мэталёва-басовым голасе.

— Заўтра, бацюшка, заўтра аб гэтым пагаворым,—вырваўся ў старшыні ня то крык, ня то стогн.

— Вы-ж абяцаліся ўсё сягоньня закончыць?

Мэталёва-басовыя пераліvы пераходзяць ў альтавы выкрыкі.

Даўгаваты нос айца з чулымі ноздрамі ў кроплях поту, як у расе.

— Заўтра, бацюшка, заўтра,—шапоча старшыня і так глядзіць на папа, нібы просіць, каб той выцягнуў яго з глыбокага віру.

Айцец разумее. Не сказаўшы больш ні слова, выходзіць з сельсавету.

Мікола ўсьміхаецца. Зноў чуе ранейшы суфлёрскі шэпт:

— Поп у нас у пашане. Ён і гэтых маладых патайком павянчаў ужо.

— Яшчэ ня тое ўгледзіць у нас таварыш з Менску.

Гаварылі тыя самыя два ў расхрыстаных кашулях.

— Дайце працаваць!—грымнулі іншыя галасы.

Пад стольлю плойма мух. Сяляне падыходзяць па розных справах. Старшыня ветлівы, лагодны. Міколе падсоўвае „Праўду“, нібы дзіцяці пернік.

— Пакуль што, так сказаць, чытайце...

Мікола бярэ газэту і прыслухоўваецца да сялянскіх спраў, каб у іх улавіць тое, чаго тут шукае,—здаровых думак і ўчынкаў беднаты. Усё ідзе гладка, лёгка, як воз па добрай грэблі. Мікола разумее: „падрыхтавана раней для мяне. Толькі айцец сапсуў музыку“...

Старшыня часта скосу пазірае на Міколу за газэтную заслону.

Кульгаючы, уваходзіць Антось Драчык.

— Люблю шчырасьць, таварыш Мікола!—крыкнуў ён свой стары лёзунг.—Можаце мяне лаяць! Кінуў працу ў комуне і прыбег сюды! Я так і ведаў, што вы тут будзеце сягоньня. Люблю праўду. Матэрыялу для вас—во-о-о!

Драчык разгарнуў рукі на ўсю шырыню, каб паказаць колькі будзе для газэты матэрыялу.

У старшыні прыкметна дрыжаць пальцы. Сакратар нэрвова ўткнуўся пяром у карткі, нібы хоча іх пракалоць, як шылам.

---

Усю ноч перад гэтым сельсаветчыкі ня спалі. Даведаліся, што „нехта“ з Менску прыехаў, „нейкі партыец Ярэмчык“. Паслалі сваіх на разьведку: гэты „нехта“ вельмі цікавіцца ўсім, што тут робіцца, запісвае ў кніжку, а потым...

Галоўныя справы сельсавету перавандравалі на хутарок—да старшыні.

Шырачэзная дуга вясёлкі ахапіла тады паўнеба. З вышыні нізіўся лагодны дожджык. Было перад заходам сонца. Кроплі падалі яркія і буйныя, хоць ты іх лічы наляту. Дожджык быў цёплы. Куры спакойна спацыравалі па двары, і кроплі расплываліся на іхніх пер'ях цемнаватымі плямінкамі. Але цяжка было

на душы ў старшымі. Не хацелася папасьці ў газету. Ён саракагадовы чалавек, толькі нядаўна ажаніўся. Узяў за жонку дачку аднаго з самых моцных тутэйшых гаспадароў. Толькі жыць пачынае, а вось трывожаць...

Перад тым, як пералічыць недахопы „свайго“ сельсавету, старшыні прышлося зрабіць часовы экспэрымэнт над самім сабою: пераставіць наадварот стрэлку сваіх уласных пераконаньняў. Зрабіўшы гэта, ён пачаў удумвацца:

...У багатых утоена шмат зямлі.

...Ня ўпісаны поўнасьцю лік жывёлы.

...Коопэратыў выдае тавар, каму хоча і колькі хоча (багатым).

...З фунтамі ў млыну Крушынскага цёмная справа.

...Калі будуецца школа, дык хто возіць лес: бяднейшыя.

Пунктаў абвінавачваньня ў яго шмат. Як іх утоіш за адну ноч?

Нават ісьці ня хочацца. Аслабаніў стол ад хатніх рэчаў, і вось на ім сельсавецкія справы.

Калі добра сьцямнела, прыбег і „сам“—Язэп Крушынскі.

— Ну як?

— А так!

— Злавацца, дружа, няма чаго.

Лысіна Крушынскага блішчэла, нібы пакрытая лякам. Твар быў спакойны.

— Паслухайся лепш, чалавек табе кажа. Блыха цябе ўкусіла, а ты думаеш мядзьведзь. Памятай адно—кулакоў у нас няма. Так і кажы! Часта паўтарай, каб „яму“ гэта ў мазгі ўлезла.

— А калі „ён“ пра цябе запытаецца?

— Пра мяне?!—Крушынскі засьмяяўся. Вадзіў вусамі, як таракан.—Я культурны селянін, рэволюцыянэр 1905 году, чырвоны партызан пры белапольскай акупацыі. У сельсавеце ёсьць тая „Беларуская Вёска“ з артыкулам аба мне ды з маім портрэтам? Ёсьць.

— Вось і добра. Калі што якое, тыцні яму ў вочы гэтай газэцінай.

Старшыня пачаў супакойвацца. Крушынскі настаўляў далей:

— Там коопэрацыя ды іншыя такія справы—плюнь! Ты не адказваеш, ты ня ведаеш. Няхай заўтра зьбярэцца ў сельсавеце пабольш сваіх. Ты ім, здаецца, наказаў? Чырвонае вясельле заўтра?—дзела! Вось і новы быт! За гэта цябе паважаю.

Крушынскі моцна апусьціў руку на яго плечы. Старшыня падбадзёрыўся.

— А што варта наша вылучэнка? Жартачкі, жанчына сакратаром сельсавету! Дзівак ты, калі баішся нейкага там корэспондэнта з Менску. Наш сельсавет на першым месцы ў раёне! Эх ты, варона!

— Дык можа вып'еш, га?—расхаробрыўся старшыня.

— Гэта на сягоньня будзе залішняе. Ты свае там шпаргалкі добра праглядзь, з чыстай галавой! А то...Толькі ня бойся, дружа.

Крушынскі пашоў да дому.

...У нашым сельсавеце кулакоў няма...—прыемнай музыкай зьвінела ў вушах старшыні настаўленьне Язэпа Крушынскага.

На гэты раз вокны былі заслонены абрусамі, каб з двара ня відаць было сьвятла лямпы...Старшыня і сакратар працавалі з нязвычайным імпэтам. Скрыпелі пер'і, шалясьцелі паперы і паперкі: — рэвізія. Вочы былі апушчаны ўніз, смагла, нібы п'яўкі ўпіваліся ў лічбы, пальцы з асаблівай гарачкай перагортвалі купкі паперовага сьнегу, шукалі, знаходзілі. Учытваліся, раіліся, меркавалі, і ніколі такой салодкай і страшэннай ім ня была канцылярская праца. Мухі гулі, над гарачым шклом лямпы, смажыліся ў „Этне“ газавага кнота, а сельсаветчыкі гарэлі на сваім уласным агні.

...У нашым сельсавеце кулакоў няма,—скрыпелі пер'і і герогліфамі адзначалі тое самае чарнільныя кляксы.

Плыла цішыня ночы па палёх і лясох, спынялася над хутарам змрочнай хваляй і забрала на сваіх грэбнях скрыпы пер'яў, шалясьценьне паперы і шэпты людзей. На двары засьпяваў певень. За ім—другі, трэці.

Старшыня уздрыгануўся. І ў „кукурэку“ чуў галюцынацыю слоў:

...У нашым сельсавеце...

Сьпіны, рукі і вочы смактала зморанасьць. Старшыня зрабіўся шэрым. Сакратар моргаў вачыма, нібы ў іх папаў пясок. Толькі пад раніцу яны агледзеліся, што на адных і тых самых паперах неаднолькавы атрамант. У сельсавеце пішуць сінім, а тут выпраўлялі чорным....

Калі зарыпеў асьвір над ступняй, старшыня загасіў лямпу і зьняў з вакон абрусы. Было зусім відно. Дзесьці блізка стагнала птушка. Чырвоным шоўкам палала нізка над лесам усходняя палоска неба.

---

# 31

## Галасы палёў

АПРАЧА Анкуда ў сельсавеце няма „чужых"— Старшыня папрасіў „не перашкаджаць".

Паміж Міколай і старшынёй адбываецца лагодная гутарка, са спынкамі, з зазіраньнем адзін аднаму ў вочы. Сакратар і Драчык прыслухоўваюцца. Гутарка плыве мірна, каменьньні падазронасьці не затрымліваюць яе роўнай хады.

Старшыня падсоўвае Міколе армію папер з лічбамі, калёнкамі і клеткамі ведамасьцяў. У сакратара напагатове сельсавецкія картачкі.

Мала заглядае туды Мікола.

Пасьмялеў старшыня. Глядзіць на Міколу, як старэйшы на малодшага, часта пазяхае і далоньню рот засланяе.

...Ня так страшан чорт, як яго малююць.

У старшыні адна прыпеўка:

— У нашым сельсавеце няма кулакоў.

Ня ведае старшыня, якое ўражаньне на „яго" робіць прыпеўка, і ледзь прыкметная маршчынка мільгае ў вуглох яго губ.

Анкуд стараецца ўсімі сіламі дасягнуць такога ідэалу, каб усіх мух павыганяць з пакою. Ён адчыняе вакно і шапкай махае ў паветры.

— Паратунку ад вас няма!—злуецца Анкуд.

Няма ведама, ад каго няма паратунку: ад мух, ад старшыні, ад Міколы.

Калі-ні-калі Мікола нешта ўпісвае ў блёк-нот. Старшыня адным вокам глядзіць на незразумелыя круцёлкі.

...У гэтых круцёлках, нібы шчупак ў сетцы рыбалова, тузаецца мой лёс...

Па інтонацыі голасу Міколы старшыня стараецца даведацца пра свой лёс. Голас роўны, лагодны, упэўнены, але бяз водгукаў пагрозы

Па выразу твару Міколы ён пачынае хіроманцкую варажбу пра сваю будучыну. Твар Міколы—маладосьць, бадзёрасьць, свойскасьць. Вочы такія шчырыя...

...Можа у шчырасьці „яго" вачэй небясьпека для мяне?...„Ён" шчыры як малое дзіця...

— А Язэп Крушынскі таксама ня кулак? Тут у Міколы вылазіць наверх ня то нэрвовасьць, ня то нецярплівасьць. Ён проста зазірае ў стомленыя вочы старшыні.

Такі-ж „просты“ адказ...Крушынскі—галоўны козыр у руках старшыні:

— Ён культурны гаспадар.

Старшыня доўга шукае ў паперах, у папках. Бровы дужкамі ўзьлётваюць над вачыма, апускаюцца. Ведае, дзе ляжыць патрэбная папера, але адцягвае драматычны эфэкт. Наўмысьне шукае. Шалясьцяць лісткі, нібы бярозавае лісьце ўвосень. Нарэшце знаходзіць. Яго вочы зьзяюць расплаўленым мэталем. Тоўстыя губы трубкай:

— Вось...

Падае Міколу выразку з „Беларускай вёскі“ за 1924 год.

— Чытайце, тав. Ярэмчык!—голас ўрачысты і пераможны.

Мікола чытае надрукаваны артыкульчык пра „культурную“ гаспадарку Крушынскага, глядзіць на яго портрэт.

— Добры портрэт,—кажа Мікола.

Драчык ускоквае з месца. Яго твар буры ад злосьці.

— Люблю шчырасьць! Лоўка напісана!

І ён малюе ў кароткіх словах новы портрэт Крушынскага:

— Крушынскі—конакрад, контрабандыст, эксплёататар чужой працы, фабрыку-млын мае! Драчык бляднее і дрыжыць ад злосьці.

— Ведаю,—супакойвае яго Мікола...Ведаю...

У старшыні кроплі поту на ілбе, чмокае губамі, нібы нясмачнае есьць. Ён успамінае той час, калі быў фэльдфэбелем. Аднаго разу моцна зьбіў маладога белабрысага салдата за тое, што той быў слаб у „славеснасьці“. У таго кроў з носа пацякла. Вось, каб так цяпер „гэтых“...

— Я тут даведаўся, але чаму таварыш Драчык да гэтага часу маўчаў?—дзівіцца Мікола. Ён, выходзіць з ранейшай роўнавагі. Голас мяняецца.

— Я не маўчаў і не маўчу! На ўсіх сходах гавару. Праўду люблю! Пісаў у раён. Ніякіх вынікаў. У Крушынскага ўсюды свае людзі. Гэта такая хітрая сволач, што...

Драчык хвалюецца, стукае сабе кулаком у грудзі. Вочы гараць. З кожным словам яго голас расьце, вырастае ў крык.

— ...Заўсёды выкручваецца. А мала іх у нас Крушынскіх рознага выгляду? Ці ня сябар Крушынскага даў мне калом па галаве, ад чаго я аглух на адно вуха? А ў новых пасёлках мала кулакоў? Іх усіх адгэтуль трэба жалезнай мятлой! Люблю шчырасьць!

Мікола глядзіць на Драчыка, і радасьць сьвеціцца ў яго вачох. Ледзь стрымліваецца, каб ня крычаць разам з Драчыкам.

З шэрых вачэй Драчыка сыплюцца іскры. Ён раптоўна паднімаецца з лавы, нібы хоча ўцячы з сельсавету, зноў садзіцца, выцірае губы і зноў:

— Не я адзін так гавару... Многія, але я павінен констатаваць той факт, што...

Анкуд спыніў вайну з мухамі і нацэліўся зацікаўленымі вачыма ў самы рот Драчыка. Рыжая бародка Анкуда гарыць на сонцы, як кучка чырвонага дроту. Рот у яго адчыняецца і зачыняецца, нібы пробуе сілу сківіц. Блішчаць белыя зубы. Мухі, як звар'яцелыя сваволяць пад стольлю. Пахне печаным хлебам.

Залацісты слупок сонца соваецца ад вакна папярок пакою. У ім мільёны драбнюткіх пылінак верцяцца, кружацца, рухаюцца.

Мікола вяртаецца дадому.

На скошаных паплавох сквіргочуць стрыгунчыкі, нібы сотні танюсенькіх пілак грызуць жалеза. Цені даўжэюць. Круглы чырвоны дыск сонца вісіць над самым лесам.

Толькі адзін раз у памяці Міколы яшчаркай мігатнулася перасьцярога Драчыка:

— Асьцярагайся, братку! Ты ня ведаеш Крушынскага. У яго тут ня мала рук.

Мікола зараз-жа пра гэта забыўся. Ішоў не гасьцінцам, а воддаль, сьцежкай. Рэчка ўрэзалася ў гасьцінец бліскучай дугою.

У некаторых вокнах Драздоў і Дзятлаў рассыпаюцца снапы сонечнага заходу. Вее халадком.

З-за касагору паказаўся чалавек у белай сарочцы. Мікола зацікавіўся. У хадзе гэтага чалавека, які па-вайсковаму махае рукамі, ён успамінае нешта знаёмае. Як той падышоў бліжэй, Мікола пазнаў: поэт Цярэшка.

— А-а-а... як маецеся, тав. Ярэмчык?

— Надоўга?

— Сягоньня еду ў Менск. Цэлы месяц тут адпачываў. А вы?

— Прыехаў на некалькі дзён па розных справах.

Па твары Цярэшкі зязьмяіўся цень.

---

Прысадзісты, з шырокім рабым тварам (сьляды воспы), чалавек звоніць па тэлефоне. Твар яго бледны. Часта трэ рукою сухі лоб. Чалавеку здаецца, што ўспацеў. Вочы ўтаропіліся ў рукапісную газэту, прышпіленую кнопкамі да сьцяны, і нецярпліва чакаюць адказу. Дрыжыць тэлефонная трубка ля яго вуха. Пальцы пабялелі ад таго, што моцна сьціснулі трубку. Зараз бразьне ёю аб стол, ня сьцерпіць, і з яго сьціснутых губ сарвецца лаянка—моцная, злосная.

Стрымліваецца.

Звоніць ў адно месца, другое, трэцяе.

Ніякага адказу.

— Ах, ч-ч-орт!

Губы крывяцца ў злую іронію, вочы цямнеюць, увесь ён да таго напружаны, што зараз тупне нагою, моцна тупне, ажна клюбнае піяніна застогне ўсімі струнамі.

— Што рабіць? ну, ш-ш-што?

Грудны голас з самага нутра.

Ярка сьвеціць электрычная лямпачка. Побач на сьцяне, абвешанай лёзунгамі, дыяграмамі, плякатамі і портрэтамі, цень чалавека. Каб акрэсьліць вуглем, выйдзе чоткі профіль з завостраным носам і характарнай напружанай лініяй барады, і кожны пазнае ў гэтым профілі старшыню комуны „Чырвоны Кастрычнік“—таварыша Шаневіча.

Адчуваецца, што ў клюбе адбылася толькі што вялікая сумятніца: крэслы парассованы, адно ляжыць бокам, ножкі яго выцягнуты ў бок, нібы ў аглушанай ад спалоху жывёлы. Дзьверы адчыненыя. Толькі што тут быў цэлы гурт людзей, толькі што сьцены ўсмактвалі ў сябе іхнія рознастайныя галасы, толькі што па падлозе чуваць быў стукат сотні ног, толькі што...

Цярпліва маўчыць у чаканьні таварыш Шаневіч.

— Паснулі яны ўсе, ч-ч-орт іх падзяры!

Голас роспачы стрымліваецца, бо калі ня будзеш стрымлівацца, дык... Але Шаневіч заўсёды такі—спакойны тады, калі іншыя хвалююцца і рвуць на сабе валасы.

Глядзіць на гадзіньнік.

— Без пятнаццаці хвілін дванаццаць. Ня дзіва, што ў установах раёну нікога няма.

Зноў звоніць.

На гэты раз:

— Міліцыя! Адкуль?

— З комуны „Чырвоны Кастрычнік“.

— Слухаю.

— Няшчасьце ў нас. Коняй атруцілі. Зараз-жа сюды вэтэрынара і міліцыю!

Летняя, цёплая ноч са скваргатаньнем стрыгунчыкаў кудысьці адплыла адгэтуль на вялізным караблі. Ніхто яе не заўважае.

Трывога расьце веерам—вузкім у клюбе, дзе Шаневіч зааніў у раён, шырэйшым на дзяцінцы і самым шырокім у канюшні, дзе мучаюцца ў сударгах атручаныя коні.

З дзядзінца гул галасоў урываецца праз вокны ў клюб, захлёствае вялізны пакой трывожным прылівам.

Шаневіч трэ рукамі сухі лоб і выходзіць на двор. Усё гэта напамінае Шаневічу той час, калі колькі год таму назад было падпалена комунарскае гумно.

У цёмна-сінім бяздоньні неба падміргваюць адны адным прамяністыя кропкі зорак. Нібы аганькі караблёў у моры.

...І тады, пры падпале гумна, была такая-ж ноч.

Людзі не прыкмячалі яе тады, як і цяперашняю ноч. Трывожны гул перакідваецца па дзядзінцы з месца на месца. Рыпаюць дзьверы. Тупаюць ногі. Бягом мужчыны і жанчыны, старыя і дзеці.

Трывога.

З вуснаў лезуць, ірвуцца гранатамі нязвычайныя ў штодзённым жыцьці комуны словы.

Шаневіч не прыслухоўваецца, але злосныя словы, крыкі абурэньня і гневу самі лезуць ў яго вушы вострымі і доўгімі ганталямі. Ён многіх пераганяе, а здаецца ідзе так павольна. Некаторыя ўступаюць яму дарогу.

Лагодна просіць:

— Супакоціеся, таварышы... Не хваляваецца і ня тупацца бяз толку...

Устрывожаны вулей гудзе:

— Чулі?

— А-я яй, што-ж гэта будзе?

Пракляцьце на іх, на гэтых бандытаў!

— Да чаго. зьвяр'ё, дадумаліся!

— Жывёл нявінных труціць, га?

Шаневіч пазнае голас Драчыхі.

— Супакойцеся...

— Ну і адплоцім кулаччу! Мы з імі расквітаемся! Люблю праўду! Так цягнуцца далей ня можа! Гэта-ж няма як жыць!

Хрыплы крык у Драчыка.

Яму ў адказ старэчы галасок, плаксівы, дрыжучы:

— Ну вас усіх! Пайду з комуны, жабраваць пайду, а тут жыць ня буду. Гэта-ж адно страхоцьце.

— Ня пудлуй, дурань стары!

Высокая труба крухмальні лезе ў неба чорным пальцам. Вось-вось саскрабе з сіняга абруса агнёвых „божых каровак". Заглушана галасамі людзей сквіргатаньне стрыгунчыкаў. Чорным масывам ценяў глядзіць сад, прыслухоўваецца.

Расьце гул людзей. У гуле—злосьць і нянавісьць да ворагаў. Страшная гэта нянавісьць грамады.

Адна жанчына ўсхліпвае.

— Жыць тут тое самае, што на позыцыі... Пямятаю, як была бежанкай, то...

— Супакойся, бабка. Праўду ты кажаш, жывем на позыцыі. Вораг нам пакасьці робіць, але наша возьме!

Шаневіч уваходзіць ў канюшню.

— Хто гэта зрабіў? Хто?

У Драчыка не чалавечы голас, а дзікі крык. Ён абводзіць усіх такімі страшнымі вачыма, аж некаторыя адварочваюцца ад яго.

— Супакойся, Драчык, даведаемся.

Цяпер трэба прабаваць коняй ратаваць,—зьвярнуўся да яго Шаневіч.

Людзі цягнуць вёдры з задою, даюць коням піць і ня ведаюць, што рабіць пры гэткіх выпадках.

...Вось табе і наша бібліотэка. Няма ў нас добрых кніжак па вэтэрынарыі. Сам вінават, што не паклапаціўся ў пару,— думае Шаневіч і выцірае рукою сухі лоб. Зьвярнуўся да Драчыка.

— Пазвані ў міліцыю. Няхай да тэлефона пазавуць вэтэрынара. Пытайся, што трэба рабіць ў такіх выпадках.

Драчык пабег.

„Бура"—чорны і бліскучы, як аксаміт, конь—ляжаў, хрыпла стагнаў і дрыгаў нагамі. Адшліфаваныя падковы блішчэлі серабром.

Ходырам хадзілі ў каня бакі. Заўсёды грозныя вочы „Буры" былі цяпер зацягнуты мутнай павалокай. Пару разоў з яго вачэй сыходзіла каламуць, і яны рабіліся прытомнымі. Конь глядзеў тады на людзей бадай чалавечым позіркам і чакаў дапамогі... Вушы яго бездапаможна абвісьлі.

„Бура"—гадунец сівога Язэпа, аднаго з першых комунараў „Чырвонага Кастрычніка".

Тры гады таму назад „Бура" быў малым і сьмешным жараб'ем Стары Язэп узяў на сябе абавязак выгадаваць яго. Сам прыдумаў яму клічку „Бура", прывык да яго „Бура". Бывала, Язэп крыкне:

— „Бу-ра-а-а".

Жарэбчык прыбягаў да яго, як дзіцё да добрага дзядзькі.

Разумныя жвавыя вочы былі ў „Буры"... Тады на свае ўласныя грошы Язэп купіў „маломy" (нібы цацку для ўнука) званочак... Песьціў стары „Буру"

На раённай сельгаспадарчай выстаўцы ў мінулым годзе „Бура" атрымаў першы прыз. Ганарыўся стары Язэп.

Цяпер ён рукі ломіць над канаючым аксамітным жарабцом і ўпотайку сьлёзы выцірае...

— Хто вечарам у канюшню хадзіў?—пачуў стары Язэп гучны голас Шаневіча.

— Тоська.

— Дзе Тоська?

— Яго тут няма.

— Знайсьці Тоську!

---

„Яшчэ шмат крыві пральлецца".

Гэты лёзунг былога „прэм'ера" ў белых манкетах большасьць будучых „міністраў" прызнавала як бясспрэчны і выгравіравала ў сваіх сэрцах як сымболь сваёй будучай дзяржаўнасьці. Дзеля гэтага каля году таму назад пры дзяльбе портфэляў аднадушна згадзіліся, што лепшага вайсковага міністра за Булак-Булаховіча ня знойдзеш. Ён патрапіць па ўсёй цяперашняй Савецкай Беларусі паставіць шыбеніцы, нібы нябывалы садоўнік рассадзіць нябывалыя дрэвы з нябывалымі садавінамі. І наш краявід, наш пэйзаж дзе-ні-дзе зьменіцца. Раскапаныя вучонымі старыя курганы заменяцца новымі курганамі... І пышным цьветам закрасуе новая курганная поэтычная Беларусь...

Лёзунг былога „прэм'ера" ў белых манкетах мае глыбокі гістарычна-філёзофскі і поэтычны сэнс.

...Яшчэ шмат крыві пральлецца...

Цярэшка ўжо больш году зьяўляецца падпольным „міністрам асьветы“. Міністэрскі портфэль накладваў на яго „пэўныя абавязкі ўжо цяпер. Для самога сябе яму патрэбна была трэніроўка, сваясаблівая трэніроўка думак, розуму, псыхолёгіі а дным напрамку:

„Я міністар асьветы. Трэба дзейнічаць. Трэба ўмець так дзейнічаць, каб работы было зроблена шмат, але каб яе не заўважылі. Яна павінна быць сакрэтнай, але, каб яе бачылі тыя, каму трэба бачыць. Тут ёсьць шмат супроцьлегласьцяй, якія павінны перакрыжоўвацца між сабою ў строгім адзінстве мэты“.

Цярэшка меркаваў сабе штат, падбіраў у памяці людзей паводле пэўнага ідэолёгічнага напрамку—падбіраў „шчырых беларусаў“.

Гэтыя людзі самі ня ведалі, што зьяўляюцца будучымі саноўнікамі ў яго міністэрстве. Гэтыя людзі самі ня ведалі, што будучына іх такая бліскучая і ганорная. Сяброўствам, трапнай крытыкай усяго вакольнага падпольны „міністар асьветы“ стараўся ачысьціць сваіх будучых падначальных ад бальшавіцкіх уплываў. Нібы кволыя расьліны зімою, ён іх ахоўваў у сваім дзівосным духоўным парніку. Ён часта прыглядаўся да школ, гутарыў з настаўнікам глядзеў на іх, як на той ацьвярдзелы воск, які потым будзе разьмякчаны ў яго руках і прыме патрэбныя для дзяржавы формы... Ён пакруціць у адваротны бок тое новае калясо, якое было зроблена калясьнікам увосені тысяча дзевяцьсот семнаццатага году. А калі сустрэне ў гэтым перашкоды, тады расставіць па ўсёй Беларусі моральныя шыбеніцы. А калі і моральныя шыбеніцы не памогуць, тады дапаможа герой Мазыршчыны—Булак-Булаховіч. Пілсуцкі за ўсе гады кіраўніцтва новай Польшчай падрыхтаваў для гэтага нямала практычных мэтодаў... А будучая Беларуская дзяржава будзе знаходзіцца пад протэктаратам Польшчы.

Розныя пляны раіліся ў галаве Цярэшкі, перашкаджалі адны адным, дапаўнялі адны адных і напаўнялі самога „міністра асьветы“ нябывалым зьместам і нябывалымі настроямі.

І часта ў яго знаёмыя пыталіся:

— Што вы такі задумёны, таварыш Цярэшка? На вуліцы не пазнаяцё нас.

— Пішу новы твор.

— А-а-а. Усе паэты з аднаго палатна выкраены.

Цярэшка не пакоіўся, што пачалі заўважаць у ім зьмену.

...Я, здаецца, так асьцерагаюся...

Ня лёгка займаць такую вялікую дзяржаўную пасаду, ды каб ніхто аб гэтым ня ведаў, ды каб самому гэтым хавацца...

...Каб ужо хутчэй..

Каб хутчэй можна было ўсенародна сказаць:

— Я міністар асьветы!

Але гэта дзівосная дзяржаўная садавіна (як ні стараліся былыя і будучыя) яшчэ ня высьпела, хоць абагравалася іхнім цёплым сонцам, палівалася іхнімі лагоднымі дажджамі на ўгноенай ураджайнай глебе. Дзяржаўная садавіна яшчэ была цьвёрдая і зялёная і магла-б пашкодзіць.

І носіцца Цярэшка са сваім міністэрскім портфэлем, нібы казачная курыцца з казачным залатым яйцом.

Гэта нямала стаміла яго.

І вось ён ужо цэлы месяц адпачывае ў Курганішчы ад сваіх дзяржаўных спраў. Месяц вырваны, нібы рэпіна з карэньнем, з шумлівых клопатных месяцаў гораду. Месяц спакойны і ціхі, нібы сажалка ў садзе Язэпа Крушынскага. Міністэрскі месяц на вёсцы. Фальваркова-лірычны летні месяц. Кожны дзень гэтага месяца напаўняўся пэўным зьместам, як шкляная пасудзіна каляровым пітвом.

Цярэшка пісаў вершы, чытаў кнігі і газэты, гуляў у лесе, у двух дзядоў Драздоў і Дзятлаў—Галавы і Сухарукага—зьбіраў народную творчасьць. А што тычыцца гутаркі з сялянамі, дык ён гэтага асьцерагаўся. Лепш быць абасобленым і не мазоліць вачэй. У млыне бывала кожны дзень ня мала народу з ваколіцы, але ён туды не хадзіў. У млыне для яго зьбіраў „народную творчасьць“ Язэп Крушынскі і перад сном перадаваў яму гатовенькае. Нібы зярно з мякіны Цярэшка выбіраў з гэтай „народнай творчасьці“ самае галоўнае: нежаданьне ісьці ў колгасы і чаканьне вайны...

У адплату за гэта Цярэшка кожны раз гаварыў Крушынскаму:

— Хутка прыдзе вызваленьне. Мо‘ праз тыдзень, а мо‘ праз месяц. Самае доўгае—год...

Язэп Крушынскі жыў гэтым, нібы хворы падскурным упрыскваньнем.

Так на месячным полі чаргаваліся фальваркавыя дні, падобныя адны да адных, як фотаздымкі-адбіткі з аднаго нэгатыву. Часам у гэтыя дні гвалтоўна ўрываліся гадзіны. Яны былі спачатку няпрошаныя і неапраўданыя. Цярэшка назваў гэтыя гадзіны папоўскімі.

Да яго пачаў прыходзіць айцец Дзімітры.

Поп прыходзіў якраз тады, калі ён гарэў творчым натхненьнем, нібы кнот васковай сьвечкі, калі рыфмы—хлопчыкі і дзяўчаткі ў васільковых гірляндах—самі прасіліся ў дзіўныя скокі на белы сьнег паперы, калі радкі—цудадзейная рунь Цярэшкавага поэтычнага сэрца і міністэрскай цярплівасьці—расьлі адзін за адным у вокамгненьні, калі Цярэшка хацеў быць сам-на-сам і пісаць і пісаць, пісаць да ахмяльненьня да зялёных і сініх кругоў перад вачыма...

У такія гадзіны поэтычнай смагласьці і прагнасьці ўрываўся чорнай шурай-бурай у сваёй папоўскай расе айцец Дзімітры.

— Пішаце? Эх, вы, Нестар-летапісец!

Айцец Дзімітры жмурыў вочы і гладзіў бараду. І нешта прымусовае і надмеру стараннае відаць было ў яго жмураньні вачэй і гладжаньні барады. Вось нібы хтосьці пад страхам загаду прымушае папа рабіць гэта, а самому зусім ня хочацца.

— Нічога сьпешнага няма ў мяне. Калі ласка, бацюшка! Добра, што вы прышлі. Вельмі добра...

Цярэшка хаваў глыбока ўнутры зьмяю незадаволенасьці, рабіў гасьціныя вочы і адкладваў прылады сваёй поэзіі—паперу і ручку.

Такое далікатнае абыходжаньне ён таксама лічыў саматрэніроўкай. Калі надыйдзе той сьветлы час і ён громагласна і ўсенародна будзе міністрам, дык пэўна прыдзецца часам назначаць аудыенцыі такім наведвальнікам, з якімі і гутарка ніякай прыемнасьці ня дасьць. Але трэба сябе прывучаць...

Тым часам айцец Дзімітры перабівае яго думкі:

— Так хочацца з інтэлегентным чалавекам пагутарыць. Так хочацца... Так у бязводнай пустэчы чалавек піць хоча...

Апошнія словы „піць хоча" выклікаюць у „міністра асьветы" пэўны рэфлекс. Ён прымае са стала папяровую пустэчу, і Стэфка, жонка гаспадара, прыносіць на стол закускі. Сам Цярэшка ставіць бутэльку віна. Прывёз з Менску цэлую скрыню бутэлек.

Такія папоўскія гадзіны адбываюцца ня штодня, але даволі часта.

У часе віпіўкі поп прыглядаецца да Цярэшкі, Цярэшка да яго. У абодвых вялікая смага—вывучаць адзін аднаго. Абодвы намацваюць адзін аднаго асьцярожна, цярпліва. Нібы адбываецца ў іх газартная ігра, дзе кожны стараецца астацца з выйгранкай.

— Курганішча для поэта добры Парнас,—кажа трохі выпіўшы айцец Дзімітры.—Тут можна вывучаць заход і ўсход сонца, рух, формы і колеры воблакаў, шапаценьне лісьцеў на дрэвах, сьпевы птушак над рэчкай, сум курганаў. Тут можна назіраць за фазамі месяца. Тут можна назіраць...

Айцец Дзімітры не гаворыць, а сьпявае. Вочкі яго бліскаюць і пільна глядзяць на Цярэшку, ня вочкі, а царкоўныя лямпадкі.

Цярэшка гаворыць яму ў тон:

— Курганішча для духоўніка—сьвяты Назарэт. Тут можна славіць бога-госпада на ўсход і заход сонца. Тут сярод воблакаў можна чуць ўзьлёт анельскіх крыльляў. Можна зьбіраць ў адно стада божых авечак і стрыгчы сьвятое воўна. Тут можна...

— Годзе...—просіць айцец Дзімітры.—Ну і мсьцівы вы поэт!

— А вы і ня поп і ня хлоп. Хто вы такі?

Айцец Дзімітры не зьвяртае ўвагі на яго запытаньне і кажа:

— Поэт і духоўнік маюць адно прызначэньне ад бога—вучыць народ. Мы з вамі кроўныя браты. Поэзія і эвангельле родныя сёстры. Дайце вып'ем за крэўнасьць нашых дзеяньняў і помыслаў!

Цярэшка ўспамінае. Нешта Лапоўскі (чалавек бяз знакаў прыпынку) гаварўў яму пра тутэйшага папа. Цярэшка раптоўна наўмысьне неспадзеўна, пытаецца:

— Не ламайцеся! Хто вы?

Айцец Дзімітры трохі бляднее, глядзіць на Цярэшку на момант застылымі вачыма і шэпча голасам „сьвятога блазна“:

— Я чалавек божы, у вопратках божых, са словам божым. Давайце вып‘ем!

Цярэшка выходзіць з сябе. Коліць вачыма айца Дзімітрыя і зноў страляе раптоўнымі словамі:

— Мне пра вас дзядзька Лапоўскі гаварыў...

Айцец Дзімітры ўспыхвае, масьляныя вочкі цямнеюць, і ён робіцца сур'ёзным.

— Які Лапоўскі?

— Лявон Максімавіч.

Некалькі мігаў яны пранізваюць адзін аднаго вачыма. Потым Цярэшка шэпча міралюбным тонам:

— Аднаго поля ягадкі. Ня бойцеся.

— Я і ня думаю баяцца, тым больш у хаце Язэпа Сымонавіча.

— Тым больш...—падказвае Цярэшка.

Айцец Дзімітры сьмяецца нэрвовым сьмехам:

— Тым больш афіцэру...

— Вось вам вашае эвангальле!

— Вось вам вашая поэзія!

І тут яны пачынаюць гаварыць, як старыя знаёмыя. Лапоўскія гадзіны цяпер апраўданы.

— Як мы аднак неасьцярожны,—дзівіцца Цярэшка.

—Глупства! Адзін-на-адзін няма чаго баяцца. Сьведак няма. А пры тым ў мяне добрае чуцьцё. Калі не памыляюся, тое самае і ў вас.

— Не памыляецеся.

Аднак гавораць між сабою асьцярожна. Гавораць кароткімі сказамі. Не дагаварваюць. Кожнае слова—шыфр. Цярэшка пытаецца:

— Як у вас?

— Нарыхтавана. Чакаем.

— Нядоўга прыдзецца чакаць.

Ігра скончана. Аобдвы выйгралі.

---

І так, нібы цень ад хмар на жытнім полі, праплыў месяц.

Кожны раз пасьля сьнеданьня Цярэшка дапаўняў новым творам свой зборнік поэзіі пад назваю „Галасы палёў“.

Вось яны сьпяць на стале—у пялёнках шырокай папкі.

Вершы.

Кожны—на лістку белай гладкай паперы. Пад кожным—дата і назва мясцовасьці—Курганішча.

Вось і новы зборнік...
Галасы палёў...
А пасьля...
...Іх пачне соладка жаваць глухаваты крытык алалоўнік пад псэўдонімам Гайдач.
А пасьля...
...да чарговага юбілею іх апране ў чырвоныя сарочкі юбілейны профэсар ад літаратуры—тоўсты, кароткі і лысы. У яго жабіныя вочы і жабінае квохканьне. У яго ...вялікія здольнасьці. Ён знойдзе ў іх тое, чаго зусім няма. Юбілейны профэсар пачне перагортваць, як восінскі вецер пажоўклае лісьцё, сусьветную літаратуру, філёзофію, абсыпіць Цярэшкавыя вершы імортэлямі лаціны, дажджом мудрасьцяй на пакалечанай францускай мове, загне пару запыленых цытат па-нямецку—усё вакол гэтых „Галасоў палёў“. І юбілейны профэсар пачне гудзець, як жук, кругі кружыць, кіўнецца туды і сюды, пацягне носам і пачне нюхаць паветра:
...Ці моцны Цярэшка ў гэты момант?
...Як аб ім кажуць аўторытэты?
...Ці выпадае гаварыць аб ім так?
...Ці выпадае гаварыць аб ім гэтак?
Панюхаўшы паветра, юбілейны профэсар заквохкае. Ён умее! Ён майстар. Ён асьцярожны. Школу асьцярожнасьці праходзіў яшчэ ў духоўнай сэмінарыі.
Вось табе і юбілейны профэсар.
Вось табе і „Галасы палёў“ Цярэшкі. Адно для аднаго створаны.
Чалавек бяз знакаў прыпынку ня раз гаварыў Цярэшку:
— Клясавае змаганьне—штучна прыдуманая рэч (пры гутарцы са сваімі чалавек бяз знакаў прыпынку выразна акцэнтаваў свае думкі). У творах выяўляйце самабытнасьць нашага народу. Выпукляйце яго вобразы. яго псыхолёгію, яго ідэялы. Старайцеся накіроўваць сваю творчасьць у наш бок. Разумееце?
— Разумею...
Цярэшка накіроўвае сваё пяро, куды трэба...
Вось і „Галасы палёў“.
Кожны раз, пішучы, ён ўспамінае словы аднаго поэта, якога называе „вялікім“:

„Усе, усе мы носім маскі,
На'т скінуць дома бамося...“

Ня лёгка насоўваць маскі на думкі і вобразы. Ня лёгка пісаць так, каб адны прымалі маску за жывы твар, а каб другія бачылі пад маскай сапраўдны твар.

Цярэшка прыдумваў розныя шыфры. Ён займаўся гэтым з захапленьнем вынаходцы.

Свае затоеныя думкі, галоўны стрыжань твору, ён з усіх бакоў абкідваў чырвоным пясочкам „рэволюцыйных“ строф.

Перакройваў па-свойму народныя казкі, дзе ў сымболіцы жывёлін, вятроў і дажджоў чулася зьмяінае сыканьне яго захаваных настрояў. У шматплянавасьці „Галасоў палёў“ ён шпурляўся сумам і радасьцю з такім спрытам, што няспрытны чытач ня ведаў, дзе канчаецца сум і дзе пачынаецца радасьць, чым выклікан сум і чым выклікана радасьць. „Галасы Палёў“ былі ахоплены густым туманам іншасказаў. Словы ў радкох сьлізгаліся, як дзеці на гладкім лёдзе, закручваліся ў петлі зьвярынымі сьлядамі. А калі-ні-калі „галасы“ па Цярэшкавых „палёх“ станавіліся нахабнымі, вільгатнелі сьліною бясьсільнай злосьці, тады маскі адпадалі з іх смуроднымі струпамі, і выцьцё ваўкоў гучэла і разьлягалася пошчакамі, бо звычайна „галасы“ задыхаліся ў масках. З рыфмаваных радкоў адкідваўся чырвоны пясок.

„Галасы палёў“ былі закончаны.

— Трэба параіцца са сваімі,—думае Цярэшка.—На гэта ёсьць свая цэнзура.

„Галасы палёў“ былі закончаны.

Цяцер трэба было, нібы прадмову да іх, кінуць ў масы атручаны газ ананімнага вершу. На гэта былі свае майстры—спэцыялісты па падробцы стыляў, спэцыялісты па распаўсюджваньні і розныя іншыя спэцыялісты.

Будучы „маршалак“ (чалавек бяз знакаў прыпынку) глядзеў на гэту справу, як філёзоф.

— Гэта мае вялікае значэньне ў нашай працы.

---

Цярэшка сягоньня апошні дзень у Курганішчы. Увечары едзе ў Менск. Трэба яшчэ запісаць пару казак. Бярэ хэмічны аловак і тоўсты сшытак паперы. Настачка і Мзей у‘юнамі каля яго.

— Пойдзем, дзеткі, паслухаць казкі ад старых.

— Не хачу,—кажа Настачка, а за ёю і Мзей.

— Чаму?

— Настаўнік гаварыў, што гэткія байкі ня варта слухаць дзецям.

— Гыш ты!—Сьмех Цярэшкі злы і нэрвовы.—Да дзяцей дабраліся!

---

Вогненым мядзьведзем сонца ўзвалілася на Курганішча.

Па дзядзінцу босай нагой ня ступіш: пясок—прысак.

Цярэшка насунуў на лоб белую кепку і пайшоў млявым крокам да Драздоў і Дзятлаў. Некалькі дзён ня быў у Галавы і Сухарукага.

У апошні раз Галава скардзіўся на здароўе:

— Нешта сярэдзіна баліць!

Цярэшка ідзе пясчанай дарогай. Далягляд атулены жоўтай заслонай узгорку, які лёг грудзьмі папярок дарогі. З таго боку ўзгорку чуваць ня то пчаліны гуд, ня то людзкія галасы ў працяглым урачыстым сьпеве.

Цярэшка прырос вачыма да ўзгорку.

На самым пуку ўзгорку, абапал дарогі, растуць прысадзістыя хвоі. Здаецца яму, што гэта хвоі выставілі ў прастор распаленага неба дзесяткі рук-сукоў і выдаюць гэты гуд. Яны, дрэвы — жывыя істоты.

У гэту-ж хвіліну Цярэшка глядзіць на сябе збоку і любуецца сабою: ён так пранікся старой мітолёгіяй, ажна кожны куток прыроды напаўняе жывымі фантастычнымі істотамі, як старадаўні крывіч...

Уносіць гэты вобраз у кніжку і павольна ідзе наперад. Гукі растуць з кожным крокам. Як-бы з-пад зямлі, з таго боку ўзгорку ўзьніма̀ліся людзкія галовы. Праз хвіліну вырас цэлы гурт людзей бяз шапак. На фоне неба яны нагадваюць малюнак Чурляніса. Сьпераду адзін у белым нясе крыж, за ім на руках чатырох сялян гойдаецца труна.

Цярэшка пазнае Драздоў і Дзятлаў, айца Дзьмітрыя, побач — Слупа і Бочку.

— Хто памёр?

— Галава.

— А я-ж іду да яго...

— Спазьніўся, — сьмяецца Бочка.

— Вось ён у труне, — жартуе Слуп.

— Галавіха ня то галосіць, ня то сьпявае. Сухарукі — побач з труною, нібы сваёй чаргі чакае.

Да магільніка недалёка. Цярэшка ідзе разам з усімі. На яго нападае сум.

...Памірае беларуская казка. Трэба на гэту тэму верш напісаць...

...Вось табе і непарушнасьць казкі... Маладыя забываюць яе, і Настачка слухаць ня хоча... Мая пляменьніца.

Магільнік заслонены хмызьняком. Людзі разапрэлі ад гарачыні. Няпрыемны пах чалавечага поту.

Затое Цярэшка будзе запісваць хаўтурнае галошаньне Галавіхі.

Цярэшка глядзіць, як сонца грае на труне вясёлымі іскрамі.

Тым часам айцец Дзьмітры міргае да яго адным вокам, хітрым і няпрыкметным для іншых. Ведае Цярэшка значэньне гэтага падміргваньня.

— Сягоньня яшчэ з інтэлігентным чалавекам не пагаварыў.

———

## 32

# Пацук у ваньне

КРУШЫНСКІ ўспомніў драбніцу з хлапцоўскіх гадоў, калі ён жыў у дзядзькі ў Менску:

У кватэры наплодзіліся пацукі. Ад іх паратунку ня было. Усё грызьлі—і ежу і вопратку. Дзядзька вар'яцеў ад злосьці. Стары скнара валасы на сябе рваў. Што рабіць? Усе хатнія былі да таго тэрорызаваны дзядзькам з гэтай прычыны, што месца сабе не знаходзілі. Выглядала, нібы не пацукі ўсё грызуць, а яны... Панакуплялі мышаловак, параскідалі атруту. Але разумныя былі паганыя пацукі—ня лезьлі ў бяду. І вось аднаго разу ў ванну папаўся пацук. Ніяк ня мог выкарабкацца адтуль па гладкіх эмалевых сьценках. Першым пацука угледзеў ён—малы тады Крушынскі. Пазваў стрыечных братоў. І вось... пачалі дражніць яго кійком. У пацука загарэліся драпежніцкія злосныя вочкі. Ён цапаў кіёск вострымі зубамі, пішчэў і бараніўся.

— А, папаўся, драпежнік! крычалі хлопцы.

Што было далей з гэтым шкоднікам-пацуком, Крушынскі ня памятае, і ня было калі аб гэтым думаць. Старшыня сельсавету стаяў перад ім (у потайку прышоў вечарам у Курганішча).

Крушынскаму здавалася, што набраклае цела старшыні зараз разваліцца, застанецца ад яго толькі мокрая вопратка.

— Ярэмчык усё ведае... Я дум...

— Годзе! (Крушынскі засьмяяўся). Няма чаго больш расказваць. Раніцою еду ў раён да знаёмых. Ідзі спаць.

Калі старшыня вышаў, у вушах Крушынскага яшчэ доўга зьвінелі тры словы:

„Ярэмчык усё ведае".

Крушынскі адчуў, што вакол яго шыі звужаецца пятля.

„Як ратавацца?".

Завіруха страшных думак.

Лёг спаць.

І якраз нядаўна, некалькі гадзін таму назад, паехаў Цярэшка. Няма з кім параіцца. Той жартам гаварыў, што Настачка казала: „тата сволач і кулак"... Заўтра задасьць ёй такога пытлю, ажна...

Колькі дзён таму назад даў Пархамчуку атруту для коняй комуны. Калі гэта зробіцца, дык...

...Пацук у ваньне...

---

З сельсавету Мікола вярнуўся змрокамі. На шыбах вакон даўно памерлі водсьветы заходняй зарніцы. Лямпа яшчэ не гарэла, і вокны выглядалі цёмнымі квадрацікамі ночы.

Лугі ды гароды былі напоўнены концэртам конікаў-стрыгунчыкаў. Мэра даіла карову. Цырканьне малака ў дайніцу песьціла вушы. Пры Мэры стаяла Зорачка.

— Мама каёўку доіць, а тата павёз дзеда ў мястэчка, а дзядзька Мікоя сягоньня не абедаў.

Мікола засьмяяўся.

— Вырасьцеш, Зорачка, лепшым корэсподэнтам за мяне.

— З цябе корэсподэнт праз меру шчыры. Ніхто цябе не перарасьце. Гэта-ж трэба ведаць—цэлы дзень нічога ня есьці. Дзе-ж ты прападаў?

У сельсавеце.

— А я з дзедавымі цацынькамі бавілася.

— І я ў сельсавеце бавіўся цацкамі. Нічога сабе цацка старшыня, а самая лепшая цаца—Язэп Крушынскі.

— Гэта, дык цаца,—сумным голасам сказала Мэра.

Перад ёю туманныя кадры ўспамінаў:

Сустрэча з Крушынскім у лесе.

Яго зьвярыны твар.

Высокі абрыў над рэчкаю.

Халодная вада глыбокага віру.

Ужо колькі год прайшло, і па сягонешні дзень баіцца вады і... Крушынскага. Нібы калючыя шышкі, хавае ў сэрцы жаночы сорам і паганы сакрэт. Эх, каб мела адвагі, яго даўно-б за гэта судзілі!

Старая бярозка на двары ледзь шалясьціць лісьцем. Нібы хто перагортвае маленькія лісткі паперы. На небе запаліліся лямпачкі. Вакол іх дрыжыць сінявае павуціньне праменяў.

— Дзядзька Мікойка, да мяне!

Зорка выставіла яму маленькія ручкі.

— Я ж вялікі ды цяжкі.

— Яна заўсёды кажа „да мяне“, калі на рукі просіцца,—тлумачыць Мэра словы Зорачкі.

— Да мяне. Хачу каля дзядзькі.

Мікола паднімае Зорачку, садзіць на правае плячо. Дзяўчынка абнімае ручкамі яго галаву. Яму нязвычайна прыемна. Зорачка глядзіць ў неба.

— Гьянь, дзядзька, колькі там зоячак.

— Якіх зорачак?

— Дзевачак.

— Хто табе гэта сказаў?

— Мама сказайя.

— Перастань лапатаць, Зорка. Дай дзядзю спакой. Ён яшчэ не абедаў.

— Нічога. Вячэрай наганю.

Мэра заганяе карову ў хлеў.

— Дзядзя, аз-два-евай!
— Як гэта аз-два-левай?
— Як піонэй!
— О, дык ты аб піонэрах ведаеш?
Пайшлі ў хату. Мэра запаліла невялічкую лямпачку. Паставіла ежу на стол.
— Бліны цьвёрдыя, дык можа лепш тварог з хлебам будзеш, швагрок, есьці?
— Сяг'ёк, сяг'ёк казе мама.
— Ціха ты, папугай!
— Мама казе „папугай"...
— Дай дзядзю есьці!
— Даю! (бярэ авалак хлэба) На, дзядзя!
Сьмех.
Мэра да Зоркі:
— Ідзі спаць, Зорка.
— Не хацу...
Вокал лямпачкі на стале сьветлы круг. Па хаце клубіцца змрок. Зорачка сядзіць ў дзядзі на каленях, перашкаджае есьці.
— Дай дзядзю есьці!
— Дам!
Праз хвіліну яна засыпае ў Міколы на руках...
— Напрацавалася малая за дзень. Мікола асьцярожна перадае Мэры дзіцё. Мэра кладзе яе на ложак і падыходзіць да Міколы.
— Колькі я даведаўся тут пра Крушынскага! Як гэта, Мэра, можаш маўчаць? І ўсе вы тут!
— Ціха, малую разбудзіш. Небясьпечна аб ім гаварыць.
— Усе вы яго баіцёся.
— Усюды яго людзі.
— Мы іх раскапаем!
Мікола заўважыў, што Мэра занепакоілася, пацягнулася да яго тварам, нібы нешта цікавае хоча яму сказаць. Са страхам у чорных вачох адсунулася назад. Яна павялічыла агонь лямпы, ціха падышла да ложка тканінай затуліла Зорачку ад сьвятла.
— Ты, Мэра, нешта хацела сказаць мне?
— Так... не...
Яна пачырванела. У яе вачох зноў нешта мільгнула і схавалася.
...Сказаць ці не?.. Пра Крушынскага...
Мікола ня здымае з яе вачэй.
— Ты падобна цяпер да маёй жонкі.
— Родныя сёстры.
— Нешта хочаш мне сказаць...
Трэснула шкло ад лямпы. Мэра ўздрыганулася. Зьменшыла онь.
Мікола не адстае:
— Гавары...

— Нічога асаблівага казаць не хацела, а можа і хацела ды забылася. Відаць , нешта: няважнае, калі забылася. Ага! У пяршыню за ўвесь час (пасьля вясельля) угледзела сягоньня бацьку. Як ён зьмяніўся... Зусім іншы. Тады ён мяне пракляў... Я на яго злавалася і ўзьненавідзела ўсё яўрэйскае. Старалася ня быць падобнай да яўрэйкі...

— Няправільна ты зразумела нацполітыку (ня то жартам, ня то ўсур'ёз). Асымілятарка. А як твой Марцін на гэта, глядзеў?

— Злаваўся. Я зусім ня тая цяпер.

— А вось твая сястра, мая жонка, будзе яўрэйскай настаўніцай. Мне гэта падабаецца. Новы час і бацькоў падганяе наперад. Вось мой стары. Калі я калісьці ўступіў у комсамол, ён быў рады, але... думаў шукаць у гэтым для сябе выгады. Я ледзь яму растлумачыў. Цяпер ён зразумеў.

З адчыненых дзьвярэй плыў у хату прыемны подых ночы. Над лямпай кружыліся матылькі. Стала ціха. Толькі што сказанае набыло ў цішыні асаблівы глыбокі сэнс. У Мэры задрыжэлі вейкі. Зноў пацягнулася да Міколы, нібы...

...Хочаш нешта сказаць?...—але ён не запытаўся.

— Толькі глядзі, Мікола, каб ніводны чалавек...

Яна пабляднела. Сьлёзы бліснулі ў чорных вачох. Валасы адлівалі вароньнім крылом.

— Ня ведаю, што-б рабіў Марцін, каб даведаўся. Мне вельмі сорамна, але я ня вінавата...

— Гавары...

У Міколы нязвычайна сардэчны голас.

Мэра адчула аблягчэньне і апавядала сваю сумную прыгоду з Крушынскім у лесе, як пасьля выцягнулі яе з рэчкі..

---

Шастае па двары сіні змрок, станожкамі паўзе па скошаных пахучых паплавох. Стрыгунчыкі—так-так-так, нібы тахканьне тысячаў гадзіньнікаў. Праз вакно зазіраюць у пакой зоркі. Здаецца Крушынскаму, што гэта вочы, шмат вачэй, праніклівых, усё ведаюць. Прытуліўся лобам да шыбы. З боку тракту грукат калёс. Пэўна, Марцін едзе назад з мястэчка. Крушынскі бачыў, як той старога Лейбу павёз. Лейба пэўна пра Рахмілку гаварыў...

...Пацук у ваньне...

Нагамі адчувае падлогу, а нібы процьма. Жонка і дзеці сьпяць спакойна. Зайздрасьць і злосьць. „Гэта-ж я... Чаму яны такія спакойныя? На маім карку“.

Крокі на двары. Асьцярожнае шорханьне чалавечых ног. Нібы злодзей крадзецца.

У сэрцы пуста. Пачаў нячутна апранацца. Вышаў у „салён“. У пацёмках на сьцяне ледзь сьвеціцца вялізнае круглае вока цыфэрбляту старога гадзіньніка ў дубовай шафе з разьбою. Колькі разоў думаў аддаць ў папраўку, а ўсё ня выбраўся.

Даўным-даўно гадзіньнік анямеў у сваёй дубовай магіле. Сапсуўся мэханізм, а калі яго накруціць—звоніць дванаццаць разоў. Жудасна ад таго, што дванаццаць разоў.

Глядзіць праз вакно на двор. Да вакна падыходзіць высокі, тонкі чалавек. Крушынскі яго не пазнае. Той ціха і асьцярожна скрабе шкло: баіцца, каб хто і стуку яго не пачуў і нібы ведае, што Крушынскі тут,—у „салёне“.

...Мабыць свой...

Крушынскі ціха адчыняе вакно. Шэптам:

— Хто?

— Свой...

Стала лёгка.

— Лезь у хату.

Чалавек спрытна, як кот, ускочыў у пакой. Адсапнуўся ўпоцемку, агледзеўся па бакох.

— Сьвятла ня трэба.

Пазнаў.

Трoська з „Чырвонага Кастрычніка“.

— Змарыўся. Ледзь ня быў на „тым“ баку ў Польшчы, але нашыя пачулі, крыкнулі „стой“, і я ўцёк назад. Трывогу нарабіў. Стралялі. Пабег сюды. Маю да цябе сампатыю...

У цемнаце ледзь вызначалася постаць Троські. Крушынскаму здавалася, што гэта яго ўласны цень. Троська абапёрся рукою аб старое фортэп'яна. Яно выдала глухі гук.

— Ціха... Па якіх справах сунуўся туды?

Троська гарачымі губамі да самага вуха:

— Атруціў коняй у комуне...

Крушынскі адскочыў ад яго. Цела пакрыў халодны пот. Засмактала ў грудзёх.

...Пацук у ваньне...

— Хто даў табе атруту? Ай, што ты нарабіў...

— Рыжы Пархамчук.

Крушынскі пачаў да яго прыглядацца. Цень прымае акругленыя чалавечыя формы, вызначаецца твар, востры нос, мігатлівыя вочы, вінаватая ўсьмешка, белыя зубы...

Пранізаў цемнату воўчым вокам і ўгледзеў усе маршчыны на твары Троські.

— Што за ліха?..

Стары гадзіньнік, які ня ходзіць ўжо мо' дваццаць год, ажыў у дубовай труне, затукаў...

— Тык-так...

— Тык-так...

— Тык-так...

— Тык-так...

Схваціўся рукамі за грудзі.

...Гэта-ж сэрца... У вушох звон...

Адзін толькі момант. Троська не заўважыў.

— Дзе Пархамчук дастаў атруту?

Яго вочы драпалі бледны твар Троські. Перад ім кружыўся млын, Курганішча, Дразды і Дзятлы. Усё гэта драбнюткае, бы цацкі, маленькія макеты.

...Ці ведае Троська?..

— Ня ведаю...

Крушынскі ледзь ня кінуўся яму на шыю за тое, што ня ведае. Зноў млын. Курганішча, Дразды і Дзятлы вырасьлі ў натуральную велічыню. Моцна стаяць на месцы, але пацук у ваньне...

— Ратуй мяне... Схавай на дзень... Вечарам пайду...

— Чаму да Пархамчука не пашоў?

— Вельмі-ж блізка ад комуны...

---

## 33

## Ці выратуецца

ХІТРЫКІ на гэты раз ня чуваць у голасе Троські. Крушынскі вывучае ўсе маршчынкі на яго твары. Змрок парадзеў. Атрамант вакон разбаўлены вадою. На ўсходзе неба пажарышча раніцы. Нехта разьвешвае па небе акварэлі, замазвае адны і малюе новыя. На дзядзінцы павольна вызваляюцца са сьлепаты змрокаў абрысы будынкаў. Хваёвае бярвеньне насупроць вакна адлівае кракадзілавай скурай.

Пад сьпевы вясёлых ранічных птушак Крушынскі думае невясёлыя думкі. Яны расшчапіліся ў яго на дзьве часткі, як зьмяіныя языкі. Гаворыць да Троські адно, а мяркуе другое. Пацее, задыхаецца, не хапае паветра.

Уважліва раіць, пытаецца, а ў той-жа час пасылае самому сабе дэпэшы-маланкі.

Да Троські:

— Кепска зрабіў, што дзе-небудзь у лесе не схаваўся на дзень-два.

Самому сабе:

...Паеду ў Менск да сваякоў і адтуль уцяку. Грошы ёсьць. Буду жыць пад чужым дакумантам, як той аграном.

Голас Троські:

— У лесе хавацца баяўся. Цяпер позна. Яшчэ хто ўгледзіць...

Крушынскі да яго:

— Пашоў-бы да Пархамчука.

Самому сабе:

...А можа лепш перадаць млын сельсавету. Можа зноў выплыву наверх? Пацук у ваньне? Глупства...

Голас Троські:

— Я-ж табе казаў, што небясьпечна ў Пархамчука.. Блізка ад комуны.

Крушынскі да яго:

— Добра, я цябе схаваю.

Самому сабе:

...Перадам яго ў рукі ўлады. А што будзе, калі ён на судзе выдасьць Пархамчука, а той—мяне? Спакайней усё-ж такі схаваць яго да вечара, а пасьля няхай ідзе, куды хоча... Не! Узмацню свае пазыцыі, калі выдам Троську... А каб замесьці сьляды...

— Схавай так, каб і твае хатнія ня ведалі.—чуе ён замагільны голас Троські.

— Добра. Зараз...

Раніца льле на дзядзінец ружовы сок. Дахі выглянцаваны.

Раптам Крушынскі задрыжэў усім целам. Троська ухапіўся за старое піяніна цэпкімі рукамі. Палахліва завойкаў расстроены інструмант.

Гучны стукат у дзьверы.

Голас Драчыка грыміць на ўвесь дзядзінец:

— Ад-чы-ні-і-і!

У другі раз:

— Ад-чы-ні-і-і!

Крушынскі да Троські:

— У алькерык і праз вакно ў сад...

— Зловяць... На дварэ міліцыя...

— Прарвешся...

— Куля дагоніць... Узброеныя...

Крушынскі самому сабе:

...Пацук у ваньне...

...Хіба цуд...

Гусінымі лапкамі расплыўся па вакне першы прамень новага дня. Здалося Крушынскаму, што вокны зазьвінелі.

Жонка і дзеці прачнуліся. З другога пакоя, дзе яны сьпяць, чуваць:

— Што такое? Хто тут?

— Ад-чы-ні-і! А то будзем дзьверы ламаць!

На ганку старасьвецкага фальварку грозны гул галасоў.

---

Позна ў ночы вярнуўся з мястэчка Марцін.

І да і пасьля яго прыезду з уяўленьня Міколы ня выходзіў „Леў Талстой“.

„Цікавы тып. Прачытаў яго рукапісы. Стары пісар земскага часам цікавыя рэчы паказвае. Адна нага ў мінулым, другая— у сучасным“.

Ня сьпіцца.

Некалькі разоў яго прабудзіў дзіцячы плач Зорачкі. Мэра люляла яе, сьпявала:

А-а., а-а, мой каток,
Вышаў коцік на таржок,
Купіў Зорачцы піражок
А.а, а-а...

Сьціхне Мэра, і Зорачка просіць:

— Сьпявай, мама...

— Сьпі.

І зноў:

— А-а, а-а, мой каток...

„Дзе-ж гэта я раней бачыў Льва Талстога“? Ага... Яго белая барада асьвятляла калідоры інстытуту. Ён хадзіў з пакою ў пакой, з аддзелу ў аддзел са сваімі рукапісамі. „Леў Талстой“ дык хоць пра сучаснае гаворыць, а там? (Мікола ўспамінае). Адзін з правадзейных членаў з выглядам алхіміка і вачыма сфінкса паказваў усім паіржавелую спронжку ад дзягі. Гэту бляшку выкапалі пры каналізацыі Нямігі ў Менску. З гэтай спронжкі мастак зрабіў некалькі зарысовак. Фотограф—некалькі здымкаў, Алхімік напісаў „навуковы“ трактат і паслаў у Львоў да нейкага професара разам з малюнкамі. Маскве не даверыў, каб не далучылі гэты „скарб“ да расійскага мастацтва... Праўда, былі скептыкі. Яны гаварылі, што спронжка з пажарніцкага пояса. Вось і кажы, што так сабе пісаў „Леў Талстой“ свой „Летапіс вёскі Гайдачыны“. Гэта ня шкодзіла-б надрукаваць.

Мікола моцна спаў толькі пад раніцу. Прачнуўся, калі сонца засьвяціла ў самыя вочы. Марціна ўжо ня было ў хаце. Мэра завіналася каля печы.

Мабыць ня выспаўся,—сказала Мэра.—Мы заседзеліся позна, і ты не пайшоў спаць у пуню.

Мікола зараз-жа апрануўся і сеў за стол. Выняў блёк-нот і хімічны аловак. Пісаў шпарка, запаўняў лісток за лістком. З кожным новым радком Язэп Крушынскі выступаў перад уяўленьнем Міколы ўсё жывей і ярчэй. Агідная фігура гэтага чалавека будзіла ў яго шчырую злосьць. На дварэ чылікалі вараб'і. Сонца пачало прыпякаць.

Ужо многа лісткоў напісана. Мікола іх выразаў з блёк-ноту і адкладваў убок. Ад націску алоўка забалелі пальцы. Праз адчыненыя дзьверы ўвайшоў Антось Драчык, зьбянтэжаны і радасны. Шэрыя вочы яго блішчаць, а па твары відаць, што ўсю ноч ня спаў.

Ён крычыць Міколе:

— Пачакай ня пішы.

Люблю шчырасьць, ты стараешся, але ёсьць новы матэрыял.

У чым справа?

Угэту ноч атруцілі коняй у камуне. Арыштавана цэлая хэўра. Папаўся нарэшце і Язэп Крушынскі.

Драчык падрабязна ўсё апавядаў Міколе.

— Гэтага можна было чакаць ад Крушынскага.

— Хадзем у „Чырвоны Кастрычнік“.

Мэра ўстрапянулася.

Бяз сьнеданьня ня пушчу.

У камуне пасьнедае, не бяда. Хадзем, Мікола.

— Пачакай, Мікола. Мне трэба табе нешта сказаць.

Мэра яго спыніла, узяла за руку, як маленькага хлапчука, і павяла ў кут.

— Глядзі, ні слова аб тым, што я табе ўчора казала.

Мэра хвалявалася.

Мікола і Драчык пайшлі шпаркім крокам у „Чырвоны Кастрычнік“. Яны заўважылі, што ім насустрач ідзе „Леў Талстой“, размахвае рукамі, і ад шпаркай хады яго барада разыходзіцца венікам па грудзёх. На лобе, як у шофэра, блішчаць акуляры. Стары на гэты раз босы, што з ім рэдка бывае. У яго такі імпэт і адвага, нібы выступае адзін супроць варожата войска. Як падышоў блізка, ледзь адсапнуўся і запытаў:

— Чулі?

— Чулі.

— Ведаеце?

— Ведаем.

Жоўты пясок прыстаў да яго ног. Стары выняў хустачку, выцер успацелы лоб і акуляры. Насунуў іх на нос і давай узірацца падазроным вокам то ў Драчыка, то ў Міколу. Нарэшце запытаўся сумным голасам:

— Дык вы ўжо ведаеце?

— Ведаем.,.

Ён асекся. Разачараванасьць мільгнула ценем па яго твары: так хацелася, каб яны яшчэ ня ведалі, каб ён ім першы апавядаў пра гэту навіну, каб...

Пайшоў побач з імі. Некалькі хвілін трымаўся за грудзі абедзьвюма рукамі. Як трохі адсопся, зьвярнуўся да Міколы і Драчыка голасам, у якім чулася шчырая просьба:

— Так. Я вам усё такі раскажу. Ёсьць магчымасьць, што вы, магчыма, яшчэ ня ўсё ведаеце...

— Раскажы.

Драчык і Мікола ўсьміхаліся.

„Леў талстой“ гаварыў і гаварыў... У вялікім бурным моры яго гутаркі часта сустракаліся маленькія выспачкі: „так“, „трэба прызнацца“, „тоіс“. Па ўсім гэтым можна было падумаць, што злачынцаў злавіў ён сам...

Ня гледзячы на такое няшчасьце, што здарылася ў комуне Драчыка і Міколу агортвала радасьць. Кожны з іх думаў адно і тое самае:

— Вораг злоўлены.

---

Вакенцы Цыпруковай хаты—нівялічкія апраўы для малюнкаў, але яны ахопліваюць сабою, нібы прыжмураныя чалавечыя вочы, абшары далягляду. З гэтых вакенцаў можна бачыць густы стромкі лес. Ён застыў наводдалі кучаравай аграмадзінай і ледзь рухае вершалінамі, перабірае зазубленай верхавінай, нібы грэбнем, сівыя камкі воблакаў. Старому Цыпруку відаць ледзь прыкметнаеківаньне дрэў. На заходзе сонца на лес насоўваецца са змуруднага поля нябес агнёва-крывавая шапка. Тады ўся адлегласьць ад лесу да Цыпруковай хаты: паплавы, поле, узгоркі, дахі будынкаў, агароды і дарога апранаюцца ў палосы ценяў колеру павуціньня. Тады невялічкія сямейкі дубоў дзе-ні-дзе

на полі гараць, як паходні. Каля цені на адлегласьці сшываюцца ў адну неахопную каламуць, на антэнах, якія тырчаць над вясковымі дахамі, садзяцца вераб'і. Птушкі ловяць крыльлямі апошнія ружовыя блікі сонца.

Стары Цыпрук стаіць перад вакенцам і глядзіць на дарогу.

Вочы яго—вузенькія, загостраныя ільдзінкі. Барада—прыклеены жмуток пакульля. Дарога сухая, гладкая, роўная.

У мінулым годзе брукаваная. Штодня ідзе з Менску ў раён аўтобус. У гэты час Цыпрук заўсёды ля вакенца, сплюшчыць нос аб шыбу і глядзіць на пасажыраў. Тут-жа на падваконьніку стаіць невялічкая чорная скрыначка з навушнікамі—апошні падарунак Міколы.

Між Цыпруком і старэйшымі ўнукамі часта адбываюцца спрэчкі за навушнікі. Кожны хоча паслухаць.

На гэты раз захапіў стары.

— Вось прыдумалі людзі...—любуецца ён.

— Дзядок, дай мне...

— Ціха жаўжаняткі. Дайце паслухаць, ці што?

Ен бароніцца ад іх рукамі.

— Слухайце, слухайце! Гаворыць Менск!

Цыпрук глядзіць перад сабою праз вакенца на далягляд і нічога ня бачыць. Вочы-ільдзінкі ўглыблены. У скалмачаным пакульлі барады хаваецца ўсьмешка.

— Вось прыдумалі людзі...

— Дзядок...

— Ша, ці што? Ня шумеце.

— Клясавы вораг ня сьпіць. На кожным кроку стараецца перашкодзіць нашаму соцыялістычнаму будаўніцтву. У комуне „Чырвоны Кастрычнік" Шапалевіцкага раёну былі атручаны коні.

— Гэта кепска,—перабівае радыё Цыпрук.

— Злачынцы злоўлены: былы бандыт Троська, кулак Пархамчук і контрабандыст Язэп Крушынскі. Пролетарскі суд іх жорстка пакарае.

Далей Цыпрук ня чуе, бо аглушыў самога сябе радаснымі словамі:

— Гэта добра!

Успаміны:

...Контрабанда на дарозе... арышт... падласая кароўка...

Унукам ня церпіцца:

— Дай, дзядок, паслухаць...

---

# 34

## Гісторыя аднаго матроса

ВУЗЕНЬКІ даўгаваты пакойчык на другім паверсе інстытуту ледзь не адзіны такі маленечкі ва ўсім вялікім гмаху. У вялізных габінэтах працуюць навуковыя спэцы, а у гэтай скрыні, побач з двума прасторнымі пакоямі прэзыдыуму інстытуту, зьмяшчаецца бюро парт'ячэйкі. Ня гледзячы на тое, што і зімою і ўлетку тут адчынена фортачка адзінага вакна, пад стольлю заўсёды клубіцца сіні папяросны дым. Невялікі просты стол, канцылярская шафа, пара крэслаў, старая жалезная шафа, з чырвонымі нарастамі ляку, са сьлядамі пячаткі на дзьверцах, нагадваюць нешта вайсковае, блізкае ад фронту. Здаецца, толькі на некалькі дзён спыніліся тут людзі дзеля важнай справы, а вось хутка перавандруюць у іншае месца.

Праз вакно ўрываецца сюды бледнымі халоднымі палоскамі восенскае сонца і заглушаны грукат з вуліцы. Пры стале сядзіць, нагнуўшыся над „Зьвяздою, сакратар парт'ячэйкі, таварыш Малеўскі. На твары чорная павязка. Адно вока прыпухла.

Заходзіць Мікола Ярэмчык. На яго бобрыкавым паліце блішчаць кроплі дажджа.

— Здароў, Янка!—кажа ён вясёлым голасам да сакратара ячэйкі.

Малеўскі не адрываецца ад газэты і згаджаецца з прывітаньнем Ярэмчыка:

— А-г-га!

Ярэмчык глядзіць на яго спадлобу крытычнымі і кплівымі вачыма, ківае галавою і сароміць Малеўскага:

— Пайшоў-бы ты раз назаўсёды свой вечны флюс лячыць! Апрыкрыла глядзець на тваю павязку, на апухлую фізыяномію!

— Ага...—зноў згаджаецца Малеўскі.

— Што ты мне „ага“ ды „ага“! Чалавечае слова кажы.

Адчапіся, ліха! Вось табе і „чалавечае слова“! Лепш радуйся, што вось твой артыкул у „Зьвязьдзе“ чытаю.

— Радуюся... Колькі часу раней быў аб ім мой першы артыкул. Гэта ўжо другі.

— Скажы, наш Цярэшка-Крушынскі не сваяк таму Язэпу Крушынскаму, аб якім пішаш?

— Сваяк. Ён там у Курганішчы часта бывае, а што?

— Ага! Чуў як учора Цярэшка выступаў? Не падумаў-бы, што такіх сваякоў-бандытаў мае.

— Той Язэп Крушынскі, галоўны герой майго артыкулу, таксама „арацель“, так глотку дзёр за Савецкую ўладу, аж ніхто не паверыў-бы, што здолен комунарскіх коняй труціць. Ты ўсё прачытаў?

— Ага.

— Я ня вельмі веру ні Цярэшку-Крушынскаму ї ні былым „маршалкам“ і „прэм‘ерам“. Ня вэру ды й толькі! А вось трымаем іх...

— Ага. Чуў, як учора пасьля дакладу пра С. В. У. гэтыя самыя протэставалі супроць украінскай контррэволюцыі? „Маршалак“ дык аж сьлязу пусьціў ад вялікага абурэньня.

— Ліха яго знае, чым выклікана яго сьляза. Можа ад пачуцьця адваротнага характару.

Малеўскі ажывіўся. Закурыў папяросу і падняўся з месца. Ад вільготнай сьцюжы ў пакойчыку ён згорбіў плечы і хутаўся ў сваім дэмісэзонным паліце.

— Можа і так,—сказаў ён хрыплаватым голасам.—Я сам сумняваюся ў шчырасьці гэтых паноў з „Беларускай рады“. Воўк заўсёды да лесу цягне. Можа і ў нас нешта ёсьць накшталт С. В. У. Наш круглы і лысы (так яны называлі старшыню інстытуту) залішне верыць ім. Пабачым.

Малеўскі паправіў чорную павязку на твары і паглядзеў блакітнымі вачыма на жалезную шафу. На яго твары зайграла ўсьмешка

— Ты, Мікола, першы згадзіўся са мною, што нельга верыць паном-міністрам“. Круглы і лысы заўсёды абураецца, калі я аб гэтым гавару яму. Рукамі адмахваецца.

— А рабочыя нашай друкарні? У іх здаровае пролетарскае чуцьцё.

— Пабачым...—Малеўскі утаропіўся вачыма ў жалезную шафу Паводле яго расшыраных вачэй і ня то лятуценнага, ня то задумёнага позірку Мікола разумее, што цяпер Малеўскі нічога ня бачыць перад сабою. Перад яго вачыма—даль, недасяжная, туманістая.

— Чаго задумаўся, Янка?

— Ага...

Ён быў матросам—цяперашні сакратар ячэйкі інстытуту. Але ні ў гутарцы, ні ў прывычках, ні ў хадзе ніхто-б у ім нічога матроскага цяпер не запрыкмеціў. Ён сам ніколі аб гэтым не гаворыць. Аднак ён увесь пранізаны годамі вайны і рэволюцыі.

Ен быў матросам-бальшавіком.

Свае багатыя ўспаміны напісаў на цэлую кнігу. Вечарамі сядзеў у гэтым пакоіку і выстукваў на старой машынцы свой неразборлівы рукапіс. Панёс у адно беларускае выдавецтва.

Доўга, нешта з паўгоду, чакаў адказу. Не надакучаў запытаньнямі: „калі, як і што?“ А вось аднаго разу ён пазваніў у выдавецтва па тэлефону.

— Прагледзелі рукапіс?

— Прагледзелі. Можаце забраць.

Ён забраў.

Адзін з сяброў Цярэшкі прачытаў рукапіс Малеўскага і напісаў ляканічную рэцэнзію наўскос паршага ліста:

*Нудна. Няцікава. Небеларускі матэрыял: Да друку не падыходзіць*

*Дата*

*Подпіс*

Рэцэнзэнту Малеўскі нічога не сказаў, але зьдзівіўся:

... Як гэта, „няцікава“, калі тут апісаны кавалкі гісторыі Кастрычніка? Што значыць небеларускі матэрыял? Каб у нас там ня было перамогі, дык можа ня было-б цяпер БССР, беларускага выдавецтва, і гэты дзядзя рэзолюцый на кніжках ня пісаў-бы...

Малеўскі ня верыў такой рэзолюцыі

Паслаў кніжку ў Ленінград. Пахвалілі. Надрукавалі. Трохі стыль правілі. Ён быў матросам. У вёсцы недалёка ад Менску, дзе ён радзіўся, школы тады ня было. Матросам навучыўся пісаць і чытаць. І вось выправілі яго стыль.

Як вышла кніжка на рускай мове, тады і беларускае выдавецтва надрукавала. Нялоўка было не друкаваць...

Была і тады, у 1912 годзе, такая самая восень. Дажджыстая, вільготная, хмурная. Маці—маршчыністая, худая, у зрэб'і, з такімі-ж блакітнымі вачыма, як і ў сына,—плакала-галасіла над ім, як над нябожчыкам.

— Бог ведае, Яночка, ці пабачымся...

Яна плакала і кашляла кашляла і плакала. У яе былі сухоты Іншых слоў яна не гаварыла на разьвітаньні з сынам:

— Бог ведае, Яночка, ці пабачымся...

Гэтымі словамі маці быццам замаўляла сваю бяду.

Нешта шчаміла сэрца Янкі... Далей Менску ён нідзе ня быў. Сьвету ня бачыў. А яго так цягнула ў далёкі сьвет. У сэрцы радаваўся, што хоць праз вайсковую службу гэты „далёкі сьвет“ пабачыць...

А вось прыкра. Маці вые над ім немым голасам. Лемантуе. Пальцамі пахруствае.

— Бог ведае...

А з шэрых воблакаў цадзіўся дробны, густы і калючы, як шпількі, дождж. Калёсы рыпелі па гразкай дарозе. Конік круціў шыяй. Ад старога цьвёрдага хамута карак у яго быў намулены па мяса. Круціў конік шыяй, нібы чалавек у цеснай цьвёрдай манішцы, злосна тупаў нагамі, і камкі гразі з-пад яго капытаў шлёпаліся ў твар хмурага і нібы злоснага бацькі і сына-новабранца.

Бацька апрануты ў кароткі дзіравы кажушок, сядзеў сьпераду, як фурман, а новабранец з-заду на пухцяры з пахучым муражком. Побач, пачэсным пасажырам, стаяў яго салдацкі куфэрчык.

Колькі ні прасіў новабранец, каб бацька перасеў сюды, той адмаўляўся. Абодва ўсю дарогу маўчалі.

Яго, Малеўскага, здалі ў флёт.

Сэрца радавалася.

...Пабачу далёкі сьвет...

Як разьвітаўся з бацькам, трохі занепакоіўся, бо ўгледзеў на бацькавым твары дзьве сьлязінкі, нібы дзьве кроплі восенскага дажджу. Гэтыя дзьве бацькавыя сьлязінкі праз сілу выціснутыя, гаварылі сыну:

...Гадаваў, мучыўся, аслабеў, а цяцер зноў-жа дапамогі няма... У вагоне новабранец усунуў руку ў кішэнь. Выцягнуў адтуль нейкі жмуток.

— Ах, чорт, як гэта сянцо сюды папала?

Выкінуў у скрынку са сьмецьцем.

Тоненькі струмень мурожнага паху заказлытаў у ноздрах. І нейкая дзівосная жаласьлівасьць напала раптам на новабранца ад паху засохлых травінак...

Палоска каля рэчкі... Далей альхоўнік... Туды езьдзіў на начлег... Песьні сьпявалі... Удзень ён касіў, а бацька цешыўся. „Мой сын найлепшы касец!“—часта хваліўся бацька.

Жаласьлівасьць напала на новабранца. Ён адвярнуўся да вакна і вылаіў сябе:

— Дурны, як бот!

Няпрыкметна для пасажыраў выцер з твару дзьве сьлязінкі...

...Найлепшым касцом быў. І да пана на касьбу хадзіў і да багатага суседа.

Як ўспомніў апошняе, палягчэла на сэрцы. Ён плюнуў, і ў другі раз вылаіў сябе:

— Дурны! Няма чаго шкадаваць...

А цягнік лязгаў жалезам па жалезе і выстукваў:

— У далёкі сьвет...

— У далёкі сьвет...

„Далёкі сьвет“ сустрэў яго ў Пецярбурзе ў Крукаўскіх флёцкіх казармах такім прывітаньнем:

— Сволач! Скаціна!

Гэта з багатага слоўніка лаянак вайсковага начальства.

З партыяй такіх-жа „сволачаў“ і „скаціны“ ён пад наглядам строгіх „дзядзькоў“ паехаў у Кранштадт. Спачатку вялікай мудрасьцю былі для яго матроскія штаны: апранаў іх задам наперад. І „дзядзькі“ зубатычынамі навучылі надзяваць штаны так, як трэба. У „плывучай турме“ мічманы і лейтананты сустракалі яго зноў тымі-ж словамі:

— Сволач! Скаціна!

Апрыкрыла яму мора з затуманенымі далямі зімою і крыштальна яснатою ўлетку. Драіў палубы на розных караблях, розных мясцох „далёкага сьвету“ Балтыйскага мора.

Часта сядзеў запёрты ў карцары альбо станавіўся „пад ружжо“. Тады, да Кастрычніка, матрос быў ва ўсім вінаваты, вечным злачынцам у вачох начальства. У часе вайны Малеўскага разам з іншымі матросамі перакідвалі, як пілку, з фронта на фронт, з мора на сухапуцьце, з сухапуцьця на мора. І ўсюды начальства было імі нездаволена. Малеўскі быў членам падпольнага рэволюцыйнага гуртка. І ня мог быць спакорлівым, ня мог быць тым „быдлам“, як начальству жадалася. Ня так глянуў—карцар. Не такое шчырае было „рад старацца“—пад ружжо. А то сьпіна яго начальству не спадабаецца—„сволач! скаціна!“

Расла нянавісьць дзьвёх сіл, вырывала злосныя хрыпы з горла, выбівала іскры з вачэй, сьціскваля далоні ў кулакі.

— Эх, калі ўжо надыйдзе той час...—вырываліся часам паміж волі бунтарскія словы.

Начальства нюхала паветра. Аднак і яно баялася „братвы“. Гарачыя былі хлопцы. Адзін за аднаго—гарою.

— Калі прыдзе вызваленьне?..

Лютаўская.

Настаражылася начальства.

Балтфлётаўцы нічога ня ведалі. Газэты з берага не дапускаліся. Газэты былі больш небясьпечны за нямецкія міны.

Але ці будзеш хаваць шторм за пазухай?

Даведаліся матросы.

А як даведал ся...

...Шэпты...

...Гарачыя вочы...

Раз—

Да пірамідаў са стрэльбамі...

Два—

Чырвоныя сьцягі...

Тры—

Мітынг...

Усё гэта ў мгненьне вока.

— Надышло доўгажаданае!..

— Ад нас хавалі!..

— Будзем спаганяць даўгі!...

— Зараз-жа расправімся з імі!..

Пажар матроскіх вачэй. Грымоты слоў. І ўсё гэта так раптоўна—начальства не агледзелася. А як агледзелася, крыкнула:

— Што вы, сволачы, робіце?

Старая прывычка кляшчом уелася.

Матросы адказалі:

Бац са стрэльбаў—

Раз.

Два,

Тры.

Мічман і лейтанант нават болю не пачулі.

Малеўскі і яго таварышы трапна бралі „на мушку“.

Два трупы скаціліся з палубы і плюхнуліся ў зялёныя халодныя хвалі.

Выскачыў на стрэлы бравы, вусаты, румяны контрадмірал—страхацьцё карабля, люты зьвер. Скасіў вочы і грымнуў:

— Так вы з немцам ваюеце? Так вы бацькаўшчыну бароніце?

Яго цапнулі жыўцом. Твар хадыром хадзіў, як цёплая квашаніна. Рукі і ногі дрыжэлі. Шамкаў зьбялелымі губамі:

— Б-б-братцы,.. М-м-мілыя...

— Цяпер—братцы, а раней—сволачы? Цяпер—мілыя, а раней—скаціна?

Нібы воўк з пасткі, тарашчыў вочы на сотні гарачых матроскіх твараў. Ведаў, што ў процьме іхніх розпакаляровых вачэй яго пагібель. І гукі выдаваў ён агідныя. Схапіўся рукамі за жывот...

— Ну, і засьмярдзеў-жа ты, ваша высокаблагародзьдзе! Купайся!

І ён паплыў да сваіх таварышоў...

На караблі закіпела новае жыцьцё...

І блізкім стаў „далёкі сьвет“...

І гэты далёкі сьвет разгортваўся перад матросам-бальшавіком багата-барвнымі пэйзажамі сухапуцьця і неахопным курадымам морскіх далячынь. Бойкі з белымі бандамі ў партох і ў водным аддаленьні ад берагоў, дзе мінная пагібель мэталёвымі акуламі сьцерагла бальшавіцкія судны. Пажарыўся ў бунтох і мецяжох вялізны абшар цяперашняга Саюзу.

— Ад Гельсінгфорсу да поўдня. Купалася ў крыві Украіна. Трупамі была ўгноена Донская зямля. На каўкаскіх горах пераклікаліся гарматы. Ад Сібіры да Самарканда кулі песьні сьпявалі. Беларусь з лясоў і балот паноў падстрэльвала... Усюды палыхалі пажары. Усюды двоіліся фронты. Усюды чырвоныя і белыя. Матрос-бальшавік Малеўскі са сваімі таварышамі многа дзе пабываў на моры і сушы ад ліквідацыі юнкераў і ўдарніц Керанічыны да зьнішчэньня апошніх банд на рознакліматнай бальшавіцкай зямлі. Гады былі апрануты ў шырачэзныя бурносы мітынгуючых гарадоў і разгойданых у агні і мецяжох вёсак. Гады былі апрануты ў трупы. Бурныя, ліхаманкавыя, галодныя гады выкоўвалі на сталёвых кавадлах гісторыі новую эпоху.

Малеўскі вярнуўся дадому праз дзесяць год. Успомніў словы сухотнай маці:

— Бог ведае, ці пабачымся...

Так яно і было. Але не ад сухотаў памёрла маці. Яе на сьмерць закатавалі панскія легіёнэры за яго—за тое, што ў яе сын бальшавік...

Яшчэ некалькі год змаганьня. Чэкістам быў. А вось сэкратар парт'ячэйкі інстытуту.

Матрос Малеўскі ніколі ня ўжываў у гутарцы матроскай тэрмінолёгіі. Матроскія прывычкі выветрыліся ў яго новымі сухапутнымі вятрамі. Глянуўшы на яго, ніхто-б не сказаў, што гэта матрос. Але вобразы мора, быт флётаўцаў да і пасьля ў розных выглядах і абставінах засталіся ў ім. Вульканы бурлівых гадоў змаганьня адлюстроўваліся на заўсёды перад яго нутраным зрокам.

Інстытут быў для Малеўскага новым бальшавіцкім караблём з новымі далямі, з новымі мінными небясьпекамі, з падводнымі, лодкамі і з усім тым, што бывае на фронце. На гэтым караблі ён, Малеўскі, адзін з вартавых.

У гэтым караблі было шмат кают, назвы якіх Малеўскі чуў мо' ўпяршыню. Яны называліся не каютамі, а катэдрамі: гісторыі, літаратуры, сельскай гаспадаркі, геолёгіі, марксызму-ленінізму, этнографіі, мовы, географіі, экономікі, археолёгіі, аддзелы нацменшасьцяй, аддзелы новых кадраў ды шмат іншага.

Гэтыя тэрміны мала былі падобны да тэрмінаў маракоў. Затое карабель павінен быў плысьці да тых самых берагоў, куды плылі іншыя бальшавіцкія караблі—да берагоў таго сонечнага краю, назва якога Социялізм.

Якраз на некалькі дзён раней, да прыходу Малеўскага ў інстытут, адбылося тут нешта такое, што выклікала сярод комфракцыі трывогу: прапалі сакрэтныя дакуманты, прапалі з-пад замка. Малеўскі набыў жалезную шафу, у якой хаваў самыя важныя матэрыялы. Па-вайсковаму хаваў. Кожны дзень лякавая пячатка на дзьверцах.

Спачатку гэты былы селянін, пасьля матрос, пасьля чэкіст, апынуўся тут нібы ў вялізным лесе. Навуковай падрыхтоўкі ў яго ня было. А на гэтых новых позыцыях, у новым моры, з новымі далямі, было шмат варожых мін, было некалькі з былых капітанаў, мічманаў і лейтанантаў. Навуковыя спэцы мелі абшырныя габінэты і солідныя спэцстаўкі. На першы погляд здавалася, што карабель на поўным ходзе. Друкаваліся кнігі, пісаліся новыя. У кожным габінэце драўляныя чэравы шафаў, шуфляды дубовых пісьмовых сталоў цяжарылі папкамі і рукапісамі. Дзесяткі і сотні розных мудроных інструмантаў з мэталю, дрэва і шкла блішчэлі на сталох і паліцах. У некаторых пакоях можна было бачыць чалавечыя шкілеты, косьці маманта, іншыя былі напоўнены гаршкамі, паіржавелымі пацеркамі, вузорамі, плянамі і фотаздымкамі археолёгічных раскопак курганнай эпохі. А вось узоры living розных глебы ў вялікіх скрынях, у мяшкох, у шкляных прабірках. У іншых пакоях пагрызаныя рабакамі кнігі ў скураных фоліянтах, летапісы, пэргамінныя граматы мінулых стагодзьдзяў—пажоўклыя, з вялізнымі круглымі воскавымі пячацямі ў мэталёвых пудэлках. Географічныя мапы, атлясы, лічбы, формулы, крывыя лініі, картограмы, дыяграмы, сьцірты, скруткі, пузатыя

папкі з народнымі казкамі, песьнямі, нотамі.Спэцыяльны вялізны пакой са слоўнікам. Аправа слоўніка—каменныя сьцены. Яго старонкі—шафы. Кожная літара—некалькі шуфлядаў. Далей—узоры тканін, гліняная пасуда. І яшчэ пакоі, дзе горы з рукапісамі і кнігамі на розных мовах. А яшчэ далей хімічная лябараторыя са сваім штатам. Усё гэта, нібы апошняй канцоўкай аднаго волатаўскага рукапісу, канчаецца пакоямі агульнай бібліотэкі на розных мовах. І якіх толькі людзей тут ня бачыш! Багатая колекцыя профэсарскіх лысін, барод, розныя шэвэлюры і прычоскі, капялюхі і кепкі, мужчыны і жанчыны розных узростаў. Гутаркі на розных мовах, розныя тэрміны рознастайных навук вырываюцца з губ дзівоснымі птушкамі. Інстытучыкі размахваюць рукамі, горача спрачаюцца, вітаюцца, раскланьваюцца, расшарківаюцца, і розных стыляў профілі і анфасы ўсьміхаюцца, сьмяюцца, анэкдоты гавораць. Шамкаючы бяззубы голас профэсара акомпануе разьбітымі ноткамі бадзёраму голасу маладога асьпіранта.

Усё гэта імчыцца з паверха на паверх, з габінэта ў габінэт. Жывой лавінай усё гэта разьліваецца па напоўзмрочных калідорах, плыве ў агульную канцылярыю, у пакой машыністак, у корэктарскую, у сваю ўласную друкарню. Звоняць па габінэтах тэлефоны.

А бываюць дні, што ў гэтым гмаху па габінэтах паўзе неадхопная і цяжкая, як мэталёвы пыл, цішыня. Тады аб нечым сумуе гэты мур. Яго душыць уласная пустата. Інстытут тады падобны дааграмадных пчаліных сотаў, з якіх высмакталі мёд. Ён тады падобны да пясчанага берагу акіяну ў часе адліву. Ад пакоя да пакоя, ад паверха да паверха пераклікаюцца водгаласкі адзінокага тупату ног, альбо сьмеху маладых асьпірантаў. З вялікай агульнай залі падаюць кволымі кроплямі гукі рояля. Гукі ў цішыні губляюцца, як тапельнікі ў возеры. Профэсары ў большасьці дома працуюць. Іх нельга контроляваць. Яны ходзяць па розных бібліотэках, яны ў камандзіроўках па розных гарадох Саюзу, у экскурсіях, у двухмесячных (улетку) водпусках на дачах і курортах.

Малеўскі спачатку губляўся на палубе і труме вялізнага карабля. Але пільнае вока матроса-бальшавіка пачало патрохі прывыкаць да новых нязвыклых для яго абставін. Ён улавіў вокам агульныя контуры карабля-інстытуту і пачаў уваходзіць у ролю. Дапамагаў увесь парткалектыў з рабочых друкарні інстытуту, некаторых навуковых працаўнікоў і маладой асьпірантуры.

Матрос пусьціўся ў разьведку. Пачаў вывучаць людзей, пачаў запаўняць матэрыяламі жалезную шафу...

Было нямала сваіх ледзей сярод вучоных. З імі матрос хутка перайшоў на цёплае „ты“. Але былі і такія, якія горбіліся ад цяжкага грузу мінулага. Былі тут і натуршчыкі з поэмы Андрэя Александровіча „Цені на сонцы“. Яны знаходзілі прытул

па розных габінэтах інстытуту: маршалкі, дзянікінцы, урангелеўцы, міністры, адэсыты, радаўцы-замежнікі. Іхняе мінулае лезла наверх, нібы кот з завязанага мяшка. Колькі пісаных протэстаў да начальства і ціхіх праклёнаў сыпалася ад натуршчыкаў „ценяў“ на аўтара. Каб усе гэтыя праклёны спраўдзіліся, ад аўтара і пылок не застаўся-б. Ён перажыў-бы дзесяткі розных мучэньняў—ня менш за падпольніка рэволюцыянэра ў дэфэнзыве сучаснай Польшчы. Былі填 ператворы ў адзін экстракт праклёны ўсіх вякоў. Хоць вазьмі ды зложы з іх доўгі, як мінуўшчына, верш. Чалавек бяз знакаў прыпынку прапанаваў Царэшку напісаць на Александровіча контрпоэму і падпольна яе распаўсюдзіць па Беларусі. Былыя і будучыя (паводле іхняй упэўненасьці) „міністры“ скрыгаталі зубамі і на гэту тэму гаварылі зусім ненавуковай тэрмінолёгіяй.

— Ці перапробіш іхнюю натуру?—пытаўся Малеўскі на партыйных сходах.

— Гэтыя людзі не пераварацца ў савецкім катле. Яны шмат шкоды прынясуць. Яны затрымліваюць савецкую навуку.—Так гаварыў адзін з наборшчыкаў друкарні інстытуту, таварыш Сакалоўскі. Яго сьветла-шэрыя вочы цямнелі, і па твары ўглыбляліся маршчыны.—Я часта, набіраючы іхнія творы, гавару сваім таварышом, што праз меру шмат увагі аддаецца старасьветчыне, народным песьням, казкам. У гістарычных працах ды іншых навуках я мала разьбіраюся. Ведаю адно, для нашага брата, рабочага, яны нічога ня пішуць. А ліха іх знае гэтых „маршалкаў“,—што яны сабе мяркуюць. Можа рыхтуюць нам нож у сьпіну?

У голасе Сакалоўскага боль і няўпэўненасьць. Ён глядзіць на ўсіх такімі вачыма, нібы паратунку просіць.

Чарнявы і худатвары наборшчык Левінсон стучыць кулаком аб стол. Часта міргае гарачымі вачыма і кажа ўспыхваючым ад гневу голасам:

— Раней на грамадзянскім фронце і нашыя маладыя дзеці ведалі, дзе вораг, а цяпер патрэбна пільнае вока, каб упору ўгледзець яго. Чуцьцём мы яго адчуваем, але вось вазьмі яго за вушы, калі ён лемантуе, што за савецкую ўладу галаву аддае!.. Чаму з нашымі кадрамі ў інстытуце так кепска справа пастаўлена? На кожнага асьпіранта накладаюць цэлыя мяшкі грамадзкай працы, а вучыцца не даюць.

Левінсон хвалюецца. Голас яго пераходзіць на пісклівыя ноткі.

— З кадрамі зусім кепска,—згаджаецца Сакалоўскі.

Старшыня інстытуту, паджылы лысы і круглы, махае рукамі і гаворыць заўсёды кволым басам адно і то самае:

— Савецкая ўлада даўно амніставала старыя грахі. Людзі працуюць шчыра. А калі і робяць памылкі, дык хто з нас іх ня робіць? З кадрамі трэба нешта зрабіць. Гэта праўда, што яны ў чорным целе.

На яго круглым голеным твары такі супакой, ажна іншых злосьць бярэ.

— А калі гэта ў іх не памылкі, а сыстэма?—ціхім хрыплаватым голасам пытаецца Малеўскі.

— Бязумоўна сыстэма!—падтрымлівае яго Сакалоўскі.

— Пабачым,—заспакойвае іх круглы і лысы.—Нельга так з бухты ў барахту.

Пасьля такіх гутарак Малеўскі ня сьпіць начамі:

— Што рабіць? Нешта тут у нас няладнае...

Пачалі ў інстытуце ладзіць вечары самакрытыкі. Прыходзяць на гэтыя вечары рабочыя з друкарні, тэхпэрсонал, асьпірантура, нямногія з профэсараў, а знатуршчыкаў „Ценяў на сонцы", якія ў габінэтах інстытуту займаюць некалькі кіраўнічых пасад, нікога няма.

— Чаму так мала? Няўжо-ж ня ўсе павядомлены?—пытаецца Малеўскі.

— Як не павядомлены!—усхопліваецца з месца малады дзелавод, дэмобілізаваны вайсковец. Ён чырванее ад абурэньня.— Ва ўсіх аддзелах абвесткі прыклеены. Многім дамоў паведамленьні пасылаў.

— Мусіць гонар не дазваляе! крычыць наборшчых Сакалоўскі.—Як мы „адважваемся" гаварыць аб працах вучоных?

— Не дармо адзін з паноў „міністраў" выразіўся, што нам, рабочым, месца ў піўнушках, а не ў інстытуце...

Раздаліся галасы:

— Хто?

— Калі?

— Гавары ясна!

Рух трывогі на крэслах.

— Мясцком павядомлены.

Гэта гаварыў профэсар Саколіч. Ёсьць сьведкі.

Вялізная пуставатая заля інстытуту прыслухоўваецца, адказвае лёгкімі водгаласкамі. Гіпсавыя бюсты Скарыны і Кастуся Каліноўсага ўтаропілі вочы ў пустыя крэслы. Зьвіняць галасы, абураныя, злосныя.

— Дзе яны? Чаму ня прыходзяць? Чаму пустыя крэслы?

І зноў Сакалоўскі:

Калі такімі тэмпамі будзем працаваць далей, дык нічога ня зробім для соцбудаўніцтва...

Доўга гаворыць Сакалоўскі.

Спачатку ноткі крыўды ў голасе, а пасьля абурэньне ў бок пустых крэслаў. Яркія электрычныя лямпачкі сьцёрлі цень з пустых крэслаў, якія стаяць роўнымі шэрагамі—дубовыя, зграбныя, моцныя, з лёгкім пылком ад няўжываньня. Нібы ў мэблёвым магазыне.

— Да пустых крэслаў гаворым, канчае Сакалоўскі.—Будзем у насьценгазеце вастрэй пісаць! Можа ачухаюцца.

Пасьля кожнага нумару насьценгазэты „Навука і Праца“ некаторыя з „пакрыўджаных“ ня вітаюцца з рэдколегіяй.

Два лягеры неахвотна абменьваюцца халодным, як лёд, „дзеньдобры“.

І вось перад Малеўскім-матросам пачынаюць праясьняцца далі гэтага карабля. Ён пачынае разумець яго сваясаблівы компас. Ён робіць вывады свайго вывучэньня:

Старасьветчына служыць для некаторых самамэтай. Вельмі мала займаюцца пытаньнямі сучаснасьці. А калі дзе і прасьлізгваецца слова пра сёнешні дзень, дык гэта толькі чырвоная маска. Сабатаж іхні броняцягнік.

А вось з матроскага мінулага:

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Позьняя восень. З-пад Гатчыны дае лататы броняцягнік Керанскага. Станцыя Чудава. Матросы і чырвонаармейцы нарыхтавалі некалькі вагонаў. Але што рабіць? Стаяць вагоны, як малыя дзеці бяз бацькі.

Няма паравозаў...

Начальнік станцыі ўюном туды і сюды, вачыма мірг, трэ руку аб руку, ды ўсё сваё гаворыць:

— Няма паравозаў...

— Як, няма? Павінна быць!—крычыць Малеўскі.

Начальнік станцыі, адкормлены дзядзя, з бравымі вусамі царскага служакі, адшпільвае шынэль, выпукляе грудзі і кажа „шчырым“ голасам:

— Во! страляйце! Адкуль вазьму паравоз, калі няма?

— Што рабіць?

— Якая карысьць, калі ў яго будзеш страляць?

Хвалююцца матросы. Уцякае броняцягнік Керанскага. Імжыць халодны дождж ык, лезе пад каўнер.

Па вільготным пэроне, наставіўшы каўнер, ходзіць туды і сюды рабочы-чыгуначнік. Ходзіць, хвалюецца і ўсё паглядае паляўнічым вокам на начальніка станцыі. У рабочага замасьлены пінджак, чорны ад сажы твар, бліскучыя вочы. Падобны да нэгра. А вось ён рашучым крокам падыходзіць да Малеўскага.

— Таварыш...—шэпча ён і блішчыць вачыма і зубамі.

— А што?

— Паравозы ёсьць. Трэба схадзіць у дэпо...

— Дык хадзем!

— Хадзем...

Начальніка станцыі ледзь не расстралялі.

Паехалі.

Імчыцца цягнік па сьлядох ворага. Па абодвух баках лініі— лісьцяны лес, кусты і балота.

Нёдалёка ад станцыі Балагое пачалі даганяць броняцягнік

— Да вечару прыцісьнем яго да Балагое. З нашых рук ня вырвецца.

Зноў імчыцца цягнік уздагон. Насустрач па абодвух бакох рэек плыве назад з такім-жа імпэтам лес і балота. Халодны вецер сьцёбае ў твар.

— Дагонім!

Прыехалі ў Балагое, а там кажуць, што броняцягнік пайшоў на Кужэнкіна.

— Ах, д'явал!

Паведамілі тэлеграмай Кужэнкінскаму савету:

— Затрымайце броняцягнік Керанскага.

Кужэнкінцы параскідалі рэйкі. Броняцягнік падышоў туды і давай наладжваць сабе шлях наперад, у той-жа час раскідваў рэйкі за сабою, каб бараніць сябе ад бальшавіцкай пагоні. Пачало цямнець. Сьпераду відаць агні броняцягніка. Адлегласьць каля трох вёрст. Вакол лес і балота. Пайшлі з абодвух бакоў лесам, брылі па балоце, канавах і ручаёх.

І Малеўскі крыкнуў:

— Няма чаго хавацца па кустох! Возьмем броняцягнік!

Час плыў марудна. Цёмная ноч агарнула абшар, абліла ўсё чорным атрамантам. Агні броняцягніка блішчаць воўчымі вачыма. Холад. Вільгаць. Матросаў і чырвонаармейцаў злосьць узяла. Абкружылі ўпоцемках броняцягнік з усіх бакоў.

— Гэй, здавайцеся, а то горш будзе!

Броняцягнік з юнкерамі здаўся...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Ці здасца інстытуцкі броняцягнік? Мы яго ўпоцемках шукаем,—думае Малеўскі.—Прожэктар катэдры марксызму-ленінізму пакуль што мала асьвятляе абшары інстытуту.

Вечары самакрытыкі выявілі многа шкодных прац. А некаторыя, баючыся памылак, зусім нічога ня робяць. Многія з былых вядуць далей сваю контррэволюцыйную працу. Прызнаюцца ў памылках і сьмела робяць новыя...

— Што за мёртвая зыб?..

Малеўскі сядзіць па начах і піша свае нататкі. Малеўскі дае матэрыял для аднэй цэнтральнай газэты. Малеўскі ня сьпіць. Б'е трывогу.

Яму адказваюць:

— Пачакаем. Пабачым. Добра расьсьледуем. Вывучым. У такіх справах не павінна быць лішняй гарачкі.

І матрос яшчэ пільней прыглядаецца да людзей, пачынае сам вывучаць іхнія творы. Цяжка яму гэта. Непадрыхтаваны. Куды лягчэй, ямчэй і больш зручна было яму ў балотным лесе ды ўночы захапіць броняцягнік Керанскага... Аднак разам з Міколай Ярэмчыкам упарта працуе. „Трэба самому вывучаць, а можа памыляецца... А можа рабочыя праз меру загнулі... Яны-ж нявучоныя... А можа нашыя вучоныя перагібаюць..."

Малеўскі стараецца да дзесятага поту.

— Гэта табе ня палубу драіць,—успамінае ён сваё матроскае.

Катэдра марксызму-ленінізму яшчэ нядаўна організавана ў інстытуце. Гэта катэдра самая высокая шчогла новага карабля. Але яна яшчэ праз меру маладая, ківаецца ва ўсе бакі. Профэсары-марксысты вельмі заняты ў розных іншых установах.

— Няма калі, таварыш Малеўскі. Гэта наш абавязак. Мы ведаем, але нас на кавалкі разьдзіраюць. Дайце агледзімся.

Пацее матрос. Працуе. Няма калі лячыць свой флюс. Прывык да яго...

...Тут куды цяжэй, чымся ўвосень 1919 году бараніць ад Юдзеніча Петраград і Кронштадт. Тут больш складаная справа, чымся вызваленьне Чугуева ад юнкераў.

Малеўскі ўспомніў Волгу, Дон, Украіну—усе мясцовасьці, дзе толькі яму прыходзілася бываць абвешаным гранатамі, са стрэльбаю ў руках і з наганам за поясам.

Яго пакой, самы меншы ў інстытуце побач з абшырнымі пакоямі (у некаторых і скураная мяккая мэбля), ніколі ня пуставаў, ніколі ня быў маўклівым сіратою, як іншыя габінэты.

З матроскай настойлівасьцю Малеўскі ўвайшоў у газарт навукі.

Напісаў гісторыю свайго роднага мястэчка. Тры вярсты ад тэй вёскі, дзе жылі яго бацькі. Гісторыю пачаў з часоў рэволюцыі 1905 году. Паказаў старому профэсару—нізенькаму, голенаму, вясёленькаму, далікатненькаму. Той прагледзеў, ветліва ўсьміхаўся, спрытна жартаваў ды ўсё паўтараў:

— Няпоўна. Няпоўна.—Ківаў галавою і паказальным пульхлым пальчыкам.—Але ў вас, таварыш Малеўскі, добры нахіл да гістарычных навук. Працуйце ў гэтым кірунку.—Ён трос руку Малеўскага, з усьмешкай у вочы зазіраў, нахіляў галаву.— Працуйце! Працуйце!—Ён нібы літасьці прасіў у Малеўскага.— Працуйце... Працуйце, таварыш Малеўскі...

І даў Малеўскаму сьпіс матэрыялаў, паводле якіх трэба дапоўніць гістарычны нарыс аб родным мястэчку.

І Малеўскі пачаў „дапаўняць“. Павандраваў на маленькім чаўночку па балотных вазёрах ад пятнаццатага да апошняга стагодзьдзя: князі, графы, княгіні, графіні, кляштары, вунія, кальвінізм—усё вакол роднага мястэчка, увесь гэты божы народ і божыя справы. А мястэчка з рук у рукі пераходзіла, як пасаг, ці як спадчына, ад адных магнатаў да другіх... Памiралі адны, нараджаліся другія...

Твор надрукавалі ў адным са зборнікаў прац інстытуту.

Наборшчык Сакалоўскі першы заўважыў:

— Улез, ты, Яначка, да графаў і княгінь. Улез, як мыш у саладуху.

Паплыў матрос!

Ад хваляваньня Малеўскі ўсё тармашыў павязку на сваім флюсе. І публічна сказаў на агульным сходзе:

— Памыліўся, таварышы... Кароսты набраўся. І на мяне вось уплыў зрабілі. Трэба бараніць кадры ад уплыву некаторых

прафэсараў. А мне гэта добрая навука. Я толькі яшчэ больш пераканаўся цяпер, што наш карабель зацёрты ільдзінамі.

Хрыплаваты голас яго быў ня зусім спакойны на гэты раз. Упяршыню пачаў ужываць матроскія словы. Сьветлыя вочы яго былі апушчаны ў ніз.

А стары гісторык цмокаў губамі:

— Дармо вы, таварыш Малеўскі, прызнаяцёся ў няіснуючых памылках. Ня прыслухоўвайцеся да павярхоўнай крытыкі. Працуйце далей ў гэтай галіне...

Малеўскі ўтаропіў у гісторыка блакітныя вочы. Стары ўгледзеў у яго вачох няпрыветнае бяздоньне і давай дробненька нагамі перабіраць.

— Усяго добрага, таварыш Малеўскі, часу няма...

Уласная памылка пераканала Малеўскага ў небясьпецы інстытуту, павялічыла яго пільнасьць.

— Наш карабель зацёрты ільдзінамі,—часта думаў ён.

На адным са сходаў ячэйкі ён сказаў аб зусім новай справе:

— Аддзелы нацменшасьцяй ня зьліты між сабою ў адно цэлае. Адзін аддзел ня цікавіцца працай другога. Між імі нейкая мяжа...

— Ой, грахі, грахі...—стагнаў круглы і лысы.—Але ўсё наладзіцца.

— Многія сварачкі носяць шовіністычны характар рознай формацыі. Трэба аб гэтым гаварыць на агульных сходах, пісаць у насьценгазэце—ня мог супакоіцца Малеўскі.

— Ой, грахі, грахі... Пачакаем. Ня варта нэрваваць вучоных. Няхай працуюць.

— Такія словы—опортунізм!—крыкнуў наборшчык Сакалоўскі, і бровы яго ўзьняліся дзьвюма дужкамі.

— Няма чаго гарачыцца...—Круглы і лысы шараваў рукою цьвёрды стол. Пасьля такіх размоваў пачаў часта хварэць...

Наш карабель заціраецца ільдзінамі,—думаў Малеўскі.—Трэба ратаваць карабель...

Аб гэтым небясьпечным караблі пачалі ўжо зьяўляцца вострыя артыкулы ў газэтах. Пачалі біць трывогу. Пролетарская грамадзкасьць зацікавілася караблём у ільдзінах.

Малеўскі пільней прыглядацца пачаў да чалавека бяз знакаў прыпынку, да чалавека з вачыма сфінкса, да „прэм'ера" ў белых манкетах з ружовымі рукамі, да „маршалка", да Цярэшкі, да Саколіча, да Барзоўскага, да Лявончыка і да іншых з гэтай кампаніі.

— Ліха іх ведае...—думаў ён.—А, здаецца, вечна сварацца між сабою...

Карабель у ільдзінах.

А вось яшчэ з матроскага мінулага:

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дзень бяз сонца. Мутны дзень. Мароз шчыпле нос і вушы. У пальцах адчуваеш яго тоненькія гострыя голачкі. З роту

клубіцца густая пара. Фінская затока закута ў тоўсты ільдзяны панцыр. Па мігатлівай бялявасьці ільдзяной пустэчы, якая сьлепіць вока, захрасла ў лёдзе многа савецкіх караблёў: крэйсары, мінаносцы, падводныя лодкі. За ўвесь час імпэрыялістычнай вайны набралася іх шмат ля Гельсынгфорсу. Дымяць коміны. Калі-ні-калі пераклікаюцца сырэны.

Трэба ратаваць бальшавіцкія караблі, пакуль ня позна, а то белагвардзейцы Фінляндыі галовы паднімаюць...

Трэба ратаваць...

— Нічога з гэтага ня будзе,—кажуць некаторыя з камандзіраў.—Загінуць караблі... Будзем ратавацца самі, пакуль ня позна...

А матросы сваё:

— Няўжо-ж ворагу пакінем. Матросы ня верылі старым камандзірам і адважыліся.

— Ледокол „Ярмак“ выратуе „Крэчэт“ дапаможа. У яго моцны сталёвы нос.

Угрызаўся зграбны асілак „Ярмак“ у лёд да вар'яцкага хрусту і трэску. Лёд крахтаў, падаваўся, крушыўся, як цукар. Барозны з вадой зноў зацягваліся плеўкаю тонкага ільда. Гневаўся мароз. Як гэта адважваюцца людзі руйнаваць яго ільдзяныя палацы?

Паехаў так-сяк караван савецкіх караблёў. А здалёку сачыў варожы ледакол. Матросаў было мала, а харчоў і на гэтых было скупа.

На караблі з гневам лезьлі зялёна-сівыя магутныя торосы. Здалёку пагражалі застылыя асілкі-шхэры.

Павольна рухаўся караван наперад. Мінаносцы выглядалі сярод торосаў пабітымі варонамі. Цёрлі бакі, камечылася сталёвая абшыўка. Пачалі абрывацца буксіры. Цярплівыя былі матросы. Зноў ладзілі. Пакуль што перамога была на баку людзей.

Ноч. Мароз. Над ільдом малочны сьцюдзёны туман. Ісьці наперад небясьпечна—шхэры, мелі. Па белай сьнежнай густэчы вандруе цішыня. Караван адпачывае. Матросы жартуюць, бадзёрацць адны адных. Дзеляцца харчамі.

Пераклікаюцца сырэны:

— Жывем! Жывем!

— Можа яшчэ дзянёк, і мы выратуемся...

— Зноў цішыня.

У бялявай сьлепаце цёмныя плямы караблёў.

Нікому матросы-бальшавікі не аддадуць гэтых дарагіх сталёвых скрынь... Нікому!..

Раніцою, як толькі трохі расплыўся туман, пасунуліся далей. Кожны за сваю працу.

Бадзёра гучыць каманда.

Зноў крэхча лёд. Ня можа ўстаяць супроць магутных сталёвых і вострых грудзей „Ярмака“. Лёд стогне. Трашчыць зімовы кажух Фінскай затокі...

— Малайчына „Ярмак“!

Як бацька „Ярмак“ вядзе наперад сваю сталёвую сям‘ю, прабівае дарогу сярод ільдзін да бальшавіцкіх берагоў...

— Гэй, набліжайцеся да нас, любыя, родныя берагі!

Дзьве падводныя лодкі зацёрліся ў лёдзе, закавылялі туды і сюды, як дзеці, якія толькі што хадзіць пачынаюць... Крычаць іртамі сырэн, лемантуюць, просяць:

— Ра-а-ату-у-уй!!!

Варочаецца назад „Ярмак“. Грызе лёд, бакамі туды і сюды трэцца,нібы тоўсты дзядзя сярод цеснага натоўпу. Дыміць аграмаднай цыгарай-комінам.

— Вось вам, дзеткі, сьцежачка! Дайце ручкі!

Зноў ідзе караван наперад.

Рады матросы. Трохі голад трывожыць. Мала провізіі. Ня думалі, што так марудна і павольна пойдуць. Дзеляцца апошнім...

— Пацерпім...

Яшчэ ноч.

Яшчэ дзень.

Горшае і цяжэйшае ззаду. Лепшае і лягчэйшае наперадзе.

І вось з туманістай белай далі пачалі вырысоўвацца доўгажаданыя перадавыя фарты Кранштадта...

Бальшавіцкія берагі...

Забылі голад, сьцюжу, да крыві намазоленыя рукі.

Малеўскі жмурыць вочы і зноў іх шырока расплюшчвае. Скінуты з плеч усе цяжкасьці пройдзенага шляху. Матросы радуюцца, як дзеці.

...Бліжэй, бліжэй...

Прыгожы „Ярмак“ ганарыцца ярка-чырвоным сьцягам.

...Зараз, зараз...

— Ура-а-а!!!

...Выратавалі бальшавіцкія караблі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Малеўскі падбадзёрыўся.

Калі пролетарская грамадзкасьць загаварыла пра небясьпеку ў інстытуце, дык і гэты карабель будзе выратаваны. Ніякія торосы яго на шляху не затрымаюць. Бальшавіцкія ледаколы скрамсаюць лёд і разатруць у пыл. Карабель вольна паплыве да сонечных берагоў Соцыялізму.

---

# 35

## Плач Яраслаўны

У ТОЙ восеньскі дзень з каламуці набухлых воблакаў нізіўся лапчасты вільготны сьнег. Ледзь прымосьціцца дзе дробным пер'ем да крушні, глебы, даху ці плоту, і зараз-жа расплывецца. На палёх і дарогах квасілася шэрае цеста клеістай гразі. У заімжавелым полі крычалі, скардзіліся вароны. Над хмызьнякамі і напоенымі вільгацьцю лагчынамі яны з устрывожанай рупнасьцю пісалі крыльлямі шырокія кругі. А там, дзе яны апускаліся на зябленыя шнуры, іхні колер скрадвалі шэрыя грудзістыя гоні.

Па расхлябанай дарозе хлюпала фурманка. На возе двое— мужчына і жанчына. Абодва ў брэзэнтавых плашчох з капюшонамі на галавах. Яны стараліся схавацца ад вільготнага ветру і сьнежнага хлюпату. Іх пранізвала сьцюжа. Твары былі чырвоныя і набраклыя.

— Вам ня холадна, цётка Крушынская? часта чуваць быў прыглушаны голас.

— Не... Далёка да Менску?

— Гадзіны дзьве язды.

За апошні час ужо некалькі разоў Стэфка была ў Менску. Сьляпая маці па яе голасу адразу зразумела, што нешта нядобрае з ёю здарылася.

— Ён арыштаваны...

— Пабягу да пані Мар'і,—сказала сьляпая.

— Я ўжо была там. Ён-жа ім, Цярэшкавым, сваяк.

— І што сказаў Цярэшка?

— Сказаў, што будзе старацца.

— Раней, калі старая Вярбіцкая хвалявалася, яна моршчыла лоб, і ў яе вачох запаляліся і патухалі аганькі. Цяпер яна моршчыла лоб па ранейшаму, але ў яе сьляпых вачох ніякага выразу ня было. Сьляпая хруснула пальцамі і сказала:

— Навошта было выходзіць, Стэфачка, замуж за такога галаварэза? Чаму ў мяне ня пыталася?

— А ты ведала, мама, што ён галаварэз? Ты і цяпер ня ведаеш дык не гавары. Не забывай, што ён мой муж. Не забывай, што нямала ён пераслаў сюды нашай сям'і.

Хлюпае фурманка па расхлябанай дарозе. Няпрытульна. Сьцюжа. Вільгаць. Хмары зацягнулі неба. Нібы густым дымам яно затулена.

Стэфка выглядае з капюшона і зноў хавае твар у набухлы брэзэнт.

На гэты раз яна ад Цярэшкі лёгка не адвяжацца. Ён павінен дапамагчы. Ён можа. У яго такое знаёмства. Мой муж у яго зарабіў! Апошні сказ яна кажа ў голас. Да яе зьвяртаецца фурман:

— Што вы сказалі?

— Нічога. Я так.

— Н-н-но-о-о! т-ты!—ён падбадзёрвае каня.

Па гразі прыглушана цокаюць падковы. Фурманку трасе.

---

І ў горадзе няпрытул.

Сьнег прыстае да шыбаў вакон мутнымі кроплямі, расьцякаецца рагамі па шкле.

Антон Цярэшка толькі што прышоў на працу. Якраз на гарбату пасьпеў. Ля ўваходу ў трохпавярховую камяніцу невялікая шыльда. Залатыя літары на мармуры:

| |
|---|
| ІНСТЫТУТ ........................................ |
| ........................................ |

Рэшта ўсё залеплена вільготным сьнегам.

Дванаццаць гадзін дня.

У вялізным пакоі змрочна і нудна. Цярэшка зірнуў праз вакно трэцяга паверху. Від нібы з самалёта, які спускаецца на зямлю: мутныя квадраты дахаў. Шахматнымі клеткамі яны драбнеюць у аддаленьні. За імі пыхкаюць рыжым і сінім дымам некалькі фабрычных комінаў. Насупроць праз вуліцу Цярэшка бачыць з вакна белыя шкілеты рыштаваньняў вакол двух новых будынкаў, незаконченых за сяголетні сэзон. Ад іх улетку многа было пылу. Так на ўсіх вуліцах.

У гарачы час летняга будаваньня Цярэшка ўцякае на поўдзень. Так кожнае лета: месяц на курорце, месяц на хутары ў Язэпа Крушынскага. Ластаўкі аблепліваюць вясковыя стрэхі, а Цярэшка і ўвесь „будучы ўрад" Б. Н. Р.—пляжы Чорнага мора і вышыні каўкаскіх гор. Тым часам Менск адбудоўваецца, шырыцца ва ўсе бакі. Кожны сэзон—нямала новых гмахаў, новых фабрык, гарадкоў, рабочых пасёлкаў на акраінах.

Цярэшка можа па-свойму, на асаблівы лад, рабіць падлічэньне будаўніцтва ў Менску за апошнія некалькі год.

Ён у Кіславодзку—тут каналізацыя гораду і новы мост.

Ён на Крымскім узьбярэжжы Чорнага мора—тут унівэрсытэцкі гарадок.

Ён на Волзе на параходзе—тут трамвай.
Ён у Курганішчы—тут на Камароўцы навезены будаўнічы матэрыял для вялізных корпусаў інстытуту.
І гэтак далей, і гэтак далей.
Цярэшка мацае пальцамі астылую шклянку гарбаты.
— Чорт пабяры, горача...
Хвалюецца.
Ён-бы ня прышоў сягоньня. Ніхто над каркам не стаіць. Але сягоньня зьявіліся і тыя, якія прыходзяць у інстытут вельмі рэдка.
Сягоньня на сталох габінэтаў садом і гамора портфэляў, капялюхоў, шапак, кніг і рукапісаў з шафаў і шуфляд. Сягоньня будуць выплачваць пэнсію...
За апошнія некалькі месяцаў у „Зьвязьдзе" аж два разы пра Язэпа Крушынскага пісалася. Абодва разы подпіс — Мікола Ярэмчык.
І першы і другі артыкул Цярэшка выразаў доўгімі канцылярскімі ножніцамі і засунуў у верхнюю шуфляду свайго пісьмовага стала. Толькі адзін раз прачытаў.
Кожны абзац кусаў яго, нібы плойма камароў.
Кожны радок сьмяяўся з Цярэшкі трыма дзесяткамі маленькіх вочак.
Кожнае слова кпіла з яго:
— Ага... Папаўся...
— Падумаеш... „Папаўся"... Я—Цярэшка, поэт, а той—Крушынскі... Крэўны? Мала што...
І няма на гэты раз у артыкулах портрэта вусатага лысага дзядзькі, як было калісьці ў артыкуле агронома пра Крушынскага, але з кожнага радку глядзіць на чытача жывы чалавек.
І ёсьць на гэты раз у артыкулах пра Шапалевіцкі раён. Там выкрылі цэлы гнойнік. Некалькі адказных працаўнікоў зьняты з працы. Склад працаўнікоў Гайдачанскага сельсавету зьменены.
– Як ратаваць Язэпа Крушынксага?
Калі Цярэшка бываў на курорце, ён часта забаўляўся. З вышыні гары кідаў уніз камень. Камень ляцеў, захапляючы па дарозе яшчэ некалькі каменьняў. Кожны з новых—яшчэ. Імпэт паданьня рос з шалёнай шпаркасьцю. Пакуль каменьні дакаціліся, падскокваючы, у самае дно цясьніны, паднімалася вялікае грукаценьне, і водгаласкі разыходзіліся па гарах, нібы ад страляніны.
Язэп Крушынскі быў першым каменем, кінутым з гары.
— Каб часам...
— Як ратаваць Язэпа Крушынскага?
У манашаскай кельлі на кватэры чалавека з вачыма сфінкса сабраліся раніцою.
— Справа ў тым,—гаварыў чалавек бяз знакаў прыпынку,— што чым горш, тым лепш. Калі пачалося па вёсках такое раскулачваньне, дык нешта з гэтага выйдзе (ён песьціў рукою

чорна-сівую бародку). Такіх гаспадароў, як Крушынскі, нямала на нашых вёсках. Яны нешта зробяць. У лясы разьбягуцца, бунтавацца будуць. Бальшавікі наступаюць на качаргу, а яна як бэнцне ў лоб. Хутка адбудзецца тое, да чаго мы рыхтуемся ўжо доўгі час... Нашы міністэрскія портфэлі—ня міт. Чым горш—тым лепш.

У спакойным голасе чалавека бяз знакаў прыпынку чулася ўпэўненасьць. Ён быў філёзофам. На ўсе вакольныя падзеі глядзеў праз замежныя акуляры сваімі падсьлепаватымі вачыма ў адзін пункт—БНР.

Праз вакно відаць было, як на дварэ мітусілася слота. У пакоі было змрочна. А вільготны лапчасты сьнег садзіўся на шыбы стомленымі матылькамі. У воддалі вялікага дзядзінца сьнег апускаўся белай асклізлай саранчою на вільготную зямлю, на каштаны і зграбныя лаўкі. На супроцьлеглай ад вакна сьцяне ў паўзмроку восенскага дня блішчэла золата масыўнай багэтавай рамы. У раме—малюнак, напісаны адным пачынаючым мастаком, якога вельмі хваліў чалавек з вачыма сфінкса. „Плач Яраслаўны“ называецца малюнак. Ля старога тыну сядзіць засмучоная чырвонашчокая жанчына ў беларускай нацыянальнай вопратцы.

— Беларуская вопратка толькі даводзіць, што „Слова аб полку Ігараве“ напісаў крывіч,—часта гаварыў чалавек з вачыма сфінкса.

Былы „прэм‘ер“ у белых манкетах згадзіўся з філёзофіяй чалавека бяз знакаў прыпынку аб тым, што „чым горш—тым лепш“. Аднэй рукою ён пагладзіў бліскучую лысіну і пераказаў гэту самую філёзофію на свой лад.

— Яшчэ шмат крыві пральлецца.

А ў гэты-ж час у яго вачох сур‘ёзная лагода.

— Так. Яшчэ шмат крыві пральлецца!—згаджаецца з ім чалавек з вачыма сфінкса

І гэты стары трафарэт „прэм‘ера“ набывае новую сьвежасьць

Цярэшка слухае разважаньні „конвэнту“ левым вухам, а правым вокам глядзіць на Яраслаўну. У цяні змрокаў яе вочы таемныя і жывыя. Яе смутак расьце. „Прэм‘ер“ ажывіўся. Мільгнуў у паветра белай паласою манкеты і сказаў:

— Некаторыя ўжо дзейнічаць пачалі. Вось у Магілеўшчыне організацыя добра працуе. Можна быць упэўнены, што нашыя пушчаюць там чырвоных пэўняў па ўсіх колгасах.

— Гэта ўсё добра,—умяшаўся ў гутарку Цярэшка.—Але як ратаваць Крушынскага? Тут не аднаго яго справа. Разумееце, браткі, што ён залішне многа ведае аб нас... Ён можа прагаварыцца...

Усе настаражыліся. Выраз вачэй усіх удзельнікаў „конвэнту“ зрабіўся аднолькавым: страх і трывога.

Але сфінксавыя вочы раней за ўсіх схавалі гэты страх:

— Няма чаго баяцца. Нашыя па вёсках пачалі энэргічна бараніцца. А нам трэба паказаць ім дарогу да адважнага наступленьня. Трэба, каб нашыя гарачым шквалам рынуліся на „іх“.— Ён любіў мэтафоры.—Надышоў час, калі нам трэба крыкнуць „годзе!“ А Крушынскага я знаю. Ён глупства гаварыць ня стане. Папрабуйце яго, Цярэшка, ратаваць. Сувязі ў нас ўсіх адны і тыя самыя. Крушынскі ваш стрыечны брат, і вам зручней гэтым займацца. Толькі асьцярожна.

— Я ўжо пробаваў намацваць розныя грунты, пакуль што мала надзеі.

У сфінксавых вачох засьвяціліся блакітныя сьветлячкі:

— Крушынскі не прападзе. Ён не з такіх. Ён вырвецца. Уцячэ. А пакуль за нас возьмуцца, тут могуць адбыцца вялікія падзеі. Тады мы за „іх“ возьмемся.

Падняўся з месца чорнавусенькі Саколіч. Вусікі пальцам пашліфаваў і сказаў:

— Не кажы „гоп“, пакуль не пераскок. Хі-і-ік. (Ён па прывычцы хікнуў горлам). Вось бачыце, што здарылася на Украіне? Там галовы ня менш спрытныя за нашыя. Яшчэ пакуль што ў нас Яфрэмавых няма. А дзе ён апынуўся? Хі-і-ік. Першым чынам трэба, каб кожны з нас самога сябе добра рэвізаваў. Усе компромэнтуючыя дакуманты зьнішчыць. У інстытуце таксама... Там гэты Малеўскі... Хі-і-ік. Ён мне вельмі не падабаецца. Ён, мабыць, чорт ведае што пра нас думае. Учора я праходзіў ля дзьвярэй ячэйкі. Нікога ў калідоры ня было, і я пачаў прыслухоўвацца. Гаварылі нешта пра Украіну і нашыя імёны ўспаміналі.

— У страха вочы вялікія,—засьмяяўся чалавек бяз знакаў прыпынку.—Мала аб чым там гаварылі. Вы не дачулі, а вам і здалося.

— Хто яго ведае!—Саколіч устрывожана глядзіць праз вакно на лапчасты сьнег.—Вось што я мяркую. Хі-і-ік. Нам трэба на нейкі час ліквідаваць свае портфэлі. Хі-і-ік.

— Што-о-о?—ускіпеў чалавек бяз знакаў прыпынку і пачаў выціраць акуляры.—Калі надышоў час дзейнічаць, дык вы рукі апускаеце? Не забывайце, Саколіч, што мы гэтулькі год разам працавалі. Не забывайце, што колькі часу таму назад вы, Саколіч, у гэтым-жа пакоі гаварылі: „будзем рэзаць тых, хто супроць нас“. Я тады лічыў вас моцным чалавекам. Вы так лёгка ад нас не адыйдзеце. Бо мы...—ён падняўся з месца.—Бо ў нас ёсьць сіла, якая... якая вас прымусіць...

— Ніхто мяне ня прымусіць!—Саколіч стукнуў кулаком аб стол, і з пепельніцы высыпаліся акуркі.—У мяне ёсьць жонка і дзеці. Яны аб нашай організацыі ня ведаюць. Хі-і-ік. Яны не павінны дзеля мяне, хі-і-ік, цярпець. Яны... Калі я пападуся, дык што з імі будзе? Хі-і-ік, хі-і-ік...—У Саколіча хадыром захадзіў твар, а горлам ён вырабляў такія гукі, нібы косткі глытаў і давіўся імі.

— Саколіч, не забывайцеся! Вы ведалі на што ішлі. У кожнага з нас ёсьць сям'я. Вясною будзе нешта канчатковае. Вы будзеце шкадаваць. Калі вам не падабаецца міністэрства народнай гаспадаркі, дык выбірайце.

Упяршыню бачыў Цярэшка чалавека бяз знакаў прыпынку ў такім гневе. Той цёр далоньню насуплены лоб, вочы ўспыхвалі.

— Хі-і-ік. Ніякія гутаркі не памогуць. Душою я з вамі, але прымаць удзел у гэтай справе не хачу!—крыкнуў Саколіч.

— Ц-с-с-с,—прасіў гаспадар кватэры.—Сьцены вушы маюць.

— Душою з намі, а скурай з імі. Чулі?

Чалавек бяз знакаў прыпынку кпліва хіхікае і трасе галавою.

— Усяго лепшага!

Саколіч сказаў гэта слова ўжо тады, калі ўвесь „конвэнт" мог бачыць толькі яго сьпіну. Ён адчыніў дзьверы ў калідор.

— Тру-ус! Падлю-ю-уга!—кінуў яму ўздагон „прэм'ер".

Саколіч пашоў.

Хвіліну ўвесь „конвэнт" прыслухоўваўся моўчкі да яго крокаў у доўгім калідоры.

— Можа вернецца,—шапнуў Цярэшка.

Крокі аддаляліся і заміралі.

— Ня вернецца...

— Чорт з ім,—буркнуў былы „маршалак" і пачаў хадзіць туды і сюды па пакоі, залажыўшы за сьпіну рукі. Спыніўся і выгнуў у лук сваё нязграбнае тулава.—А калі ён, каб ратаваць сваю скуру, пойдзе „туды" ды ўсё раскажа?

— Глупства,—махнуў рукою чалавек бяз знакаў прыпынку.— Ён добра ведае, што мы ня хлопчыкі. Пабаіцца. Хопіць. Разыйдземся ў адзіночку. Сягоньня, здаецца, пэнсію выплачваюць у інстытуце.

Цярэшка вышаў першым. Цяжка было на сэрцы. Перад выхадам яшчэ раз зірнуў на Яраслаўну ў багэтавай раме. Гэта жанчына чамусьці напомніла яму жонку Крушынскага. Цярэшка добра ведаў, што нічым не паможа Крушынскаму. А Стэфка часта прыяжджае. І кожны раз:

— Ну, як?

— Пакуль што нічога ня мог зрабіць?

— Вы верыце, што Язэп даў атруту нейкім там бандытам, каб коняй труціць?

Цярэшка з усьмешкай паглядзеў на круглы заплылы твар Стэфкі.

— Ня веру, але...

Курганішча раскулачылі. Стэфка часова перабралася да Бочкі. Настачка і Мзей, дзеці Крушынскага ад першай жонкі, прыехалі да Цярэшкі. Аб гэтым самым у яго з паняй Мар'яй адбылася няпрыемная гутарка.

— Клопату з гэтымі дзяцьмі будзе мне, а не табе,—гаварыла жонка.

Тады Цярэшка стаў супроць жонкі ў позу стралка, прыжмурыў адно вока, рукі ў кішэні штаноў усунуў, зьмерыў пані Мар'ю крытычным вокам зьнізу ўверх і зьверху ўніз і пачаў сыпаць запытаньнямі:

— А сала і масла, вэндліну і каўбасу з Курганішча ты любіла есьці? А мануфактуру на вопратку і шоўкавыя панчохі ад Крушынскага любіла браць? А дача ў Курганішчы табе падабалася?

Цярэшка вылічаў усё і сказаў:

— Рахуначак ня малы.

— А вось „Галасы палёў“.

Як наўмысьне на гэты раз зборнік вершаў хутка папаў у друк і адразу быў набраны. Хацелася-б выкінуць з-пад вершаў слова „Курганішча“, праваронiў карэктуру. Ды якая розьніца? Вершы самі за сябе гавораць. „Чым горш, тым лепш“,—успомніў Цярэшка словы чалавека бяз знакаў прыпынку.

---

Было дванаццаць гадзін дня.

Цярэшка выпіў адным махам шклянку халоднай гарбаты і пайшоў у бухгальтэрыю па пэнсію. Там ужо нямалая чарга. Лапчасты сьнег пярэсьціць перад вокнамі бухгальтэрыі кавалкамі падзёртай паперы. Над галавамі чаргі ўецца табачны дым. Хударлявая нэрвовая машыністка кашляе суха і адрывіста. Яна грэбліва кругліць губы:

— Ня курэце.

Дзьверы бухгальтэрыі рыпаюць, сьпяваюць. У адчыненыя дзьверы ўсоўваюцца галовы, за бухгальтарскім сталом пільна цікуюць зацікаўленыя вочы:

— Няма бухгальтара?

— Няма.

У чарзе ўсе знаёмыя Цярэшкі. Ён бачыць і тых інстытутчыкаў, з якімі месяцамі не сустракаецца. З сябрамі „конвэнту“ не размаўляе, нават не глядзіць на іх. Грукаценьне прыдушаных галасоў. Кожны стараецца гаварыць ціха, нібы тут знаходзіцца сьмяртэльна хворы чалавек.

Пад ціхі гул галасоў лёгка меркаваць аб розных справах. Цярэшка мяркуе.

...а што рабіць з млынам? Шкода... Такі млын быў у Курганішчы.

Папраўляе гальштук. Круціць галавою, стараючыся вызваліць шыю з цеснага каўняра манішкі.

...хто будаваў, а хто цяпер ім карыстаецца... такім харошым млынам..,

Глядзіць застылымі вачыма. Туманіцца перад ім чарга. З розных куткоў сьвядомасьці ды ўяўленьня высоўваюцца, як зладзеі, затоеныя мары:

...шугаюць чырвоныя языкі полымя... Драўляна-вуглёвы хрыпат сьцен. Ад бярвеньняў чорныя галавешкі з мядзянымі зьмейкамі...

Зайшоў у бухгальтэрыю Малеўскі. Блакітнымі вачыма паглядзеў на чаргу, паморшчыўся, пацюнуў плячыма і вышаў.

Нарэшце прышоў бухгальтар.

Бэкеша ў мокрым сьнезе. На ворсе шэрага сукна маленькія кропелькі-іскры.

Чарга ажывілася.

Пачалася выдача пэнсіі. Усё бліжэй падсоўваецца Цярэшка да бухгальтарскага стала. Вось і ён падпісваецца ў саліднай ведамасьці. Яшчэ не пасьпеў праверыць грошы, як пачуў урачысты і строгі голас дзелавода:

— Вас завуць, таварыш Цярэшка!

— Да тэлефона?

— У калідоры. Жанчына. Тая самая, што заўсёды да вас прыходзіць.

У дзелавода чужыя халодныя вочы. Кожны раз, як гаворыць да Цярэшкі, галаву трохі на бок хіліць.

Цярэшка чырванее.

...Мабыць „яна"...

Успомніў твор пачынаючага маляра: „Плач Яраслаўны". Шпаркімі крокамі на цыпачках выкрадваецца з бухгальтэрыі. Бачыць „яе" у змрочнай аддаленасьці калідору. Яна стаіць перад вітрынай і незацікаўлена глядзіць на кнігі.

Новая Яраслаўна займае цяпер шмат месца ў яго жыцьці. Жонка Язэпа Крушынскага часта торгае за нэрвы запытаньнямі і чытаньнем цэлага сьпісу старой моралі:

„Што будзе?"

„Калі?"

„Далей так цягнуцца ня можа".

„Чалавек толькі ў бядзе пазнаецца".

„Я больш чакаць не магу".

„Любілі нас беленькіх, палюбіце і чорненькіх".

„Ратуйце мужа. Ён вам ня чужы".

„Адно—два словы пагаварэце, напішэце".

„Ён-жа вам часта дапамагаў".

Калі Стэфка прабуе і сілу сваіх жаночых слёз, тады яна— вышаўшая з багетавай рамы, з малюнка пачынаючага маляра. Тады яна—„Плач Яраслаўны".

Цярэшка заўсёды стараецца абыходзіцца з ёю далікатна і цярпліва. Кожны раз, як угледзіць яе, зьменіцца ў твары. Яму няпрыемна. Ён заблытаўся ў тонкіх вузлох свайго сумленьня. І разрывалася яго сумленьне на многа нітачак. Адзін кавалак сумленьня пярэчыў другому.

Некалькі разоў прыходзіла сюды жанчына з малюнку „Плач Яраслаўны" шукаць Цярэшку. Некат рыя з інстытутчыкаў заўважылі яе, гаварылі:

— Новая муза Цярэшкі. Падобна да адкормленай мельнічыхі.

Глядзіць Стэфка ў кніжную вітрыну незацікаўленымі вачыма.

— Стэфка?

— Я...

На ёй паліто з сіняга сукна і шэрая вязаная хустка. Тлусты твар чырвоны і набраклы да сіні ад холаду.

— А я так і думаў, што гэта вы. Хадзем. Тут не выпадае.

Спусьціліся па сходах уніз. Ён наставіў каўнер паліта. Сьнежная слота напала на іх плоймай белых аваднёў. Сьпешна падышлі да рамізьніка. Паехалі дамоў. Раней Цярэшка тлумачыў жонцы Крушынскага, што ня ў сілах дапамагчы, але Стэфка кожны раз яму напамінала:

— Вы мабыць забыліся на той час, калі Язэп трымаў на сваіх плячох усіх менскіх Крушынскіх.

Тады Цярэшка прыдумаў новую тактыку:

— Усё будзе добра. Яшчэ не даведзена, што Язэп прымаў ўдел у справе атручэньня коняй.

Цяпер на фаэтоне з паднятай будаю яна зноў запыталася:

— Што чуваць?

— Дома пагаворым.

На сьпіну рамізьніка падаў мокры сьнег.

— З кім вы прыехалі ў такую бездарож?

— Бочка прывёз.

— Гэты нізкі і тоўсты Дрозд?

— Ён.

Дома Бочка апавядае, што ў пакоях Крушынскага ідзе цяпер рамонт. Новыя сельсаветчыкі рыхтуюць клюб у Курганішчы.

Бочка доўга гутарыць аб гэтым і часта, для большай яркасьці, паўтарае:

— У Курганішчы цяпер габлююць і майструюць.

Цярэшка абедае, слухае і думае пра сябе:

...Усюды цяпер габлююць і майструюць. У інстытуце тое самае...

Жонка Крушынскага выцірае заплаканыя вочы.

...Якраз „Плач Яраслаўны“...

Прывыклі ўжо да стэфчыных сьлёз. На Цярэшкавых яны ўжо ніякага ўражаньня ня робяць.

Старасьвецкі буфэт у сталовым пакоі блішчыць бронзай і дубам. Даўно не пераклікаліся звонам дарагія бакалы, якія нагадваюць вадзяныя лілеі.

...Калісьці ў гэтым буфэце...

...Калісьці з гэтых бакалаў...

...Калісьці ў гэтай сталовай...

Рамантычныя вазёры ўспамінаў.

За шырокім вэнэцыянскім вакном мітульгаецца лапчасты сьнег.

---

І дні за днямі чаргуюцца ў белых скоках зімы. Меншаюць дні. Нібы хтосьці нажніцамі кароціць іхнія шлейфы.

А вось зімовы дзень, апрануты ў шэрань і сонца. Дрэвы абрасьлі сівой поўсьцю. Драты над гарадзкімі вуліцамі абтрушаны белым пылам. На дратох дзе-ні-дзе шэрыя крокі вераб‘ёў, з-пад лапак якіх пыліцца ледзь прыкметная сьнежная труха.

Антон Цярэшка ідзе ў друкарню, дзе друкуецца яго новы зборнік вершаў.

І радасьць, і трывога.

„Галасы палёў“ клічуць яго сваёй затуманенай двухсэнсавай мовай.

Кніжка ўжо ў пераплётнай. Што аб ёй скажа крытыка? Чамусьці на гэты раз аўтар болш чым заўсёды баіцца двухсэнсавасьці зладзейскіх радкоў, напісаных у кулацкім хутары, у новым хутарскім стылі... Як наўмысна і на вокладцы дзераўцы, хаткі, птушкі. Мастак зрабіў паводле зьместу. На гэты раз у вельмі празрыстую маску апранута яго муза...

У пераплётнай на доўгіх сталох, замазаных клеем, якраз яго „Галасы палёў“. Фальсофка. Некалькі дзяўчат фальсуюць, Шалясьцяць аркушы, складваюцца папалам, папалам і яшчэ раз папалам. У гару растуць стопкі белымі цаглінамі. Куды ні павернешся—„Галасы палёў“. Цярэшка ўглядаецца ў твары рабочых, у рытмічныя ўзмахі рук і пальцаў, у роўнамернае ківаньне тулаваў.

Каб гэтыя ведалі, якія мікробы пушчаны ў радкі гэтых аркушаў, дык пэўна з агідай адкінулі-б ад сябе „Галасы палёў“, закінулі-б мяне стопкамі паперы, з маімі вершамі, нібы каменьнямі. Каб ведалі, дык...

І зноў яму няпрыемна. І зноў ён заблытаўся ў тонкіх вузлох свайго сумленьня. Ён з апаскаю аглядаецца па бакох. Саколіч тады і на яго нагнаў страх у манашаскай кельлі чалавека з вачыма сфінкса. Бярэ адзін экзэмпляр „Галасоў Палёў“ і кладзе ў портфэль. Дома яшчэ раз прачытае. Дасьць на прагляд усім сваім блізкім і свайму крытыку. А калі чужы крытык пагладзіць супроць шэрсьці, дык гэта толькі пакажа, што аўтар „Галасоў“ трапіў якраз куды трэба... Кожны зразумее куды накіроўваецца яго поэзія. За гэта не арыштоўваюць. Ну, памылкі і памылкі...

Хто-ж іх ня робіць? Хто ад іх забясьпечаны? А як зробіцца „міністрам асьветы“, тады „Галасы палёў“ займуць першае месца ў школах. Тады...

Мары „магчымай будучыны“ пад крылом крывавага героя Мазыршчыны гойдаюць Цярэшку на гарачых крыльлях.

У пераплётным гудуць сшывальныя машыны. Пахне мучным клеем. Ніхто з рабочых не зьвяртае ўвагі на Цярэшку.

Ён вышаў з друкарні.

Настрой у яго зараз-жа зьмяніўся.

Раптам на яго надышоў такі страх, што ён ня ведаў, дзе дзецца. Гэта-ж, каб даведаліся, што ў яго портфэль „міністра асьветы“. Гэта-ж, каб даведаліся, што ён ды іншыя яго сябры рыхтуюць для краю...

Пляц Волі блішчэў ад сонца і сьнегу. Цярэшка ішоў па трамвайных рэйках і ня чуў званкоў. На яго ледзь не наскочыў трамвай...

...Страшна... Саколіч вышаў з організацыі. Але што з таго?

Цярэшка з „Галасамі палёў“ у портфэлі зайшоў у піўную.

---

# 36

## Едуць брыгадзіры

ПОМНІК Гіршу Лекерту ў маленкім сквэрыку на Пляцу волі блішчыць залатымі літарамі. Усё абтрушана сьнежнай сівізнай:—дрэвы, муры, пляц, тротуары. З высокай вежы гаворыць гучна, на ўсю плошчу, радыё:

...Пяцігодка...

...Суцэльная колектывізацыя...

...Абвастрэньне клясавага змаганьня ў вёсцы і ў горадзе.

У маленькім сквэрыку, нібы ўлетку, туды і сюды ходзяць людзі, сядзяць на лаўках. У маленькіх саначках ухутаныя дзеці.

Лёгкім, зграбным і чыстым выглядае Пляц волі ў гэты асьнежаны марозны дзень. Лёгкімі, зграбнымі і чыстымі выглядаюць гмахі, дрэвы, людзі на марозным гучным і празрыстым паветры. Мітусьня людзей, рамізьнікаў, трамваяў, аўтомобіляў і аўтобусаў здаецца прагулкай.

На аднэй з лавак сквэрыка, супроць вялізнага гмаха Гарсавету, сядзяць некалькі чалавек з ручнымі чамаданчыкамі, з кошыкамі і клункамі. Незнаёмых між сабою людзей цяпер аб'яднае на гэтай доўгай скамейцы адна і тая самая думка:

— Ці хутка прыдзе аўтобус на Шапалевічы?

Пасядзяць, паглядзяць на плошчу заклапочанымі вачыма, пашэпчуцца між сабою аб пагодзе і пытаюцца адзін у аднаго:

— Ці хутка пойдзе аўтобус на Шапалевічы?

Вакол ходзяць і езьдзяць. І нібы стараюцца раз-назаўсёды так адшараваць, адшліфаваць пляц сьнежнай крэйдай, каб ён блішчэў ня то шклом, ня то мармурам. Воддаль ля Дому працы жанчына ў валёнках і жоўтым кажушку ачышчае трамвайныя рэйкі. Гурт людзей з ручным багажом расьце каля лаўкі. І ўсе з заклапачонасьцю ў вачох глядзяць у той бок, адкуль павінен прыбыць доўгачаканы аўтобус. І зноў адно і тое самае:

— Ці скора?

— А я ведаю?

— Мабыць скора.

— Пехатой за гэты час мог бы зайсьці,—кпіць вострабароды сутулы дзядзька.

— Ідзеце.

На гэтай самай лаўцы сядзіць Мікола Ярэмчык і яго сябар, наборшчыкк Сакалоўскі з друкарні інстытуту. І яны едуць

у Шапалевіцкі раён, едуць брыгадзірамі ў Гайдачанскі сельсавет—на бацькаўшчыну Язэпа Крушынскага—дапамагчы ў працы калектывізацыі вёскі.

Шумна было ўчора на сходзе парт'ячэйкі інстытуту. Малеўскі сам хацеў ехаць. Ён астаўся на другую чаргу. З інстыту разьяжджаюцца сягоньня ў розныя месцы каля дваццаці чалавек партыйцаў і камсамольцаў. Усе па аднэй справе, аб якой цяпер у сквэрыку крычыць радыё,—колектывізацыі. І так з усіх установаў, з усіх фабрыкаў і заводаў будуць штурмаваць рэшткі старога ладу па розных кутках краіны.

Пад'яжджае аўтобус.

— Ці ня наш?—нэрвуюцца пасажыры.

Па адшліфаваным да ільдзянога асьляпляючага глянцу пляцу аўтобус робіць павольны і плаўны паўкруг, пыхціць, дае частыя сырэны і спыняецца недалёка ад лаўкі.

Пасажыры, як па камандзе, паднімаюцца з сваіх месц:

— Га?

— У Шапалевічы?

— У Шапалевічы!

— У Шапалевічы!

Ля аўтобуса мітусьня. Трывога. Таўканіна.

Шофэр у сівай кубанцы і ў чорным раманаўскім кажуху паважна гладзіць чорныя пышныя вусы, глядзіць на ўзбунтаваны гурт пасажыраў, як на блазноту і просіць строгім голасам:

— Супакойцеся, грамадзяне! Камандзіраваныя ў першую чаргу!

З-пад яго вусоў валіць белая пара. Аднэй рукою шофэр трымаецца за шчаку, нібы яму зуб баліць.

Крыкі. Скаргі. Разьвітаньні са сваімі. Нейкая круглабокая сялянка падае аднаму пасажыру, які ўжо стаіць на сходцах машыны, дзіця, захутанае, нібы мумія, у чырвоную коўдру, просіць; „дапамажэце, дзядзенька, а то дзіцё штурхануць“.

Ёй даюць дарогу наперад. А вось чалавек з жоўтым портфэлем глядзіць на ўсіх злоснымі заспанымі вачыма, прабівае сабе дарогу локцем і крычыць:

— Не вароньце! Не вароньце!

— А вы ня пігайцеся, грамадзянін! Яшчэ гінтэлігент называецца! З портфэлем, а ў бакі таўчэ...

Хвілін пяць пасажыры ўсаджваюцца. Хвілін пяць чакаюць. Зьявілася яшчэ пара з чамаданчыкамі. Нідзе вольнага месца. Усаджваюцца на сваіх чамаданчыках і адзін аднаго частуюць цукеркамі. Спакойна іх вылушчваюць з паперак. Шофэр нібы гэтага толькі і чакаў. Даў пару адрыўных гудкоў і крануўся з месца.

Мікола Ярэмчык і Сакалоўскі сядзяць побач ля вакна. Моўчкі прыглядаюцца да пасажыраў, а потым адварочваюцца да вакна. Мікола рукавіцай выцірае шыбу. Павольна адсоўваецца Пляц волі. Шпарчэй пачынаюць плысьці вуліца за вуліцай.

Пасажыры аглядаюцца. І вось прыдушаным жаласьлівым голасам заплакала акутанае коўдрай дзіця.

— Ай, а-а-ай...—Чалавек з портфэлем стогне і моршчыцца. Яго нэрвовы стомлены твар выяўляе вялікую пакуту.

— Цётка, дзіцё задушыцца, разгарнеце коўдру,—кажа сердабольны чалавек з тых, што сядзяць на сваіх чамаданах.

Кабета паслухалася.

Цяпер дзіцячы плач зрабіўся больш гучным і больш упэўненым у сваю нэрвуючую сілу. Чалавек з портфэлем двума ўказальнымі пальцамі абедзьвюх рук заткнуў вушы.

— На, котачка, цукерку!—зноў кажа сердабольны чалавек.

Кабета бярэ з рук чалавека цукерку і совае ў рот дзіцяці.

— І ў мяне такая крыкса,—кажа сердабольны. Ды вы, цёця, зьнімеце паперку з цукеркі.

Зьбянтэжаная кабета зрывае паперку зубамі і дае дзіцяці клейкую цукерку. Дзіцё пачынае смактаць і хутка супакойваецца.

Мякка калышыцца па вуліцах аўтобус. На тварах пасажыраў олімпейскі спакой. Ва ўсіх адзін выраз—адваявалі небясьпечныя позыцыі і спачываюць на лаўрах. Імчыцца наперад аўтобус, імпэт яго расьце. Перасек Пярэспу, спалохаў сялянскага каня, які ўпёрся кудысьці ў браму, і выехаў хутка на вольную дарогу, абсаджаную абапал, нібы дрэвамі, рэдкімі прыгароднымі хаткамі.

Паміж некаторымі пасажырамі пачалася гутарка аб гнойніку ў Шапалевічах, аб п'янстве адказных працаўнікоў раёну ды аб іншых грахох былога начальства. Спрэчкі аб колектывізацыі ды наогул спрэчкі.

Шпарка ідзе наперад аўтобус, роўна, як страла, прарэзвае абшар.

Сьнежная даль.

Хмызьнячкі.

Хаткі.

І зноў—сьнежная даль.

Пасажыры на чамаданчыках пачынаюць дрымаць з цукеркамі ў руках.

Белавалосая дзяўчына ў сіняй шапачцы трымае перад тварам рэдыкюль, нібы шчыт, і, крадучыся, каб ніхто не запрыкмеціў, пудрыць кірпаты нос. Побач гутараць двое пра нейкую рабую карову, якую забраў нейкі сельсавет у нейкага кулака. Іхні дыялёг ня то буйны шэпт, ня то ціхі голас.

Ярэмчык і Сакалоўскі між сабою не гавораць. Глядзяць у вакно. Учора на ячэйцы дасыта нагаварыліся. Глядзяць праз чыстыя кругл̈ячкі шкла на белыя прасторы палёў і ня прыкмячаюць, як нешта іх агартае празрыстым вэлюмам: ня то дрыма, падобная да шумлівай гутаркі, ня то ўспаміны, падобныя да дрымы.

Ля самай дарогі ельнічак.

Ні Ярэмчык, ні Сакалоўскі яго ня бачаць.

Калышыцца аўтобус. Шпарка глытае гладкую сьнежную дарогу, аблітую пагодлівым зімовым днём.

---

Ужо другі год як Мікола Ярэмчык займае пакой у доміку за гарадзкім паркам у нейкіх Вярбіцкіх. Дзівацкая сям'я. Гаспадыня сьляпая, гаспадар вар'ят. Гаспадыня супакойвала яго тым, што муж яе ня быў раней вар'ятам, а яна ня была раней сьляпой. За старымі калекамі глядзіць іхняя дачка, жвавая Бронька. Вечныя скаргі на жыцьцё, на цяперашнія парадкі. А вось у дадатак з восені пачала да іх прыяжджаць другая дачка, Стэфка. У—яе маленькі хлопчык Уладзімер. Апрача хлопчыка, у Стэфкі ёсьць бяда—мужа арыштавалі, раскулачылі (так старая Вярбіцкая паінформавала Міколу). Вось і новая прыемнасьць—часта сустракацца з жонкай Язэпа Крушынскага. Плача Стэфка, праклінае яго. Ведае Стэфка, што Мікола ў газэце пра мужа напісаў. Цяпер Мікола для Вярбіцкіх люты вораг. Сьляпая колькі разоў прасіла яго:

Выбірайцеся ад нас...

Пагражала, праклінала:

— Выбірайцеся ад нас...

Куды ён выберацца, калі так цяжка цяпер з кватэрамі. Каб хоць адзін быў, дык зноў выбраўся-б у інтэрнат, але жонка ёсьць, Соняй завецца. Дачка каваля Лейбы з Шапалевічаў. Пасьля знаёмства ў мястэчку, пачалі сустракацца ў Менску. І вось яна яго жонка.

— Выбірайцеся ад нас...—Не магла супакоіцца сьляпая Вярбіцкая.

Думкі Міколы пераскокваюць на іншыя рэйкі.

Соня кончыла яўрэйскі пэдтэхнікум. Яна настаўніца. У іхнім пакоі многа яўрэйскіх кніг. Нейк жартам Соня навучыла яго па-яўрэйску. Ён чытае яўрэскія газэты. Апошнюю зіму яны сустракаюцца дома толькі позна ўвечары. Вячэраюць і сьнедаюць разам. Перад тым, як паехаў, жонка сказала яму:

— Жыць будзеш у Мэры, а калі паедзеш у Шапалевічы, абавязкова да майго старога бацькі зайдзі. А то пакрыўдзіцца.

Соня дала яму розныя гасьцінцы для Мэры, бацькі і яго старых.

Выкраіла жонка трохі з свайго часу і памыла яму на дарогу дзьве пары бялізны. „Вось умеюць жанчыны“. А занятыя ня менш за яго.

Калі сьляпая Вярбіцкая даведалася, што яго жонка яўрэйка, сказала яму з папрокам:

— Ведаеце, гэта ўжо лішняе. Сам бог падзяліў людзей. Кожны сваё мае. Навошта вам яўрэйка? Мала ёсьць нашых? Але я ў вашыя справы ня ўмешваюся. Прабачайце.

Пасьля гэтай гутаркі сьляпая Вярбіцкая некалькі тыдняў маўчала. Потым зноў пачала „ня ўмешвацца“.

— Ведаеце? Прабачайцё, я ў вашыя справы ня ўмешваюся, але мне ваша жонка вельмі падабаецца. Такая лагодная. Заўсёды, як дома бывае, мне, сьляпой, дапаможа, паднясе тое-сёе, добрае слова скажа. Зусім да яўрэйкі не падобна...

А як арыштавалі Язэпа Крушынскага зноў пачала „ня ўмешвацца“:

— Выбірайцеся з маёй кватэры...

---

Сакалоўскаму надакучыла глядзець праз вакно на аднастайную зімовую дарогу. Ён утаропіў сьветла-шэрыя вочы ў чалавека з портфэлем. Той быў цяпер спакойны. Выраз вачэй памякчэў. Твар зрабіўся лагодным. Мікола заўважыў у яго сівыя валасы на скронях і мяшкі пад вачыма. А твар малады...Той чытае „Правду“.

— Можа даць вам газэту, таварыш?—зьвярнуўся чалавек з портфэлем да Сакалоўскага.

— Калі ласка.

Сакалоўскі бярэ ў яго „Зьвязду“ і дзякуе. Раніцою чытаў, але яшчэ разок прагледзець.

Плаўна ідзе аўтобус.

Поле.

На краі далягляду абсьнежаныя конусы стагоў.

Шофэр дае частыя сыгналы.

— Г-г-г-р-р-р! Г-г-г-р-р-р!

Раптам аўтобус спыняецца.

Шофэр злуецца, крычыць:

— Ня ведаеш, што трэба брацца направа? Ах ты, вё-о-оска!

Пасажыры зацікаўлены. Праз вокны бачаць: селянін перакуліў санкі ў канаву. Конік па бруха ў сьнезе. Аглобля далася папалам. Селянін крычыць.

— Разьвялося вас тут! Коняй пужаеце! Ну вас к...

— Мы яшчэ лепш умеем лаіцца,—супакойвае яго шофэр. Прывыкнуць пара. Няўпяршыню едзем тут.

— Дапамажы, братку,—пераходзіць селянін на добры тон.

Хвілін пяць ваджаецца шофэр з селянінам каля санак. Пасажыры хвалююцца. Кожны з іх лічыць сваім абавязкам сказаць дасьціпнае слова пра дыктатарства шофэра ў дарозе. Зноў заплакала дзіцё. Яно атрымала хабару яшчэ адну цукерку.

Паехалі.

Вёсачка.

Куры з крыкам сполаху растапырылі крыльлі і рассыпаліся з сярэдзіны вуліцы ва ўсе бакі.

— Г-г-г-р-р-р,—папераджае машына вясковую вуліцу.

Рыжы сабака ўсхапіўся з месца, пабрахаў і схаваўся за браму. Хлопчык гадоў васьмі ў чырвонаармейскім шлеме пабег за аўтобусам. Крокаў дваццаць бег побач з машынай і адстаў. У вокнах

сялянскіх хат прамільгнула некалькі твараў у хустках. Хлапчук, які гнаўся за машынай, кінуў на яе цьвёрдым конскім яблыкам.

Аўтобус зашпарыў поўны ход.

Прамільгануў белы ўзгорачак. На ім тры хвоі з цяжкімі сьнежнымі нарастамі на лапках. Кружацца і гвалту крычаць стада варон.

Дарога такая роўная, што здаецца нібы аўтобус стаіць на месцы ў прасторнай пустэчы, тлуста абсыпанай цукрам.

— Мікола, сьпіш?—пытаецца Сакалоўскі.

— Газэту чытаю.

— А-а-а.

Сакалоўскі глядзіць у „Зьвязду“;

**„Да артыкулу тав. Сталіна“.**
**„Тэмы колектывізацыі“.**
**„Клясавы вораг ня сьпіць“.**
**„Нацыянал-дэмократызм у N... інстытуце“.**
**„Задушым контррэволюцыю.“**
**„Да новых перамог“.**

Сакалоўскі думае:

— Даўно ня было такіх гарачых загалаўкаў у нашых газэтах. Што робіцца цяпер у горадзе і на вёсцы! Падобная гарачка была ў часы грамадзянскай вайны. Здаецца, нямнога год, а як далёка мы адышлі ад тых часоў...

Аўтобус урэзаўся ў шырокі калідор лясной дарогі. Хвойная цішыня. Нібы хвойнік гэты дрэмле недзе за акіянам далёка ад гарачай 'бальшавіцкай зімы. У бела-хвойнай цішыні чуваць, як гумовыя шыны шорхаюцца па сьнезе:

— Ш-ш-ш-ш...

Гумовыя шыны друкуюць па сьнежнай дарозе паясы з узорамі.

— Яшчэ далёка?—пытаецца ў Міколы Сакалоўскі.

— Каля паўгадзіны да маіх бацькоў. Там пераначуем.

Мікола пазяхае. Мала спаў уночы. За ім, як па камандзе, ледзь ня ўсе пасажыры пазяхаюць.

Сакалоўскі ў абдымках сваёй мінуўшчыны, нібы ў дзівоснай летаргіі:

Хлопчык. Шавец бацька цамёр маладым ад празьмернага п'янства і празьмернага недаяданьня. Маці па кватэрах бялізну мые. А ён, хлопчык, мае адну радасьць—слухае на Старажоўскіх могілках, як дзяк і поп адпяваюць нябожчыкаў. Хлопчык любіць сьпевы... Да няпрытомнасьці слухаў бы... Летам цэлымі днямі купаецца. Зімою цэлымі днямі матку чакае. І летам і зімою бадзёры і галодны. Голад выганяе яго на вуліцу. Сваёй бадзёрасьцю наганяе страх на ўсіх равесьнікаў:

— Прынясі хлеба, а то біць буду...

Аднаго разу запрацаваная і хмурная маці раздабрухілася, купіла яму на Нізкім рынку гарнітурчык з „чортавай кожы“,

апранула яго ў новае адзеньне, прычасала, накарміла і нязвычным для яе лагодным голасам сказала:

— Хадзем, сынку...

Павяла на Губарнатарскую вуліцу. Праз усю дарогу яму здавалася, што лепшага і харашэйшага за яго гарнітур няма ў Менку. Паважнеў... Памякчэў натурай... Толькі адзін разок ірвануўся з рук маткі, каб расквітацца з нейкім шаламызьнікам-хлапчуком, які выставіў яму язык і сказаў:

— Вытры смаркачы...

Маці завяла яго ў друкарню. Да яе падышоў сутулы паджылы чалавек у акулярах і запытаўся:

— Гэты?

— Ён самы.

Сутулы чалавек пагладзіў бародку, заківаў галавою і заўважыў:

— Маленькі ён у цябе...

Маці занепакоілася і бараніцца пачала ад сутулага чалавека:

— Маленькі, але жвавенькі. Паночку мой, ён добра чытае. Сам вось чарцёнак навучыўчя,бяз школы.

Умовіліся цэлы год бялізну мыць у гаспадара. За гэта яе сын будзе вучыцца за наборшчыка.

У друкарні хлопчыка назвалі „рыжым".

— Рыжы!—крыкне вечна злосны машыніст,—прынясі піва!

— Рыжы, прынясі папяросы!

Цэлы год „рыжы" рабіў уборку ў друкарні, прыносіў піва і папяросы, цягаў пакі з паперай, быў падручным. Цэлы год яго маці дарма мыла бялізну для вялікай сям'і гаспадара друкарні, карміла сябе і сына. І толькі пасьля гэтага „рыжага" дапусьцілі да касы—да разбору шрыфтоў. Потым ён стаў наборшчыкам.

Гады вар'яцкай працы па дванаццаць і больш гадзін у суткі. Ён пачаў зарабляць па чатыры пяць рублёў на тыдзень і лічыў сябе забясьпечаным маладым чалавекам. Памёрла маці. Забастоўкі. Вандраваньне з друкарні ў друкарню, з гораду ў горад. Беспрацоў'е. У рэволюцыі 1905 году, хоць быў яшчэ падлеткам, але ва ўсім прымаў удзел разам са сталымі рабочымі.

Нясупыннымі вандроўцамі ішлі гады. Разгортваліся. Згортваліся.

І вось аднаго разу ў 1916 годзе „рыжы" зьявіўся да свайго першага гаспадара.

Сутулы чалавек сустрэў яго ў тых-жа акулярах, з тэй-жа бародкай, у тэй самай змрочнай і пыльнай друкарні на Губарнатарскай вуліцы. Зусім не зьмяніўся гаспадар. Ледзь-ледзь толькі бародка мукой абсыпана і ледзь галава асьнежана. Затое „рыжы" зьмяніўся.

Глядзіць гаспадар і не пазнае.

— Не пазнаяцё?

— Не.

— Рыжага памятаеце?

Ляснуў яго гаспадар па сьпіне і скупа засьмяяўся.
— Рыжы!..
— Во то-та-ж...
— Як з войску выкруціўся?
„Рыжы“ азірнуўся па баках.
— Заяц. Уцёк. Жыў у розных мясцох, пісарам воінскіх начальнікаў і прыставам грошы плаціў.

— І ў нас ёсьць прыставы і пісары воінскага начальніка. І яны не адмаўляюцца ад грошай. Станавіся і працуй. Вось пры гэтай касе! Газэту будзеш набіраць. Наконта войску наладзім.

Абрадаваўся гаспадар. Ледзь не дармовы наборшчык. Маю для яго добрую пугу—войска...

„Рыжы“ зноў працуе ў знаёмай друкарні. І днюе тут, і начуе. Асьцерагаецца аблаў.

Пасьля рэволюцыі 1917 году „рыжага“ ня стала. Вельмі няўдзячным быў. Пакінуў гаспадара. Але не навекі. Вярнуўся да яго чырвонаармейцам.

— Глядзі!—зьдзівіўся сутулы гаспадар.—Раней баяўся войска, а цяпер асьмялеў?

— Я і раней не баяўся, але не хацеў.

І „рыжы“ абальшавічыў друкарню сутулага чалавека. Потым перад прыходам немцаў астаўся тут на падпольную працу. На Захараўскай вуліцы „рыжага“ пазнаў (хоць пераапрануўся) сутулы чалавек.

— Бальшавік! Бальшавік!—падняў былы гаспадар лямант на ўсю вуліцу.

Сакалоўскага забралі. Цяжка ўспамінаць. Жаўнеры Даўбар-Мусьмацкага павязьлі яго ў Бабруйскую крэпасьць. Выскачыў з вагона, калі цягнік ішоў поўным ходам. А там—лес. А далей зноў падпольле. Пасьля партызаншчына. Уцёкі паноў з Менску. Ён са стрэльбай у руках. Каля вакзала куля легіёнэра трапіла ў грудзі аднаму таварышу, беспрацоўнаму пры паляках настаўніку. Паў настаўнік патыліцай аб брук. Грудзі ў яго былі прастрэлены. Лужа крыві. Стрэльба засталася ў здранцьвелай руцэ. Адразу сканаў. І ўспомніў Сакалоўскі, што гэты настаўнік пры панох усю зіму цыратавую накідку насіў, мёрз. І такая жаласьць агарнула... Сакалоўскі за настаўніка тады ля вакзала трох шляхцюкоў палажыў. Добра цэліўся... Жудасныя былі дні ў Менску пры ўцёках паноў, а пасьля...

---

Аўтобус спыніўся.
— Што здарылася?
Шофэру зубы забалелі. Ехаць ня можа.
— Ці няма зубных кропляў, ёды або гарэлкі?
— Няма.
— Дайце цёплую хустку абвязаць твар.

Адна жанчына зьняла з галавы хустку для шофэра.
Паехалі.
Змрокі. Запыліў дробны сьняжок.

---

А пасьля...
Абарваныя і бадзёрыя, галодныя вясёлыя ішлі чырвонаармейцы па вуліцах, дзе нядаўна крыкі жудасьці разьлягаліся, дзе яшчэ пажары дагаралі.
Крыкамі радасьці працоўныя Менску сустрэлі чырвонае войска.
Вось стары рабочы чыгуначнік з сівой шчоткай няголеных шчок нясе булку хлеба. Сам нажом дзеліць на дзьве роўныя часткі, мерыць вокам, каб часткі былі роўныя, і дае двум чырвонаармейцам.
Другі дзядок кідаецца на шыю трэцяму чырвонаармейцу...
— Сынок мой... сынку...—усхліпвае ён.
Упяршыню бачыць яго. Але ў такіх-жа чырвонаармейскіх вопратках яго родны сын загінуў нядаўна каля Барысава...
Дзяўчына падносіць кветкі чырвонаармейцу, ён ветліва ўсьміхаецца і ня ведае, што з імі рабіць...
Павялі групу палонных пілсудчыкаў. Некалькі чалавак з насельніцтва кінуліся да іх. Чырвонаармейцы ледзь адбаранілі.
Адзін з другой групы палонных, востраносы з чорнымі вусікамі, крыкнуў старому яўрэю:
— Дай бараду!—і пачаў пальцамі, нібы нажніцамі, стрыгчы.
— Брыдка, пан!—стыдзілі яго чырвонаармейцы.
Сьпякотны дзень. Падмятаюць вуліцы. Кучы шкла і скрынь.
Праляцела дзесяць год. Залечаны раны. Не пазнаць Менску, не пазнаць Беларусі і ўсяго Саюзу. Новае. Нябывалае. А вось зноў у паход. Адна з апошніх боек за соцыялізм. Суцэльная колектывізацыя. Змаганьне з заядлымі ворагамі. Сакалоўскі ў адзін і той самы час і старэе і маладзее... Дзіўны час... З імпэтам урэзаўся ў старое, як гэты новы аўтобус у старую вясковую дарогу...

---

— Сакалоўскі, сьпіш?
— Ну?
— Мы прыехалі.
Сакалоўскі зірнуў у вакно. Сіні аксаміт змрокаў. Аўтобус спыніўся. Невялічкая вёсачка. Некаторыя пасажыры выходзяць. З імі Мікола Ярэмчык і Сакалоўскі.
Сакалоўскі аглядаецца:
— Цікава. Незнаёмае...
Сквапным вокам глядзіць Мікола:
— Цікава. Знаёмае...
— Г-г-г-р-р-р.
Машына ідзе далей.
Мікола тлумачыць:

— Машына зараз паверне налева ў мястэчка Шапалевічы, а мы пераначуем у маіх бацькоў і заўтра паедзем на бацькавым кані ў Гайдачанскі сельсавет, бо там некаторыя набраліся кулацкага раку ад Язэпа Крушынскага.

— Ну, і даўся табе гэты Крушынскі! Часта яго ўспамінает. Ікаецца яму нейдзе...

— Часта ўспамінаю, бо яшчэ шмат Крушыншчыкаў засталося ў сельсавеце.

— Папрацуем!—упэўнена кажа Сакалоўскі, і яго сьветлашэрыя вочы цямнеюць.

Насустрач брыгадзірам ня то бяжыць, ня то дробныя крокі робіць стары дзядок.

— Міколка... Міколка...—кажа дзядок. Яго прыжмураныя вочы блішчаць вільготнымі ільдзінкамі.

— Гэта мой бацька,—кажа Мікола Сакалоўскаму і глядзіць на старога з такой лагоднай усьмешкай, нібы сталы чалавек на малога сынка.

Аўтобус зьвярнуў за круглую горку пад назваю „Гарадок“. Здалёку чуваць гудкі, яны мякчэюць і губляюцца ў аддаленьні. Сінеюць змрокі. У вокнах хат замільгалі прытульныя аганькі. Над вясковымі стрэхамі, над шасткамі радыё запальваюцца зоркі.

Стары Цыпрук, бацька Міколы, таропіць гасьцей:

— Хадзем у хату, ці што?

---

# 37

## Спадчына

У ГАЙДАЧАНСКІ сельсавет прыехала з Мэнску брыгада з двух чалавек—Мікола Ярэмчык і наборшчык Сакалоўскі.

---

У клюбе ўсё новае і сьвяточнае: невялічкая сцэна з суфлёрскай будкай, на якой выступіла бурштынам клейкая сасновая смала; жаўтаватыя сталы, расстаўленыя каля сьцен; гладка адгебляваныя сасновыя лавы; на сьценах белыя шпалеры з сінімі ўзорамі. Дзьве нікельныя лямпы „молнія“ вісяць пад стольлю, кідаюць роўнае сьвятло на шматгадовы сход. Народу з усёй ваколіцы: Дразды і Дзятлы, гайдачане, пасёлкаўцы, глухаўцы, комунары з „Чырвонага Кастрычніка“, хутаране. Паміж жоўтых кажухоў і сівых сьвітак дзе-ні-дзе вайсковыя шынэлі прымежнікаў. Сярод шэрагаў markнастайных шапак і кучмаў жаночыя хусткі. Рыгор, былы парабак Язэпа Крушынскага, сядзіць на аднэй з бакавых лавак і шэпча белабрысаму суседу на вуха, у той-жа час вачыма глядзіць на сцэну, дзе сядзіць прэзыдыум сягонешняга сходу. У адзін і той самы час Рыгор слухае і шэпча суседу:

— Сьценкі бакавых пакойчыкаў разбурылі, і вось, бачыш, які вялікі клюб! Раней гэты пакой называўся „салёнам“. Усё барахло адгэтуль выкінулі—вазоны і цацкі на століках, і стары сапсаваны гадзіньнік. Фортап'яна хацелі адрамантаваць, але нікуды не гадзіцца—таксама выкінулі.

Антось Драчык—новы старшыня Гайдачанскага сельсавету, абраны замест ранейшага, адчыняе ўрачысты сход. Усе ўважна слухаюць. Выцягнулі галовы ў бок сцэны і ня здымаюць вачэй з прамоўцы.

Голас Драчыка (сёгоньня мякчэйшы, чым заўсёды) плыве, нібы човен па спакойным возеры. Толькі калі-ні-калі на гэтым возеры ўсьпеньваюцца хвалі: вырываюцца грозныя выкрыкі па адрасе кулакоў. Традыцыйныя словы Драчыка: „люблю праўду“, „люблю шчырасьць“—гэта тыя вёслы, якімі ён кіруе свой човен. Сягоньня, спэцыяльна да гэтай урачыстасьці, Драчык пагаліўся. Суседзі, якія прывыклі бачыць яго заўсёды са скалмачанай бародкай, прыглядаюцца да яго, як да незнаёмага чалавека. Некаторым здаецца, што Драчык памаладзеў. А некаторым, што

пастарэў, бо якраз цяпер на голеным твары выступаюць раней схаваныя пад барадою глыбокія маршчыны. Шэрыя вочы ў павуціньні тонкіх маршчынак адкідваюць іскры ва ўсе бакі. Аднэй рукою Драчык абапіраецца аб сасновы белы стол, другою энэргічна махае ў паветры ў тахт сваім словам:

— Люблю шчырасьць! Каб сягоньня вярнуўся з турмы Язэп Крушынскі, гэты бандыт і прахвост, каб вярнуўся ў сваю „культурную“ гаспадарку ды пабачыў, што мы ў яго „салёне“ зрабілі клюб для нашай беднаты і серадняцтва, дык я ўпэўнены, што гэты „культурнік“ не абрадаваўся-б нашай сапраўднай культуры! Люблю праўду, не абрадваўся-б!

У прэзыдыуме ціха перашэптваюцца Мікола Ярэмчык, сакратар райкому і наборшчык Сакалоўскі. Новы сакратар райкому пачаў нешта ўпісваць у невялічкі блёк-нот. Яго густая чупрына блішчыць сівізнай. Калі-ні-калі паднімае вочы з блёк-ноту і праніклівa аглядае сход.

У пярэдніх радох сядзіць у застылых позах моладзь, хлопцы і дзяўчаты з організаванай нядаўна комсамольскай ячэйкі. У некаторых у вачох многазначныя ўсьмешкі. У іншых грозная і акамянелая сур'ёзнасьць. А вось хлапчук з завостраным носам ловіць па-вучнёўскі кожнае слова прамоўцы. Калі глядзець на яго выразьлівы малады твар і зусім ня чуць прамоўцы, дык па аднэй міміцы гэтага твару можна прыблізна здагадацца, аб чым ідзе гутарка.

— Крушынскага ў нас няма, але люблю праўду, крушыншчыкаў у нас яшчэ ня мала засталося. З імі нам цяпер прыдзецца змагацца, доўга і ўпарта змагацца! Во як весьці бойку! (Драчык сьціснуў кулакі і выпяў грудзі наперад). Я ўпэўнены, што крушыншчыкі будуць нам перашкаджаць на кожным кроку, як яны дагэтуль рабілі! Гэта факт, таварышы! Такіх чорт нямала тут насеяў. (На лаўках замітусіліся. Пачуўся многагалосы гул сходу, нібы дрэвы ў лесе пад ветрам). Крушыншчыкі спакойна жывуць у пасёлках, на хутарох, сярод Драздоў і Дзятлаў, у Гайдачанах. Ваўкі ў авечай скуры! Люблю шчырасьць, таварышы! Чаго варты Слуп і Бочка, наш поп, які ледзь ня старшынёю сельсавету быў у нас! (Зноў на лаўках мітусьня, нецярплівае шорханьне кажухамі і сьвіткамі аб новыя сасновыя дошкі ўслоньняў). А пра колгас, таварышы, якраз сягоньня трэба будзе пагаварыць. Пяцігодка—гэта вам ня жарты! Ня думайце, што толькі ў газэтах аб гэтым пішуць. Вы можа скажаце, што нашыя багацеі спакойненька сядзяць, злажыўшы лапкі? Паглядзеце, як у нас прайшла сёлета хлебанарыхтоўка! Люблю шчырасьць! Кулакі правалілі!

На лаўках мітусьня.

— А ты, старшыня, ня сам вінават у гэтым?

— Ты сам!

Гэтыя галасы пачуліся з маленькага гуртка жанчын-удоў, якія сядзелі на аднім з зэдлікаў.

— Заткні глотку, бабская каманда!—закрычаў хтосьці з іншай лавы.—Шмат вы там далі гэтай нарыхтоўцы?

— У нас нічога няма!

— Вось за гэта самае вы надта жвавыя на языкі, каб іншыя за вас давалі!

Зноў сход узбурыўся. Грукатаньне гарачых галасоў расплываецца, сыплецца гарохам на розныя лады. Драчык трохі непакоіцца. Твар яго чырванее.

— Ціха! Супакойцеся, таварышы! Калі кулакі пахавалі дабро, дык мы яшчэ з імі паваюем! Люблю шчырасьць! Паваюем!

Сход зноў застыў. Кажухі і сьвіткі перасталі рухацца.

„Леў Талстой" сядзіць на першай лаўцы супроць прэзыдыуму і глытае кожнае слова. За апошні час барада яго яшчэ больш пабялела. Ён сягоньня сумны, што яго не абралі ў прэзыдыум, аднак старанна запісвае алоўкам у кнізе земскага ўсё, што чуе і бачыць. Часта выцірае кавалачкам палатна свае акуляры і насоўвае іх шчыльней на нос з заклапочанай стараннасьцю.

Хвёдар і Зьмітрок сядзяць побач на аднэй з бакавых лавак. За той час, што вярнуліся з арміі (каля пяцёх год) абодвы пасталелі. Хвёдар выглядае, як вухар-купец на старых лубачных малюнках: русая кучаравая бародка ахоплівае ўвесь яго ружовы твар да самых вачэй. Даўно нястрыжаныя валасы ўюцца ў дробныя абаранкі. Ён сядзіць каля самага вакна. Шыбы на палавіну акованы сьнежна-срэбнымі хвойкамі з лёду. Дзе-ні-дзе праз чыстыя кавалкі шкла заглядаюць у клюб цёмна-сінія плямінкі зімовай ночы. Хвёдар часта пазяхае ў руку.

Зьмітрок штурхае Хвёдара локцем у бок.

— Хвёдар!

— Га?

— Раз назаўсёды ты павінен, Хведзька, сёньня сказаць...

У голасе Зьмітрака цяплыня, якой Хвёдар даўно ў яго не заўважыў у адносінах да сябе.

— А што?—Хвёдар вылупіў вочы на Зьмітрака.

— Раз на заўсёды кажы мне: альбо-альбо. Ці ты з крушыншчыкамі, ці з намі?

Хведар апускае галаву. Маўчыць.

— Кажы, Хведзя! Мы разам з табою гэтулькі часу ў Чырвонай арміі жылі. З аднымі думкамі назад вярнуліся. І вось ты збочыў на правады багатых...

Хвёдар панура глядзіць перад сабою.

— Так,—працадзіў ён праз зубы.—У душы, я такім самым застаўся. Але ведаеш, Зьмітрок, як я жыў раней? Вечна ў галоце. Хоць бацька моцны гаспадар, але мне было ад гэтага ўсе роўна. Хочацца хоць трохі лепш пажыць. Хочацца хоць чутачку дабра і для сябе.

Хвёдар махнуў рукою.

— У душы я, дальбог, такі самы, якім быў раней. Але я-ж думаў, што гэтыя пасёлкі... ды што аб гэтым казаць...

Хвёдар зноў махнуў рукою.

— Значыць,—зазлаваўся Зьмітрок,—твая душа ня прымала ўдзелу тады, калі поп твайго сына ахрысьціў?

— Гэта рабілася без мяне. Я ня быў тады дома.

— Годзе!

Зьмітрок махнуў рукою і змоўк. Позірк яго стаў халодным і вострым.

У клюбе пачынае станавіцца душна. Над рознатварым сходам уюцца воблачкі махорачнага дыму. Некаторыя пацеюць. Густы пах аўчыны і чалавечага поту.

Кончыў уступнае слова Драчык.

— Пакуль сельская гаспадарка ў нас цалкам не пяройдзе на новыя рэйкі, нічога добрага ў нас ня выдзе,—гаварыў таварыш з раёну, чалавек з маладым тварам, сівымі валасамі і са стомленымі вачыма.—І мы пяройдзем на гэтыя рэйкі. Наш Шапалевіцкі раён спозьніўся, таварышы. Вы гэта добра ведаеце з таго, што ў вашым Гайдачанскім сельсавеце робіцца, і газэты пісалі аб раённым кіраўніцтве. Яно гадавала розных Крушынскіх. Паўтараю, галоўным вінавайцам усіх гэтых агіднасьцяй зьяўляецца раённы цэнтр, былая яго верхавінка. Ніколі адказныя працаўнікі раёну ня выяжджалі ў сельсаветы, а калі выяжджалі, дык на гасьцяваньне да Крушынскага і да яго падобных. Наш раён папаў на чорную дошку. Так. На чорную дошку. Толькі цяпер мы пачалі ў раёне тую працу, якую трэба было рабіць даўным-даўно. Сорам нам, таварышы! Сорам! Але я ўпэўнены, што ня доўга ў нас так будзе. Гайдачанскі сельсавет самы адсталы ў нашым раёне. Толькі вось цяпер першы клюб тут нарыхтавалі. Чырвоны Кастрычнік—адзіную тут камуну—кулакі стараліся ўвесь час сьцерці з твару зямлі. Да гэтага часу ў сельсавеце вораг гаспадарыў. З гэтага часу...

Хвёдар які, толькі што чуў ад Зьмітрака няпрыемныя аб сабе словы, слухаў прамоўцу няўважліва, глядзеў уніз на свае боты, нібы ў глыбокім раздум'і. Голас прамоўцы зыбаў яго слух на роўных хвалях, і Хвёдар тады толькі абудзіўся, калі пачуў іншы голас. Ён падняў твар на сцэну. Гаварыў новы.

— Гэты клюб, адзіны і першы ў вашым сельсавеце, стане тым пунктам, дзе вы колектыўна будзеце абгаварваць, абмяркоўваць вашу агульную працу. Вы, таварышы, павіны хоць трохі перайсьці на рабочы быт. Фабрыкі хлеба на вёсках павінны даганяць фабрыкі і заводы па гарадох. Мы ўсе павінны ісьці аднэй дарогай—да сацыялізму. Дайце аб'яднаемся разам, рабочыя з вясковай беднатою так шчыльна, як гэта мы рабілі ў часы грамадзянскай вайны са зброяй у руках на ўсіх франтох. Нам цяжка? Мы гэтыя цяжкасьці пераможам, як перамаглі ўсіх нашых заклятых ворагаў. Нашыя цяперашнія заклятыя ворагі кулакі.

Сьветла-шэрыя вочы прамоўцы блішчэлі.

Калі Хвёдар зірнуў на яго, дык здавалася яму, што прамоўца толькі на яго глядзіць. Хвёдар зноў апусьціў вочы. Прыкра стала ад нядаўніх папрокаў Зьмітрака. А голас са сцэны плыў у вушы Хвёдара:

— Калі бедната не пакладзе цяпер усіх сіл на тое, каб ісьці на новым этапе нашых перамог поплеч з рабочымі, тады адцягнем тую справу, за якую разам змагаліся ў часы грамадзянскай вайны. Але гэтага ня будзе! Я разумею, што вы з намі, толькі Крушынскія вам галовы туманілі. Яны яшчэ ня ўсе выкрыты!

Апошнія словы чамусьці ўкалолі Хвёдара ў самае сэрца. Ён падняўся з месца злосны і ціханька пасунуўся да сьцяны ля вакна. Да яго вушэй словы Сакалоўскага цяпер даходзілі як-бы з аддаленьня і зрабіліся мякчэйшымі.

„Езьдзіць пачалі сюды добрадзеі розныя. Хто іх просіць?“— гневаўся Хвёдар. „Гаспадарку разбураць у Курганішчы. Клюб зрабілі...“—Хвёдар слухае і хмыкае: „Фабрыкі хлеба! Яшчэ што прыдумаюць?“

Хвёдар па-ранейшаму ўтаропіўся ў свае боты і не заўважыў, як пачаў гаварыць новы прамоўца. Але хутка зноў абудзіўся, ірвануўся тварам убок—да сцэны.

Мікола Ярэмчык размахваў рукамі і пытаўся ў схода:

— Чаму Крушынскі так доўга арудваў у нас? Бо раённае начальства хваліла яго за нібы то „культурную“ гаспадарку. „Культуру“ гэтую ён выціскаў з поту парабкаў. Сам контрабандай займаўся. Яго партрэты ў газэтах друкавалі, яго расхвальвалі, а вы маўчалі. Чаму вы маўчалі? Бо некаторых ён дробнымі падачкамі падтрымліваў. Іншыя проста баяліся яго. Бо ня толькі сельсавет быў у яго руках. Ён меў сваіх і ў раённым цэнтры. Часам ён вас [illegible] ай паіў. Здаецца, спэктакль раз наладзіў. Так? Ну вось! Хітры [illegible] ыў і спрытны. Комуну зьнішчыць уздумаў. Аб ім можа ўжо і няма чаго гаварыць. Я і не казаў-бы, каб ён сваіх спульнікаў тут не пакідаў. Яны ёсьць. Іх можа некалькі цяпер і ў клюбе. Іх трэба...

На некаторых лаўках мітусьня.

---

У пакоі горача. „Матушка“ (жонка айца Дзімітрыя) сьпіць на канапе. Жоўты язычок лямпы сеіць навакол скупае сьвятло.

— Маці... Маці...

— Га?

Яна ўстрывожана расплюшчвае вочы, глядзіць на айца і ня бачыць яго.

— Можа хопіць табе спаць?

„Матушка“ ня чуе. Зноў заснула. Па яе ружовым твары мільгае цень ад пальца айца Дзімітрыя. Айцец хацеў з ёю пагаварыць аб сур'ёзных справах ды не пасьпеў: зноў моцна сьпіць.

Яшчэ за некалькі дзён да сходу ў новым клюбе айцец Дзімітры „рыхтаваў“ людзей. Сам быў нявідзімкай, але дзейнічаў

праз Слупа і Бочку. Яны ледзь ня кожны дзень рапартавалі папу аб усім тым, што дзеецца ў сельсавеце пад старшынствам Антося Драчыка. Айцец Дзімітры праз Слупа і Бочку вучыў сваіх парахвіян, як трымацца на сходзе. Расьседжвацца трэба так, каб с в а е былі ўперамешку з няпэўнымі на ўсіх лаўках. Свае павінны падаваць знак: калі выступаць, а калі маўчаць. Самых небясьпечных трэба заўчас улагодзіць пазычкамі грошай ці чаго іншага. Гэтым заткнем ім рот няпрыкметна і пэўна. Можна палохаць Польшчай: як толькі вайна, дык гадайчанскі сельсавет, прымежная паласа, зараз-жа апынецца на „тым“ баку. Ні аднаго фунта хлебанарыхтовак! Няма лішняга, сабе трэба...

Айцец усьміхаецца. У гэтай справе ён нямала папрацаваў. Колгасы і рэлігія—вада і агонь... Усё залежыць ад нас саміх... Не эахочам, дык... Дагэтуль так ціха было ў нас, а вось нейкая завіруха...

...Што там на сходзе цяпер робіцца? Зараз прыдзе адтуль Слуп. Такі быў угавор...

Ад нецярплівасьці айцец надзяе кажух і выходзіць на двор.

Змурудны сьнег трэцца пад нагамі, як расьціснутае шкло Дзьве старыя бярозы, вартаўнікі ў белых футрах, застылі каля брамы. Калі-ні калі па бярвеньнях будынкаў стрэльне мароз. У бяздоньні ночнага неба жоўтасінімі кроплямі вісяць зоркі. Вось-вось са звонам упадуць на купал царквы (воддаль на ўзгорку) і рассыплюцца гарохам па бляшаным даху. Саламяныя стрэхі вёскі Глухаўкі прыдушаны сівымі кажухамі сьнегу. Адтуль вее сьцюжай і цішынёю.

...Мабыць, і глухаўцы пайшлі на сход...

Бярэзьнік зьліваецца з сіняй глухаманьню ночы. Адтуль плыве воўча выцьцё. Спачатку ціхае, як з-пад зямлі, яно з кожным разам расьце—усё галасьней і галасьней. Адказваюць водгульлем глухаўскія ды іншыя сабакі. Мурза з усіх сіл зьвініць ланцугом, рвецца на волю. Няпрыемна папу. Вецер стогне над студняй, рыпае асьвірам. Поп сьвідруе вачыма сінявасьнежны абшар. Некалькі вёрст адгэтуль граніца. На шырокім полі лінія калючага дроту. Вялікі камень ляжыць на тым полі. Аб камені ёсьць байка: акамянелая капліца. У капліцы—княгіня. У княгіні на пальцах—пярсьцёнкі з дарагімі каменчыкамі. А на тым баку калючага дроту—вёска Рудня.

Поп шчыльней акрываецца кажухом, адварочвае твар ад марозьлівага ветру, супакойвае Мурзу і бокам ідзе ў хату. Гудзіць грозны вецер. Яго гул здаецца папу водгульлем сходу ў Курганішчы. Поп сьцяў зубы. У яго вачох аганькі нянавісьці.

У сенцах скідае кажух. Уваходзіць у пакоік да „матушкі“ і садзіцца к сталу. Ад рыпату дзьвярэй і раптоўнай сьцюжы, якая шматкамі ўварвалася ў пакой разам з папом, „матушка“ прачнулася.

— Чаму, баця, спаць ня ідзеш?

— Чакаю...

— Ах, праўда, і я-ж чакаю...
— Колькі цяпер часу?
„Матушка“ зірнула на свой ручны гадзіньнік.
— Роўна адзінаццаць.
— Сход яшчэ доўга зацягнецца. Калі ім сягоньня ўдасца, тады канец нашаму добрабыту. Парахвія дасьць нам гэтулькі, як дае Чырвоны Кастрычнік...
— Што-ж нам тады рабіць?—палохаецца „матушка“.
Так доўга цягнуцца ня можа. Эўропа ня будзе маўчаць. Рыхтуецца Польшча, Францыя, Англія. Увесь цывілізаваны сьвет рыхтуецца. Я ўпэўнены, што хутка ўсяму гэтаму канец.
Басавы голас айца пераходзіць на альт.
— Пяцігадовы плян гэта нешта д'ябальскае для народу. Яны сапраўды плянава працуюць. Глядзі, як патрохі з кожным годам тут усё горш і горш робіцца. Крушынскі вось праваліўся, бо ня ведаў вайсковай стратэгіі.
Вочы „матушкі“ праясьнелі. Адпала ахвота ад сну.
Айцец Дзімітры пачаў спацыраваць з кута ў кут. Цень перадражніваў па сьцяне яго рухі.
Некаторыя раілі мне адмовіцца ад духоўнага сану. І добра, што я так не зрабіў. Кіну расу тады, калі зноў трэба будзе надзець мундзір паручніка. Помніш мяне ў гэтым мундзіры?
— А як-жа! Я потым спаліла фотаздымак.
— Цяпер выгадней быць паручнікам з крыжам. Я вось тут з табою гавару, а камандую фактычна сходам у Курганішчы. Эх...
Перад яго ўяўленьнем, нібы яшчаркі, мільгаюць успаміны. Твар айца становіцца сумным і задумёным. У гэту хвіліну „матушка“ глядзіць на яго і кажа:
— Мне здаецца часта (таксама і цяпер), што твая брыдкая барада і кудлы на галаве прыклееныя, чужыя...
— Але я ўвайшоў у папоўскую ролю як належыць. Нават задумаў быў з'арганізаваць тут рэлігійны інтэрнацыянал (айцец хіхікнуў мышыным піскам). Хацеў наладзіць сувязь з местачковым рабінам. Мы з ім сустрэліся неяк на вуліцы, і ён на мяне паглядзеў такімі спачувальнымі вачыма; мне здалося, што ён кінецца да мяне, як палякі кажуць, „як свуй да свого“. Але, ведаеш, яго барада, пэйсы і бліскучы ад бруду лайбсардак здаваліся мне больш праціўнымі за мае кудлы ды папоўскую расу...
Гі-гі-гі-гі
„Матушка“ зарагатала срэбным сьмехам. І грудзі, і круглыя шчокі яе трасьліся, як квашаніна.

---

Мікола Ярэмчык выцёр пару разоў пот з ілба. Ён бледны, зморany ад духаты, але голас яго бадзёры і сьвежы:
— Адзінае выйсьце для вас—гэта колгас! (Ён зірнуў на сход, на многія дзесяткі рознакаляровых вачэй. Успомніў вузенькія

шнуры тутэйшых сялян, саламяныя стрэхі, бруд у хаце, галоту, худую жывёлу... Усё гэта ў адзін міг: працяглая кропка між двума сказамі. Скажэце, ці ня лепш жывуць у Чырвоным Кастрычніку? Калі хто наракае, што дагэтуль тут будавалі новыя хутары і пасёлкі, дык аб прышчэпаўшчыне ўжо гаварыў папярэдні прамоўца.

Бочка сядзіць побач са старым Сухарукім, шэпча яму на вуха:

— Гавары! Табе, старому, няма чаго баяцца...

Сухарукі, высокі і тонкі, як жэрдка, падняўся з лавы. Зыркімі вачыма зірнуў вакол і крыкнуў старэчым пісклівым голасам вывучаныя словы:

— На нашым карку будзеце памылкі рабіць? А можа выйдзе пасьля, што і колгас памылка, што тады будзе?

— Ціха ты!—крыкнуў Драчык.—А-а-а! Каля цябе Бочка сядзіць? Навучыў? Глядзі, Бочка! Гэта табе ня бойка за лужок. Глядзі, каб на табе абручы ня трэснулі! Пакуль што дайце гаварыць таварышу Ярэмчыку, а пасьля выступіць хто захоча.

Сход ледзь супакоіўся. Бочка скрыгатаў зубамі.

— Няхай клясавы вораг ня радуецца нашым памылкам. Мы іх ня тоім. Мы першыя аб іх гаворым. А што тычыцца прышчэпаўшчыны, дык гэта проста шкодніцтва з боку клясавага ворага, сказаў Мікола Ярэмчык.

Быў зроблены перапынак.

Сход рушыў з месца, падзяліўся на групкі, прыціснуўся да вакон, расплыўся па кутох, многія выходзілі ў цёплыя сенцы. Цяпер стаяў такі гуд, што здавалася, нібы на людзей напаў нейкі шал.

Каля аднаго вакна высокі Слуп шэпча на вуха чорнавусаму Яўхіму ў кароткім кажуронку:

— Калі табе трэба хлеба, ідзі ка мне, дам колькі хочаш! Мы-ж суседзі! Пасьля разьлічымся. Толькі ня думай ісьці ў гэту цёплую кампанію, калі жыць ахвота.

— А вось у комуне ўсё-ж такі людзі добра жывуць. Чаму-ж нам колгасу тут не рабіць?—баязліва пытаецца Яўхім.

— Пан Гардзялкоўскі ім гатовую гаспадарку пакінуў. Бокам ім усё гэта вылезе, як прыдуць палякі.

— Прыдуць?

— Прыдуць... Помніш, як яны табе ўсыпалі за панскае бярвеньне? І цяпер тое самае будзе.

У цяні, адвярнуўшыся тварамі да сьцяны, гавораць двое:

— Нэпа трохі дала дыхнуць, а цяпер зноў узяліся. Ты не гаспадар над сваёй працай. Толькі дармо аддавай! Кармі новых паноў-камісараў.

— Там-жа рабочыя. Яны ж з нашага брата.. Вось і мой сын на фабрыцы ў Менску працуе,—бароніць другі голас.

— Рабочыя! Рабочыя!—перадражнівае першы голас.—А што мы маем ад рабочых? Што нам у коопэратыў прысылаюць? Не! Каб жыў Ленін, дык трымаўся-б за нэпу. Добрая была яна і разумная гэта самая нэпа!

У бакавым пакоіку з левага боку сцэны сядзіць комсамольскі штаб і прэзыдыум сходу.

Мікола Ярэмчык хвалюецца, голас яго трохі ахрыплы:

— Сягоньня, таварышы, нічога ня выйдзе з колгаснай справай. Ты, Драчык, яшчэ слаба падрыхтаваў беднату. Будзе тое самае, што з хлебанарыхтоўкай.

— Нічога, мы з крушыншчыкамі расправімся! — упэўнена кажа Драчык.

— А табе вядома,—не адстае Ярэмчык,—колькі ў сельсавеце кулакоў?

— Яшчэ падлічыць не пасьпелі. Бо шмат вазяліны было са справамі ў канцылярыі. Але я і па пальцах пералічу. Люблю шчырасьць, усіх памятаю.

Драчык трохі зьбянтэжыўся.

— Вось бачыш, „па пальцах“, кажаш, пералічыш. Думаю, што табе пальцаў ня хопіць... А чым комсамол займаецца? Не маглі хлопцы гэтага зрабіць?

Драчык пачаў церабіць патыліцу.

— Гэтулькі часу варонілі тут і нічога не зрабілі!—дзівіцца наборшчык Сакалоўскі. Ён глядзіць на сакратара райкому з дакорам. Сьветла-шэрыя вочы Сакалоўскага цяпер цёмныя. Маршчыны на ілбе глыбеюць.

— Я тут новы чалавек, апраўдваецца сакратар райкому.— Зусім згодзен з вамі, таварыш Сакалоўскі, што гэты раён вельмі адсталы.

А коммуна? Не адстае Сакалоўскі.—Што коммуна рабіла?

— Комуна ўвесь час была абкружана ворагамі, і ёй не да гэтага было. Вось яшчэ нядаўна, як вам вядома, былі атручаны коні. Комуна мела свае клапоты

Так пачаў бараніць комуну Драчык.

— Але...—Драчык пагладзіў голены твар,—люблю шчырасьць, комуна спала у шапку. Тое, што мы цяпер пачалі, комуна магла зрабіць куды раней. Комунары былі захоплены сваёй справай і не зьвярталі ўвагі на сельсавет. Я сам, калі-ні-калі прабаваў дзейнічаць, кідаўся, як той кажа, нібы рыба аб лёд, але і ў раёне ня мог дабіцца праўды. Усё-ж такі і я вінават.

Драчык паморшчыўся і махнуў рукой.

— Я бачу, многа ліха нарабілі ў вас прышчэпаўскія хутары і пасёлкі,—сказаў Сакалоўскі, ня то Драчыку, ня то самому сабе.

---

На стале ў айца Дзімітрыя гарэлка і ежа. Чакаюць гасьцей. Побач на камодзе гафтаваная сарвэта—мастацтва „матушкі“, калі была яшчэ дзяўчынай. Фрэнзьлі сарвэты вісяць уніз ледзь не да самай падлогі. Імі забаўляецца адкормлены кот. „Матушка“ сьмяецца.

Як табе, маці, ня сорамна?—злуецца айцец Дзімітры.—Тут сур'ёзныя падзеі адбываюцца. Усё жыцьцё наша крэмсаюць на кавалкі, а ты забаўкамі занята.

— Няўжо-ж мне вечна плакаць? І так атручана маё жыцьцё. Можа загадаеш пайсьці са стрэльбай пад Драчыкава вакно?

Айцец Дзімітры тупнуў нагой і крыкнуў:

— Ах ты, дурная баба!—і дадаў няпрыстойнае слова.

„Матушка“ заплакала.

Айцец Дзімітры, не зьвярнуўшы ўвагі на яе сьлёзы, выбег на двор. Прывёў Мурзу.

Ледзь не забыўся,—сказаў ён.—Гэта-ж сабака нарабіў-бы галасу на ўсю ваколіцу, каб сустрэў іх на дварэ.

А другой гадзіне ўночы прышлі яны: Слуп і Бочка.

Скінулі кажухі, выцерлі заільдзянелыя вусы і бровы.

Садзецеся, госьцікі, садзецеся! Ну і доўга цягнулася гэта музыка...

Ня сход быў, а лазьня,—сказаў Слуп.

— Ня лазьня, а бойка,—паправіў Бочка.

Айцец Дзімітры наліў гарэлкі ў кялішкі.

Пілі і закусвалі. „Матушка“ з асаблівай ветлівасьцю падавала гасьцём закуску.

— Ну, і як там гэта бойка праходзіла?—пачакаўшы трохі, запытаў айцец Дзімітры, моршчачы лоб і чвакаючы нупоўненым ежай ротам.

Слуп паглядзеў на вокны. Акяніцы былі шчыльна зачынены.

— Выпусьціце, бацюшка, сабаку на двор. Можа хто за намі цікуе. Тады няпрошаных сустрэне Мурза.

Айцец Дзімітры выгнаў Мурзу.

Слуп доўга апавядаў нізкім голасам, падмацоўваючы свае словы новай чаркай гарэлкі.

...Нарэшце пасыпаліся запытаньні ў прэзыдыум.—Слуп зрабіў хітрыя вочы.—Нашыя раней умовіліся, што пытацца, і нашэптвалі людзям на вушы:

— А калі ў колгасе ператруцяць усіх нас, як тых коняй у Чырвоным Кастрычніку?

— Чаму нам трохі не пачакаць з гэтай справай, ну, хоць год адзін?

— Калі наша воля, дык мы ня хочам у колгас, бо яшчэ даўней паншчыну адбывалі. Навошта нам колгас, калі пры савецкай уладзе нам і так добра?

— Ці будзе дазволена ў колгасе богу маліцца?

...На ўсё гэта яны вельмі трапна адказвалі. Зноў доўга гаварылі аб пяцігадовым пляне і так замарочылі галовы, што многія з гайдачанцаў запісаліся ў колгас.

Слуп кончыў сваё апавяданьне, паважна выцер губы і, нібы гаспадар, напоўніў кялішкі.

Айцец Дзімітры паморшчыўся, выставіў палец угару і сказаў.

— Та-а-к... Пяцігадовы плян. А мы на плян адкажам плянам. Ня можа быць каб так доўга цягнулася. Эўропа павінна нас ратаваць.

— У лес прыдзецца ісьці,—дрымотным голасам сказаў Бочка, і вочкі яго замасьліліся ад хмелю.

— Трэба як кольвечы затрымліваць колгасную музыку, а там прыдуць разумнейшыя і навядуць лад і парадачак. Ні аднаго фунту хлебанарыхтовак! Дармаедаў карміць—грэх! Вясною абсеяць поле толькі для сябе. Жывёлу прадаваць альбо рэзаць для сябе. Хоць мяса сабакам аддаваць, толькі колгасам нічога не пакідаць. Вось і зробімся ўсе беднякамі, калі беднякі ім так любы і дарагі. Пабачым, што з усяго гэтага выйдзе. Нарэшце ў кожным колгасе павінны быць і нашы.

---

Усю ноч дзьмуў вецер—сухі, марозьлівы. Па вясковых комінах ён высьвістваў працяглыя трэлі.

Усю ноч „Леў Талстой" пісаў. Сядзеў крукам над маленькім столікам.

Ня спала ўсю ноч і яго жонка Барбара—плакала на печы. Яна часта зьвярталася да мужа з такімі словамі:

— Ах ты, памяло сівое! Куды палез? Які ты ў мяне гаспадар?

— Ціха, маці, не перашкаджай мне працаваць. А то гаворыш, як той клясавы вораг. Трэба прызнацца, так яно і ёсьць.

— Я ўсё жыцьцё працавала-гаравала, а ты, паскуда, паскудзіць мне задумаў?

„Леў Талстой" перастаў прыслухоўвацца і давай далей пісаць:

„...Трэба прызнацца, гайдачанскі колгас будзе называцца „Першамайскі". Зьмітрок—старшынёю колгасу. Так. Той самы Зьмітрок, які калісьці разам з Хвёдарам вярнуўся з Чырвонай арміі, іхнія дарогі цяпер разышліся ў розныя бакі налева і направа. Так. Упартыя Дразды і Дзятлы. Касамі, гарэлкай ды іншай трасцай Язэп Крушынскі труціў іх некалькі год. Так. Можа гэта горшая атрута за тую, якую ён, Крушынскі, тоісь, перадаў Пархамчуку, а Пархамчук—Троську-бандыту, а бандыт Троська—коням комунарскім. Так".

Ужо зусім відно стала, калі ў хату ўвайшоў радасна ўсхваляваны Зьмітрок. Зірнуў адным вокам на пісаніну „Льва Толстога".

— Пішаш?

— Пішу...

— Пойдзем. Вазьмі з сабою паперу і аловак. Будзем рабіць падлік маемасьці колгасьнікаў. Абагулім жывёлу, насеньне, інвэнтар, сена.

— Пайду, пайду...—устрапянуўся „Леў Талстой" і высунуўся за дзьверы разам з Зьмітраком.

Ён нават не зьвярнуў увагі на тое, што першы раз за ўсё сумеснае жыцьцё з Барбарай яна не падала яму сьняданьня...

У хаце Зьмітраковых бацькоў ужо ўсе былі ў зборы.

— Ну і спадчыну пакінуў нам Крушынскі!—пачуў „Леў Талстой" гутарку Міколы Ярэмчыка, які таксама сюды зьявіўся,— апрача майго швагра Марціна, ніхто з Драздоў і Дзятлаў у колгас ня йдзе.

---

# 38

## Страх бярэ

І ЯЎХІМУ, аднаму з старых касцоў Язэпа Крушынскага, успомнілася:

... Год-у-год, як толькі касьба, ён адзін з самых рупных на сенакосе ў Курганішчы. Жонка—адна з першых там-жа на жніве.

Тады і ён і жонка думалі, што Крушынскі робіць ім вялікую ласку. І былі яны ўдзячны такому гаспадару.

Калі пад вясну ў Яўхіма канчаўся хлеб, ён зараз-жа з мяшком да Крушынскага.

— Добраму суседу ніколі не шкадую,—гаварыў Крушынскі.—Са сваім чалавекам гатоў апошнім падзяліцца. Вось які я!

Крушынскі цёр лысіну, хадзіў туды і сюды па розных справах. Спачатку ішоў на гумно, з гумна—у хлявы, потым у хату. Яўхім з-заду за ім, як цялё за каровай, ды ўсё выслухваў гутаркі Крушынскага.

Умеў Крушынскі так пагаварыць з чалавекам, каб той глядзеў на яго, як варона, і ня мог слова сказаць.

У Яўхіма галава кружылася. Пакуль выберацца ў Курганішча, пакуль жонка яго сюды не прагоніць, паказваючы на згаладалых дзяцей, заўсёды праходзіла некалькі дзён. Вельмі ня любіў Яўхім доўгіх і мудрых гутарак гаспадара Курганішча. Калі-б адкідаць тоўстую шкарлупіну гутарак, дык зярно іх заставалася-б заўсёды вось якое:

„Мы суседзі. Павінны памагаць у бядзе адзін аднаму“.

У Яўхіма бяда, што сям'я галадае. У Крушынскага бяда—сваімі сіламі ня справіцца скасіць лугі і зжаць збожжа на полі. Заўсёды пасьля гутарак Крушынскага выходзіла, што ён, Яўхім, не адзінокі ў бядзе...

Кожны раз пасьля такой гутаркі, павадзіўшы Яўхіма за нос доўгі час, Крушынскі даваў яму пуд-другі жыта.

— Улетку адробіш, жонку прышлеш. Ну, бывай здароў!

З нейкім цяжарам на сэрцы заўсёды выходзіў Яўхім ад Крушынскага, ня гледзячы на тое, што той ніколі Яўхіму не адмаўляў.

Яўхім сягоньня позна падняўся з ложка.

— Гэта-ж усяночная была ў Курганішчы!—пачаў ён апраўдваць самога сябе, што позна спаў.—Потым, як вярнуўся, доўга заснуць ня мог. Усё думаў-думаў.

— А на дварэ вецер і мароз,—сказала жонка і пагладзіла ўздуты жывот. Яна была цяжарная.

Яўхім пацёр пальцам чорныя вусы і няголеную бараду. Паглядзеў у акно. На дварэ круціла завея.

Пры сьняданьні Яўхім сказаў жонцы:

— Дзіва, як усё неяк круціцца-мелецца.

— А што?—зацікавілася жонка і паглядзела на Яўхіма паблеклымі шэрымі вачыма.

— Вось быў Крушынскі, ды няма Крушынскага! Гэта я пра ўчарайшы сход. Учора як растлумачылі на сходзе, дык я зразумеў, што мы былі парабкамі ў Крушынскага гэтулькі часу.

— А я гэта даўно, бяз сходу, ведаю!—сказала жонка. Яе твар, у жоўтых плямінах, ажывіўся. Мала мы на яго працавалі? Кожны пудзік жыта нам дорага абыходзіўся. Апошнюю сілу выцягне, пакуль адробіш. Дык што-ж там на сходзе гаварылася?

— Усяго не перакажаш. Гаварылі, што трэба ісьці ў колгас. Неяк страх бярэ.

— А які страх? Чаго ты баішся? Нам дык няма чаго палохацца.

Яўхіміха паднялася з лавы ды зноў села.

— Няма чаго палохацца, кажаш? А калі палякі прыдуць? Калі пан Гардзялкоўскі вернецца? Помніш, як за бярвеньне мне ўсыпалі? Каб не палякі, я пашоў-бы.

Хто табе сказаў, што палякі вернуцца?—усхапілася жонка.— Няўжо-ж гэта праўда?

Яна добра памятае, як білі Яўхіма за тое, што знайшлі на яго дварэ пару бярвэньняў, вывезеных з панскага лесу да прыходу палякаў.

— Слуп гаварыў. Калі, кажа, табе трэба хлеба, дам колькі хочаш. Мы-ж суседзі, кажа, пасьля разьлічымся. Толькі ня ідзі, кажа, у гэту цёплую кампанію, калі жыць хочаш.

— Ён і ласкамі, і страшуначкамі,—Яўхіміха раскрычалася,— Як той Крушынскі ўсёроўна! Ведаю іх! Дай бог нам жыць, як у камуне. Была я там ня раз. Ведаю.

— Ціха, ня крычы!—зьбянтэжыўся Яўхім. Ён трохі баяўся жонкі.—Ня крычы, а то пачуюць.

— Чаго мне баяцца! Нашай беднасьці? Не баюся! Калі ўсе пойдуць, дык і мы. Няма чаго шкадаваць. Бачыла, як людзі ў камуне жывуць.

— А калі вайна?—палахліва запытаўся Яўхім.

— Дык што, калі вайна? Тваё маёнткі забяруць? Чаго мне баяцца вайны? Мала ваюю, пакуль дзяцей накармлю. Што ў нас возьмуць? Ды ці будзе гэта вайна?

— Слуп сказаў.

— Слуп?—жонка кпліва засьмяялася.—Гэты дык майстар! Як толькі людзі будуць пісацца, дык і мы.

— З Драздоў і Дзятлаў яшчэ ніхто ня ідзе, а вось гайдачаны падаліся ў колгас. Праўда, ня ўсе.

Яўхім цярэбіць бараду.

— Калі ня ведаеш, чалавеча, дзе лепш будзе.

— Горш ня будзе! Шкада, што ў мяне вось гэткі жывот, а то я-б на сходзе была, паглядзела-б сама, што і як.

Яўхім вінавата аглядаецца па бакох.

— Схадзі ў Гайдачаны, паглядзі, што там робіцца, цікава,— сказала Яўхіміха.

Яўхім апрануў кароткі кажуронак і вышаў з хаты. Вецер адразу разануў у твар. Не хацелася цяпер ісьці ў Гайдачаны. Яўхім злаваўся на самога сябе, што баба рэй вядзе ў хаце. Ён то, праўда, у прымакі пайшоў да яе. Хата, гарод, кавалак сенакосу, некалькі палосак поля, карсўка—усё гэта яе. Аднак-жа, ён гаспадар, „бо мужчына". З яго і людзі сьмяюцца, што дае жонцы волю. Некаторыя добрадзеі нават вучылі яго, як вымуштраваць жонку, каб яна ішла на яго павадку. Нічога з гэтага ня выходзіла. Каб ён і адважыўся спрабаваць сваю сілу на ёй, дык яна была дужэйшай за яго.

---

У Гайдачанах на вуліцы было вялікае ажыўленьне. Ня гледзячы на кепскае надвор'е, усе былі на двары—і старыя і малыя.

Яўхім далучыўся да гуртка людзей, якія хадзілі з хаты ў хату абагульваць жывёлу, збожжа, конскую збрую, вазы, плугі ды іншае.

„Леў Талстой" акуратна ўсё ўпісваў у кнігу. Кожную хвіліну шчыльней насоўваў акуляры на нос.

— У вас тры каровы, дык вам адну пакінем, якую сабе хочаце,—сказаў Зьмітрок да гаспадара-гайдачаніна.

— Мне што, казаў той,—мне нічога,—але вось жонка артачыцца.

Барадаты гайдачанін паказаў рукою на жонку—нізенькую зморшчаную кабеціну. Яна паглядзела спалоханымі вачыма на Зьмітрака, на „Льва Талстога". Нават на Яўхіма недаверліва зірнула.

Я бурай каровы ня дам! Гэта пасаг дачкі!—прагаварыла яна піскілівым крыкам.

— Вялікая бяда,—засьмяяўся Зьмітрок,—няхай бурая табе застанецца, а падласую і рабую мы запішам у агульнае.

— Дзякую за ласку!—завізгатала старая,—а нам ня трэба? Запішэце адну—падласую! Рабую нам патрэбна, а бурая—Марыльчын пасаг.

Тут-жа стаяла дачка Марыля. Яе шчокі ўспыхвалі, як агонь.

— Ня можна так,—тлумачыў Зьмітрок.—Тады-ж у вашай сям'і застануцца дзьве каровы, а мы пастанавілі толькі па аднэй пакідаць.

— Але-ж гэта пасага!—крычала старая.

— Марыля яшчэ замуж ня ідзе. Як ты, Марыля? Ідзеш цяпер замуж?

Марыля чырванела, маўчала і ня ведала, дзе дзецца ад сораму.

— Ды яшчэ з бацькамі жыць будзеш!—не адставаў Зьмітрок.

— З бацькамі...—пацьвярдзіла Марыля ціхім голасам.

— У колгасе і пасаг не патрэбен,—тлумачыў Зьмітрок.— Там адна вялікая гаспадарка для ўсіх. Там мужчыны і жанчыны роўныя. Выдадзім Марылю замуж за лепшага комсамольца. Без пасагу Марыля будзе добрай гаспадыняй-колгасьніцай! Праўда, Марыля?

Дзяўчына ўсьміхалася.

Старая маці Марылі супакоіцца не магла. Калі ўжо ўсе вышлі з хаты, чуваць быў яе лямант:

— А я гадавала, а я карміла буранькую, думала для Марылькі пасаг, а вось чэрці лысыя буранькую запісалі.

— Ціха ты, дурная!—крычаў на яе муж.

Гаспадыня заплакала.

— Страх бярэ,—падумаў Яўхім, ківаў галавою і цмокаў губамі.

У другой хаце вышла ліха з новым хамутом.

Усе ведалі, што ў Яўмена ёсьць два хамуты, адзін стары, а другі новы. А вось ён запісвае толькі стары хамут.

— А дзе новы?—запытаўся Зьмітрок.

Глядзіць на яго Яўмен вочы ў вочы і кажа:

— Прадаў новы хамут.

— Як гэта прадаў?—дзівяцца ўсе.

— Калі прадаў? Гэта-ж паазўчора, як ты ехаў у лес, на кані быў новы хамут. Што ты Яўмен, пляцеш? Трэба прызнацца, ты хлусіш. Так.

Так стыдзіў „Леў Талстой" і падняў акуляры з носа на лоб.

— Кажу, прадаў ды і годзе!—зазлаваўся Яўмен і давай круціць плячыма, нібы хоча скінуць з сябе нявідочны хамут.

— Хто ў цябе купіў?

— У Шапалевічах на рынку прадаў! Вось што!

— Ты-ы нікуды ня езьдзіў! Што выдумляеш?

— Прадаў і канец!—падняў голас Яўмен.

— Як табе, Яўмен, ня сорамна маніць,—пачаў яго прабіраць Зьмітрок.—Калі ты такі, дык навошта было табе ў колгас пісацца. Нам гэткія ў колгасе не патрэбны. Можаш выпісацца!

Яўмен апусьціў галаву. Нешта мармытаў сабе пад нос. Неразборлівае спачатку мармытаньне перайшло ў разборлівыя словы:

— Я хацеў прадаць гэты хамут. Слуп, сказаў, купіць. А калі такая ўжо справа, дык няхай сабе! Запішы і гэты хамут,—зьвярнуўся ён да „Льва Талстога", і раптам лоб яго пакрыўся потам.

У трэцяй хаце сварыліся бацька з сынам.

— Я ня пісаўся ў калгас!—крычаў бацька,—і не хачу, каб да мяне прыходзілі цяпер апісваць! Нікога ў хату ня пушчу!

Ён стаяў каля парога, разьняў рукі крыжам і ня пускаў у хату. Густыя рыжыя бровы над яго вачыма былі насуплены, вочы няпрытомныя. Засьлюнявілася рэдкая рыжая бародка.

Сын стаяў насупроць яго, бяз шапкі, і спакойным голасам прасіў:

— Пусьці, тата.

— Ня пушчу!

— Тут і мая праца ёсьць.

— Уткніся ты са сваёй працай!..—крыкнуў бацька і кінуўся на яго з палнятым кулаком.

Сын адскочыў, зьбянтэжыўся спачатку, а потым і ён зазлаваўся. І ў яго бровы насупіліся. Выглядам ён цяпер стаў вельмі падобным да бацькі.

— Дык давай дзяліцца!—крыкнуў ён. І голас яго стаў падобным да бацькавага.—Я са сваёй часткай пераходжу ў колгас!

— Ня сын ты мне!

— А ты мне ня бацька!

Яўхім ня вытрываў ды ў голас сказаў:

— Страхоцьце адно...

— Якое страхоцьце?—зьвярнуўся да яго Зьмітрок.—Сын з бацькам пасварыліся? Глупства! Памірацца. Пасьля яшчэ сам стары прасіцца будзе, каб мы яго прынялі ў колгас, але мы яшчэ падумаем ці варта прымаць яго такога сварлівага.

Потым абагульваньне пайшло спакайней. Толькі адзін гаспадар адмовіўся ісьці ў колгас. Калі Яўхім у яго ціха на вуха запытаўся, у чым справа, дык той сказаў:

— Ведаеш, нейкі страх бярэ. Вось, як пачнуць на сходзе гаварыць, дык здаецца ўсё добра, лепш быць ня можа. Ну, думаю толькі ў калгасе мне і жыць. А як вось дайшло да таго, што трэба ў агульны кацёл кінуць усё тое, што за ўсё жыцьцё сваё нажыў, дык нейкі страх нападае. Хто яго ведае, што са мною робіцца. Вось жыцьцё ня міла. Баюся ісьці туды. Хто яго, братку, знае, што з усяго гэтага будзе?

Глядзіць Яўхім на спалоханага гайдачаніна ды шчыра яму спачувае.

— Ведае Яўхім добра гэтага чалавека. Ня раз езьдзілі разам у лес, вазілі калоды на сплаўную рэчку. Гэты голены, нявысокі, шырокаплечы гайдачанін Макарам завецца. Хоць гаспадарка ў яго невялікая, але ня кепска жыве. Ён трохі сталяркай займаецца. Усю восень працаваў у Курганішчы, калі дом Крушынскага перарабляліі пад клюб.

— Дык страшна, кажаш?

— Страшна, братку, аддаваць гатовенькае, а потым ласкі чакаць, каб хто табе даў паёк з твайго-ж запрацаванага.

Пры гэтых словах Макар глядзеў на Яўхіма такімі вачыма, нібы ад яго паратунку чакаў.

Каб добра самому даведацца, у чым тут рэч, і каб самому ўпэўніцца ў перавагу колгаснай гаспадаркі над аднаасобнай, Яўхім пачаў яго агітаваць.

— Як гэта, каб хто даў табе паёк! А сам ты не гаспадар у колгасе, як усе іншыя?

— Так-то яно так, але ці будзе чаго дзяліць? Ведаеш, ня будуць-жа працаваць, як раней для сябе. Кожны пачне выкручвацца ад працы. А тады шыш і дастанеш.

— Ну, ну!—паехаў далей у сваёй агітацыі Яўхім.—А як-жа ў комуне жывуць? Лепш, чымся мы, брат, з табою!

— Калі нейк боязна. Вось і там коняй атруцілі, раней спаліць хацелі колькі разоў.

— Дык гэта-ж сволачы робяць!—аж крыкнуў Яўхім і сам зьбіўся з свайго голасу.—А тут палохаюць адзін аднаго няма ведама чаго. Вось мне Слуп кожны раз як нагаворыць, дык жыцьцё нямілым становіцца.

— І мяне той самы палохае, чорт ведае чым: вайна, паны...

— Такім, як Слуп, выгады няма ісьці ў колгас з такой багатай гаспадаркі, але нашаму брату зусім іншы сэнс ёсьць.

— Што праўда, то праўда, але хто яго ведае, каб чалавек не баяўся-б, дык...

Макар быў зьбянтэжаны, прыгнуўся і, здаецца, усёй фігурай літасьці прасіў у Яўхіма.

Яўхім не заўважыў, як пры гэтай гутарцы з чалавекам, самога сябе пераканаў у тым, што трэба ісьці ў колгас. Глядзеў на Макара, як дарослы на хлапца, і нейк лёгка стала яму ад гэтай гутаркі.

Яны яшчэ доўга гутарылі-б, але пачулі крыкі з трэцяга двара. Жаночы візгатлівы голас дрыжэў у паветры. Крыкі былі такія жудасныя, нібы кагосьці рэзалі нажом:

— Ня дам хлява! Сяке-э-эрай буду барані-і-іць!

Яўхім і Макар пабеглі туды, як на пажар.

Гэта адбылося на двары „Льва Талстога“. Крычала так яго жонка Барбара. Гурт людзей глядзеў з цікавасьцю на гэта дармавое прадстаўленьне. Суседзі падбухторвалі, жартавалі. Барбарыха была страшнай у своёй злосьці. Вочы яе пачырванелі, губы крывіліся. Барбара кружылася на адным месцы, нібы квактуха, што зьбіраецца садзіцца на рэшата з яйкамі.

— Ня да-а-м хлява! Памяло ты сівое! Ду-у-урань! Пі-і-ісар! Адыйдзі, бо заб‘ю!

Пры гэтым пачала наступаць на мужа і мерылася на яго кулакамі.

„Леў Талстой“ хаваўся за плечы Зьмітрака.

— Цялушак чужых тут уздумалі ставіць!—не магла супакоіцца Барбара і дрыжэла ад абурэньня.—Не хачу-у-у! Не дазволю-у у! Я тут гаспадыня!

Яўхім вярнуўся дамоў з тэй самай няўпэўненасьцю, з якой пайшоў. Пры абагульваньні ён бачыў страх адных і радасьць другіх і ня ведаў, што рабіць.

---

## 39

## Сутычка

ПАСЬЛЯ ветру пачалася адліга. Неба было яснае, сонечнае; капала са стрэх. Каля сьцен будынкаў стаялі лужыны. З саламяных дахаў зышоў сьнег. Дарогі пачарнелі. Было падобна да вясны. Аголіўся лес. Усюды ў даляглядах ён цяпер абрамляў край неба цёмна-шэрым тынам. Чаліканьне вераб'ёў напоўніла паветра. Санкі ўрэзваліся ў разьлезлы, як кісель, сьнег.

Калі скончылася абагульваньне кароў і коняй, інвэнтару і насеньня ў вёсцы Гайдачаны, на нарадзе ў сельсавеце Мікола Ярэмчык раіў дастаць каваля для рамонту плугоў. Ён абяцаўся паехаць у мястэчка і прывезьці сюды Лейбу. Што тычацца чысткі збожжа на насеньне, дык гэта зробіць Чырвоны Кастрычнік.

Драчыка захапіла іншае:

— Пачатак зроблены. Люблю шчырасьць! Пастараемся, каб увесь сельсавет на ўсе сто працантаў быў колектывізаваны! Мы гэта зробім! Што-б тут ні было, а так павінна быць!

— Не гарачыся! Сваёй гарачкай нічога ня зробіш. Трэба рабіць памаленьку, але затое моцна, грунтоўна, каб потым ня прыходзілася перарабляць. Драздыі Дзятлы яшчэ добра пахнуць духам Крушынскага. Трэба выветрыць гэты пах.

— Комсамольцы пастараюцца,—не адступаў Драчык.—Змобілізую ўсю беднату! Люблю шчырасьць,—з кулакамі хутка пакончым.

---

Ночы падышлі цёмныя. Над зямлёю віселі густыя хмары. Гнілая вільгаць расплылася па дварох.

У адну з такіх начэй Бочка разбудзіў свайго старшага хлапчука.

— Гальяшка! Схадзі, пазаві Слупа!

— Навошта ён?—пазяхаючы запытаўся хлапчук.

— Ты ня пытайся, а хутчэй зьбегай!

Гальяшка апрануўся і пабег.

Тым часам Бочка пайшоў крадучыся ў хлеў і запаліў запалку. Тры яго добрыя каровы падняліна гаспадара зьдзіўленыя асалавелыя вочы. У пацёмках Бочка накінуў на рогі аднэй з кароў пятлю з вяроўкі і ціханька павёў у пуню. Карова ішла за ім спакорліва. Калі прышоў Слуп, Бочка паслаў у хату сына

па маленькую газоўку. Яе паставілі на калоду пасярод пуні. Жоўтым кругам расплылося сьвятло лямпачкі ў халоднай цёмнай будыніне. Слуп выняў з кішэні навостраны нож. Дзьве пары вачэй паглядзелі на Слупа і Бочку ня то са страхам, ня то з дзівам. Гэты выраз асьвечваўся ў цёмных зрэнках Гальяша і каровы.

— Што-ж тут такое будзе?—запытаўся Гальяшка.

Ні бацька, ні сусед яму на гэта не адказалі. Яны можа і ня чулі, бо былі заняты. Нейкім хітрым чынам зачапілі ногі каровы вяроўкай і карова паваліласся. Тады моцна зьвязалі ёй ногі. Бочка ўрэпіўся за рогі і павярнуў, пацягнуў карову за галаву. Бурая шыя каровы напружылася. Слуп падышоў з нажом... Карова замэкала. Спужаўся Гальяшка:

— Татка, ня трэба...

І сьлёзы бліснулі ў яго вачох.

— Адыйдзі!

Гальяшка яшчэ больш спалохаўся. Заплакаў.

— У хату ідзі, шчанё!—крыкнуў бацька.

Хлапец пабег.

Як справіліся з каровай, прывалаклі пару авечак. Скончылі і пашлі да Слупа рабіць тое самае...

Яшчэ ўдодні яны паехалі ў Менск. Па дарозе заўважылі многіх, якія вязьлі на рынак такі самы тавар. У некаторых да санак была прывязана на павадку жывёла.

У менску ў Цярэшкавай кватэры на кухні тады стаяла пазычаная ў суседкі, былой крамнічыхі, паіржавелая вага. Тут адбываўся продаж мяса. Зося, хатняя работніца Цярэшкавых наказала ўсім знаёмым. Прыходзілі пакупцы, Слуп і Бочка з імі нават мала таргаваліся. Ці ведаў Цярэшка аб гэтым, ці не, але яго жонка прымала ў гэтай працы самы гарачы ўдзел.

---

Удава Мацеіха глядзела праз вакенца на вуліцу. Нядаўна ўправілася са сьнеданьнем. Накарміла бульбай сына, які зараз-жа пабег у Гайдачаны ў сельсавет, і ня ведае яна, што рыхтаваць на абед. Ужо некалькі тыдняў, як сын увайшоў у комсамол. Цэлымі днямі працуе ў сельсавеце. Лявон з ёю цяпер мала гаворыць: ён вельмі заняты. Глядзіць Мацiеха ў вакно і бачыць: ганьня сабак цягне па вуліцы трыбух і кішкі. За сабакамі з кіямі ў руках бягуць дзеці.

— Хто-ж гэта жывёлу зарэзаў?—падумала яна.—Эх, даўно мяса не каштавала... Забылася нават смак гэтага мяса... Добра, каб хлеба было ў волю. Колькі ўжо год будзе як Мацей памер?

Мацеіха ўспомніла:

Было так. Пры палякаx яе муж партызаніў. Яго шукалі. І вось аднаго разу... Была тады цёмная летняя ноч. Душна было ў хаце. Яна спала на ложку з васьмігадовым хлапчуком. Пачула,

нібы нехта драпае пальцамі вакно з боку гумна. Уздрыганулася Мацеіха, падскочыла да вакна ў аднэй кашулі.

— Хто тут?

Яна спалохалася, бо ў вёсцы былі легіёнэры.

— Выходзь, гэта я...

— Мацеха пачула голас мужа і задрыжэла ўсім целам. Хутка апранулася і выбегла на двор.

Яшчэ раней некалькі разоў прыходзілі лёгіёнэры.

— Дзе муж?

— Ня ведаю...

Тады яе пачалі цягаць за валасы і вадзіць па хаце ад сьцяны да сьцяны...

— Ї цяпер, псякосьць, ня ведаеш?

— Ня ведаю...

Яна сьціскала зубы ад болю, калі бізун ляснуў ёй па сьпіне і твары.

Малы Лявон плакаў.

— Маўчы, чортава насеньне!—крыкнуў адзін ды намерваўся над хлопчыкам бізуном.—Кажы, дзе тата?

— Ня ведаю... Лявонка заплакаў

Хацеў азьвярэлы чалавек даць хлопчыку бізуном, але вырвалася матка. Клок яе валасоў застаўся ў руках жаўнера. Болю яна тады не адчувала. Бізун апаліў ёй руку. Абараніла сына.

Некалькі разоў прыходзілі да яе легіёнэры.

На дварэ за вуглом хаты яна тады сказала Мацею:

— Уцякай, легіёнэры ў вёсцы.

— Ведаю. Забяры сына ды пойдзем у лес, а то яны цябе тут прыкончаць. Можа яшчэ тыдзень, і мы іх ад гэтуль прагонім.

— А хата?—няўпэўненым голасам запыталася Мацеіха.

— Усёроўна спаляць. Сына я панясу, а ты падушку якую возьмеш..:

— Рукі ўгару і ні з месца!

Крык гэты быў гучны і раптоўны.

Мацей стрэльнуў з нагана, але з-за вугла кінуліся на яго з шаблямі трое. Мацеіху павалаклі назад у хату.

Што было далей?

Крывавы туман ахапіў яе з ўсіх бакоў, душыў. Прачнулася ў местачковай бальніцы. Яе хлопчыка забраў сусед.

Глядзіць Мацеіха ў вакно і думае:

...Што сыну зварыць на абед.

Чуе вясёлыя пасьвісты і крыкі дзяцей, візгаваньне сабак.

Не заўважыла Мацеіха, як адчыніліся дзьверы і ў хату ўсунулася жонка Слупа.

— Дзень добры, мая міленькая!

Задрыжэла Мацеіха ад неспадзеўкі, як пачула жчабатлівы голас.

— Дзень добры, дзень добры!—паўтарыла Мацеіха, аж два разы,

Ня зьдзівілася на прыход жонкі Слупа, бо ў апошнія часы тая часта прыходзіла з рознымі навінкамі. Але і не абрадавалася, бо навіны цёткі Слупіхі заўсёды былі невясёлыя: то „канец сьвету“ яна прыносіла ў хату, то з вайною прыходзіла, то з нейкімі бунтамі супроць бальшавікоў, то з цудадзейным сном...

З пустымі рукамі цётка Слупіха ніколі ня прыходзіла.

Кожны раз, пасеяўшы трывогу ў сэрцы Мацеіхі, яна ішла ў іншую хату з тымі-ж падарункамі.

Доўга шчабятала на гэты раз цётка Слупіха.

— Людзі па начох ня сьпяць, мая ты родненькая. Ад нуды вошы напалі. Кажуць, ня можна пісацца ў колгасы, бо хутка палякі прыдуць. Тым хто ў колгасе, горш будзе, мая ты родненькая...

Вочкі цёткі Слупіхі блішчаць. Яна выцірае сьлёзы.

— На! Прынесла трохі мяса... Ты-ж мабыць даўно ня пробавала. Людзі рэжуць жывёлу. Усёроўна, кажуць, у колгасах лепшую дадуць. А мы ўсе хочам быць беднякамі, мая родненькая. Мы ўсе цяпер роўныя, мая міленькая. Дык ты там глядзі, каб твой Лявон нічога на нас ня ўзьвёў. Нешта там, у сельсавеце, мая родненькая, цяпер кулакоў шукаюць. Мой-жа, ведаеш, мая міленькая, зусім ня кулак...

Палажыла на зэдлік ёмкі кавалак бараніны.

— Дык няхай ужо есьць на здароўе твой Лявонка і ты, мая родненькая, таксама... Ну, бывай, мая міленькая здаровенька.

Пад вечар прышоў Лявонка і зьдзівіўся: у хаце пахне тлустым вараным мясам.

— Мацi, хутчэй есьці!—і носам давай уцягваць прыемны пах. Ён ўжо ведае і новую кулацкую махінацыю. У сельсавеце гавораць, што трэба прыняць меры супроць разбазарваньня жывёлы. Сам бачыў на некаторых дварох лужы крыві ад зарэзаных кароў і авечак. Але цяпер думаць аб гэтым ня хочацца. Вельмі галодны, а пах з печы так вабіць...

Маці выняла з печы гаршок. Паставіла на стол ежу ў місцы. Лявонка пачаў есьці з вялікім апэтытам. Ноздры прагна ўцягвалі смачны пах. Як трохі супакоіў голад, запытаўся:

— Дзе, маці, мяса дастала.

— Слупіха прынесла... —зірнула на сына і спалохалася. Ніколі ня бачыла яго такім узлаваным. На ілбе ўздуліся жылы, з вачэй сыпаліся іскры. „Якраз бацька такім быў, як злаваўся“. успомніла яна.

— Як?!—крыкнуў Лявонка не сваім голасам.—Ад кулака падарунак прыняла?! Можа Слуп хоча мяне падкупіць? Зараз-жа назад аднясі!

Лявонка больш ня еў.

Прыехаў з мястэчка стары Лейба. На дзьвёх фурманках прывезьлі ўсе яго кавальскія прылады і хатнюю маемасьць.

У адзін з гэтых шумных дзён у Курганішчы ў кузьні, дзе раней Язэп Крушынскі рыхтаваў на продаж калёсы на жалезным хаду, пачуўся звон малаткоў. Рамантаваліся плугі ды іншыя сельскагаспадарчыя прылады гайдачан для колгасу імя Першага мая. У дапамогу старому кавалю прымацавалі да кузьні яшчэ двух камсамольцаў. Вакол кузьні грамадкі людзей.

За пару дзён каля кузьні вытапталі чорную пляміну зямлі. Ня то што сьнегу тут не засталося, але і леташняй травы.

Часта падыходзіў сюды, крадучыся, Слуп. Глядзеў на гайдачан кплівымі вачыма:

— Плужочак ладзіш, першамайнік?

— Плужок, а табе што?

— Мне? Мне нічога, цябе шкадую. Хіба вясною цябе самога ў ім араць упрагуць, бо коні вашыя перадохнуць. Хто за імі цяпер глядзіць, за чужымі?

— Толькі ты, Слуп, ня вельмі бядуй,—адказвае барадаты гайдачанін.

— Як мне не бедаваць? Суседа шкода.

— Ідзі адгэтуль, бо пападзецца табе за кулацкую агітацыю, Той злуецца ды аглядаецца па бакох, каб ніхто ўсё-ж такі не пачуў...

Слуп сьмялее.

— Ты схаваў калёсы? Хоць калёсы схавай, а то паломяць Па-суседзку кажу. Я-ж цяпер такі серадняк, як і ты...

Барадаты наставіў вушы.

— Калёсы, кажаш?

— Ты-ж гэтулькі гараваў, пакуль іх нажыў... (у Слупа літасьлівы галасок.) Ты ўжо, братку, не гаспадар. Над сталым чалавекам гаспадараць сысуны-камсамольцы. Дажыўся ты, няшчасны

— Ня плач над маёю галавою.

Слуп аглядаецца па бакох і шэптам кажа:

— Схавай, дурны, калёсы, як суседу кажу. Будзеш пасьля шкадаваць.

З кузьні вышаў адзін з памочнікаў Лейбы, малады хлапец. Слуп павярнуўся ды праз сад пайшоў у вёску.

— Што табе Слуп на вуха бубніў?

— А нічога... Пытаўся, ці можна тут яго каня падкаваць...

---

У бакавым пакоіку на ложку гара падушак і падушачак „матушкі“. Ад большых да меншых яны цягнуцца ўверх завостраным стажком. З боку каля самага вакна круглы столік. Айцец Дзімітры сядзіць пры століку і піша. Часам паднімае твар з паперы і глядзіць у вакно. Са страхі падаюць уніз кроплі. Мільгаюць перад вачыма. У цішыні айцец чуе, як кроплі плюхаюцца ў лужынку. Яны лічаць хвіліны, лічаць нясупынна, без памылак: раз... два... тры... На гародзе выступіла чорнае

лапіна зямлі. Здалёку відаць аголены бярэзьнік. Адліга змыла яго сьнежны кажух.

Айцец ня піша, а „друкуе"—піша друкаванымі літарамі, каб ніхто не пазнаў яго рукі. Павольна і старанна выводзіць літары.

Адліга плача за вакном. А кроплі, са стрэх:

...раз...

...два...

...тры...

Лічаць яны „надрукаваныя" айцом Дзімітрыем радкі. Айцец чытае голасам псальмаў. Яго пульхныя губы выпячваюцца. Хадыром ходзіць рэдкая барада:

> **Браты сяляне!**
> **Цяжкі час надышоў для вас.**
> **Новыя чырвоныя паны вас абдурваюць рознымі спосабамі ўжо многа год. Цяпер яны бяссорамна накідваюць моцныя петлі на вашыя шыі. Колгасы—гэтая чырвоная паншчына.**
> **Колгасы—гэта...**

Айцец Дзімітры „надрукаваў" яшчэ некалькі слоў і спыніўся. Зірнуў праз вакно на гарод і задумаўся.

Перад яго ўяўленьнем стаяў на гародзе, на аголенай ад сьнегу зямлі вайсковец у белым летнім мундзіры з бліскучымі залатымі пагонамі.

— Глядзі, з настаўніка які зграбны афіцэр выкраіўся!—сьмехатлівым голасам кажа „яна".

З „ёю" ўвесь час як быў на румынскім фронце перапісваўся.

У „яе" доўгія косы і сінія вочы. Ён гасьціць у яе бацькоў. Жаніхоўскі настрой.

Пільна ўглядаецца ў айца Дзімітрыя малады афіцэр, малады, але абветраны ў бойках. Дзе яго ня было—на Каўказе, у Крыме, на дзянікінскім, а пасьля...

Толькі вочы тыя самыя засталіся

Афіцэр-стратэг перасьцерагае айца Дзімітрыя знаёмым голасам, якога айцец даўным-даўно слухае з пашанай:

— Ня пішы. Небясьпечна... Прымежная паласа... На цябе падазронасьць падзе... Яшчэ па стылі пазнаюць... Ня пішы... Словамі лепш... Праз сваіх людзей... Кожнаму на вуха... А то... скончыцца, як з Язэпам Крушынскім...

Айцец Дзімітры рве „надрукаваную" паперу на дробныя кавалачкі, кідае ў грубку.

За вакном кроплі—кап, кап, кап.

Айцец Дзімітры ўздыхае.

— І лезе ў яго ўяўленьне вось што...

...Колькі год таму назад сустрэча. Неспадзяваная сустрэча з Лявонам Максімавічам Лапоўскім. У лесе каля Курганішча. Такая выпадковасьць... Была тады залатая восень. У лесе цьвіў верас. Пахла апенкамі. Клёны былі афарбаваны. Лісты на іх былі падобны да медзі і, здавалася,—вось-вось зазьвіняць.

Лапоўскі?

Разам афіцэрнічалі на Румынскім фронце. Потым—адзін беларускім дыплёматам, другі—папом.

Доўга гутарылі тады ў лесе.

Лапоўскі ўвесь час накіроўваў на адно:

— Трэба арганізаваць старое афіцэрства. Асабліва каля граніцы. Ды ў нас уся Беларусь граніца.

Хваліў за папоўства.

— Пад кудламі і расай цёпла і спакойна. А ў сэрцы—стары афіцэр. Блізкія сустрэчы з сялянствам. Самыя найлепшыя ўмовы для арганізацыі. Трэба быць нагатове. Ня шкодзіць і зброя. Нават неабходна. У любую хвіліну можна чакаць вайны. А тады...

Вочы Лапоўскага блішчэлі, падсьлепаватыя, у акулярах.

Ад захапленьня дрыжэў.

— А тады...

Далей словы непатрэбны былі. Ясната выпірала аднаго слова „тады“.

Так мы па ўсёй Беларусі наладзім. Старое афіцэрства—наша галоўная апора. Наша будучая (блізкая) вайсковая сіла. Пэўная і шчырая.

Пасьля гэтага калі-ні-калі поп езьдзіў да Лапоўскага ў Менск.

Пад папоўскай расай закіпела стара-афіцэрская кроў.

Айцец Дзімітры ўздыхае.

Гараць у грубцы дробныя кавалачкі „надрукаванай“ паперы. Ад іх—адзін попел.

...Сьцеражыся, поп...

Марудна і надакучліва поўзаў дзень за вакном на гародзе. Чорная зямля, аголеная ад сьнегу, і цёплае сонца гаварылі пра вясну.

За вакном кроплі—кап, кап, кап. Дзялілі дзень на драбнюткія, на мікроскопічныя пылінкі.

...Сьцеражыся, поп...—чуў айцец Дзімітры голас хвілін.

Вечарам прышоў да яго Слуп.

— Бацюшка, напісаў?

— Не... Не...

...Сьцеражыся, поп...

Сполах у вачох айца.

...—Што ты, мілы мой... Ня можна так супроць савецкай улады... Ты глядзі... каб і Бочка ня ведаў... Сказанае слова ніхто за хвост ня зловіць; гавары колькі хочаш, а з напісаным—не жартуй...

...Сьцеражыся, поп...

---

Праз некалькі дзён у новым клюбе адбыўся яшчэ адзін сход.

Голас брыгадзіра з Менску, наборшчыка Сакалоўскага, роўны, спакойны і пераконваючы.

— Беднаце і серадняцтву адна толькі выгада пры тэй сельскай гаспадарцы, дзе людзі, працуюць разам, вялікай грамадою.

Толькі ў колектыве вызваліцеся з-пад эксплёатацыі кулака, які па сягоняшні дзень трымае вас у руках. Мала вы яму працуеце за малатарню, за пазычку збожжа, грошы каня? Колектыў зьніме з вас многа лішніх клапот па гаспадарцы, палегчыць працу, павялічыць ураджаі.

Доўга гаворыць брыгадзір Сакалоўскі.

Маўчыць сход, прыслухоўваецца. Ніхто прамоўцу не перабівае.

Лямпы „молнія" асьвятляюць шапкі і хусткі роўным сьвятлом.

Бываюць хвіліны, калі Сакалоўскаму здаецца, што ўсе з ім цалкам згодны. Тады яго голас становіцца яшчэ больш лагодным. А часамі яму здаецца, што такая маўклівасьць, бяз ніводнай рэплікі з боку сходу, азначае незацікаўленасьць да яго слоў, выглядае нейкай раней падрыхтаванай змовай. Тады з голасу яго пачынаюць зрывацца нібы іскры з крэменя ноткі нецярплівасьці, злосьці. Ен гаворыць і той-жа час думае, што куды лягчэй збудаваць новы завод, чымся арганізаваць колгас.

Не падабаецца Сакалоўскаму загадкавая маўклівасьць сялян.

Дзе-ні-дзе мігацяцца рубінамі аганькі папярос. Вочы становяцца хмурымі. З розных куткоў чуецца нецярплівы кашаль.

— Ня думайце,—кажа Сакалоўскі,—што як толькі ўступіце ў колгас, дык адразу пападзяцё ў соцыялістычны рай. Ніхто вам гэтага не абяцае. Але агульнымі сіламі вы даб'яцёся посьпехаў. Ня думайце, што ў колектыве ня будуць вам перашкаджаць нашыя ворагі. Але гэта вам добра вядома.

Калі Сакалоўскі скончыў, сход і дыханьне стрымаў. Да воплескаў у прэзыдыуме далучыліся толькі комсамольцы і „Леў Талстой". І гэтыя воплескі—адзінокія, не падтрыманыя ўсім сходам—здаліся дзіцячай гульнёю ў аладкі.

Сакалоўскі сеў і давай прыглядацца да дзесяткаў вачэй маўклівых людзей. У вачох некаторых блішчаць іскрачкі стрыманага сьмеху. Ня то злосьць, ня то сум заўладаў Сакалоўскім.

Мікола ў сваім чарговым выступленьні прыводзіў лічбы з іншых колгасаў БССР, дзе кожны гэктар зямлі дае ў два разы больш, чымся ў аднаасобніка.

— Няўжо-ж вам так цяжка і боязна, таварышы, адмовіцца ад сваіх вузенькіх шнуроў, ад праклятых дзедаўскіх межаў?— запытаўся ён у многагаловага сходу.

— Цяпер, таварышы, кажэце вы свае думкі без усялякай утойкі,—кончыў Мікола і зірнуў на залю.

— Хто просіць слова? -запытаўся Драчык.

Сход маўчыць. Вочы ўсіх накіраваны ў бок прэзыдыуму.

Марцін, швагер Міколы, падняўся:

— Я прашу слова!

У надзвычайнай цішыні голас Марціна здаваўся адзінокім і бездапаможным. Марцін пабляднеў і падняў па-піонэрску руку.

— Дык вось, таварышы! Сягоньня Дразды і Дзятлы ды ўсе іншыя павінны раз назаўсёды пакончыць з тэй музыкай, якая

цягнецца ад бандыта Язэпа Крушынскага. Вы ледзь ня ўсе парабкамі былі ў яго, за гарэлку і касу ён вас купляў і прадаваў. У яго вы заўсёды талакою працавалі, а для сябе вы ня хочаце агульна весьці сваю гаспадарку. Я думаю, што сягоньня ўсе дадуць згоду арганізаваць у нас колгас. Я першым іду!

— Бач, як швагер швагру комэрцыю падтрымлівае!—крыкнуў хтосьці з грамады раздражнёна і злосна.

— Хто яшчэ просіць слова?—запытаўся Драчык і давай аглядаць сход, плаваў вачыма па лаўках, лавіў здаровым вухам галасы сялян.

Шушуканьне прайшло па ўсіх кутках. Адзін кашлянуў.

— Ты, Мірон, просіш слова?—зьвярнуўся Драчык да таго, хто кашлянуў.—Дык ня кашляй, а гавары сьмела! Люблю шчырасьць, няма чаго маўчаць, таварышы!

— Я не прашу,—апраўдваўся Мірон і яшчэ раз кашлянуў.

— Ніхто ня хоча выказацца? І так усё ясна? Тады можа хто пытацца хоча?

Ніхто не зварухнуўся.

Зрабілася так ціха, што чуваць было, як стары Сухарукі старанна цмокаў сваю люльку.

— Пастаў, Антось, на галасаваньне!—шапнуў Мікола.

— Хто за колгасы?—крыкнуў Драчык.

Яго ліхаманкавыя вочы ахапілі ўсю залю. Над галовамі сходу ён заўважыў толькі двое рук—Марціна і Мэры.

Драчык глядзеў на дзьве паднятыя рукі, як на выспы паратунку ў бурлівым моры, і ахрыплым голасам прагаварыў:

— А яшчэ хто?

— Ніхто...—мармытнуў „Леў Талстой“: ён рыхтаваўся лічыць галасы.

— Хто супроць колгасу?

Драчык сьціснуў зубы. Сківіцы ў яго дрыжэлі ад напружанага гневу. Вочы кідалі нажы на анямелы сход.

— Ніхто...—уздыхнуў „Леў Талстой“.—Хто-ж гэта іх зачараваў? Трэба прызнацца, гэта ўжо нешта нейкае... Та-а-ак...

— Хто стрымаўся?

— Ніхто

Пры гэтым слове „Леў Талстой“ выцер акуляры, а хацеў выцерці ўспацелы лоб...

Мікола ўтаропіўся ў залю.

Апрача вачэй, па рознаму бліскучых, гаварлівых бяз слоў, ён нічога ня бачыў. Твары і постаці зьліваліся перад яго зрокам у адну туманістую бясформеную масу. Ён успомніў саламяныя стрэхі, вузенькія шнурочкі, схудалых маленькіх конікаў, малаўрадлівую глебу. Забалела... Чым прабіць гэту многавекавую саламяную крэпасьць, якая прапахла клапамі, „сьвятымі“ абразамі і брыдкімі лаянкамі? Як ты ім дасі зразумець, што колгас—адзіны для іх паратунак? Няйнакш варожыя лапы заткнулі ім раты...

Перад яго вачыма пачалі з туману вырысоўвацца знаёмыя постаці Драздоў і Дзятлаў. Вось Сухарукі піпкае сваю люльку. Удава Мацеіха глядзіць спалоханымі вачыма, ківае галавою і нібы прыгаварвае: „божа мой, божа мой". А там далей у цені каля самых дзьвярэй двое шэпчуцца. Адзін наставіў вуха, а другі блізка губамі прысунуўся.

— Дык што-ж вы, таварышы маўчыцё?—(голас Міколы нэрвовы, няроўны).—Я-ж бачу сярод вас нямала беднаты. Няўжо ж вы ня ведаеце, што ў Чырвоным Кастрычніку бедната лепш жыве, чымся вы ў адзіночку? Чаго вы баяцёся? Вы-ж нічым не рызыкуеце. Саламяныя стрэхі і вузенькія шнурочкі—не вялікае шчасьце, за якое трэба трымацца і рукамі нагамі. А не спадабаецца колгас, ніхто вам не забароніць выйсьці з яго. Прымусу ў нас няма. Усё гэта па добрай волі.

— Няхай савецкая ўлада выдасьць закон, каб усе ішлі ў колгас, тады пойдзем!—пачуўся жартаўлівы голас з задніх лавак.

— Законаў такіх няма. Я ўжо казаў, што гэта добрая воля кожнага грамадзяніна.—Драчык павесялеў. Ён рад быў, што хоць адзін загаварыў.

— Калі па добрай волі, дык ня хочам...—адказаў той-жа голас.

Драчык стукнуў кулаком аб стол, закрычаў:

— Гэй, хто там? Выходзь сюды, кулацкі аблакат! Чаго хаваешся, як мыш пад венікам? Сюды ідзі! Вы што гэта, таварышы, кулацкага падпявалу нанялі за аблаката?—сказаў Драчык ахрыплым раптам голасам. Яго голены твар успыхваў чырвонымі латкамі. Драчык цяжка дыхаў. Аглядаў сход. Нібы ўпяршыню бачыць гэтых людзей.

Абазвалася некалькі галасоў. Ня то апраўдваліся, ня то злаваліся, ня то радаваліся:

— Ніхто Слупа не прасіў за нас гаварыць!

— Ён сам за сябе!

— Ліха яго бяры, гэтага аблаката!

Мікола прыглядаўся, прыслухоўваўся.

...Прабіта саламяная крэпасьць, — падумаў ён.—Людзі загаварылі.

Дзе-ні-дзе на лаўках блішчэлі рубіны папярос, успыхвалі,ніклі, зноў мігаценіся.

— Дык можа цяпер хто з вас выступіць, таварышы?

Высунуйся наперад Сухарукі. Высокі, тонкі, як жэрдка, ён падышоў аж да прэзыдыуму. Усе павярнуліся з цікавасьцю ў яго бок. Ён выняў люльку з губ, спакойна вытрас попел і палажыў люльку ў кішэнь штаноў.

— На-а-а!—прагаварыў ён урачыстым голасам і паглядзеў бліскучымі, як тлеючыя вугольлі, вочкамі на прэзыдыум. На-а-аце маё горла! Рэ-э-эжце!

Ён выставіў наперад сухі, зморшчаны, пажоўклы гарляк.

— Рэжче, усёроўна не пайду! Альбо піпка, альбо рыбка! Усёроўна хутка памру. Мае бацькі і дзяды адбывалі паншчыну, а мне дайце хоць памерці спакойна. Маёй мяжы не чапа-а-айце! Ніко-о-ога не баюся! Вось арыштуйце мяне, калі хочаце! Арыштуй, Драчык! Арыштуй!

— Ніхто і ня думае цябе, дзядок, арыштаваць,—сказаў усхваляваны Мікола.—Ня хочаш, ня ідзі ў колгас.

— Ня слухайце, што стары пляце,—абазваўся барадаты сын Сухарукага, Пархвен.—Сядзеў-бы, тата, на печы, лепш было! Як усе зробяць, так і мы!

Яго сын, Пархвен засароміўся, пачырванеў і выціраў нецярплівай рукою буйныя кроплі поту з твару.

Паднялася раптам з месца ўдава Мацеіха.

— А я скажу перад усімі, хто нам тут круціць мазгі!

— Гавары! Гавары!—падбухторылі некаторыя.

— А вы думаеце, баюся сказаць?—зьвярнулася яна да сходу,—зусім не баюся! Старога так навучыў гаварыць Слуп. Ён ды яшчэ некаторыя ўвесь час нас баламуцяць.

— Ах, гадзіна!—крыкнула Слупіха,—вечна корміш цябе, а ты вунь што ўзводзіш на нас!

— Ды я-ж твой падарунак назад аднесла! Лявон і ня думаў есьці,—аж узьвізгнула Мацеіха.—Слуп і старога Сухарукага навучыў, а ўвесь сход маўчаць вучыў. Я гэта таму, што нейк ня добра гэта і ўсё такое.

Ад хваляваньня ў Мацеіхі збялелі губы. Шэрая хустка зьехала на лоб.

Сход загуў, як устрывожаны вулей.

Цяпер ужо многія парываліся гаварыць. Перабівалі адзін аднаго, падніmаліся з лавак, крычалі на розныя галасы. Нібы паводка, якая хоча прарваць грэблю.

...Рушыцца саламяная крэпасьць...—узрадаваўся Мікола.

— Ня толькі Слуп!—крыкнуў Яўхім, чалавек у кажуронку.—Тут і Бочка ды яшчэ некаторыя! А мы беднота за колгас стаім! Няма, казаў той, чаго нам баяцца. А то многія—„страх бярэ“!

Некалькі чалавек пры гэтым шуганула за дзьверы. У агульным тлуме і сумяціцы ніхто гэтага і не заўважыў.

---

Спалоханы і злосны бег Слуп. Ён туліўся каля вуглоў будынкаў, каб ніхто яго не заўважыў.

Ноч была цемная і вільготная.

Боты Слупа хлюпалі ў мокрым сьнезе. Мінуўшы вёску, ён пайшоў дарогай. Часта азіраўся навакол, ці ня гоніцца хто за ім.

Ноч агарнула яго з усіх бакоў. Вільготны вецер калоў твар халоднымі шыламі.

— Цікава, што на гэта ўсё скажа бацюшка...—мармытаў Слуп і адварочваў твар ад ветру.

Скрыгатаў зубамі і прыдумваў розныя рэчы:

...Млын падпаліць?..

...Каля млына ўночы ходзіць варта...

... Застрэліць Драчыка або Міколу Ярэмчыка?...

...Хто яго ведае...

Успомніў няцікавы лёс Язэпа Крушынскага.

Студзёны вецер сьцёбаў у твар.

Здалеку мігацеўся прытульны агеньчык з хаты айца Дзімітрыя.

---

# 40

## Рашучы бой

У СЕЛЬСАВЕЦЕ няма мапы, але Антось Драчык ведае на памяць, як сваю далонь, тую ваколіцу, дзе ён радзіўся, вырас і жыве па сягонешні дзень.

...Пяцьдзесят процантаў сельсавету ўжо колектывізавана.

Той сход у клюбе быў пераломным. Большасьць Драздоў і Дзятлаў згадзілася ісьці ў колектыў. За імі пайшла і вёска Глухаўка. Цяжэй з хутарамі ды пасёлкамі.

Шэрыя вочы Драчыка за гэты час заўпалі. Ён па начох ня спаў. Некалькі разоў езьдзіў у райколгассаюз за парадамі і кіраўніцтвам.

Абшар сельсавецкай зямлі стаяў увесь час перад вачыма.

Рэчка на вялікім балоце цягнецца на некалькі вёрст, робіць розныя ўзьвівы, лукі, падковы. Яна служыць гранічнай паласою. Каля яе стаяць прымежныя слупы. Далей мяжа ідзе праз хваёвы лес роўнай, як струна, лініяй. Яшчэ далей мяжа прасякае аграмаднае поле, тлустае, роўнае, без каменьняў (тут ёсьць разгул для трактараў). У гэтым месцы калючы дрот дзяржаўнай мяжы. На тым баку калючага дроту вёска Рудня. Туды ў прымакі пайшоў старшы брат Драчыка. Даўней Драчык там бываў часта. Ведае ўсіх сялян вакольных блізкіх вёсак на тым баку. Калі стаіш на высокім камені, што ляжыць на полі, і глядзіш туды, дык за Рудняю бачыш яшчэ некалькі хутаркоў.

І вось што кажа Антось Драчык сельсавецкаму актыву:

— У нас ёсьць торп, у нас ёсьць гліна, у нас ёсьць добры будаўнічы лес. Ды мы яшчэ самі ня ведаем, якія багацьці ёсьць у нашым сельсавеце...

І вось што кажа наборшчык Сакалоўскі Антосю Драчыку:

— У вас няма сельска-гаспадарчых машын, у вас няма добрай жывёлы, у вас многа няпісьменных, у вас мала школ. Ды вельмі шмат чаго не хапае.

Усё гэта хутка будзе!

А на сельсавецкіх сталох ляжаць сьціркамі, кубікамі карткі— рэшткі часоў Язэпа Крушынскага, калі былы старшыня сельсавету рабіў розныя фокусы.

На стале Драчыка гарыць газавая лямпа і асьвятляе пакой жоўтым маленькім язычком. На сьценах мільгаюць цені. Перад

яго нутраным зрокам—нямалы абшар сельсавету, асьветлены сонцам, жыве новым жыцьцём...

У гэтыя ночы Драчык сьпіць толькі па тры-чатыры гадзіны. Схуд за гэты час.

— Яшчэ адна пяцігодка,—думае ён.

---

Пасьля адлігі выпаў новы сьнег.

Зьмітрок, Драчык з брыгадай комсамольцаў паехалі ў пасёлак да Хвёдара. Санкі шпарка сьлізгаліся па сьнезе. Мільгалі перад вачыма і адсоўваліся назад платы, дробныя хмызьнячкі.

Трохі няпрыемна Зьмітраку:

...Калісьці разам у арміі служылі, былі шчырымі таварышамі. Чужым зрабіўся цяпер Хвёдар, чужым і далёкім...

Бялее на ўзгорачку прышчэпаўскі пасёлак, які выгадаў пару новых кулакоў ды ўзмацніў ранейшых.

Лёгка імчацца санкі шорхаюць па пухкім сьнезе.

Пасёлак расьце перад вачыма, набліжаецца.

На Хвёдаравым двары іх сустрэла гаспадыня, Хвёдарава жонка.

— Да нас?

— Да вас.

— Гаспадыня выцірае рукою сьняжынкі з русых валасоў, падазрона глядзіць на гасьцей.

— Хвёдар дома?

Маладая ружовая Хвёдарыха аглядаецца па бакох, паратунку шукае.

— У хаце яго няма,—кажа яна.

Ноткі спалоху ў голасе. Яна ўтаропіла вочы ў твар Зьмітрака, шукае ў ім тлумачэньня: навошта запатрэбіўся Хвёдар.

— Дык дзе-ж ён?—не адстае Зьмітрок.

Яна стараецца не глядзець у бок гумна. Адвярнулася тварам да абледзянелай студні.

— Ня ведаю, дзе Хвёдар.

— Ня ведаеш, дык абыйдземся без яго.

Нешта такое было ў голасе Зьмітрака, ад чаго яна яшчэ больш устрывожылася.

— А вы па якой справе прыехалі?

— Трэба апісаць вашу гаспадарку,—сказаў Драчык.

Жанчына пабляднела. У яе вачох загарэліся два аганькі.

— Вось як... Вось як...

Адвярнулася ў бок гумна і крыкнула:

— Хвё-о-о-да-ар!

— Глядзі, і Хвёдар дома!

Зьмітрок усьміхнуўся, і дзьве глыбокія маршчынкі зайгралі на яго ілбе.

Да двара падыходзяць некалькі пасялкоўцаў.

Зацікаўленымі вачыма паглядаюць на Зьмітрака, Антося Драчыка і маладых хлапцоў, якія стаяць каля санак.

Зьмітрок з імі вітаецца.

— А ты, Сідар, што валачэшся хворы?—пытаецца ён у аднаго худога селяніна ў латаным, зашмальцаваным кажушку.

— Усёроўна.

Сідар махае рукамі. Ён ледзь на нагах стаіць ад слабасьці.

— Хто сёлета ў цябе касіў луг?

— Хвёдар...

— І ўсё сена забраў?

— Навошта мне сена, калі ня маю каго карміць гэтым сенам. Бачыш, хварэю; жывёлу прадаў.

Сідар вінавата апускае галаву.

— Хвёдар і каня ў мяне адкупіў,—мармыча ён ціха, нібы сабе самому навіну гаворыць.—Дзеці малыя...

— Хвё-о-о-да-ар!—крычыць гаспадыня ў другі раз.

— Чаго-о-о табе?—плыве з пуні Хвёдараў адказ.

— Ды ты, Марыля, ня крычы. Мы да яго пойдам,—супакойвае гаспадыню Зьмітрок.

Гаспадыня ўсплясьнула рукамі:

— Абожа-ж мой... А мі-і-іленькі...

У пуні яны засталі Хвёдара пры тым, як ён канчаў аблупліваць карову. Над цёплым яшчэ тулавам віўся ледзь прыкметны дымок пары....

— Га?—адазваўся Хвёдар на прывітаньне Зьмітрака:

— Ты ня кепскі скуралуп! Навошта такую добрую карову зарэзаў?

— Як навошта, на мяса,—спакойна адказвае Хвёдар.

— А ведаеш, што дастанеш за разбазарваньне жывёлы?

— Жывёла мая. Што хачу тое і раблю.

Хвёдар адразу падняўся, і твар яго зрабіўся сур'ёзным. Ня ведаў, як схаваць боты і рукі—запэцканыя ў крыві.

— Эх, ты скуралуп! Раней Сідара некалькі год лупіў, а цяпер вось што ты робіш! Хадзем! Трэба рабіць вопіс тваёй гаспадаркі. Хлопцы, запрэце пуню, каб сабакі ня ўлезьлі сюды,—зьвярнуўся Зьмітрок гаспадарчым тонам.

— Што? раскулачваеш?—запытаўся Хвёдар зьмененым раптам голасам, і левая рука ў яго павісла, як чужая.

Зьмітрок нічога не адказвае.

У хату ідзе ўжо не ранейшы Хвёдар, моцны і ўпэўнены а чалавек, якога раптам нібы схваціў паляруш. У яго апусьцілася галава.

На гумне нібы дробныя хатачкі з дзіцячых казак стаяць, рамачныя вульлі. Іхныя маленькія стрэшкі абтушаны сьвежым сьняжком. Дзьверцы і сьценкі вульляў хварбаваны ў зялёны колер. Над вульлямі нібы белыя пчолы, кружацца-мільгаюць сьняжынкі.

— Падлічы, Лявон, вульлі,—загадаў Зьмітрок аднаму маладому хлапцу з комсамольскай брыгады.

---

...А цяпер так трэба рабіць...—навучаў айцец Дзьмітры.— Зараз-жа, пакуль ня выслалі, падацца ў колгас. Усім нашым гаварэце, каб ішлі... А далей відаць будзе. Трэба, каб колгасы апынуліся ў нашых руках... Вы разумееце?

— Разумею...—кажа Слуп.

— Разумеем яшчэ як...—дадае Бочка. Нас дык, мабыць, ня прымуць, але іншых з нашых возьмуць.

Той самы маленькі пакойчык. Тая самая лямпа на стале.

„Матушка“ слухае вельмі зацікаўлена. Жвавы кот грае фрэнзьлямі сарвэткі, якія вісяць з камоды.

Мала таго, што акяніцы зачынены, вокны шчыльна завешаны тканінамі.

На двары сеецца дробны сьнег, пытлюецца, пыліцца і туліцца каля платоў і сьцен будынкаў невялікімі гурбамі. Каля сьцяны сьцелецца сіняя ноч. Над купалам царквы вісяць халодныя зоркі.

Айцец Дзімітры п‘е гарбату. „Матушка“ налівае з самавара і гасьцём. Яны, чырвоныя і потныя, слухаюць яго настаўленьні:

— Да вясны трэба так-сяк трымацца, а потым пабачым. За граніцай маўчаць ня будуць. А як толькі вайна, дык наш сельсавет у першы дзень будзе вызвалены.

Айцец аглядаецца на завешаныя вокны. Доўга прыслухоўваецца, прыгнуўшы трохі галаву на левы бок. Апрача шуму самавара, нічога ня чуваць.

— Вясною нешта будзе. Вайна немінуча. Увесь сьвет супроць тутэйшых парадкаў...

Голас айца шапатлівы і мэлянхолічны.

— Канец усяму-ж гэтаму павінен быць. Так цягнуцца доўга ня можа...

Ён частуе гасьцей папяросамі.

— У мяне іх цэлы запас. Яшчэ ў восені купіў на трыццаць рублёў. Цяпер у коопэрацыі ні за якія грошы не дастанеш.

„Матушка“ перагортвае старую „Ниву“. Глядзіць на малюнкі ды любуецца:

— Вось прыгожа. А як пісалі даўней. Прыемна чытаць.

— Э-э-эх...—глыбока ўздыхае айцец Дзімітры і вачыма ўпёрся ў сьцяну, нібы некага бачыць там жывога. Вочы ў яго павялічыліся, пацямнелі.

На двары скаголіць вецер.

Каля сьцен царквы мільгаюць цені. Вось яны вызначаюцца чорнымі профілямі, а вось сьнег зноў закруціў кламатымі сівымі лапамі пачаў мацаць высокія сьцены, давай пыліць па іх белай мукою.

І зноў нікога няма.

Толькі ноч, сіва-сіняя, глядзіць з усіх бакоў, вандруе па сьнежным полі ў абмерзлых лапцёх. А з зажмураных далячынь імчыцца вецер, імчыцца грозны і суровы і блытае па саламяных стрэхах свой заільдзянелы бурнос.

І думае айцец Дзімітры:

...Хутчэй ужо скінуць гэту агідную расу ды зноў апрануць бліскучы мундзір паручніка...

Слуп і Бочка кураць папяроскі, зацягваюцца смачным дымам, і па іх тварах расплываецца прыемнасьць.

— Даўно такіх добрых папярос ня курыў.

— Аг-га...

Трывожна забрахаў на дварэ Мурза.

Акамянеў айцец Дзімітры і давай азірацца па бакох.

Слуп і Бочка ўскочылі з табурэтак.

— Хто гэта можа быць?—устрывожылася „Матушка“ і адкінула ад сябе „Ниву“.

Загаласілі, завылі на розныя галасы ўсе сабакі вёскі Глухаўкі.

У айца Дзімітрыя ледзь дрыгнула барада.

— Няўжо-ж...—прамармытаў ён...—Няўжо-ж вобыск?

Адну хвіліну прыціснуў стол правай рукой. Пальцы пабялелі. Супакоіўся:

— У хаце нічога ня знойдуць. Няма чаго баяцца.

— Адчыне-е-це!

На ганку тупат ног. Увайшлі ў хату вайскоўцы-прымежнікі.

У прытульны пакой уварваўся холад зімовай ночы.

Вочы ў людзей блішчаць. На брывох срыбны шэрань.

---

Аж да поўдня круціла завея. Марозным подыхам яна імчалася па полі, замеценых дарогах. Гурбы сьнету наносіла на гумны, на вясковыя двары.

Мікола і Сакалоўскі сягоньня яшчэ нікуды не выходзілі. Трэба ехаць у Менск, а тут гэткае надвор'е.

Марцін лапатай пракопвае сьцежку ад двара да гумна, а Мэра трымае на каленях Зорачку і кажа да Міколы і Сакалоўскага:

— Не бядуйце, пад вечар паедзеце. За дзень дарога палепшае.

— Навошта чакаць?

— Ды ўсёроўна адпачнеце. Гэтулькі ў нас працавалі. Ды як працавалі. Ня елі, ня спалі.

— Ну, гавары, гавары! Яшчэ што скажаш?

— Ахрып ты Мікола, высах, аброс барадою.

Зорачка паўтарае за Мэрай:

— Дзядзя ахліп, высах, аб'ёс баядою...

Усе сьмяюцца.

— Аж нейк ня верыцца,—кажа Мэра,—што ў нас ужо колгас. Здаецца, нічога не зьмянілася.

— Вясною зьменіцца. Тыя межы, якія цяпер занесены сьнегам, будуць завораны. Іх зьнішчыць трактар.

— Мама, сьто такое т'яктай?—пытаецца Зорачка.

Не пасьпела Мэра адказаць Зорцы на гэтае запытаньне, як у хату ўвайшоў „Леў Талстой“.

Не сказаўшы „дзень добры“, ён адразу запытаўся:

— Чулі?

— А што?

„Леў Талстой“ да таго ўсхваляваны, што доўгі час атрасае нешта нявідочнае з барады.

— Ды на вашай барадзе няма сьнегу!—сьмяецца Мэра.

— Так. А я, трэба прызнацца, мог-бы яшчэ доўга трэсьці, бо яна белая сама па сабе, а я ўсё думаю, што на ёй сьнег. Так. Ух, ты! Забыўся, што мне даўно стукнула шэсьцьдзесят год. Так. Мая барада і летам пакры...

— Дык раскажы, брат, у чым справа? Чаго прыбег так раптоўна?—зацікавіўся Мікола.

„Лев Талстой“ частавіў на яго вочы, памацаў кішэні ды ўстрывожыўся;

— Ах, ты ліха! Акуляры ў хаце забыўся!

— Раскажы без акуляраў,—параіў Мікола і ўсьміхнуўся.

— Так. Сягоньня ў ночы быў вобыск у бацюшкі. Арыштавалі яго і Слупа і Бочку. Яны якраз былі на той час у яго хаце. Доўга шукалі, дык вось у царкве раскапалі нейкі стары склеп, а там знайшлі пудоў сто тухлага збожжа, шмат контрабанды і дзьве кадкі з салам: каля пятнаццаці пудоў.

— Ого-го-о-о! Гэта дзела!

Мікола ўскочыў з свайго месца.

— Бачыш ты іх! Дзе-ж яны цяпер, арыштаваныя?

— Павезьлі ў Шапалевічы—ў раён. Так. А раскулачваньне ідзе поўным ходам!

— Каб хаця Драчык не перахапіў мерку,—заўважыў Мікола. Але не! Было ўсё гэта абмеркавана раней з удзелам раёну. Пагрэйся, стары, і назад туды пойдзем—у Гайдачаны.

— Не ў Гайдачаны, а ў Першае мая. Так—паправіў яго „Леў Талстой“.

Як супакоілася завея, засьвяціла яркае сонца.

Бліскучы і крохкі сьнег сьляпіў вочы. Мікола, Сакалоўскі і „Леў Талстой“ ішлі ў Першае мая.

„Леў Талстой“ усю дарогу апавядаў падрабязнасьці вобыску. Пры гэтым кожную хвіліну спыняўся і ўстаўляў у свой верставы монолёг сьвежыя навіны:

— Ага, ледзь не забыўся. Так. Раскулачваюць сягоньня Слупа і Бочку. Так.

Прайшлі яшчэ трохі і „Леў Талстой“ зноў успомніў:

— Бацюшка, як кажуць, зусім ня быў раней духоўнай асобай, а белагвардзейскім тоісь афіцэрам. Так.

...Вось табе „храм божы“,—думае Мікола.—А хлебанарыхтоўкі? У кулака лепш згніе збожжа, а дзяржаве даць ня хоча...

— Ага,—перабіў яго думкі „Леў Талстой“,—шмат золата знайшлі ў склепе пад царквою. Так. Бацюшка, тоісь афіцэр белагвардзейскі, тлумачыў, што золата і контрабанду тут схаваў ня ён, а Язэп Крушынскі.

---

Сельсавет перанесьлі з Гайдачан у дом бацюшкі. Драчык яшчэ ўвосені зьбіраўся гэта рабіць. Усё часу ня было.

Царква зусім забыта людзьмі. Дзьверы яе занесены сьнегам Часта Драчык глядзіць на яе праз вакно сельсавету. Яна мазоліць яму вочы.

Ї вось была пушчана пагалоска, што стары Сухарукі, адзін з бацькоў Драздоў і Дзятлаў, нейк дзіўным зрабіўся. Пачаў гаварыць сам з сабою аб тым, што нікога на свае межы ня пусьціць, што крыжам ляжа, і сваёй зямлі нікому не аддасьць.

Стары Сухарук сядзеў прыкурчаны на шырокім тапчане і пазіраў праз акенца на двор.

Быў адзін з гарачых дзён колектывізацыі ў Гайдачанскім сельсавеце. На двары выла, скаголіла і хадыром хадзіла мяцеліца. Вецер насьвістваў па комінах заліхвацкія песьні. Салома па стрэхах так шурхала, нібы там гойсала стада спалоханых авечак. Квахталі трывожным квохтам старыя вароты. Гурбы сьнега паўставалі дуба і падалі плазма ля сутулых бярозавых платоў раненымі белымі мядзьведзямі, падалі і паўзьлі ракам па дварох і гумнах. Гурбы сьнегу раздвойваліся, растройваліся, зноў сьцісквалiся ў адно і курадымілі пад вакенцам.

Стары Сухарукі горбіўся ў кажуху на тапчане, зірк-зірк у шыбіну і мяцеліцы ня бачыў. Перад яго зрокам і слыхам як наўмысна зазелянелася веснавая трава, і заціўкалі жаўранкі. Над балотным абшарам шалясьцела крыльлем стада буслоў. А на полі за вёскай заворваюць у адзін абшар даўжэзныя, як дзедава жыцьцё, баразны разам з суседнімі і яго вузенькія, бы ручнікі, палоскі...

Глядзеў стары Сухарукі ў акенца і праз каламуць і сьляпніцу мяцеліцы адчуваў трывожную для сябе вясну.

— Крыжам лягу, а не дазволю!

Цмокаў з засосам абгрызаны, абсмактаны цыбук старой са шматгадовым дурнапахам люлькі. А ў люльцы ня было тытуну, яна ня дыміла. Заядлы курэц не запрыкмеціў...

---

Гэты дзень быў адным з гарачых ў Гайдачанскім сельсавеце.

Колгасны актыў меркаваў розныя пляны аб тым, як палепшыць жыцьцё Драздоў і Дзятлаў. Зьвінеў голас Антося Драчыка:

— Люблю праўду! Выкарчуем з нашай зямлі рэшткі мінулага! З карэньнем вырвем! Люблю шчырасьць, радавацца будуць людзі. Аратаі зьменяцца ў нас, новымі стануць. Гэтага ня ўцяміць хіба такія, як Сухарукі.

Блішчэлі радаснай дабратой шэрыя вочы Антося Драчыка.

---

Сухарукі пачаў рыдлёўкай раскопваць тое месца, дзе каля адзінокага дуба павінна быць мяжа аднаго з яго шнуроў, ледзь шырэйшы за мяжу.

Мяцеліца заскаголіла над старым, сарвала шапку з яго галавы і кудысьці занесла, закінула. Ён нават не запрыкмеціў...

Завея кідала яму ў вочы белае пер‘е, сьляпіла, ірвала з рук рыдлёўку. Дзед адкідваў, а завея намятала новыя гурбы. Дзед спацеў. Яму стала горача, расчыняе рот, і белыя мухі да балючай прыемнасьці язык студзяць. Шамкае бяззубым ротам сьнежны пыл, нібы манную кашу. Капае рыдлёўкай, шуфлюе, згінаецца, гэхкае. Вось дабіраецца да чысьцюткай зямлі, да сьвятой-сьвятых яе грудзей, дзе ўвосені жыцянымі шпілечкамі выціснулася з-пад верхняй лушпінкі глебы скупая рунь кепскага насеньня.

Мяцеліца мяце, а дзед:

— Альба—альба...

Правая рука моцна рыдлёўку трымае, левая ледзь дапамагае. Дзед рупна скінуў кажух. Горача, няпрытомна гараць вочы.

— Гэй, Галава, бацька Драздоў, дапамажы суседу!

Забыўся, што Галава ўжо зімуе першую зімку ў труне.

---

— Сухарукі забаламуціўся,—прынесьлі навіну ў вёску.— У чыстым полі сьнег адкопвае з сваіх меж...

— Бедны... Стары кацялок не пераварвае,—гаварылі колгасьнікі да Сухарукавага сына.—Няхай сабе дзед паасобку гаспадарыць.

— Дзе там яму гаспадарыць?—аж зазлаваўся той.—Мой стары з глуздоў зьехаў. Нічым тут не паможаш.

У другі раз Сухарукі—старэйшы з роду Дзятлаў—у цёмную ноч пашоў некуды. Хатнія не агледзіліся. Раптам пачулі людзі сярод ночы пераклікаеньне званоў. Устрывожыліся, аглядаліся, ці не палыхае ў небе полымя пажару. Прыслухоўваліся, ці ня чуваць крыку, гвалту. І пабеглі з усіх бакоў да забытай царквы.

На званіцы знайшлі адубелага ад мароза і зусім звар‘яцелага Сухарукага. Ён упіраўся рукамі і нагамі ды не хацеў зьлезьці.

Некаторыя старыя бабы пачалі прыдумваць новыя байкі аб „цудах божых“.

Тады колгасьнікі пастанавілі зьняць званы.

---

## 41

## Зрываюць маскі

Якраз гэтай парою ўрываецца праз вакно ў габінэт Антона Цярэшкі ранішняе сонца. Яно лезе на пісьмовы стол.

А калі ў гэты час Цярэшка сядзіць пры стале, яно грэе яму левую шчаку.

Сягоньня на стале красуецца стопка кніжак—„Галасы палёў“. На вокладцы—птушкі, падобныя да самалётаў, дзераўцы, падобныя да птушак, і хаткі, падобныя да дзераўцаў. Сонца з вакна палажыла на вокладку кніжкі рыжую лапу і хоча замазаць вокладку новым колерам.

Учора Цярэшка дастаў на кніжнай базе дваццаць пяць экзэмпляраў „аўтарскіх“. Каб даць кніжку з надпісамі „ад аўтара“ толькі самым блізкім, дык набярэцца да сарака, і то яшчэ некаторыя будуць крыўдзіцца і будуць напіманаць:

— Дзядзька Цярэшка, чакаю кніжкі.

— Дзядзька Цярэшка, яшчэ мне ня далі.

— Вы пэўна забыліся, дзядзька Цярэшка.

— Дзядзька Цярэшка...

Учора раздаў служачым на базе пяць экзэмпляраў.

Прычапіліся:

— Дайце, дзядзька Цярэшка. Мы пастараемся распаўсюдзіць вашу кніжку.

Ён насьпех пісаў хімічным алоўкам. Пры гэтым няпрыемна было пытацца як завуць. А прыходзілася. Ён пісаў:

„Ад аўтара“,
„На памяць“
„Паважанаму“,
„Дарагому“,
„З пашанай“.

Тое самае і ў кнігарні трэба будзе даніну аддаць. А як не дасі, калі ад гэтых „дарагіх“ і „паважаных“ залежыць продаж кніжкі? Купіш і дасі.

— А вось упяршыню Язэпу Крушынскаму не дасі.

Заўсёды той атрымліваў Цярэшкавыя кніжкі з самымі гарачымі надпісамі... Цяпер ён недзе далёка, дзе салаўі пяюць...

На двары сонца, мароз і вецер. У габінэце сонца, прытул і цяпло.

Цярэшка пачынае пісаць надпісы на першай балонцы кніжкі пасьля вокладкі. Пры гэтым у думках лаецца:

— Чорт ведае! Пішы вось... Куды лягчэй некалькі вершаў напісаць, чымся адно прысьвячэньне на кніжцы. Трэба так пісаць, каб кожнаму трапіць пад яго густ, стукнуць цёплым словам у самае сэрца. Трэба...

Ён піша:

*Дзеду беларускага руху, рыцару адраджэньня народу нашага, шаноўнаму і дарагому N . . . . . . . . . . .*
*Ад вас я вучыўся. Вы мяне, можна сказаць, выгадавалі. Заўсёды Вы мне надавалі натхненьне сваім вогненым гарачым і родным словам. Прыміце „Галасы палёў—думы сэрца майго—у знак найвялікшай да вас пашаны. Заўсёды Ваш*

*АНТОН ЦЯРЭШКА*

Цярэшка ведае: гэты дзядок-прафэсар возьме кніжку, кінецца яму на шыю цалавацца і пачне ад чульлівасьці выціраць вочы.

— Ідзі сьнедаць!—чуе Цярэшка з-за дзьвярэй голас жонкі.

— Зараз пайду.

Піша на другой кніжцы:

*Бацьку „НАШАЕ НІВЫ". Найлепшаму майму настаўніку і бацьку духоўнаму, шчыраму ратаю на роднай глебе N . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Буду лічыць за вялікі гонар, калі пачытаеце мае „Галасы палёў". Гэтыя вершы я пісаў, кіруючыся выключна Вашымі настаўніцкімі, каштоўным, для мяне, парадамі. Ваш духоўны сын АНТОН ЦЯРЭШКА*

І Цярэшку добра вядома: гэты дзядзя скосу, адным вокам, зірне ў кніжку, падзякуе і моцна пацісьне руку.

У габінэт усоўваецца хатняя работніца.

— Астыне гарбата. Пані Мар'я прасіла, каб ішлі сьнедаць.

— Добра.

І ён бярэцца за трэцюю кніжку:

*Вялікаму N . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . ад маленькага Цярэшкі. Адважуся паднесьці Вам свае „Галасы палёў". З сэрцатрапятаньнем буду чакаць Вашага слова аб гэтай кніжцы. Ваша ацэнка для мяне той маяк, які ў далейшым будзе сьвяціць на маім творчым шляху. Хілю галаву перад вашым геніем. Ваш вучань*

*АНТОН ЦЯРЭШКА*

Гэты і на кніжку ня гляне, пахваліць кніжку і яе зьмест, зірнуўшы толькі на вокладку, і скажа: „Як найхутчэй трэба апрыскаць вашыя „Галасы", а то ахрыпнуць. Хадзем пакуль што па кухню вып'ем, а там пабачым".

З-за дзьвярэй чуваць голас жонкі. Ноткі нецярплівасьці ў яе словах:

— Пойдзеш сьнедаць, ці не?

— Адчапіся!—кажа Цярэшка. На чарзе ў яго чацьвертая кніжка.

*Міламу і дарагому, шаноўнаму і паважанаму крытыку Гайдачу-Алалоўніку. Кіруюся ў творчасьці выключна Вамі. Адважуся даць Вам „Галасы палёў“ на строгі прысуд. Я ўпэўнены, што вы зразумееце аўтара і адчуеце „Галасы палёў: такімі, якімі яны ёсьць. Калі мяне прызнаюць як поэта, дык дзякуючы Вашай глыбокай і трапнай крытыцы. Сардэчна і шчыра дзякую за Вашыя прыязныя адносіны да мяне на балонках друку. Аддадзены Вам як нікому*

*АНТОН ЦЯРЭШКА*

А гэты?—О-го-го! Гайдач адразу прачытае прысьвячэньне, напісанае аўтарам на першай балонцы аж тры разы адным махам, пакруціць па-гусінаму галаву і скажа: „Дзякую, дзякую, дзякую, дзядзенька Цярэшка!“ Пачне трасьці руку моцна, рупна прыгнецца і яшчэ раз падзякуе, выпрастаецца і яшчэ раз падзякуе, выпрастаецца і яшчэ раз. І будзе дзякаваць пры кожнай сустрэчы яшчэ некалькі дзён...

Ціханька адчыняюцца дзьверы габінэта, і Мзей, дачушка Язэпа Крушынскага, якая жыве цяпер у Цярэшкавых, кажа:

— Дзядзька Антон. Цёця прасіла, каб ішлі есьці.

— Га-а-а?—усхапіўся Цярэшка.—Ідзі! не перашкаджай!

Спалоханая Мзей спрытна, як мышка, высоўваецца з пакоя.

Цярэшка бярэцца за пятую кніжку. Доўга думае, курыць ды злуецца:.

— Перашкаджаюць. Думкі перабіваюць.

Ён трэ левай рукою лоб і піша:

*Дарагому і слаўнаму Лявону Максымычу Лапоўскаму. Лічу, што гэта кніжка не мая, а Ваша. Бо Вы сваімі гутаркамі, сваімі філёзофскімі развагамі і чыста беларускай мудрасьцю заўсёды...*

Раптам у габінэт урываецца бура некалькіх галасоў. Цярэшка аж ускочыў з свайго месца. Дзьверы габінэта адчыніліся, і з сур‘ёзным тварам і грознымі вачыма пані Мар‘я несла шклянку гарбаты. За паняй Мар‘яй работніца ўрачыста трымала невялікую тацу. На тацы—булачка, сыр з маслам, каўбаса і хлеб. За работніцай ішла Мзей з абрусом у руках.

— Разумна прыдумана,—пахваліў Цярэшка і засьмяяўся. Я-ткі, па шчырасьці кажучы, прагаладаўся. Каб да такой процэсыі яшчэ пару музыкаў і адну балярыну, дык можна было-б з прыемнасьцю пасьнедаць

— Кінь глупства гаварыць, а сьнедай!—загадвае пані Мар‘я

Мзей кладзе абрус на пісьмовы стол, на „Галасы палёў“, работніца ставіць на абрус тацу з ежаю, а пані Мар'я—гарбату.

— Ой, абальецце мне ўсё гэта,—літасьці просіць Цярэшка і бярэцца за сьнеданьне.

Працэсія са сьмехам выходзіць.

У калідоры хрыпіць званок.

Мзей хутка прыносіць Цярэшку пошту: газэты, пару часопісаў і ліст.

Цярэшка адразу бярэцца за ліст. Глянуўшы на паштовы штэмпэль, кажа: „а-а-а, стары друг гадоў дзяцінства!“

Ліст ад Язэпа Крушынскага.

І Цярэшка думае. Думка яго ўдзячная.

...Малайчына Язэп! Сам пакутуе, а нашых ня выдаў. Мог-бы гэтулькі бяды нарабіць...

Вачыма прабягае па радкох ліста:

„Як там Настачка і Мзей?“

„Што там у Курганішчы цяпер робіцца?“

„Сустрэўся з аграномам. Шле прывітаньне. Я да гэтага часу блытаю Івана Мацьвеевіча Шапавалава з Антонам Сяргеевічам Мятловым“.

„Прышлі махоркі“.

Зноў званок.

Нехта прысьпешнымі крокамі ідзе адразу ў габінэт.

— Вы?

— Я.

Чалавек бяз знакаў прыпынку з портфэлем у руках.

— Можа гарбаты вып'еце?

— Дзякую. Я ўжо сьнедаў. Чыталі сягоньня „Савецкую Беларусь“?

— Яшчэ ня чытаў. А што?

— Там пра вашыя „Галасы палёў“...

Цярэшка паружавеў.

— Ну, як? Хваляць? Лаяць?

— І тое і другое, а наогул добра...—Чалавек бяз знакаў прыпынку ўсьміхнуўся.—Калі лічыць, што „іхняя“ лаянка нам хвальба (для падтрыманьня настрою Цярэшкі ён сказаў „нам“), а так яно і ёсьць, дык значыць хваляць...

— Паводле вашых слоў я разумею, што лаяць?—усхапіўся Цярэшка.

Чалавек бяз знакаў прыпынку выцер успацелыя акуляры і падсьлепаватымі вачыма зірнуў на Цярэшку.

— Зразумелі? Чудэсна! Добра, што зразумелі. Калі лаяць, дык „Галасы палёў“ хутка разыйдуцца. Непакоіцца, дзядзька Цярэшка, нам няма чаго.

Тым часам Цярэшка непакоіўся. Сьняданьне ў горла ня лезла. Ён узяўся за „Савецкую Беларусь“.

Аб „Галасох палёў“ быў надрукаваны артыкул на цэлы падвал. Паміж гонямі звычайнага корпусу дзе-ні-дзе сьвежа

ўзаранымі барознамі вызначаўся чорны корпус. Дробнымі межамі мільгалі пэтытныя радкі—урыўкі з Цярэшкавых вершаў.

Спачатку Цярэшка пачаў лавіць вачыма чорны корпус:

**„Гэта не галасы палёў, а галасы кулакоў“.**

**„Аб чым паэт сумуе? Аб чым льле горкія сьлёзы? Сум яго—сум кулака. Сьлёзы—плач клясавага ворага, які адчувае сваю нямінучую пагібель“.**

**„Цярэшка нам чужы“.**

**„Нас толькі дзівіць, як гэта выдавецтва друкуе такія кніжкі з контррэволюцыйным зьместам“.**

**„Цярэшка, мабыць, сядзеў у кулацкім хутары, калі пісаў гэтыя вершы“.**

Пакуль што Цярэшка задаволіўся чорна-корпуснымі выняткамі з артыкулу.

Пад артыкулам подпіс—Н. Бандарчук.

Цярэшка стукнуў кулаком аб стол. З яго горла вырвалася адно слова:

— Ха-ле-ра!

Чалавек бяз знакаў прыпынку з усьмешкаю за ім надзіраў.

— Дык чаго вы, дзядзька Цярэшка, хвалюецеся? Бандарчук добра зразумеў вашыя вершы.

— Яно так, але вось свой брат пісьменьнік напісаў...

— Які ён там „свой брат“, калі мы ў розныя бакі цягнем. Тут і брат ня брат і сват ня сват. А хто гэты Бандарчук?

— Белапавец.

— Вось бачыце, птушка з чужога гнязда.

— Я з ім вітацца ня буду!

Гаварыць з ім ня стану! Цярэшка яшчэ раз стукнуў кулаком аб стол і яшчэ раз сказаў:

— Ха-ле-ра!

Чалавек бяз знакаў прыпынку назіраў за ім з усьмешкай.

— Я ўсе-ж не разумею, чаго вы, дзядзька Цярэшка, злуецеся? Вы „іх“ дурнямі лічыце? Думалі, што не зразумеюць?

— Так то яно так, але...

— Супакойцеся...

Зноў званок.

Прышоў чалавек з вачыма сфінкса. Ён яшчэ не пасьпеў прывітацца, як запытаўся:

— Чыталі „Савецкую Беларусь“?

— Чытаў.

— Ну, дык не хвалюйцеся. Трэба прасіць Гайдача даць контркрытыку.

— Пабаіцца,—кажа Цярэшка.—Ён трымае нос па ветру. Цяпер, чаго добрага, лаіць пачне.

— Тады папросім Юбілейнага.

Тое самае.

— Дык што-ж рабіць?—пытаецца чалавек з вачыма сфінкса ў чалавека бяз знакаў прыпынку.

— А нічога рабіць ня трэба. На мой погляд, нават добра. Кніжка хутчэй разыйдзецца.

Тым часам пані Мар'я прынесла бутэльку віна і бокалы, падобныя да вадзяных лілеяў. Калі госьці выпілі, вастрыня ўражаньня ад артыкулу ступілася.

Цярэшка супакоіўся. А чалавек бяз знакаў прыпынку задумаўся, мэкнуў і сказаў:

— Дзядзька Цярэшка мае перад сабою ў недалёкай будучыні большыя абавязкі, чымся пісаць „Галасы палёў". Ня доўга нам чакаць прыдзецца. Тады нашыя „Галасы палёў" (ён зноў сказаў „нашыя") стануць падручнікам для маладых пісьменьнікаў.

Ён выпіў яшчэ раз і давай раіць Цярэшку, як трымацца. Пры гэтым чалавек бяз знакаў прыпынку меў прывычку, калі гаварыў нешта сардэчнае, глыбокадумнае і высокаўзьлётнае, выдаваць часта гук падобны да „м-м-м". Ён сказаў:

— Углыбецеся, дзядзька Цярэшка, у сябе, м-м-м. Думайце аб вечным характве, м-м-м, на зямлі і няхай вам не перашкаджаюць драбніцы. Будзьце горды сабою. Усё рэшта, м-м м,— трынь-трава!

Цяпер, як ніколі ў іншы час, чалавек бяз знакаў прыпынку быў падобны да апостала. Ён падняўся з месца з бокалам у руках і гаварыў сваё казаньне:

— М-м-м. Калі гэтыя „Галасы палёў" нам цяпер няпрыемнасьці прынясуць, дык ня трэба падаць духам. Панства духа бязьмежна шырока, м-м-м, і духоўнага на сьвеце бязьмежна шмат. Што такое па сутнасьці дух? М-м-м. Гэта спадчына, якую мы атрымалі ад пра-прадзедаў на зямельцы роднай. Дух ваш, дзядзька Цярэшка, павінен, м-м-м, быць свабодным і мужным. Калі дух можа быць такім? Толькі, м-м-м, тады, калі ён абкружаны самім сабою і ня цікавіцца вакольным. Так. Вакольным ня цікавіцца. Духоўны сьвет трэба, м-м-м, шукаць у самім сабе.

Чалавек бяз знакаў прыпынку захапіўся сваімі ўласнымі словамі. У яго быў такі выгляд, нібы ў ката, які ўздумаў раптам лавіць свой уласны хвост. Ён трохі адпіў з свайго бокала і гаварыў далей. Ад вялікага сардэчнага ўзрушэньня перайшоў на расійскую мову:

— Как мечтатель, живущий в своём собственном мире им же созданных, м-м-м, фантастических образов, как безумец, создавший себе свой собственный призрачный мир, вне которого, м-м-м, он не был бы безумцем,—так и дух должен создать себе свой духовный мир, м-м-м, духовный мир. Дух только тогда дух, когда он проявляется в духовном творчестве. И вы, дядька Терешко, в „Голосах полей", м-м-м-м-м-м...

Тут чалавек бяз знакаў прыпынкаў спыніўся, заўважыўшы, што чалавек з вачыма сфінкса на яго скоса пазірае, і вылаіў самога сябе:

— Ах, ты, чорт! Зноў па-расійску загаварыў...

Ніхто не пачуў, як рыпнулі дзьверы габінэту ды увайшоў „прэм'ер“ у белых манкетах. Запрыкмецілі яго толькі тады, калі ён у Цярэшкі запытаўся:

— Чыталі сягонешнюю „Савецкую Беларусь“?

— Глупства,—сказаў Цярэшка.—Марыська, будзь ласкавенька ды прыцягні сюды яшчэ адну бутэлечку... Пачакай, пачакай, Марыська! А як табе здаецца, ці ня лепш будзе пару?..

Калі былі выпіты яшчэ дзьве бутэлькі віна, „прэм'ер“ з асаблівай уважлівасьцю паглядзеў на свае белыя манкеты і сказаў:

— У нас хутка адбудзецца нешта горшае за крытыку „Галасоў палёў“.

— Ну?—усхапіўся чалавек бяз знакаў прыпынку.

Усе настаражыліся.

— Я чуў ад аднэй пэўнай асобы, што хутка пачнецца крытыка працы нашага інстытуту за ўсе гады яго існаваньня. А там могуць дакапацца чорт ведае да чаго. Нават спэцыяльная рабочая брыгада прымацоўваецца.

— Значыць, возьмуцца за галасы гарадоў,—пажартаваў чалавек бяз знакаў прыпынку.

— Жарты малыя,—уздыхнуў „прэм'ер“. Я анэгды зайшоў у катэдру марксызму-ленінізму, дык там на сталох выданьні інстытуту за ўсе гады.

Чалавек бяз знакаў прыпынку з нязвыклай для яго гульлівасьцю міргнуў да Цярэшкі:

— Я сягоньня оптымістычна настроены. Навошта псаваць добры настрой? Усё будзе добра! Гэта зіма будзе апошняй для нашага падпольля. Вясною абавязкова пачнецца вайна, інакш быць ня можа. А што такое крытыка ці самакрытыка? У найгоршым выпадку знойдуць памылкі ў нашай працы. Ня раз знаходзілі. Прызнаваліся і рабілі новыя. Але каму прыдзе ў галаву бачыць у „памылках“ нешта больш сур'ёзнае. Вы, дзядзька Цярэшка, як міністар асьветы ў блізкай будучыне вучэцеся як выкрываць памылкі. Будзьце ўпэўнены, што пасьля... і нам прыдзецца гэтым самым займацца (усе пачалі сьмяяцца). Сьмяяцца няма чаго. Міністру асьветы трэба вучыцца, як выкарчоўваць кепскія ўплывы. Толькі я ўпэўнены, што Цярэшка ня будзе гуманістам у гэтай справе. Жарты жартамі, а гэта зіма будзе рашучай для нас у найлепшым разуменьні гэтага слова. Я містык, і маё прадчуцьцё падказвае тое, што ўсё будзе добра.

— А маё пачуцьцё,—задумёна закартавіў чалавек з вачыма сфінкса,—мне зусім іншае гаворыць. Сяголетняя зіма можа быць апошняй для нашага падпольля, але ці будучая зіма будзе першай для нашай легальшчыны?

— Кіньце, дзядзенька, ня трэба быць пэсымістам!

---

Чамусьці маленькі пакоік Янкі Малеўскага, сакратара ячэйкі інстытуту, зрабіўся раптам самым прасторным. Нібы гэты пакоік сьцен ня меў, і ад яго былі адчыненыя хады ва ўсе габінэты інстытуту. Чамусьці Малеўскі быў рады як ніколі. Нібы ён знайшоў у моры месца варожых мін, і вось іх пачынаюць вылаўліваць, і караблю будзе цяпер усюды прасторная дарога.

Аднаго разу Мікола Ярэмчык зайшоў да яго.

— Што чуваць?

— Толькі што была тут рабочая брыгада. Яна пачала працаваць. Матэрыялы падрыхтаваны.

— Думаеш, Янка, табе не ўляціць?

— Усім нам уляціць. Усяму партколектыву. Затое ачысьціцца атмосфэра. Я гаварыў з брыгадай аб усім адкрыта.

Ужо ўвесь інстытут ведаў.

У брыгадзе трое:

Адзін высокі, малады, чарнявы з праніклівымі вачыма. Нешта ўсё пра сябе ўсьміхаецца, нібы ведае, чым уся гэта музыка скончыцца.

Другі—сярэдняга росту і сярэдніх год. У яго вачох часта мяняюцца колеры. Рыжаватыя вусы і бародка клінам. Каб ня рукі сьлесара, тоўстыя з цьвёрдымі далонямі, у якія ўеўся чорны жалезны пылок, можна было-б падумаць, што гэта профэсар. Вельмі падобны да аднаго з гісторыкаў інстытуту.

Трэці—з кучаравай галавою. Юнак. Сінія вочы. Строгія. Кастрычнік сустрэў яго, калі яму было ня больш сямі год. Усім сваім узростам ён у новую эпоху ўвайшоў. Відаць, не з падатлівых. Упэўнены голас. Упэўненыя рухі.

Часта інстытутчыкі бачылі іх па калідорах: ад ячэйкі ў мясцком, ад прэзыдыуму ў катэдру марксызму-ленінізму. Заходзілі і ў габінэты вучоных.

У некаторых інстытутчыкаў ліхаманкава блішчэлі вочы. Хто раней рэдка калі прыходзіў на працу, цяпер акуратненька адседжвае гадзіны пры сваім стале. У насьценнай газэце „Навука і Праца“ запярэсьцілі цяпер куды вастрэйшыя артыкулы, куды больш дасьціпныя карыкатуры: характарыстыка навуковых прац. Рэдколегія працавала цэлымі начамі. Рэдколегія бегала ва ўсе габінэты.

— Давайце матэрыялу!

— Сыпце, ня гледзячы на асобы!

— Няма чаго цырамоніцца!

— Пішэце! Пішэце!

І ў скрынку з надпісам „Сюды апускаюцца матэрыялы...“ ляцелі паперкі, мяцеліца паперак, дождж паперак, страшныя паперкі. Ільлічоўка зажыла новым жыцьцём. Штодня мяняліся матэрыялы. Штодня новыя калярсвыя загалоўкі пярэсьцілі нібы кіно-хроніка. У мастака „Навукі і Працы“ пальцы былі ў розных фарбах. Адно вока ў мастака было бяльмістае, вечна зьдзіўленае,

у колерах воблака. Другое вока—чорнае—блішчэла, як ніколі, ад радаснай таропнасьці і ўзбуджанасьці.

У вялікай грамадзе вучоных і асьпірантаў „міністры“ стараліся быць кроплямі ў моры, пясчынкамі на шырокім шляху, няпрыкметнымі прыпісачкамі ў вялізным рукапісе. Між сабою ў установе стараліся не сустракацца: „каб ніхто не падумаў“...

Тут пачаў гаспадарыць строгі гаспадар...

Цярэшка сядзіць у сваім габінэце і курыць папяросу за папяросай. Яму прыносяць гарбату. Ён ня п'е—гарачая. Чакае, пакуль астыне. Стаіць шклянка гарбаты некалькі гадзін на яго стале, пакуль зноў не забяруць.

— Чаму ня пілі?

— Халодная.

Цярэшка глядзіць у вакно: дахі абтрушаны сьнегам. Дахі нагадваюць калоды карт: хто выйграе?... Дзе-ні-дзе, у аддаленьні вокагляду, з вакна трэцяга паверху відаць кучаравыя дымкі. Яны вечна дымяць з фабрычных комінаў, І Цярэшка думае:

...Гэта адтуль прышлі гаспадары. Прышлі і цэлы перапалох у нас зрабілі. А Малеўскі радуецца і радасьці сваёй не хавае.

І Цярэшка забыўся цяпер зусім пра Язэпа Крушынскага, і нават „Галасы палёў“ выскачылі з галавы. Так і не дапісаў прысьвячаньняў „ад аўтара“. Нават не раздаў кніжак з напісанымі прысьвячаньнямі.

Падае крупчасты, як рыс, сьняжок. Дробным градам мільгае перад вокнамі.

...Прышлі гаспадары...

...Круг звужаецца...

Цярэшка ўспомніў Крушынскага:

...Цяпер яму куды-куды лепш, чым мне. Спакойна жыве на новым месцы. А я? А мы? Ці ўдасца нам? Ці пераскочым гэты круг?

Яму пачало здавацца, што вось-вось сарвуць з яго вопратку, ён захоча затушавацца і месца ня знойдзе; стане клапом і шчылінкі ня знойдзе...

Прышлі гаспадары.

Асаблівым жыцьцём жывуць цяпер напаўзрочныя калідоры інстытуту. Яны падобны да прыгарадных закавулкаў, дзе праходжыя заўсёды з апаскаю праходзяць. Яны такія, што па іх ня можаш пазнаваць пагоды, ня ведаеш—раніца, поўдзень, вечар. Заўсёды цені. Тут часам бачыш трывожныя вочы і чуеш трывожныя шэпты. Ходзяць на цыпачках, нібы ў шпіталі, дзе ў палатах ляжаць сьмяртэльна хворыя. А падлога ў калідорах старога мура як наўмысна крэхча пад нагамі. Водгаласкі людзкіх крокаў вандруюць з канца ў канец. Містыка калідораў. А калі тут праходзіць брыгадная тройка, містыка нахіляе змрочную галаву і губляецца, як сон. Гучныя галасы, упэўненыя крокі. Хто зазірае тройцы ў вочы зладзейскім ледзь прыкметным позіркам, каб па выразу твараў улаўліваць настрой. Хто туль-

гаецца і праскоквае, нібы ад пажару ўцякае. Хто робіць штучна незалежны выгляд і ня ведае, дзе свае рукі дзець, рукі раптам лішнімі робяцца, і ён імі па-вайсковаму размахвае. Хто перакінецца ветлівым словам з брыгадай. Відаць, ужо гаварыў з гэтымі людзьмі. Відаць, што свае.

Прышлі гаспадары.

Лысіны розных формаў, твары розных узростаў і стыляў нагінаюцца над кнігамі і рукапісам. Глядзяць адны на адных з запытаньнем:

— Што чуваць?

— Хто яго ведае.

Знакамітыя анэкдотысты інстытуту—адзін чарнява-сіверанькі эканаміст, другі блёндыністы залатазубы гайдачаназнаўца—не разносяць па габінэтах на сьняданьне штодзённай порцыі сьвежых анэкдотаў. Ды іхнія ранейшыя анэкдоты на трамвайныя канкрэтныя тэмы не апраўдаліся. Рэйкі на вуліцах Менску не засталіся ляжаць да трэцяй пяцігодкі... Самі анэкдодысты езьдзяць трамваем на працу. Яны-б можа выціснулі з сваіх мазгоў анэкдоты аб рабочай брыгадзе, але...

Прышлі гаспадары.

Круглы і лысы сядзіць у сваім габінэце. Калі хто да яго заходзіць, дык ён таго сустракае:

— Грахі... Грахі...

Сумныя і жаласьлівыя вочы круглага і лысага ветліва просяць садзіцца на мяккае скуранае крэсла і бяз слоў гавораць:

— Грахі... Грахі...

Ён пачынае гутарку на розныя тэмы ды з затоеным стогнам усё варочаецца да галоўнага:

— Грахі... Грахі...

Многія з профэсуры радуюцца прыходу гаспадароў разам з Малеўскім, Ярэмчыкам і Сакалоўскім. І ў габінэтах сустракаюцца і перакрыжоўваюцца між сабою вочы. У адных радасьць, у другіх трывога.

З тых месц, адкуль праз вокны інстытуту відаць задымленыя фабрычныя коміны, прышла сюды ўпяршыню за ўсе гады рабочая брыгада.

---

— Гэта мне не падабаецца,—сказаў чалавек бяз знакаў прыпынку.—Навошта сьмецьце з хаты выносіць? Навошта пераносіць крытыку прац інстытуту ў рабочы клюб? У нас такая вялізная заля.

Ён быў абураны. За некалькі тыдняў працы рабочай брыгады, у дыплёматычнай барадзе чалавека бяз знакаў прыпынку сівізна ўзяла верх над чарнізнай.

— А мне не падабаецца ўся гэта крытыка. Ды што ты тут, чалавеча, зробіш. У нас аб гэтым ня пытаюцца,—заўважыў чалавек з вачыма сфінкса.

І яго сінія вочы паблеклі за гэты час. Іхні колер стаў падобным да аблезлага паркалю.

Чалавек бяз знакаў прыпынку меркаваў:

— Каб нам нэрваў не псаваць, ня будзем хадзіць у гэты рабочы клюб.

Чалавек з вачыма сфінкса пачаў ірытавацца:

— Нам-жа трэба ведаць, чым усё гэта пахне для нас. Няхай хоць адзін з нашых возьме на сябе гэты цяжкі абавязак. Хто-ж ад нас будзе хадзіць у рабочы клюб?

— Я-а-а!

У гэтым „я-а-а!“ чулася радасьць адвагі, боль ахвяры і цьвёрдасьць абавязку.

— Я буду хадзіць у рабочы клюб,—сказаў Антон Цярэшка.

— Вельмі добра!

— Чудэсна!

І Цярэшка хадзіў.

Для гэтай справы, каб быць няпрыкметным, ён апрануўся ў „спэцвопратку“—з ваннай дастаў пятнаццацігадовае старое паліто, а „—рабочую“ кепку знайшоў у колекцыі сваіх старых шапак. Для большай натуральнасьці ён бязьлітасна камечыў яшчэ зусім прыстойную кепку, пазьдзекаваўся, быццам кат, над цьвёрдым брылікам: паламаў, пакрамсаў яго на анучу і са злосьцю насунуў на галаву „рабочую“ кепку, брылік, на самыя вочы. Калі ішоў па вуліцы, дык задзіраў галаву, нібы толькі небам цікавіцца.

І вечары ў рабочым клюбе цягнуліся перад Цярэшкам адным доўгім-доўгім, нібы вечнасьць, вечарам. Адзін і той самы новенькі бліскучы трамвай імчаў Цярэшку туды і назад. Паліто і кепка—у адмысловым стылі—надавалі яму такі значны выгляд, што пасажырыціскалі плячыма, уступалі яму месца і стараніліся ад яго... Ад заклапочанасьці пераапрануты каліф гэтага нават не запрыкмеціў. У клюбе—адзін і той самы прэзыдыум: рабочая брыгада, наборшчык Сакалоўскі, Мікола Ярэмчык, круглы і лысы старшыня інстытуту і Янка Малеўскі. Адна і тая самая аўдыторыя—вялікая грамада рабочых: мужчыны і жанчыны рознага ўзросту і выгляду. Адна і тая самая ўважлівасьць аўдыторыі да дакладчыкаў. Адно і тое самае зьдзіўленьне Цярэшкі: „бач, як рабочыя цікавяцца навукай“. Уражаньне аднаго доўгага вечару яшчэ ўзмацнялася тым, што ва ўсе гэтыя вечары падаў цьвёрды крупчасты сьняжок, і каля клюбу, пры яркім асьвятленьні электрычных ліхтароў, сьняжок здаваўся квола-ружовым, цёплым і прытульным. Сур'ёзныя даклады канчаліся кожны раз выбухам гарачых спрэчак. Мікола Ярэмчык быў сакратаром. Аловак яго спрытна соўваўся па шырокіх аркушах паперы ледзь прыкметнымі зыгзагамі. Вочы яго былі апушчаны ўніз, і русы чуб затуляў лоб і кідаў на твар да самай барады шэраваты цень.

Назаўтра раніцою, пасьля кожнага вечару, Антон Цярэшка прыносіў сваім кароткія вусныя справаздачы:

„Сакратар ячэйкі ў сваім дакладзе падзяліў навуковых працаўнікоў інстытуту на людзей шчыра адданых савецкай уладзе, якія прыносяць карысьць сваёй працай, на людзей лояльных і—такіх, у каго памылкі ўваходзяць у сыстэму. Апошніх ён называе шкоднікамі. Усыпалі ячэйцы, што да гэтага часу па-опортуністычнаму аднасілася да працаўнікоў".

„Круглы і лысы ў дакладзе аб працы інстытуту каяўся ў грахох і падаваў надзею, што ўсё наладзіцца, усё будзе добра".

„Расчыкрыжылі некаторых гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў, мовазнаўцаў, аграрнікаў, гайдачаназнаўцаў, ды іншых знаўцаў".

„Крылі беларускую нацыянал-дэмократыю, вялікадзяржаўны расійскі шовінізм ды іншыя ізмы".

Весткі сыпаліся, як гарох з вялізнага мяшка.

Пры гэтых інформацыях голас, тон гутаркі і манэры Цярэшкі набывалі ўсё больш аднастайны характар: ён гіронізаваў і злаваўся. Гіронія пераходзіла ў злосьць, злосьць—у гіронію. І адно і другое ў нейкую акамянеласьць і апатыю.

— Значыць, пух і пер'е з нас ляціць,—кожны раз рэзюмаваў чалавек бяз знакаў прыпынку.

І вочы яго, падсьлепаватыя вочы, з-пад шкелак акуляр зрабіліся вачыма сфінкса.

А твар чалавека з пастаяннымі вачыма сфінкса траціў свой заўсёдны выраз. І ён картавіў:

— Ці дачакаемся лепшых часоў?

— Дачакаемся!

І зноў Антон Цярэшка ў рабочым клюбе.

Ён ужо ведае тут усе куткі, усе пакоі і пакоікі, прагледзеў усе плякаты на сьценах, усе портрэты. Ведае, дзе, калі, які гурток тут працуе. А ў залі ён аблюбаваў сабе месца недалёка ад дзьвярэй, каб калі-ні-калі шмыгнуць з залі ў буфэтны пакой, з буфэта ў залю. Тут бываюць добрыя яблыкі, някепскія бутэрброды і колькі хочаш папярос. Ён углядаецца ў незнаёмыя твары мужчын і жанчын і шукае сярод іх „асаблівасьцяй рабочага тыпу"...

У залі цішыня. Толькі калі-ні-калі цішыню прарэзвае прыглушаны рукою адзінокі кашаль. Голас апошняга прамоўцы асабліва грозны. Ён ужо даўно гаворыць і тону не мяняе. Нібы роўныя хвалі расплываюцца над галовамі аўдыторыі.

— ...Я, таварышы, рабочы. Не бяруся сам крытыкаваць навуковыя працы інстытуту. Але паводле водзываў нашых компэтэнтных таварышоў, якія тут выказваліся ўсе гэтыя вечары, відаць, што ў інстытуце справа пастаўлена горш, чым дрэнна. У мастацтве займаюцца вывучэньнем цэркваў і касьцёлаў. Выключна! Аб іншым ані шыш! У аграрных працах апраўдваецца прышчэпаўшчына. Пад выглядам „культуры" расхвальваюцца кулацкія хутарскія гаспадаркі. У гісторыі адмаўляецца клясавае змаганьне на Беларусі, ідэалізуецца беларуская соцыялістычная

грамада, прыдумляюцца ілжэрэволюцыянэры, як Кастусь Калі-ноўскі. Гэты шляхціц паказваецца як правадыр бядняцкай часткі сялянства. Праз меру захапляюцца старасьветчынай, а пра сучаснае забываюць. І так у іншых галінах навукі. Напрыклад, мовазнаўства.

Цярэшка апусьціў галаву. У яго ёкнула сэрца. Якраз ён працуе ў катэдры мовазнаўства. У твар прамоўцы ён ні разу ня зірнуў, бо і так добра ведае наборшчыка Сакалоўскага. Паветра ў залі здаецца Цярэшку такім гарачым, што ўсё цела ў яго гарыць. Голас прамоўцы раптам пачаў рэзаць пілою па самым горле Цярэшкі.

— Па іхняму выходзіць, што па беларуску слова „пролетарыят"—„убоства". Чулі? „убоства"! (З розных бакоў па залі сыплюцца брыскі сьмеху). Няўжо-ж, таварышы, гэта ня кулацкая кпінка над нашым братам? Беларуская мова мае лепшыя словы для рабочых. Але „мовазнаўцы" тых слоў чамусьці не знаходзяць.

Цярэшка зірнуў на сцэну з-пад скамечанага брыля: вочы ў Сакалоўскага блішчэлі ад гневу. Ён адпіў вады са шклянкі, ахапіў залю пацямнеўшым позіркам, нібы хацеў уміг упітваць у сябе рознастайныя выразы некалькіх сот вачэй. Яму здавалася, што Сакалоўскі спыніў на ім свой позірк даўжэй і больш пранікліва, чым на іншых, і Цярэшка прыгнуў галаву за плечы суседа на пярэдняй лаўцы. „Гаворыць, як гаспадар",—падумаў ён. Многалюдная заля маўчала ў нейкім драматычным і нецярплівым чаканьні. І здавалася: мучыць яе гэтае маўчаньне, ня вытрымаюць людзі на лаўках і зараз крыкнуць у адзін голас: „Прэч такіх шкоднікаў з савецкай установы!"

— ...Дык вось, таварышы, мы павінны запытацца, чаму ячэйка да гэтага часу ня прыняла больш рашучых мер супроць такіх прац? Нас не здавальняе мэханічная, сухая справаздача ячэйкі (з яго горла выравуся крык). Не зда-валь-ня-е! Мы знаем таварыша Малеўскага, як заслужанага старога бальшавіка, але ён тут не гаварыў нам аб усім. Ці можа яму цяжка разьбірацца ў тонкіх справах навукі? Гэта нам сягоньня ўсёроўна. Гэта справы не мяняе. Але дзе былі вочы профэсараў з катэдры марксызму-ленінізму? Тое, што гэта катэдра зрабіла цяпер дзеля рабочай брыгады, павінна было праводзіцца ёю ў штодзённай працы. А то выходзіць нейкае далікатненькае раскланьваньне між „колегамі". (Пры гэтым Сакалоўскі робіць комічны рэвэранс. Чуюцца сьмяшкі). Гэта горш за опортунізм! Горш, таварышы!

Словы Сакалоўскага гарачым градам сыплюцца па галовах рабочай аўдыторыі. Твары напружныя і сур'ёзныя. Усе слухаюць са сьцятымі губамі. Мікола Ярэмчык старанна запісвае. Ён праз меру нагнуўся над паперай. Русы чуб яго вісіць над вачыма, як ільняная заслона. Малеўскі яму нешта шэпча на вуха. Твар у яго вясёлы, як ніколі раней.

І дзівіцца Цярэшка:

...Яго сягоньня так драпанулі, а ён вось радуецца. Не магу разумець гэтых бальшавікоў...

Недалёка ад Цярэшкі сядзяць дзьве жанчыны. Адна паджылая, у хустцы. У яе круглы твар і сінія кплівыя вочы. Вакол вачэй ледзь прыкметная сетка зморшчынак. Поўныя чырвоныя губы. Яна ўсё ціскае плячыма і закладвае крысы свайго шэрага паліта адну на адну, нібы ёй вельмі холадна. Другая жанчына маладзейшая. Чорная, як вароньне крыло, стрыжка ўзьдзёрнута ззаду. Футровы пушны каўнер не дае валасам ляжаць прыглажанымі на месцы. Яе вялікія, ледзь выпуклыя, чорныя вочы як-бы засмучаныя. Вуглы тонкіх губ часта ўздрыгваюць.

— А-ей, што ў нас робіцца!—дзівіцца старэйшая.

— А што?—пытаецца маладзейшая.

— „Убоствам“ нас называюць.

— Аднак тут цікавыя рэчы гавораць. Ведаеш што, хадзем, убоства ты маё, у буфэт. Есьці захацелася.

— Ах ты! Я табе дам „убоства!“

— Тут ужо нічога ня зробіш, калі вучоныя людзі так пастанавілі, дык з сягонешняга дня апрача „ўбоства“ іншага слова ад мяне не пачуеш, маё ты пяціпудовае ўбоства!

— Апрача ўбоства думак я ад цябе ніколі і ня чула.

— Ну, ну! пакрыўдзілася.

Абедзьве жанчыны сьмяючыся пайшлі ў буфэт.

І дзівіцца Цярэшка, што пролетаркі паміж сабой па-беларуску гавораць. „А паводле тэорыі нашых...“

Як наўмысьне і іншыя пачалі між сабою гаварыць па-беларуску. Быў зроблены кароткі спынак. З залі высыпала шмат народу, расьсеяліся па ўсіх пакоях. Курылі, падмацоўваліся каля буфэту. Пасьля напружнай уважлівасьці ў залі пачалося вялікае ажыўленьне. Гул галасоў плыў з усіх пакояў і зьліваўся ў адзін роўны шум.

Цярэшка адчуў сябе адзінокім у гэтай грамадзе. Ён усеўся на плюшавым крэсьле пад вялікім фікусам, нібы пад тропічнай пальмай у сонечны дзень, і пачаў думаць над сваім сапраўды ўбоскім становішчам у гэтым рабочым клюбе. Ён пускаў папяросны дым з акругленых трубкай губ сінімі кольцамі і думаў над словам „убоства“. Прыпомніў дзядочка-латыніста з узгоркам старых слоўнікаў на стале. Успомніў, як гэты зьдзяцінелы дзядок плёў перад імі філёлёгічную нітачку:

— Пролетарыят—нова-латынскае слова proletarius, што азначае беднасьць. Як па нашаму „беднасьць“?—убоства! Дык няхай будзе „убоства“! Хэ-хэ-хэ...

Ад радасьці, што трапіў якраз у пункт, дзядок засьмяяўся і прасьлязіўся, выцер вочы і прыгожым каліграфічным почыркам запісаў:

„Пролетарыят—убоства“.
Слоўнікавая камісія прыняла гэтае ды іншыя падобныя словы з вялікай радасьцю. Якраз па густу...
І вось выйшла—убоства...
Клюбны круглы гадзіньнік пaказваў адзінаццаць. З прэзыдыуму пачулася дзынканьне званка. Хваля людзей з усіх пакояў зноў паплыла ў залю. Хутка ўсе расьселіся па ранейшых мясцох.
Выступіў новы прамоўца—старшыня рабочай брыгады. Высокі малады і чарнявы з праніклівымі вачыма. Ён усьміхнуўся і пачаў гаварыць, стаўшы ў профіль да аўдыторыі.
— Я, таварышы, сягоньня буду старацца гаварыць як найкарацей, бо ўжо адзінаццаць гадзін, а тых, хто яшчэ запісаўся, адложым на заўтра, бо нашаму брату прыдзецца рана ўстаць на працу. Усе згодны, таварышы?
— Добра! Згодны!—пачулася некалькі галасоў.
Голас прамоўцы быў спачатку сухаваты і ціхі.
— Дык вось. Бязумоўна, першую чаргу будзем крыць увесь парткколектыў інстытуту за нядбайныя адносіны да таго, што там рабілася. Бязумоўна, партыйнага кіраўніцтва там не адчувалася. Аднак трэба памятаць, што многія з партыйцаў,—і, галоўным чынам, таварыш Малеўскі,—шмат дапамагалі нашай рабочай брыгадзе ў яе працы. Трэба ведаць, што таварыш Малеўскі былы матрос, чалавек нявучоны і яму цяжка было орыентавацца ва ўсім гэтым. Усё-ж такі таварыш Малеўскі ня раз біў трывогу, і яго меркаваньні аказаліся правільнымі. Я вось зьвярнуся да слоў папярэдняга прамоўцы—таварыша Сакалоўскага.
— Галасьней! Галасьней!—папрасілі з задніх лавак.
Старшыня брыгады набраў у сябе паветра і выпяў грудзі наперад. Яго голас пачаў зьвінець.
— Таварыш Сакалоўскі гаварыў правільна, але чамусьці не давёў думкі да канца. Вялікая большасьць шкодных прац інстытуту належыць якраз да былых „міністраў“, „прэм'ераў“ і „маршалкаў“. (Пры гэтым яго губы грэбліва скрывіліся. Яны выразілі такую агіду, што Цярэшка ў гэту хвіліну гатоў быў яго забіць, задушыць, застрэліць і павесіць...) Гэтыя паночкі ў свой час вялі заядлае змаганьне супроць дыктатуры пролетарыяту. Рознымі спосабамі яны стараліся задушыць пролетарыят, якога, да слова кажучы, не здарма яны цяпер называюць „убоствам“. Гэта ад вялікай „сымпатыі“. Яны паслалі кайзэру Вільгэльму тэлеграму, у якой дзякавалі за вызваленьне ад бальшавікоў, яны перад Пілсуцкім на задніх лапках стаялі і, дзякуючы ім, ня, мала лішняй крыві пролетарыят праліў на тутэйшых фронтах.
На лаўках пачалася мітусьня, шорханьне, выкрыкі абурэньня.
— Ціха, таварышы! Ціха!
Паўхвіліны гучэў званок. Заля ледзь супакоілася. Прамоўца пачаў лагодным голасам. Цішыня ў залі настала цяпер такая, што ні паўслова прамоўцы ня было не дачута. Лавілі прагна кожны гук.

— Калі ім—былым кайзэраўцам і пілсудчыкам—савецкая ўлада даравала грахі і прыняла на працу, дык улада спадзявалася, што яны выправяцца і будуць шчыра працаваць на карысьць пролетарыяту. Аднак яны працягваюць сваю ранейшую контррэволюцыйную дзейнасьць. (Голас яго зрабіўся грозным. Ён увесь зьмяніўся ў твары). Яны займаюцца шкодніцтвам у навуцы. Яны працуюць на руку ворагу пролетарыяту! І зусім магчыма, што яны рыхтуюцца тут да інтэрвэнцыі. Вось табе ў адным цёплым месцы цёплая кампанія з „маршалкаў", „міністраў" і „прэм"ераў"—гатовенькі ўрад! Да іх вярнуліся іхнія старыя прыяцелі з-за межаў...

Прамоўца спыніўся і запытаўся грозным голасам:

— А можа яны падзялілі ўжо між сабою старыя портфэлі, а для нас, рабочых, шыбеніцы будуюць?

Зноў на лаўках пачулася мітусьня, але адзін аднаго прасілі, каб было ціха.

Цярэшка пачырванеў. Ён ніжэй насунуў на лоб „рабочую" кепку. Яму стала і горача і халодна. У аўдыторыі адчувалася такая напружнасьць, што здавалася, усе зараз ірвануцца з месца.

— Я не бяру на сябе адказнасьць—пачаў прамоўца мякчэйшым тонам, нібы апраўдваючыся,—сказаць упэўнена, што так яно і ёсьць. Аднак на Украіне так і было. Можна думаць, што і ў нас так можа быць. (Ён прыкметна хваляваўся, быў бледны, і відаць было, што стараецца супакоіць самога сябе). Таксама, таварышы, у інстытуце ёсьць некалькі чалавек з душком вялікадзяржаўнага рускага шовінізму. Гэтых мы таксама па галоўцы не пагладзім. І—„лояльным" мы скажам: „альба з намі—альба"... Серадзінкі ў гэты востры час клясавага змаганьня быць ня можа! Нам патрэбны ў навуцы пролетарскія кадры. Да гэтага часу на асьпірантуру зьвярталася мала ўвагі

Тут Цярэшка, які сядзеў каля дзьвярэй, ціха высунуўся з залі.

І ня чуў Цярэшка, як пасьля старшыні брыгады выступіў адзін навуковы працаўнік з сівенькай бародкай клінам. Той з абурэньнем у голасе сказаў:

— Калі ў нас ёсьць такія, дык трэба вызваліць ад іх пролетарскую навуку і пролетарскую грамадзкасьць наогул!

Каб Цярэшка чуў, дык сказаў бы:

— Наш брат вучоны супроць нас так жорстка выступае.

А чалавек бяз знакаў прыпынку яму-бы тлумачыў:

— Цяпер і брат—ня брат, і сват—ня сват.

І ня чуў Цярэшка, як рабочыя, ня гледзячы на тое, што трэба раненька ўстаць на працу, прасілі, каб выступілі сягоньня-ж і тыя, якія ўжо запісаліся.

Цярэшка сеў у трамвай і паехаў дамоў з цяжкім каменем на сэрцы і трывожным запытаньнем:

— Ці дачакаюцца нашыя портфэлі?

Трамвай шпарка імчаў яго наперад. Цярэшка пачаў абцірацьц сьнег з паліта. Успомніў, што на ім старая „спэцоўка" для рабочага клюба, махнуў рукою і давай прыглядацца да пасажыраў з захаванай апаскай. Яму здавалася, што кожны з іх чытае яго думкі.

---

— Дык цябе, Янка, супроць шэрсьці гладзяць?—зьвярнуўся Мікола Ярэмчык да Малеўскага пасьля аднаго з гэтых вечароў.—Трымайся матрос!

— Лепш няхай нашыя мяне б'юць, чымся каб тыя цалавалі,— сказаў Малеўскі.— Я рабіў усё тое, што было ў маёй магчымасьці. А што гэта ў цябе, Мікола, за пакет тырчыць з кішэні?

— Ліст з вёскі. Няма калі чытаць. Добра, што ўспомніў.

Мікола раскрыў конвэрт. Ліст быў ад швагэра Марціна. Той пісаў:

„Дарагі Мікола.

Праца ў нас кіпіць. Рыхтуемся да веснавой сяўбы. Трыеры з комуны „Чырвоны Кастрычнік" працуюць поўным ходам. Кончыўшы з абагульваньнем,колгасьнікі цяпер возяць лес на новыя хлявы ды на іншыя патрэбы. Да нас цяпер прыехала рабочая брыгада і дапамагае ў працы. Антон Драчык працуе з усіх сіл і ўдзень і ўночы, ніколі аддухі ня мае. На пасяджэньнях сельсавету ці праўленьняў нашых новых колгасаў ён выстаўляе для абмеркаваньня такія цікавыя пляны, ажна многіх радасьць прабірае. Аднак, некаторыя выпісаліся з колгасаў, і ў сувязі з гэтым было шмат няпрыемнасьцяй. Вясною прышлюць нам з Украіны сто цялушак і некалькі заводных сьвіней. З раёну нам абяцаліся даць некалькі сот пудоў штучнага ўгнаеньня. Усё ідзе ня кепска. Я ўпэўнены, што праз год забудуцца старыя назвы вёсак Гайдачанскага сельсавету.

Усе мае жывы і здаровы. Мэра і Зорачка табе кланяюцца. Зорачка просіць, каб ты купіў ёй трактар у Менску. Вось табе і малыя дзеці аб трактарох загаварылі! Праўда?

Ага! Яшчэ адна навіна. Пры абагульваньні вельмі шмат працаваў стары Гарбочык з белай барадою. Памятаеш яго? Усе ў нас завуць яго „Леў Талстой". Ён прастудзіўся, хварэў некалькі дзён і памёр. Перад сьмерцьцю цябе бачыць хацеў. Ён мне перадаў для цябе свае рукапісы. Іх вельмі многа. Страхацьцё, як многа! Прасіў, каб ты іх друкаваў у Менску.

І яшчэ адна навіна! З царквою ў нас пакончана. Новага папа няма. Некаторыя з колгасьнікаў паляць абразы. І вось між старымі і маладымі адбываюцца вялікія спрэчкі, якія часам даходзяць да боек.

І яшчэ адна навіна! Стары дзед Сухарукі звар'яцеў. Дык вось, Міколка, што ў нас робіцца. Яшчэ нейкія цёмныя сілы стараюцца баламуціць нашых сялян, але нічога! Перамога на нашым баку! У колгасе Чырвоная Ніва скінулі старшыню. Помніш, як ён на сходах выраблЯўся, крычаў, што толькі ў колгасах усім добра будзе і запісаўся адным з першых. Дык вось што ён зрабіў—прысвоіў сабе шмат маемасьці раскулачаных ды кожны дзень ладзіў вечарынкі ў сваёй хаце. Вось і вер! Яго, вядома, выкінулі з колгасу. Трэба пільна сачыць за тым, каб кулацкія агенты ня ўлезьлі ў колгасы. Можа вырвешся калі сюды на некалькі дзён?

Мікола толькі ўсьміхнуўся на гэта запрашэньне.

— Дзе тут паедзеш, калі ў інстытуце гэтулькі цікавага! Інстытут хутка будзе адноўлены...

---

# 42

## Ня сьпіць варта

У НЕАХОПНЫМ моры часу зімовыя дні 1930 году зыбаліся пеністымі грэбнямі хваль. Чаргаваліся ў сварцы між сабою адліга і мароз. Сонца цяплела з кожным новым цьвіценьнем усходу і заходу. З кожным разам яно круглііла агнёвым цыркулем па надгалоўным бязбрэжжы шырэйшыя кругі. І ленінскія дні—накормленыя і напоеныя нябывалай радасьцю адных і воўчым сумам другіх—расьлі, як дзеці пад матчыным наглядам. Вятры—вільготныя і сухія—імчалі пад сінімі і залацістымі парусамі новую вясну бальшавіцкай пяцігодкі.

За шпаркай хадою часу, зацугленага ў чырвоныя дэкады, не пасьпявалі поэты.

І дні нараджаліся, і дні адыходзілі ў мярэжныя далягляды, і дні расьцíралі ў пыл трухлыя карчы, і дні будавалі сьветлыя гмахі будучыны—і дні заставаліся недапетымі...

---

Матрос Малеўскі лічыў новыя бальшавіцкія караблі ды з ліку зьбіваўся...

Хоць бы ў БССР:

Асінбуд, ліхаманкавая падрыхтоўка да Усебеларускай выстаўкі, трохмесячнік пролетарскай культуры, новыя фабрыкі і заводы, соцспаборніцтва, ударнікі, колектывізацыя вёскі, ліквідацыя кулакоў, рыхтаваньне да бальшавіцкай сяўбы—і яшчэ, і яшчэ, і яшчэ...

Бальшавіцкія караблі.

Багатая флётылія ў моры часу. Пяцігодка — качагарка. Партыя—камандзір. Рабочая кляса—матросы.

Малеўскі, сакратар парт'ячэйкі Інстытуту, лічыў караблі ды з ліку зьбіваўся... Ён папраўляў павязку на твары. Ня было калі вызваліцца ад надакучлівага флюсу. Утаропіў сьветлыя вочы ў жалезную шафу з нарастамі чырвонага трохі задымленага ляку на дзьверцах, і ня бачыў шафы. Ён бачыў хвалістыя прасторы мора. Ужо ня трэба было глядзець у морскі бінокль, каб намацваць даль: соцыялізм можна было бачыць няўзброеным звычайным вокам.

Бальшавіцкія караблі трэба пільнаваць ад мінных небясьпек, ад падводных рыфаў і меляў.

— Трэба пільна сачыць!

---

Антон Цярэшка хадзіў у інстытут, але праца ў яго ня ішла. Ён з трывогаю чытаў газэты і чакаў трывожных навін.

Аднаго разу прышоў да яго занепакоеным чалавек бяз знакаў прыпынку.

— Чулі?

— Ну?

— Арыштавалі айца Дзімітрыя.

Холадна стала Цярешку. Ён запытаўся:

— Ен можа налапатаць?

— Можа...

— Што рабіць?

Чалавек бяз знакаў прыпынку разьвёў рукамі.

— Нічога ня зробіш. Дзе ты, чалавеча, дзенешся. Будзем чакаць. Хутка пачнецца вайна. Усе вось чакаем інтэрвэнцыі. Іду. Не выпадае шаптацца. (Ён часта ставіў знакі прыпынку). Асьцерагайцеся Малеўскага. Бывайце.

— Бывайце.

Праз некалькі дзён да Цярэшкі зайшоў чалавек з вачыма сфінкса. Вочы спалоханыя.

— Чулі?

— Ну?

— Саколіча арыштавалі.

Цярэшка пабялеў. Перад вачыма дваіліся і траіліся вочы сфінкса.

— Што вы на гэта скажаце?

Цярэшка маўчаў.

— Еду з Лапоўскім у камандзіроўку на поўнач. Уцякаем. Тут круг звужаецца. Здаецца, што з магілеўскай організацыі арыштаваны двое.

Цярэшка маўчаў.

— Што там Пілсудкі сьпіць? Што з Балаховічам сталася? Яны-ж павінны разумець. З кожным днём з нашых позыцый выбываюць лепшыя людзі. Небясьпека вялікая.

Чалавек з вачыма сфінкса картавіў больш чым заўсёды.

— А тут выстаўка. А тут кожную ноч „гасьцей“ чакай. Чорт ведае...

Хутчэй бы з таго боку пачалі... Сьпяць...

У сфінксавых вачох блакітны гнеў.

Цярэшка маўчаў.

— Калі што якое, дык шмат хто можа быць выкрыты...— ня мог супакоіцца чалавек з вачыма сфінкса.

Над галовамі „міністраў“ вісеў Дамоклаў меч.

У Цярэшкі пачаліся кашмарныя ночы. Смоўжамі яны прысмактоўваліся да яго цела. Страціў сон.

Кожны раз уночы, калі пачуе тупат ног на тротуары, дык увесь закалоціцца.

Ён чакаў...

Кожны раз, як затуркоча ўночы званок у калідоры, яму станавілася млосна.

Ён чакаў...

Кожны раз, як уночы пачуе шуганьне аўтомобіля ля дома, яго лоб пакрываў халодны пот.

Ён чакаў...

Удзень хадзіў у інстытут. Калі сусракаўся з Малеўскім, дык горача з ім вітаўся і ветліва і „шчыра" заглядаў яму ў вочы. Хацеў у іх вычытаць свой лёс.

У інстытуце кіпела праца. Стукалі „ундэрвуды", хадзілі туды і сюды навуковыя працаўнікі, рыхтаваліся да Ўсебеларускай выстаўкі, у організацыі якой інстытут прымаў ня малы ўдзел. За Камароўкай будавалі новы горад-выстаўку. Працавалі інжынэры, аграномы, экономісты, маляры, скульптары, будаўнікі. Сюды ўлетку павінны будуць езьдзіць сотнямі тысяч з Беларусі, многія з розных рэспублік Саюзу. Пракладваліся трамвайныя рэйкі па тэй дарозе, кудою паны вадзілі ў 1920 годзе партызан у Камароўскі лес на расстрэл. Асьпіранты інстытуту організоўвалі свае брыгады і выяжджалі ў розныя глухія месцы краіны дапамагаць пры колектывізацыі. Прыяжджалі стомленыя дарогай і працай, але вясёлыя і бадзёрыя. Чыталі справаздачы аб ходзе працы на вёсцы. Заля інстытуту была заўсёды перапоўнена. Катэдра катэдру выклікала на соцспаборніцтва. Аддзелы абвяшчалі сябе ўдарнымі. Цярэшка прыглядаўся да ўсяго і да ўсіх, зайздросьціў і ненавідзеў.

І адно прыкрае адчуваньне зьявілася ў Цярэшкі:

...Яго вось распранулі. Голым ходзіць ён па вуліцах, голым сядзіць у сваім габінэце ў інстытуце, нават бяз кашулі з людзьмі размаўляе. Яму сорамна, холадна, прыкра.

І яшчэ адно адчуваньне:

...Нешта ўкраў, і яго злавілі пры зладзейскім учынку. Так было з ім аднаго разу, калі яшчэ быў малым, калі ў гімназіі вучыўся. У таварыша па вучнёўскай лаўцы ножык украў, прыгожанькі такі ножык з пэрлямутравымі трошкамі, у замшавым мяшочку, які са звонам зашпіляўся. Адразу злавілі. У гімназыі даведваліся ўсе. Багаты бацька ледзь замазаў гэту прыкрую гісторыю.

Сустрэў яго раз былы „прэм'ер" у белых манкетах.

— Вы яшчэ дома? Вітаю...

— І вас з тым жа...

— Мы ў мухалоўцы. Нічога. Яшчэ шмат крыві пральлецца. Але, як вы з твару зьехалі, дзядзечка...

Думаеце, што лепш за мяне выглядаеце?

— Я? Дзіва што! У мяне жонка і дзеці...

— Тое самае ў мяне. Дзеці Язэпа Крушынскага ў мяне жывуць.

— Нейк-жа будзе. Можа ўсяго не раскапаюць. На ўсялякі выпадак перагледзьце свой архіў, каб нічога компромэтуючага ў вас ня было.

— А я зусім забыўся...

Цярэшка ледзь за галаву не схапіўся.

Поэт...—вылаіў яго „прэм'ер" у белых манкетах.

Некалькі дзён Цярэшка соваў у печ розныя паперы, орыгіналы падпольна распаўсюджаных вершаў, нават кнігі, старыя газэты. Хаваўся гэтым ад хатняй работніцы, ад жонкі, ад Настачкі і Мзей.

Дома прывыклі шанаваць кожную яго шпаргалку, кожны радок, напісаны яго рукою. І вось пані Мар'я паднесла яму пударунак і сказала з абурэньнем:

— Н-н-на-а-а!

І палажыла на яго пісьмовы стол жмут рукапісаў.

— Я думала, што гэта зрабіла работніца, дык яна прысягаецца: ніколі тваімі рукапісамі і газэтамі ўпечы ня паліць. Гэта дзеці зрабілі! Вось табе прыемнасьць ад дзяцей твайго Язэпа Крушынскага! Вось маеш! Я ад іх вар'яцею. Божанька, яны мяне ў магілу ўвагоняць. Я табе раней гаварыла, што так будзе. Божанька ты мой! Я табе...

Пані Мар'я толькі ўвайшла ў газарт вуснай творчасьці, дык на самым цікавым месцы Цярэшка на яе зірнуў такімі вачыма і сказаў такія словы, што яна адразу змоўкла і з дзівам паглядзела на мужа.

— Марыська.!. птушачка мая...—сказаў ён,—ц-ц-ціха...

Такімі пястотнымі словамі ён абкружаў яе тады, калі яна была яго нявестай. Даўно яна гэткіх слоў ня чула ад мужа. Слова „ц-ц-ціха"—працяглае і жаласьлівае—спалохала яе.

— Ты што, нездароў? Божанька ты мой, як ты памізарнеў за апошні час!.. І чаму-ж гэта госьці перасталі да нас прыходзіць?..

— Спалі, Маруська, усё гэта, каб ніхто ня ведаў. Маўчы... Пасьля раскажу...

У яго вачох было нешта такое страшнае і разам з тым жаласьлівае, што пані Мар'я—да вар'яцьця ласая на цікавыя навіны—зараз-жа бяз слоў выканала яго просьбу.

Попел ад паперы ў сьметнік вынесеш...

— Добра...

---

Ужо ў гарадзкім парку вербы над Сьвіслаччу ахварбаваліся ў зялёны колер. Цярэшка ўсё чакаў.

...А можа міне ліха? Хутчэй-бы адтуль нашыя прышлі...

Пані Мар'я трывожыцца пачала:

— Чаму ня сьпіш па начох?

— Сплю...

— Я чую, як ты варочаешся з боку на бок. Мяне не абманеш.

Цярэшка мусіў ей растлумачыць прычыну свайго неспакою.

— Можа яшчэ нічога ня будзе,—пацяшала яго пані Мар'я, задаволеная, што даведалася.

— Хто яго знае..

Ажыў гарадзкі парк. Па гародах градкі капалі. Пахла сьвежай зямлёю. У горадзе ўжо ніякіх знакаў зімы не засталося.

Цярэшка хадзіў у інстытут дзень-у-дзень, каб даведацца, каго новага там не хапае..

Ён чакаў:

— А можа...

...Можа герой Мазыршчыны першай веснавой ластаўкай прыляціць з таго боку?

І зноў Цярэшка пачаў у вопратку апранацца. Яму перастала здавацца, што голым ходзіць. Нібы пеўня скубуць, а вось ён новым пер'ем абрастае. Ці абрасьце?...

Цярэшка прывык да газэтнай сумяціцы пра беларускі нацыянал-дэмакратызм і пра вялікадзяржаўны расійскі шовінізм.

Пачаў спаць па начох.

---

Цярэшка пераходзіў ад роспачы і страху да радасных надзей, ад надзей—да роспачы. Забыўся, нібы ў вар'яцкай калысцы. У хвіліны падупаласьці ён шкадаваў аб тым, што так далёка заехаў у нерат, а ў часе пад'ёму рыхтаваў свой портфэль „міністра асьветы". У яго галаве роіліся багатыя пляны... І ён шкадаваў, што не здарылася. А здарыцца павінна было, па яго „міністэрскай" ініцыятыве, вось што:

Адно літаратурнае аб'яднаньне рабіла вялікія ідэолёгічныя памылкі. Некаторыя сябры гэтага аб'яднаньня хоць позна, але агледзеліся. І давай прызнавацца ў сваіх памылках. А тыя, у каго гэтыя памылкі былі толькі „памылкамі", назвалі першых „здраднікамі".

І вось у адзін з ціхіх вечароў тэй зімы вастраносы малады крытык і круглатвары поэт стаялі на глухой вуліцы супроць вакна аднаго з „здраднікаў".

З вуліцы ўсё відаць было, што робіцца ў „здраднікавай" хаце. „Здраднік" толькі што падняўся з-за стала, дзе нешта пісаў, і...

Тут па вуліцы прайшоў нейкі чалавек у кажуху. Доўганосы крытык з круглатварым поэтам мусілі адыйсьці ад вакна і пайсьці тротуарам куды вочы глядзяць. Як заглухлі апошнія крокі праходжага ў кажуху, круглатвары поэт выняў нешта невялікае, халоднае і цяжкое з кішэні, падаў востраносаму крытыку і шапнуў:

— На!

У востраносага крытыка задрыжэла рука.

— Баішся?

— Не. Мала выпіў...
— Дурны. Каб больш выпіў, дык цэліцца ня мог-бы.
Глухую вуліцу сушыў лёгкі мароз. Неба было чыстае і зорнае, а па сьнезе перамірагваліся сінія іскры.
„Здраднік" трымаў на руках малога хлопчыка і гаварыў да жонкі:
— Малы пісаць не дае. Забяры яго.
(Усё чуваць было праз вакно)..
Хлопчык сьмяяўся. Падышла маці. У яе былі гладка прычасаныя валасы і цёмна-сінія вочы. Яна выставіла рукі, каб забраць у бацькі хлопчыка. „Здраднік" зрабіў „здрадніцкі" ўчынак: адскочыў. Ня даў сына. І бацька, і сын, і маці сьмяяліся трайным сьмехам.
(Усё чуваць было праз вакно).
— Цэлься!—шапнуў круглатвары поэт востраносаму крытыку.
— Пачакай... Дзіцё трымае...
І маці сапраўды хацела забраць дзіцё, бо бацьку трэба было нешта тэрмінова здаць у друк. Яна выставіла рукі да хлопчыка.
— Не хацу да мамы. Буду з татам пісаць.
І зноў пачуўся трайны сьмех.
Востраносы крытык і круглатвары поэт дачакацца не маглі тэй хвіліны, калі, „здраднік" застанецца адзін, каб... А тут, за вакном, і лагодная ноч, і зорнае неба, і сінія іскры гарацъ па сьнезе. І зноў нехта тупае: туп-туп-туп у аддаленых змроках тротуару. Вось табе і глухая вуліца... Проста бяда... Людзям перашкаджаюць...
Крытык схаваў за пазуху невялікае, халоднае і цяжкое і шапнуў поэту:
— Ідзі і пазаві яго ў горад да... Я схаваюся. Ты з ім выйдзеш, а я ззаду...
Поэт пайшоў у „здраднікаву" кватэру, а крытык павярнуўся насустрач на незнаёмага праходжага. Як бліжэй падышоў, наставіў каўнер і адвярнуўся—„на ўсялякі выпадак. Мала хто і мала што-б"... Зноў сьціхшэла на глухой вуліцы. Прыемны быў сіні з іскрамі мароз. А вакол—цёмныя калідорчыкі бязлюдных закавулкаў...
Крытык навастрыў вушы. „Здраднік" скардзіцца поэту:
— Цесната. Няма як працаваць. Тут і адзін хлопчык, і другі—працаваць не даюць. А ў суседа за тонкай сьценкаю і хлопчыкі, і дзяўчаткі, і куры, грамафон і такі галагуцкі певень, проста дзяк, а не певень. Хоць ты сам з ім сьпявай!
— Каб ужо скарэй...—ня церпіцца крытыку.—Вось тары-бары завялі.
І нечаканая радасьць. Крытык пачуў рып дзьвярэй. Зірнуў у вакно. Ня відаць поэта і „здрадніка"... Зараз тут будуць... Зараз выйдуць з двара... Зараз пакажуцца з брамы дзьве постаці, падобныя да ценяў... Зараз...
І ўспомніў крытык настаўленьні поэта:

— Зблізку будзеш, а то яшчэ ў мяне трапіш...

— Ня бойся, дружа!

Крытык выпіў. Ён быў малады і харобры. За літаратуру—нацыянальную і формай і зьместам—ён на ўсё гатоў. Ён намацаў невялікае, цяжкое і халоднае і чакаў:

— Зараз...

Дык не.

Зноў тупат ног разбудзіў тротуары глухой вуліцы. Нечакана з закавулкаў вышлі людзі.

Новы здраднік: здрадзіла глухая вуліца...

У сіні мароз, па яскравым ночным сьнезе ішлі цяпер трое: востраносы крытык, круглатвары поэт і „здраднік".

І гаварылі яны зноў аб тым самым, аб чым ужо некалькі месяцаў гаварылася: аб ідэолёгічных памылках у літаратурным аб'яднаньні. Але як гаварылі? Зусім ня так, як заўсёды. На гэты раз і востраносы крытык і круглатвары поэт „радаваліся":

— Добра зрабілі, што публічна ў памылках прызналіся.

Яны думалі:

— Сёньня ён выратаваўся... У другі раз...

Яны „хвалілі" „здрадніка": ён першым быў за прызнаньне памылак.

Ён шчыра сачыў за тым, каб яны не паўтараліся.

А вось і элекрычныя ліхтары. Па сінім сьнезе вуліцы плылі доўгія цені крытыка, поэта і „здрадніка".

---

Цярэшка шкадаваў, што аднаго са „здраднікаў" не зьліквідавалі...

— Для політыкі ніякія ахвяры ня страшны. Гэты ўчынак паказаў-бы там, за межамі, як у нас змагаюцца.

Сэнсацыя. Ажыўленьне. І сыгнал: мы гатовы... на ўсё гатовы... хутчэй прыдзецце...

---

Прыгародныя дзеці ўжо ня прыносяць у горад пралесак. Мінуў сэзон. У гарадзкім парку над сьвежай зямлёю, над пахучымі дрэвамі, над шырокай канавай, у якой застаўся рознастайны нанос ад веснавога разьліву Сьвіслачы, нясупынна зьвіняць жаўранкі. Вар'яцеюць ад уласнага крыку шпакі.

Цярэшка ня ведае, дзе дзецца ад гэтай вясны, ад сонца, ад вясёлых дзяцей, ад людзей наогул.

Зноў упадак настрою.

Зноў чакае...

Арыштавалі чалавека бяз знакаў прыпынку.

Ня сьпіць бальшавіцкая варта.

---

Як шпагі ў руках фэхтовальнікаў, перакрыжоўваюцца ў інстытуце радасьць і сум.

Малеўскі працуе ў сваім пакойчыку. Ён рады, як ніколі за ўвесь час працы ў інстытуце: вылаўліваюцца падводныя міны ворага. Бальшавіцкія караблі абмінаюць рыфы і мелі. Шпарка і сьмела плывуць наперад. Упору даюць трывожныя сыгналы. Шчыра працуюць матросы. Зырка сачыць за ўсім камандзір.

Ня сьпіць бальшавіцкая варта.

— Можна цяпер вызваліцца ад флюсу. Трэба зубы лячыць,— думае Малёўскі. Гэтым ён песьціць сябе, нібы дзіцё цукеркай.

Нехта палахліва стучыць у дзьверы.

— Можна?

— Калі ласка!

Заходзіць заплаканая жонка „міністра асьветы"—пані Мар'я.

— Можна на пару слоў, таварыш Малеўскі?

— Гаварэце.

— Мой на працу ня прыдзе. Яго арыштавалі.

— А хто гэта ваш?

— Антон Цярэшка. Ён ні ў чым нявінаваты.

— Добра. Калі нявінаваты, дык выпусьцяць.

Пані Мар'я адварочваецца ад пранізваючых вачэй Малеўскага. Бывайце.

---

Малеўскі глядзіць праз вакно на гарадзкую вясну. Насупраць, на тым баку вуліцы, па рыштаваньнях новых будынкаў мітусяцца людзі. Сьцены растуць у гару з кожным днём. Праз вуліцу прабягае босы хлопчык. Малеўскі адчыніў вакно. Селянін панёс некалькі сьвежых бярозавых венікаў. Пахне лесам. Месцамі ля парканаў зелянее трава. А вунь на каштанах распускаюцца пупышкі. На ганку грэецца згорбленая бабулька.

Хацеў-бы Малеўскі паехаць цяпер куды колечы на пасеўную кампанію. Няма як. Зайздросьціць Міколе Ярэмчыку—той паехаў у Гайдачанскі сельсавет, туды, дзе раней гаспадарылі Крушынскія. Яшчэ патрэбна пільная бальшавіцкая варта.

Варта ня сьпіць.

---

# 43

## Межы

НА ЛЯСОХ, па тых гушчарох, дзе і ўлетку мала доступу сонечным косам, дзе-ні-дзе яшчэ туляюцца ад неба закарэлыя латачкі сьнегу. На іхнія крохкія сьпіны сеюцца з дрэў пажоўклыя хвойныя голкі. Сюды ледзь пралазіць цёплы вецер. Ён трэцца-ціскаецца каля шурпатых грудзей стагодніх пнёў і кідае праз густыя галіны сонечныя кропачкі на забытыя вясною кавалкі сьнегу. Смокча вецер прытоеныя ў лесе рэшткі зімы, і вакол замурзаных сьнежных латак блішчаць лужыны. Воддаль рупліва ёрзаюць па моху розныя мурашкі. Над дрэвамі па-вясноваму чылікаюць птушкі, разгульвае сонца.

Па зялёных лясных палянах, па лугох і палёх, па азімай руні, па рэчках і вёсках вандруе красавік у жаўронкава-сонечнай сьвітцы. Як-бы ніколі сюды не даплываў воўчы лямант з асівелай сьцюжы хвойнікаў.

Пад босымі нагамі красавіка сьцелецца юнацкая пахучая глеба, разгортваецца ярка-зялёная далячыня, апушаная мяккай, як дзіцячыя валасы, травою.

Каля прасёлачных дарог цягнуцца дзе-ні-дзе вузенькія, нібы істужкі, шнуры, доўгія, дзесяткамі год нечапаныя, межы. Воддаль—купкі саламяных стрэхаў.

За мінулую зіму паплыла ў нябыт частка апошняй спадчыны стагодзьдзяў. Зьніклі Глухоўкі, Лісоўшчыны, Магданаўкі. Зьніклі ранейшыя назвы вёсак, якіх агідная паншчына хрысьціла калісьці прозьвішчамі часоў прыгону.

Межы на вузенькіх загонах дажываюць свае апошнія дні.

Некаторыя глядзяць на іх з прытоенай жаласьлівасьцю ў вачох, а некаторыя з несхаванай радасьцю. Зараз зьнікнуць межы разам са старымі панскімі назвамі вёсак і хутароў. Дажываюць апошнія гады і саламяныя стрэхі.

Па зямлі вандруе красавік.

Грэецца на сонцы стары Цыпрук Ярэмчык. Зьняў з сябе кажуронак і выставіў засохлыя грудзі, абраслыя сівымі валасамі.

...Няхай пякуцца!

Ён недзе чуў, што вясновае сонца лечыць чалавека лепш за розных дактароў.

Прыжмураныя вочы Цыпрука блішчаць дзьвюма ільдзінкамі. Ён глядзіць на старыя межы і гаворыць сам з сабою:

— Зараз іх ня стане, ці што? Ну, і здольны народ пайшоў на розныя мудроныя штукі!

Стары Цыпрук абапіраецца аб моцны кій і грэе асівелыя валасатыя грудзі.

Павольным крокам падыходзіць да яго матрос царскіх часоў Солах.

— Добры дзень.

— Дзень добры.

У Солаха пануры выгляд. Вочы пазіраюць углыб. Ён пастарэў за гэтую зіму.

— Ну, як?—пытаецца Солах надломаным голасам,—скора сяўба?

У яго такі голас, нібы працягвае толькі што спыненую гутарку. Глядзіць на Цыцрука такімі вачыма, быццам стары ў нечым перад ім вінаваты.

— Хутка, братку мой, ці што...—адказвае Цыпрук.—Я вось гляджу на іх... (Ён паказвае рукою на вузкія шнуры). Усё жыцьцё іх бачыў і быццам сягоньня толькі ўгледзеў.

— Твой Мікола табе акуляры надзеў,—гіронізуе Солах і мерае сур'ёзнымі вачыма Цыпрукову постаць.

— Ай-я-яй, які народ пашоў...—адказвае Цыпрук ня Солаху, а ўласным думкам.

Стары мяняе позу, настаўляе далонь над вачыма, як брыль, міг адзін глядзіць зажмураным вокам супроць сонца, дзе на далёкіх паплавох тырчаць пустыя сьцяжарні, раптоўна адварочваецца ад Солаха і кажа радасным голасам (каб дапякчы Солаху): усе межы мы сёлета заарэм?

— Хто-ж гэта „мы“?—пытаецца Солах.

— Ну, мы ўсе... і я, і ты...

— Без мяне мяне жанілі,—кажа Солах.—Няхай будзе „мы“,— згаджаецца ён.—Затое і ваявалі тут усю зіму.

Пры гэтым Солах чамусьці ўспамінае вайну з Японіяй. Глядзіць задумёна на межы і ўсьміхаецца самому сабе.

Цыпрук з нецярплівасьцю за ім назірае. Ведае, што калі Солах моршчыць лоб гармонікам, дык скажа зараз нешта цікавае. Любіць Цыпрук цікавае паслухаць...

— Та-а-ак...—Солах трэ лоб рукою.—Мы цяпер колгасьнікі Энгельса. Прывык ужо да новай назвы. Ну, і ваявалі зімачку, а ўсё за гэтыя межы! Ведаеш?

— Што?

— Крэпасьць Порт-Артур лягчэй далася, чым гэтыя межы.

— Ну?!

— Так, так!

— Яно і праўда!

— Усе гэта яшчэ вілами па вадзе пісана,—пачаў Солах сумняваццa.—Многія яшчэ ня верaць, што сапраўды будзе адно вялікае поле. Некаторыя прыхавалі збожжа. На ўсялякі, кажуць, выпадак.

— Плугі ужо гатовы, насеньне прачшчана, няхай толькі трохі зямля абсохне. Яшчэ якія тры дні, калі будзе пагода. А сягоньня мы пойдзем з Міколай у Гайдачаны паглядзець колгасную сяўбу. Кажуць, трактары заўтра раніцою, ці што, прыедуць. Бачыў Міколу? Ён сягоньня аўтобусам прыкаціў. З ім нейкі рабочы Сакалоўскі, які зімою ў мяне начаваў.

— А як-жа, і мой Саўка пойдзе. Ён цяпер газэтная шышка. Піша і друкуе. А дзе Мікола?

— Мікола? Ды ён у канцылярыі колгасу, падганяе на сяўбу, ці што?

Пад вечар, калі пры будынках палеглі доўгія цені, па новай грэблі, дзе колькі год таму назад квохала непралазная гразь, пашлі чацьвёра: стары Цыпрук, яго сын Мікола, Сакалоўскі, і Саўка Солах.

Яны ішлі ў Гайдачанскі сельсавет на калгаснае сьвята, каб паглядзець заўтра раніцою трактарную колёну.

---

Над бярэзьнікам палыхае, дрыжыць яркая бавоўна зараніцы. Зьвіняць жаўранкі. Сьвежы ветрык шапаціць між галінамі.

Ад бярэзьніка пачынаецца аграмаджанае поле, шызае ад ценяў веснавой ночы. А вось брызнулі шырокім вээрам першыя праменьні сонца. Цені на полі пачалі таяць, блекнуць.

На высокім камені, які вызначаецца на гладкім полі, нібы помнік невядомым падзеям і геройскім учынкам, граюць сонечныя блікі. Вызначаюцца вузкія палосы глухаўскага поля. Рыжаватыя межы цягнуцца роўнымі вужамі. На адным месцы, недалёка ад высока каменя, поле абселі вароны.

На ранічным абшары цямнееца паіржавелы калючы дрот савецка-польскай мяжы. Недалёка за калючым дротам зьліваюцца з небам саламяныя стрэхі замежнай вёскі Рудні. Адгэтуль менш відаць былая вёска Глухаўка, цяперашні колгас Чырвоная варта. Толькі вокны царквы ярка блішчаць, нібы знутры будынку брыскаюць іскры пажару. Крыж з царквы быў зьняты яшчэ зімою.

Па дарозе да поля ідзе сьпешна групка хлапцоў і дзяўчат. Часам аглядаюцца на бярэзьнік, прыслухоўваюцца і зноў ідуць сюды на поле.

— Мы самыя першыя,—кажа адна з дзяўчат. Шустрымі вачыма глядзіць на хлапцоў і вось-вось засьмяецца.

З боку бярэзьніка, за якім раскінуўся бальшак, пачуліся невядомыя ў гэтай мясьціне гукі. Ня то самалёт у вышыні гудзіць, ня то машына нейкая грукоча.

— Лявонка, едуць!—успляснула дзяўчына рукамі, нібы спалохалася, падскочыла ўгору і зараз-жа паправіла пасму валасоў, якая ўпала ей на вочы.

— Комсамол, наперад!—закамандаваў Лявонка.

— Едуць! Едуць!—закрычалі ў адзін голас усе і пусьціліся бягом наперад.

З-за бярэзьніка паказаліся адна за аднэй пяць машын. Яны шпарка імчаліся. І здавалася, што вельмі цяжкія яны, аж зямля пад імі гнецца. І здавалася, што лёгкія яны, нібы вецер. Над машынамі ірдзеліся чырвоныя сьцяжкі, мільгаліся пад ветрам, як крыльлі невядомай птушкі.

— Вы павольна,—стрымліваў Лявонка грамадку комсамольцаў з робленай паважнасьцю ў голасе,—а то, як дзеці малыя!

Засьмяяліся, і па ўсім полі разьлёгся гучны крык:

— У-ра-а-а!

— Трактарная колёна...

— Драчык не падвёў! Мілыя, вось-жа лоўка!—ня стрымлівала сваіх пачуцьцяў яшчэ адна з дзяўчат.

— І пабеглі насустрач трактарнай колёне.

Грукацельне матораў расло, напоўніла сталёвымі гукамі ружовае паветра.

З крыкам падняліся з загонаў спалоханыя вароны, шэрым стадам яны ўзьняліся над полем. Паляцелі на той бок калючага дроту. У празрыстым паветры ярка абрысоўваліся шырока разгорнутыя крыльлі і завостраныя дзюбы.

Пяць трактараў спыніліся, выстраіліся на полі ў адзін шэраг.

— Здаровы, хлопцы!—крыкнуў Лявонка з усёй сілы маладых грудзей і зачырванеўся ад напружаньня.

Прывітаньне падхапілі ўсе.

Трактарысты сьмяяліся, блішчэлі белыя зубы. Усе махалі рукамі, крычалі, і кожны па-свойму бурна выказваў сваю радасьць.

Тым часам з розных месц: з-за бярэзьніка, з боку Чырвонай варты, Першага мая паказваюцца на даляглядзе грамады і грамадкі людзей. Палыхаюць над галовамі чырвоныя сьцягі. Чуваць песьні. Хто ідзе стройнай калёнай, дзе ў рассыпную едуць конныя. Каля дарослых мітусяцца дзеці. На жаночых галавах белыя і чырвоныя хусткі. Між вяскоўцаў і чырвонаармейцы-прымежнікі. Расьце, надыходзіць, нібы хваля, людзкі гоман, сьмех, жарты.

— Ніколі гэтае поле ня бачыла столькі народу!—кажа адна з дзяўчат, і вочы яе робяцца сур'ёзнымі і задумёнымі.—Як на позыцыі,—кажа яна цішэй.

— Вось яна гэта позыцыя,—сьмяецца Лявонка.—Дзікая трава на межах. Зараз ім канец!

Усё бліжэй і бліжэй падыходзяць грамады. Вышэй узьнімаецца сонца.

— Мабыць ніхто з вас яшчэ трактару ня бачыў,—сьмяецца адзін трактарыст і чорнымі трохі выпуклымі вачыма глядзіць на Лявонку.

— Бачылі!—кажа Лявонка з крыўдай у голасе.—Вось хіба з тых (ён паказвае рукою на грамады, якія набліжаюцца сюды), старыя ня бачылі гэтага „дзіва“.

Толькі каля самага бярэзьніка і далёкіх хмызьнякоў і гайкоў яшчэ ляжаць вільготныя цені. Усё поле ахоплена рыжаватым водсьветам сонечнай раніцы.

— Каля чатырох сот чалавек будзе тут, глядзі, Лявонка!— Дзяўчына тармошыць яго за пінджак.

— Праўда,—згаджаецца Лявонка.—Ніколі наша поле столькі народу ня бачыла.

Расьце шум, набліжаецца. Сотні вачэй, сьвежыя ад узбуджанасьці твары, узмахі рук, крыкі „ура“. Усё гэта жывой хваляй плыве на трактарную колёну. Адзін момант здаецца, што грамада, якая цяпер з дробных груп склеілася ў адно цэлае, рынецца на трактарную колёну, кінецца да яе...

Старыя, маладыя, мужчыны, жанчыны, мацаюць рукамі жалеза і сталь машын.

Вось адзін стаў на крыло трактара. Вось і другі, трэці.

Маленькі хлопчык узьлез на калені трактарыста. Другі крычыць: „татачка, і мяне пасадзі туды, да дзядзькі!“ У агульным тлуме раздаецца плач маленькай дзяўчынкі. Трактарыст, са сьмехатлівымі міргаючымі вачыма з тонкім ружовым носам, выставіў дзяўчынцы доўгія рукі з растапыранымі пальцамі.

— Мамачка, баюся...—просіцца дзяўчынка.

— Ну, дык ня трэба, Галенка.—Маці сьмяецца і выцірае рукою сьлёзы дачушкі.

— Баіцца, нялюдзкае дзіця,—апраўдваецца кабета...

— Ай, нага, нага!—крычыць дзесяцігадовы хлапчук. Нехта ўступіў, ботам на яго босую нагу. Ён скача на аднэй назе. Ён бяз ботам шапкі, белагаловы. Пад сонцам яго валасы ружавеюць.

---

Драчык, Шаневіч, Зьмітрок, Мікола, Сакалоўскі і некалькі іншых—заклапочаныя і ўзбуджаныя—бегаюць туды і сюды і шукаюць месца, дзе пачаць мітынг.

— Глядзі, Марцінка,—торгае Мэра мужа за руку,—каб хто ня ведаў, падумаў-бы, што яны злуюцца. Надуліся як пузыры.

Марцін ёй нічога на гэта не адказвае і падскоквае да Драчыка.

— Антось, Антось!—крычыць ён.

— Га?—Драчык падстаўляе здаровае вуха.

— А вунь там!—Марцін паказвае рукою на вялізны камень.

Драчык ўзрадваўся. Маршчыны на яго твары расплываюцца ў шырокую ўсьмешку.

— Вось тут мы і пачнем,кажа ён.—Люблю шчырасьць, каменная трыбуна. Та-ва-ры-шы, сю у-ды-ы-ы!—крычыць ён да грамады і паказвае рукою на камень.

Жывы лес грамады рынуўся, валам валіць. Да каменя ціснуцца ўсё, кожны стараецца захапіць самае блізкае месца.

— Ды ты ня пíргайся!—чуваць пісклівы голас.

— Мяне пíргаюць, дык і я,—адказвае спакойна басок.

Многія расчырванеліся, выціраюць рукавамі пот з твару.

Малады Саўка Солах нешта піша алоўкам у блёк-нот, аглядаецца навокал пільным вокам і зноў піша...

Блізка ад каменя стаяць стары Цыпрук, каваль Лейба, Мікола, Сакалоўскі, Марцін. Мэру адціснулі на дзесяць галоў далей.

Стары Лейба толькі ўчора вечарам пазнаёміўся з новым сватам—Цыпруком. Часта Лейба паглядае на Цыпрука цёплым вокам сваяка... Чым больш сваякоў, тым Лейба шчасьлівейшы. Сівая барада ў яго расчэсана па сьвяточнаму. Чорныя вочы пад кусткамі брывёў трохі зьдзіўленыя.

— Сваток! Сваток!—кажа Лейба і кладзе руку на плячо старага Цыпрука.

— Га?

— Відаць, што сьвята ідзе не ад бога, але ад людзей. Ад людзей ідзе яно. Вось бачыш, сваток, гэту грамаду? Захацелі яны—і сьвята сабе наладзілі...

— Праўду кажаш, ці што...

Цыпрук жмурыць вузкія ільдзінкі вачэй і глядзіць на Лейбу з пашанай.

— Глядзі, сваток, на гэтыя межы. Пасьля ты іх ніколі ўжо не пабачыш.

Цыпрук ківае галавою і ўстаўляе свае слова:

— Мабыць, Язэпу Крушынскаму гэта і ня сьнілася.

— А калі і сьнілася, дык гэта было для яго страшным сном.

— Ну, і разумны ты, сваток, чалавек...—любуецца Цыпрук на Лейбу.

Яны не гавораць, а крычаць адзін аднаму, бо гул грамады расьце, шум павялічваецца, нібы ў лесе ў час навальніцы.

Антось Драчык тым часам узьлез на высокі камень. Да каменя цясьней падступіла грамада. Спляліся людзі ў адно. Склеіліся, здаецца, так, што ніколі не разыйдуцца паасобку.

— Та-ва-ры-шы!—пачаў Драчык зычным голасам.

— Цішэй, цішэй!—передавалі адзін аднаму з грамады.

Грамада пачала супакойвацца. Шэпт. Нібы жытняе поле пад ветрам.

— Цішэй, цішэй.

— Як прозьвішча таго, што на камені стаіць?—пытаецца Саўка Солах у аднаго старога дзеда.

— Гэта-ж Драчык, старшыня сельсавету.

— Саўка запісвае ў блёкнот.

Драчык аглядае мора галоў і на хвіліну задумваецца; выцер рот дрыжучай рукою і кашлянуў у далонь.

— Таварышы!

Голас яго зьмяніўся, зрабіўся болей спакойным.

— Сягоньня мы руйнуем спрадвечныя межы паасобных гаспадарак беднякоў і серадднякоў. Сягоньня памруць межы! Памруць на векі-вечныя! Ніколі ўжо калы ня будуць гудзець над гэтымі межамі, як часта бывала да гэтага часу! Ніколі ўжо сварак і боек тут ня будзе. Мы аб іх забудзем, аб межах, а нашы дзеці і гэтага слова можа не пачуюць! Толькі памятайце, таварышы, што ў нашых колгасах яшчэ ёсьць крушыншчыкі, з імі яшчэ прыдзецца змагацца!

Драчык спыніўся на адну хвіліну. Задумаўся. Нецярпліваe шорханьне грамады як-бы ўзбудзіла яго. І ён зноў пачаў:

— Цяпер нам трэба абмеркаваць...

Антось Драчык пачаў пералічаць тое, што зроблена было за зіму колгасамі сельсавету, успомніў, што з раёну прыслалі сто заводных цялят, што пабудавалі некалькі новых хлявоў, і давай разгортваць далейшыя пляны пяцігодкі: школы, добрыя дамы, ясьлі для дзяцей, багатыя ўраджаі, асушка балот, крухмальні, лесапільні. Ён маляваў перад грамадою шырокае палатно блізкай будучыны...

Некаторыя старыя жанчыны выціраюць хусткамі вочы. Ківаюць адна аднэй галовамі ня то з папрокамі ня то з пашкадаваньнем.

— Адвекавала я свой век...—кажа сваёй суседцы адна нізенькая старая цётка.

— Ды ліха цябе, Макарыха, ня возьме. Яшчэ даўбнёй ня прыб'еш...—пацяшае яе высокая бяз хусткі суседка.

— А ты, Мацеіха, чаго зараўла? пытаецца тая самая ў удавы Мацеіхі.

— Я? З радасьці...—сарамліва ўсхліпвае Мацеіха.

І раптам спыніла ўсхліпваньне. Выцерла вочы і зацікаўлена паглядзела на замежную вёску Рудню за паіржавелым калючым дротам.

— Глядзеце, глядзеце, людцы?—Мацеіха паказвае рукою, куды глядзець.—Як вера'бі ўсёроўна!

Мацеіха пачала сьмяяцц.а

Многія адварочваюць галовы ў бок граніцы.

На саламяных стрэхах замежнай вёскі Рудні стаяпь дзеці і пільна глядзяць сюды. На яркім фоне неба яны вызначаюцца, як малюнкі на паперы. На гародах і платох дарослыя мужчыны і жачыны. Глядзяць здалёку на вялікае поле Чырвонай варты.

Саўка Солах доўга піша нешта ў блёк-нот.

— Як нябожчык „Леў Талстой,"—кажа нейкі дзядзька.

Каваль Лейба і стары Цыпрук высьлізнуліся з грамады, каб паглядзець туды—за калючы дрот...

— Эх, сваток,—кажа Лейба,—каб ня гэтая граніцца, усе з Рудні былі-б тут і сьвяткавалі-б разам з намі.

Цыпрук наставіў над вачыма далонь правай рукі, а левай рукой мацней абапіраўся аб кій.

— Праўду, сватку, кажаш. Бач, сюды ім хочацца, ці што...

Да каменнай трыбуны прэбіраўся Мікола Ярэмчык. Лакцямі сабе прабіваў дарогу паміж плеч, сьпін і грудзей. Тым часам каля вузкіх загонаў нарыхтаваліся пяць трактараў. Загулі моторы. Закруціліся калёсы. Вялікія сталёвыя плугі ўгрызьліся ў глебу.

Да першых сьвежых баразнаў падыходзілі колгасьнікі, Стары Цыпрук па-гаспадарску падсунуўся да сьвежа ўзоранай баразны, нагнуўся і давай кіем мерыць шырыню і глыбіню.

З лёгкім крэхтам падняўся, выпрастаўся. Пагладзіў паясьніцу. Вочы зажмурыліся, ён кіўнуў галавою і сказаў:

— Нічога сабе station баразёначка, ці што? Ніколі ў нас так не аралі...

Ціпрук цмокнуў губамі, нібы цукерку смокча. Выставіў палец у гару, як-бы хоча неба пракалоць пальцам, і сказаў самому сабе:

— Век пражыў, шмат чаго бачыў, а вось гэткага ворыва, яй права, ніколі...

Яшчэ раз нагнуўся, узяў у рукі кавалак зямлі і давай яго мяць і расьціраць з асаблівай любасьцю, як скульптар гліну.

— Вось гэта дык ратаі!.. ай-я-яй!..

Запахла сьвежай глебай... Ноздры Цыпрука дрыжэлі. Ён прагна, з лёгкім посьвістам, уцягваў у сябе носам парны пах глебы...

Гудуць трактары...

Вось узьбіраецца на мяжу трактар, трохі кавыляе ў адзін і другі бок, пярэднімі калёсамі прасуе адзерванелую мяжу. Вось і заднія калёсы душаць яе жалезнымі барадаўкамі-шыпамі, хочуць яе распластаць, расьціснуць, каб з мяжы аж сок паказаўся. Два сталёвыя дыскі крамсаюць яе, дробяць на часткі. Трактарыст напірае на пэдаль з асаблівай упартасьцю. Сталёвыя лемяхі пачынаюць пераварочваць, паражоўваць дзёран... Ірвецца белае карэньне дзікіх траў, шорхае зямля...

— У-р-р-а-а! Межы гінуць!

Дзеці, расхрыстаныя, вясёлыя бягуць за трактарамі, размахваюць рукамі, рагочуць...

Сярод неахопнага гулу чуваць гучныя словы Міколы Ярэмчыка.

Ён стаіць на высокім камені, пакрытым зялёнымі лішаямі.

— Паміраюць межы... Надыйдзе час, што ня будзе ніякіх меж... Мікола паказвае рукою на калючы дрот дзяржаўнай мяжы.

Шаневіч пачаў сьпяваць Інтэрнацыянал. Падхапіла грамада. Вышэй запалыхалі чырвоныя сьцягі.

— Глядзі, глядзі, сватку!—Стары Цыпрук штурхнуў зьлёгку Лейбу.—Глядзі!

На тым баку калючага дроту рудненцы падкідвалі ўгору шапкі... Рассшырыліся на адзін міг вочы Цыпрука ды зноў звузіліся ў дзьве ільдзінкі.

— Людцы! Лю-у-удцы!!—крыкнуў Цыпрук.—Глядзе—цеі!

Ён аднэй рукою паказаў у бок калючага дроту мяжы і ўсім тулавам падаўся наперад, нібы зьбіраўся бегчы туды, каб ратаваць ня то ад пажару, ня то ад сьмерці.

— Лю-у-удцы!!

На тым баку, дзе рудненцы толькі што спакойна стаялі і пільна глядзелі сюды на бальшавіцкую сяўбу, пачалася мітусьня.

Дзеці спрытна, з нязвычайным імпэтам, нібы спалоханыя птушкі, саскоквалі, сьлізгваліся са стрэхаў уніз па вуглох будынкаў. Яны мільгалі, шэрыя, белагаловыя, і нешта спалохана крычалі дарослым, паказваючы рукамі кудысьці за вёску, на дарогу.

З дарогі на гароды і гумны з усёй шпаркасьцю імчаліса на конях жандары. Коні выцягваліся ў даўжыню, коні глыталі паветра, сьцягваліся і скакалі поўным бегам. Вось яны праз платы. Некаторыя платы паваліліся.

Рудненцы ірвануліся гумнамі да хат, размахваюць рукамі, сагнуліся і бягом бягом... Зірне хто ў бок жандараў і зноў бягом. Хтосьці падае, ускочыць, і зноў бяжыць, і зноў падае.

Блішчаць шапкі ў жандараў. Пад брылямі чырванеюць узьюшаныя твары. А з-пад конскіх капытаў выбіваюцца ўгару комы зямлі.

Уцякаюць рудненцы.

Не пасьпелі схавацца ў будынках. А ці там для іх паратунак?

Змоўк мітынг. Тут ля каменя на аграмадным полі некалькі сот чалавек колгасьнікаў утаропілі вочы туды. Застылі на месцы, адарвацца ня могуць.

— Вось сволачы!—чуваць галасы колгасьнікаў.

Не пасьпелі схавацца рудненцы. Конныя жандары іх абкружылі. Вяскоўцы—мужчыны і жанчыны—рукамі зятуляюць твары і галовы. Жандары з усяе сілы ўзмахваюць бізунамі, сьцёбаюць па руках, па галовах, па тварах, па сьпінах.

Лямант. Страшэнныя крыкі. Плач. Выцьцё. Зьвініць паветра ад войканьня.

Упаў адзін селянін, другі. Жандары не даюць уцякаць. Паднімаюцца ды апускаюцца бізуны. Коні надыбкі паднімаюцца, уюнамі круцяцца на адным месцы, узгарачаныя жандарскімі шпорамі. На гародах курадыміць пыл. А вось адна сялянка падняла камень і кінула ў жандара. За ёю і іншыя тое самае. Коні на дыбы, коні як узвар'яцелыя. Цэлы град каменьняў. Дзеці падскочылі бліжэй, памагаюць каменьнямі. Яны спрытныя...

— Малайцы! Малайцы!

Колгасьнікі радуюцца. Хваляць:

— Вось шпурляюць! Вось трапілі якраз у твар жандару!

— Ён з каня саскочыў.

Стрэл разануў паветра. Некалькі стрэлаў. Страшная каша з людзей, коняй і бізуноў. Блішчаць на сонцы шаблі.

— А-а-а-ай! О-о-о-о-ой.—Стогне Рудня. Уся вёска крычыць, ратунку просіць. І нібы выцьцё бяз слоў дымам з зямлі расьце, коціцца з-за калючага дроту на аграмаднае колгаснае поле.

— Сволачы! Дзікае звяр'ё!

— На людзей, на бяззбройных рудненцаў напалі!

Ірвуцца словы абурэньня з некалькіх сот грудзей колгасьнікаў...

І вось нібы вымерла вёска—сьціхла Рудня. Жандары ачысьцілі гароды, платы, саламяныя стрэхі. Толькі пыл курыць над гародамі. Нават птушак ня відаць на Рудненскай зямлі. У цішыні пачулася выцьцё сабакі. Пара стрэлаў—і выцьцё сьціхла.

Лейба штурхнуў локцем Цыпрука.

— Бачыш?

— Бачу. Чаго так паны ўзьеліся?

— Чаго? Баяцца нашага колгасу. Вось і ўзьеліся. Страхацьцё на іх напала.

— Ай-я-яй. Там зусім іншы сьвет, ці што?

У вачох Цыпрука блішчэлі сьлёзы.

— Іншы сьвет.—Лейба кіўнуў галавою.—Іншы сьвет, але людзі, вясковыя люддзі, бедныя, пахнуць тым духам, што і нашыя. Бач, як высыпалі бедныя, каб на наша сьвята паглядзець?

— А на іх жандары...

— Яны-ж бедныя бараніліся, як маглі. І ня так яшчэ бароняцца. Панскія маёнткі паляць. Вось пабачыш, хутка бегчы да нас пачнуць. Вось пабачыш, сваток!

Некаторыя кабеты плакалі. Уся грамада колгасьнікаў гула, як рой пчол.

— Цішэй, таварышы,—прасіў Шаневіч, старшыня „Чырвонага Кастрычніка.—Вось бачылі, што там робіцца?—яго голас дрыжэў. Ён хваляваўся.—Думаю, таварышы, што тлумачэньні тут непатрэбны. Цішэй, таварышы!

Ледзь удалося супакоіць грамаду. І стары Цыпрук пачуў зноўацьвярдзелы і ўпэўнены голас Шаневіча:

— Няма на сьвеце такой сілы, якая прымусіла-б нашых зарубежных братоў прыгнечаных Заходняй Беларусіі не глядзець на Савецкую Беларусь і ня ведаць, што ў нас робіцца...

Саўка Солах рупна піша нешта ў блёкнот, паднімае галаву з паперы, аглядае грамаду і зноў піша.

Сонца мацней пачало грэць зямлю.

Нешта зьвініць у вушох Цыпрука. Ён заўважвае, як некаторыя колгасьнікі пільна глядзяць на вузкія палоскі.

Ужо ладны кавалак поля завораны. Ужо многа меж ня стала.

І неяк дзіўна становіцца Цыпруку: ён у сабе нешта новае адчувае; адчувае, што ён сягоньня адзін з тутэйшых гаспадароў...

Першы раз на гэтым полі, а вось гаспадары... Па-гаспадарску пачынае ўсё аглядаць... Пры ім нейкі стары з сівой бародкай рукі ламае.

— Чаго ты? пытаецца Цыпрук.

— Страшна, ніколі свайго шнура не пазнаю.. Усё жыцьцё на ім сьпіну гнуў...

— Кінь,—злуецца Цыпрук,—Во, хто цяпер будзе за цябе карак гнуць,—і паказаў рукою на трактары,—а калі коньмі араць, дык на гэта таксама ёсьць моладзь. Табе дадуць працу па сіле. Эх, ты! Там у Рудні, дык страшна. А там нібы ніхто і межаў ня чапае. Эх!

На высокім камені стаіць наборшчык Сакалоўскі. Ён жмурыць вочы на сонцы, аглядаецца ва ўсе бакі.

— Рабочыя нашай друкарні прыймаюць шэфства над колгасамі Гайдачанскага сельсавету,—гучыць яго голас.—Надрукуем для вас газэту. У хуткім часе прышлем бібліотэчку.

Голас Сакалоўскага пачынае плаўна разыходзіцца па шматгаловым сходзе на полі.

Адну хвіліну Сакалоўскі спыняецца, успамінае зімовыя сходы ў клюбе тутэйшага сельсавету. „Як цяжка ўсё гэта было зрабіць“,—думае ён.

— Мы перамагаем усе цяжкасьці. Нямала яшчэ іх будзе і ў вас, таварышы колгасьнікі. На кожным кроку ворагі пастараюцца перашкодзіць. Але будзьце ўпэўнены, што перамога будзе на вашым баку!

Блішчыць вільгацьцю сьвежа-узараная глеба.

Стары Цыпрук ужо некалькі разоў імкнецца да каменя. Кожны раз стрымліваецца. Заўсёды толькі іншых слухаць любіў. Ніколі сам перад грамадою не гаварыў.

...Папрасіць слова, ці што?

Страх яго бярэ. Аднак усё бліжэй падсоўваецца да каменнай трыбуны.

Наш прымежны сельсавет,—чуе Цыпрук малады голас аднаго з тутэйшых комсамольцаў,—будзе стаяць на варце. Няхай польскія паны ня думаюць лезьці на нас, бо трактары па-іншаму загуляюць... Я тады пры польскай окупацыі быў яшчэ хлапчуком, а добра памятую панскія бізуны...

Каля Цыпрука стаіць цяпер удава Мацеіха і плача ў голас.

— Чаго, ты, цётка?

— Гээ-э-та-ж мой Лявонка гаворыць...

— Дык ты радуйся, ці што. І мой Мікола нядаўна гаварыў.

— Але майго Лявонкі бацька, мой муж Мацей, памёр пад польскімі шаблямі... Успомніла, вось, і...

— І я каштаваў панскі бізун,—пацяшае Цыпрук удаву.

Гудуць трактары.

На агромністым полі яны разыходзяцца і зыходзяцца. Цёплы вецер, афарбаваны сонцам, нясе на той бок калючага дроту пах сьвежай глебы.

Першы раз у жыцьці бачыць Цыпрук Ярэмчык такое ворыва...

Заўсёды ён уставаў раніцою ды хадзіў адзін на свой шнур. На суседнім шнуры—другі араты, далей—трэці, але рэдка калі выходзіліся разам. Здалёку толькі чуваць былі нялюдзкія лаянкі і злосныя галасы.

Плоймай ластавак праносяцца перад Цыпруком кавалкі ўспамінаў, пырхнуць ценем і зьнікнуць. На доўгай дарозе свайго шэрага жыцьця ён так прагнуў бачыць і чуць цікавае...

— Хто яшчэ просіць слова!—чуе Цыпрук голас Драчыка!

— Я-а-а! Я!

Цыпруку здаецца, што гэта ня ён крыкнуў, а нехта незнаёмы, бо свайго ўласнага голасу не пазнаў. Яму ачышчаюць дарогу да каменнай трыбуны. Ніколі ён не адчуваў ў сабе такой сілы. Ніхто-б яго цяпер ня стрымаў. Ён мусіць гаварыць перад грамадою, ён павінен выказаць тое, што расьце ў яго нутры...

— У Рудні вокны завешваюць, каб сюды і праз вокны не глядзелі,—чуе Цыпрук нейчы голас.

Ён па-хлапцоўску ўскочыў на высокі камень. Перад сабою ён бачыць шмат твараў. Гарачыя вочы накіраваны на яго. Заўважыў, як Мікола глядзіць на яго радаснымі вачыма. А вунь сівы Лейба, яго сват. Кінуў вокам на той бок калючага дроту: толькі паліцэйскія жандары на конях разьяжджаюць...

І цяпер Цыпрук не пазнае свайго голасу, які імкнецца з усяго яго нутра:

— Таварышы браты! Бачачы і чуючы ўсё гэта, прашу запісаць мяне ў бальшавікі.

Больш гаварыць ён ня можа. Ад крыкаў „ўра“, ад плясканьня ў далоні зьвініць у вушох.

---

**1930-1931-1932**
**Менск.**

# ЗЬМЕСТ

